Вальдэмар Остэрлёф і Язэп Шустэр.

# СУСЬВЕ́ТНАЯ ГІСТОРЫЯ

ЧАСЬЦЬ III-яя:

## ГІСТОРЫЯ НОВЫХ ЧАСОЎ.

Пераклаў на беларускую мову
**А. СМОЛІЧ.**

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА Т-ВА.

Друкарня «Віленскага Выдаве́цтва»
Б. Кле́цкіна, Вільня, М.-Сьцяпанаўская, 23.
1922.

Вальдэмар Остэрлёф і Язэп Шустэр.

# СУСЬВЕ́ТНАЯ ГІСТОРЫЯ

ЧАСЬЦЬ III-яя:

## ГІСТОРЫЯ НОВЫХ ЧАСОЎ.

Пераклаў на беларускую мову А. Смоліч.

ВЫДАНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАВУКОВАГА Т-ВА.

Друкарня «Віленскага Выдавецтва»
Б. Клецкіна, Вільня, М.-Сьцяпанаўская, 23.
1922.

# УСТУПЛЕНЬНЕ.

Пад кане́ц сярэдніх вякоў сталіся ве́льмі важныя па сваім рэзультатам падзе́і, якія зрабілі вялізарны пераварот у грамадзкім, навуковым і палітычным жыцьці эўрапэйскіх народаў. Да гэтых падзе́яў трэба залічыць перадусім марскія адкрыцьці Португальцаў і Гішпанцаў; гэныя адкрыцьці пашырылі ўплывы эўрапэйскае цывілізацыі на ўве́сь сьве́т. У жыцьці разумовым новы кірунак, які распачаўся ў Італіі, а носіць назоў **гуманізму**, паклаў аснову для новае, больш вольнае, сьве́цкае эдукацыі, а пачатак друкарства даў магчымасьць пашыраць прасьве́ту ў усё шырэйшых і шырэйшых кругох грамадзянства. Найбольшы пераварот у грамадзкім і палітычным жыцьці народаў зрабіла распачатая у Няме́ччыне Лютарам **рэформацыя**; яна была прычынай падзе́лу суцэльнага дагэтуль заходняга хрысьціянства. Урэшце ў палітычным жыцьці вялізарнае значэньне ме́ла поўная зьме́на вайсковае тэхнікі з прычыны адкрыцьця пораху і аканчальная заме́на рыцарскіх васалаў наёмнымі войскамі.

## § 1. Адкрыцьці.

Пасьля вынаходу **компасу** (каля 1200 г.) мараплаваньне, якое да таго часу адбывалася толькі ўздоўж берагоў, зрабілася магчымым і на адкрытым акеане. Вынікам гэтага былі вялікія марскія падарожы Португальцаў і Гішпанцаў у XV ве́ку. Мэтай іх было дабрацца марскім шляхам да Індыі, якая ў той час была найважне́йшым краем для сусьве́тнага гандлю.

### 1. Адкрыцьце марское дарогі ў Індыю.

Португальцы ў часе сваіх падарожаў кіраваліся ўздоўж заходніх берагоў Афрыкі. Яны спадзяваліся, што, аб'е́хаўшы гэтую часьць сьве́ту, можна будзе дабрацца да Індыі. Горача падтрымоўваў гэныя падарожы князь **Гэнрык Мараплавальнік** (памёр у 1460 г.), португальскі інфант. **Бартламе́й Дыац** (1486) шчасьліва даплыў да паўднёвага канца Афрыкі і назваў яго **Лукою Добрае Надзе́і**, а **Васко дэ Гама** па вызначанай ужо дарозе пе́ршы дае́хаў морам да Індыі; ён зышоў на бе́раг у Калікуце, на Малябарскім узьбярэжжы (1498).

Португальцы занялі ме́сца магамэтанскіх народаў, якія дагуль ме́лі ў сваіх руках увесь зыскоўны індыйскі гандаль;

яны здабылі і занялі шмат важных мясцовасьцяў на ўзьбярэжжах Індостану. З апошніх асабліва важнае Гоа, стаўшаеся цэнтрам португальскага гандлю ў Індыі, далей Малякка, галоўнае мéсца гандлю карэньнямі, урэшце пладаносныя Молюккі. Галоўным закладчыкам португальскага панаваньня ў Індыі быў Альфонс д' Альбукéрк (каля 1510 г.). У пазьнéйшыя часы португальцы прабавалі таксама завязаць гандлёвыя зносіны з Кітаем і з Японіяй.

У другой палове XVI в. пайшлі сьлядамі Португальцаў і другія гаспадарствы, як Голяндыя, Англія, ўрэшце Францыя; адгэтуль і пачаліся доўгія змаганьні аб калёніі і гандлёвыя інтарэсы.

### 2. Адкрыцьце Амэрыкі.

а) Крыштоп Колюмб. Яшчэ важнéйшымі па сваім рэзультатам, чым адкрыцьце марское дарогі ў Індыю, былі адкрыцьці Гішпанцаў. Ужо з даўных часоў некаторыя мараплавальнікі думалі, што з Гішпаніі магчыма было-б даéхаць морам да Індыі, калі-б кіравацца ўвесь час на заход. Ідучы за гэтаю думкаю, Крыштоп Колюмб адкрыў новы сьвéт. Радзіўся Колюмб у 1447 г. ў Гéнуі. Як і шмат хто з яго землякоў, ён ужо ў раньняй маладасьці абабраў за сваю прафэсію мараплаваньне і шукаў шчасьця заграніцаю. У часе сваіх падарожаў Колюмб быў на астравох Фароэр, Азорскіх і Канарскіх. Нявéдамыя датуль у Эўропе плады і вырабы, якія часамі выкідала на берагі гэтых астравоў марское цячэньне, довады тагачасных географаў, што азіяцкі контынэнт цягнецца далёка на ўсход (глёбус Марціна Бэгайма ў Нюрнбэргу з 1480 г.), а таксама навуковыя дасьлéды флёрэнцкага астранома Фосканэльлі ўзмацавалі ў Колюмба надзéю дабрацца да Індыі заходняю марскою дарогаю. Аднак, у Португаліі Колюмба і слухаць не хацéлі. Тады ён падаў свой плян гішпанскаму ўраду і, пасьля доўгіх клапотаў, дабіўся ўрадовае помачы. Шчасьлівы канéц вайны з Маўрамі прыхільна настроіў гішпанскі ўрад да заморскіх падарожаў. Каралéва Ізабэльля загадала прыгатаваць для Колюмба 3 караблі. Назначылі яго вялікім адміралам і віцэ-каралём усіх краёў, якія адкрые, і абяцаліся даць яму 1/10 частку спадзяваных даходаў.

b) Падарожы Колюмба. Колюмб выплыў з андалюзыйскага порту Палёс і скіраваўся да Канарскіх астравоў, а адтуль, дзякуючы спрыяючым пассатам, пасьля мéсячнае падарожы даплыў 12 кастрычніка 1492 году да берагоў аднаго з Багамскіх астроваў, Гванагані, і назваў яго Сан Сальвадор (Спас). Пусьціўшыся ў далéйшую дарогу, адкрыў астравы Кубу і Гаіті. Жыхары гэтых астравоў



стаялі на нізкай ступéні культурнага разьвіцьця і ваяўніцтвам не вызначаліся. Другую падарожу Колюмб адбыў (1493—1496) з вялікшым флётам, які павінен быў даць яму магчымасьць заваяваць адкрытыя краі. Гэтым разам Колюмб адкрыў Ямайку, Порторыко і нéкалькі спаміж Малых Антыльскіх астравоў. Тутака ўсюды жылі дзікія Караібы. З прычыны таго, што ў той час Гішпанцы страцілі ахвоту да далёкіх марскіх падарожаў, гішпанскі ўрад для трэцяе падарожы (1495—1500) замéст жаўнéраў даў Колюмбу злачынцаў, засуджаных на сьмéрць. Колюмб гэтым разам адкрыў востраў Трынідад і вусьце ракі Орыноко. Вялікае багацьце вады ў гэтай рацэ даводзіла, што яна плывéць з абшырнага контынэнту; аднак, Колюмб думаў іначай і даводзіў, што прычынаю моцнага цячэньня ракі ёсьць спад вады з вялікае вышыні.

З прычыны бунтаў, якія ўзьняліся паміж гішпанскімі каляністамі на Гаіті, урад скінуў Колюмба з яго становішча. Новы губэрнатар, Францішк Бобадільля, загадаў закаваць яго ў кайданы і выслаў у Гішпанію. Тамака па загаду караля Фэрдынанда і каралéвы Ізабэльлі яго ўраз-жа звольнілі, шчодра абдорылі і далі яму караблі для чацьвертае падарожы (1502—1504). Тады Колюмб адкрыў контынэнт Сярэдняе Амэрыкі. Вярнуўшыся ў Гішпанію, дарэмна даходзіў Колюмб абяцаных яму гішпанскім урадам дастаéнстваў і даходаў; ды ў хуткім часе памёр у Вальядолідзе (1506). Памёр ён, ня вéдаючы, што адкрыў новую часьць сьвéту: ён быў пераканаваны, што даéхаў толькі да ўсходняга узьбярэжжа Індыі. Адкрытыя ім астравы назвалі Заходняй Індыяй, я жыхараў—індыянамі.

Амэрыго Вэспучы з Флёрэнцыі аб'éздзіў і апісаў краі, адкрытыя Колюмбам; ён адкрыў і новыя зéмлі на паўднёвым контынэнце Новага Сьвéту, і ад яго яны атрымалі агульны назоў Амэрыкі.

c) Адкрыцьці ў Амэрыцы. Новыя адкрыцьці хутка йшлі адно за адным. Вэнэцыянін Кабо з даручэньня англійскага караля Гэнрыка VII выплыў у Атлянтыцкі акеан і адкрыў контынэнт Паўночнае Амэрыкі, дайшоўшы да астравоў Ньюфаўнленд і Лябрадор (1497). Гэтыя часткі Амэрыкі фактычна былі ўжо адкрыты за 500 гадоў ранéй, бо яшчэ ў X вéку Нарманы з Ісляндыі, папаўшы ў Грэнляндыю, адтуль каля 1000 г. былі дабраліся да паўночна-заходняга узьбярэжжа Паўночнае Амэрыкі. У пазьнéйшыя часы, аднак, усякія зносіны паміж Ісляндыяй і Грэнляндыяй спыніліся.

Португалец Кабраль (у 1500 г.) выпадкова адкрыў Бразылію, якая і зрабілася партугальскай калёніяй. Гішпанец Бальбоа, перабраўшыся праз Панамскую шыю, адкрыў (у

1513 г.) Вялікі, або Ціхі акеан. Адплыўшы з вострава Кубы, Фэрдынанд Кортэц адкрыў і здабыў Мэксыку (1519). Тут існавала пад уладаю Монтэзумы вельмі старое гаспадарства Ацтэкаў з сваёй самабытнай культурай, напамінаючай старавечную ўсходнюю культуру. Той самы Кортэц адкрыў паўвостраў Каліфорнію. Францішк Піцарро, кіруючыся з Панамы на паўдня, заваяваў Пэру, гаспадарства народу Інкаў (1532), дзе панавала культура, падобная да мэксыканскае. Свайго конкурэнта Альмагро, які здабыў Чылі, Піцарро забіў, а пасьля і сам быў забіты ў часе бунту. Кортэц і Піцарро былі авантурыстамі, вельмі прагавітымі на золата і ўладу, і не заслужылі тае векавое славы, якая ім выпала на долю за іх адкрыцьці.

Мэксыка і Пэру былі надзвычайна багатыя золатам; аб такім багацьці эўрапэйцы датуль ня мелі нават паняцьця.

d) Першую падарожу навокал сьвету зрабілі некалькі караблёў пад кіраўніцтвам португальца Магеляна, які, быўшы на службе ў гішпанскага караля Караля I (V), абʼехаў навокал Паўднёвае Амэрыкі і дабраўся да Пілілінскіх астравоў; тамака быў ён забіты дзікунамі, але яго экіпаж, згодна з яго загадам, абʼехаўшы ўсю Афрыку, шчасьліва вярнуўся ў Эўропу.

### 3. Нявольніцтва.

У гішпанскіх калёніях у Амэрыцы (Мэксіка, Сярэдняя Амэрыка, яе паўночныя і заходнія узьбярэжжы і край Ля Плята ў паўдн. Амэрыцы), хаця ў іх былі пасланы місіі, створана царкоўная арганізацыя, пабудаваны месты на эўрапэйскі лад, адным словам—заведзены ўсе „дабрадзействы цывізацыі“, былі самым няміласэрным і нягодным спосабам прыціснуты заваяваныя народы. Гэтыя народы мелі ціхі, лагодны характар, здаволіваліся малым, былі слабыя, нястдольныя да змаганьня. Гэтых добрых, слабых дарослых дзяцей каляністы прымушалі цяжка працаваць на полі і ў капальнях; для непрызвычаенага да такой цяжкой працы насяленьня гэта было чыстым катаваньнем; жорсткасьць эўрапэйскіх каляністаў рабіла яшчэ цяжэйшым палажэньне тубыльцаў.

Зьлітаваўшыся над іхняй доляю, домініканін Ляс Казас парадзіў уладзе прывезьці ў Амэрыку дужых чарнаскурых афрыканцаў, як рабочую сілу заместа кволых амэрыканцаў. Так і зробілі. Доля тузэмцаў шмат палягчэла; навет з часам розьніцы паміж пераможцамі і зваяванымі ў пэўнай меры сьцерліся; затое яшчэ цяжэйшаю зрабілася доля чорных людзей. Праз доўгія вякі ганебнае рабства пляміла навачасную эўрапэйскую цывілізацыю.



### 4. Значэньне адкрыцьцяў.

a) З прычыны адкрыцьця марское дарогі ў Індыю сусьветны гандаль з Усходам, які вялі шмат якія краі, ляжаўшыя пры Міжземным моры, асабліва Вэнэцыя, страціў сваё даўнейшае значэньне; праз гэта ізноў-жа вельмі падупалі шмат якія, цьвіўшыя да таго часу, месты Сярэдняе Эўропы, якія былі пасрэднікамі ў гандлю Усходу з Паўночаю і Заходам.

b) Заходнія краі Эўропы, што ляжаць над Акеанам—найбліжэй да новаадкрытае часьці сьвету, зрабіліся вялікімі марскімі гаспадарствамі. Асабліва Гішпанія, дзякуючы аграмадным запасам дарагіх мэталяў, якія ёй дастаўляліся з Амэрыкі, ды яшчэ дзякуючы гандлёвай палітыцы, абапертай на прымушаньні калёніяў купляць вырабы прамысловасьці толькі ў сваёй мэтраполіі, без вялікага клопату сабрала вялікае багацьце і ў XVI веку сваёю магутнасьцю выперадзіла ўсе гаспадарствы Эўропы.

Аднак, Гішпанія і Португалія якраз з прычыны гэтак лёгка набытага багацьця ў канцы XVI і ў XVII веку пачалі слабець; наплыў дарагіх мэталяў ня зыходзіўся з мерай вытворчасьці краю, і насяленьне яго падупадала матэрыяльна і морально, усе сваё спадзяваньні ўскладаючы на лёгкае здабыцьцё багацьця.

І вось, побач з імі, у часьці занімаючы іх месца, вырастаюць другія вялікія гаспадарствы, заўладаўшыя марскім гандлем: Англія, Голяндыя і Францыя.

c) Багатыя капальні Мэксыкі і Пэру давалі гэтулькі золата і серабра, што вартасьць грошай у Эўропе значна паменшала. Пад той час, як даўней галоўным багацьцем была зямельная маемасьць, цяпер узрастае капіталізм, значныя запасы гатоўкі зьбіраюцца ў адных руках, расьце значэньне і ўплывы багатага купецтва.

d) З Амэрыкі былі прывезены ў Эўропу няведамыя там да таго часу прадукты, як цукер, тытун, бульба; у хуткім часе прадукты гэтыя сталіся прадметамі штадзеннага спажываньня.

e) Ураджайная зямля Новага Сьвету заахвочавала эўрапэйцаў да эміграцыі, а вальнейшыя гаспадарственыя адносіны ў калёніях уплывалі на жыцьцё Эўропы.

f) Для навукі, асабліва для навукі аб прыродзе, адкрыліся саўсім новыя абшары для дасьледаў.

## § 2. Гуманізм.

Пасьля Грэкаў хіба ніводзін народ не зрабіў такога вялікага ўплыву на сусьветную культуру, як італьянцы ў

XIV і XV вякох, і пэўна-ж ніводнае мéста, апроч Атэнаў, ня можа пахваліцца, што дало гэтулькі слаўных людзéй, як тагачасная Флёрэнцыя.

Каля 1300 году тут жыў вялікі поэт Д а н т э, які напісаў „Боскую Камэдыю“. Гэты паэтычны твор бязьмéрнае вартасьці паказуе ў узвышаных абразох тагасьвéтнае жыцьцё ў пéкле, чысцы і ў нéбе так, як сабé выабражалі яго людзі таго часу; гэты твор выяўляе геніяльны дух, культуру і нацыянальныя імкнéньні італьянскага народу, а таксама і лéпшыя бакі сярэднявéчнага каталіцтва. Дзéля таго справядліва называюць Данта „хрысьціянскім Гомэрам“.

Як Данта лічаць найвялікшым эпікам, гэтак сама Пэтрарку ўважаюць за аднаго з найвялікшых лірыкаў. Дзякуючы гэтым двум поэтам, флёрэнцкая гутарка, якой яны пісалі свае творы, разьвілася ў нацыянальную літэратурную мову італьянцаў. Пэтрарка заняўся яшчэ больш цэннаю з культурнага боку дзéйнасьцю, разам з другімі працуючы над уваскрашэньнем старавéчнае грэка-італьскае культуры. Ён у значнай мéры прыкладаў сваю руку да пачатку кірунку мысьлі і руху, які творыць асобны пэрыад у гісторыі культуры і называецца а д р а д ж э н ь н е м  м а с т а ц т в а  і  н а в у к і (р э н э с а н с).

Можа да таго часу йшчэ ня зусім была загінула у італьянцаў памяць аб вялікай мінуўшчыне роднага краю, аб тых часох, калі Рым выдаваў законы ўсяму сьвéту; ужо самы від пышных старадаўных руінаў даволі голасна і ярка павінен быў напамінаць ім даўнéйшыя лéпшыя часы. Аднак-жа, калі выключыць нéкалькі твораў, імéньняў і здарэньняў, аб мінуўшчыне вéдалі фактычна вéльмі мала.

На пачатку сярэднявéчча манастыры часта былі сялібаю навукі і мастацтва, дый усякае наагул культуры; былі яны таксама і разсаднікамі прасьвéты. Аднак, з ходам часу духавéнства ўсё мéнш і мéнш рупілася аб разьвіцьці вéды, усё больш паношылася сярод духоўных цемната і навет пагарда да сьвéцкае навукі. Надыйшоў час, калі даўнéйшія багатыя манастырскія бібліатэкі сталі перанасіць у скляпы без вакон, дзе цэнныя пэргамэнты, на якіх пасьпісаваны былі праўдзівыя скарбы чалавéчае думкі, гнілі або йшлі на пажыву мышам. Бывала і гэтак, што цёмны манах саскрабаў з гэных пэргамэнтаў старое пісьмо, каб выкарыстаць іх для запісу нейкіх лягéндаў аб сьвятых, або малітваў, кронік і г. п.

Пэтрарка стараўся сабраць нанова і ратаваць ад зьнішчэжэньня цэнныя памяткі мінуўшчыны і шчыра захапіўся дасьлéдамі клясычнае літэратуры. Рабілі гэта ўпéрад і другія, але з працы іх было мала карысьці, бо не настаў яшчэ быў вялікі час Адраджэньня. Былі гэта звычайна адарваныя ад грамадзянства адзінкі, якіх праца і імкнéньні мала каго цікавілі. Цяпéр ужо было іначай. Зямляк і вучань Пэтраркі, Б о к а ч ы о, гэтак сама паэт (новэліст), горача насьледаваў свайго вучыцеля працаю і імкнéньнямі і навет выперадзіў яго ў гэтай справе, бо, навучыўшыся грэцкае мовы, пачаў чытаць грэцкіх пісьмéньнікаў у орыгінале, што на тыя часы было вялікаю рэдкасьцю: тады, калі хто і чытаў клясыкаў, дык толькі рымскіх, а калі ўжо грэцкіх—дык у лацінскім перакладзе.



Высілкі гэтых двух людзéй не прапалі дарэмна. Сьлéдам за імі шмат хто пачаў шукаць і зьбіраць з усё большай і большай цікавасьцю творы старавéчнае навукі і поэзіі і працаваць над пазнаньнем іх.

Стварыўся новы кірунак у навуцы, называны г у м а н і з м а м, бо ён ужо не займаўся пытаньнямі тэолёгічнымі, схолястыкаю, але ўзгадаваньнем духоўных сіл чалавéка, ўзіраючыся на творы грэка-італьскае культуры. Папы, князі і рэспублікі стараліся адны адных выперадзіць, запрашаючы да сябé слаўных мужоў—„гуманістаў“, якія пашыралі новую навуку; па ўсіх мéстах закладаліся катэдры старавéчных моваў. Навет не ўважалі за эдукаванага чалавéка таго, хто апрача сапсаванае манастырскае лацівы ня ўмéў яшчэ і прыгожае мовы Цыцэрона; навет кабéты борзда і правільна гаварылі і пісалі па лаціне. Вучыліся таксама і па грэцку, асабліва тады, калі, пасьля ўпадку Константынопаля, у Італію ўцякло многа Грэкаў. Флёрэнцыя йшла напéрадзе ўсіх у справе разьвіцьця новае навукі. Козімо і Лёрэнцо (Лаўрэн) М э д ы ч ы лічылі справаю свайго гонару, каб іхняе роднае мéста было зборным пунктам для людзéй навукі і артыстаў. Вось-жа і называюць іх часы п э р ы а д а м  М э д ы ч ы.

Гуманізм зусім зьмяніў культурны стан сярэднявéчча. Старасьвéцкае паганства ў вачох культурных людзéй засьвяцілася ізноў блéскам залатое эры, адбіваючыся ня толькі на мове і пісаньні, але і на жыцьці і на звычаях. Упадабаньне клясычных ідэалаў ніяк не магло пагадзіцца з панурым аскетызмам і фанатызмам сярэднявéчнага хрысьціянства. Пачалі прабіваць для сябé дарогу свабаднéйшыя пагляды на рэлігію. Царква ўсё болей губляла сваю абсалютную ўладу над чалавéчым розумам. Дагэтуль па унівэрсытэтах непадзéльна панавала схолястыка. Адзіным заняцьцем профэсароў і вучняў былі бясплодныя, часта навет сьмéшныя дыскусіі на псэўдо-філёзофскія і тэолёгічныя тэмы. Цяпéр з туману забыцьця ізноў выступаюць клясычныя навукі: гісторыя, географія, матэматыка і навукі аб прыродзе сьвяткуюць сваё ўваскрасéньне. Тое самае было і з мастацтвам. Дасьлéды над стара-рымскімі будоўлямі, мастацкімі калённамі і аркамі ды над магутнымі купаламі давялі да таго, што панаваўшую дагэтуль усюды готыцкую архітэктуру пачынаюць пакідаць,

а замест яе разьвіваецца новы стыль — рэнэсансавы, абапёрты на клясычных узорах. З месца свайго нараджэньня, Флёрэнцыі, гэты стыль пашырыўся ўсюды і ў канцы саўсім замяніў готыку. Спад руінаў Рыму і іншых мясцовасьцяў дыбывалі лепшыя творы старавечнага мастацтва— мармаравыя ды гіпсовыя фігуры, і гэта скіравала скульптуру на новыя шляхі. Малярства, што дагэтуль было застыгшы ў аскетызме, пышна закрасавала, шукаючы натхненьня ўжо ня толькі ў містычных марах і офіцыяльных царкоўных узорах, але ў жыцьці і прыродзе. Новы характар пачала прыймаць і музыка. Уваскрэсла клясычная Італія, даючы ўва ўсіх галінах доўгі рад артыстаў няўміручае ці, прынамся, не апошняе славы, натхнёных духам Адраджэньня.

Распачатае ў XIV веку Адраджэньне дайшло поўні свайго разьвіцьця і расцьвету ў XVI-м сталецьці.

## § 3. Расцьвет мастацтва і навукі ў XVI сталецьці.

### 1. Мастацтва.

„Навукі цьвітуць, будзіцца розум; о, сталецьце! якое шчасьце жыці з табою!“ Гэткімі славамі вітаў сваё сталецьце адзін з ведамых нямецкіх грамадзка-рэлігійных дзеячоў (Ульрык фон-Гутэн); і гэта была праўда.

На тым полі, дзе папярэдняе сталецьце засявала адкрыцьці, парасьлі цяпер пышныя, прыгожыя кветкі. Наперадзі ўсяго руху, як і даўней, стаялі Італьянцы. У іх у палове XVI веку мастацтва дайшло такога расцьвету, якога ад часоў Пэрыкла нідзе датуль ня было. Шмат архітэктароў, скульптароў і маляроў адзін перад адным узбагачаваюць тую нявычарпальную скарбніцу лепшых твораў мастацтва, якой з гэнага часу зрабілася Італія. Найхарашэйшыя будоўлі ў стылю рэнэсанс прыаздобілі італьянскія месты. Найбольш ведамай сталася царква сьв. Пётры ў Рыме з аграмадным, вялікапышным купалам, пазьней толькі крыху сапсаваным няўдатнымі дадаткамі. Збудаваў той купал слаўны флёрэнцыянін, Мікель Анджэлё Буонароті (1475—1564), вялікі мастак як у архітэктуры, так і ў малярстве. З боку ўсестароннасьці яго яшчэ выперадзіў ягоны зямляк Леонардо да-Вінчы (1452—1519), аднолькава геніяльны маляр, скульптар, музыка, мэханік і інжынер. У Рыме працаваў маляр Рафаэль Санті д'Урбіно (1480—1520), якога завуць—„Боскім“, бо яго абразы прадстаўляюць выяўленьне найдасканальшага харастваа, якое толькі нам ведама. У тым самым часе маляваў у Парме Корэджыо (1494—1534),



творы якога вызначаюцца непараўнаванай прынаднасьцю, а ў Вэнэцыі—Тыцыян (1477—1576), які ўславіўся найхарашэйшымі калерамі. У асобах гэтых пяцёх мастакоў, між якімі кожын у сваей галіне быў найгеніяльнейшы, малярства дайшло такое вышыні, як ніколі ані перад тым, ані пасьля.

Немцы далі двух вялікіх маляроў: Альбрэхта Дюрэра з Нюрэнбэргу (1471—1582) і Ганса Гольбэйна (1497—1543), які доўга жыў у Базэлі, а пасьля ў Англіі.

Замілаваньне ў хараствé захоплівала ў тыя часы навет скромнага рамесьніка. Хатнія мэблі заможнага мешчаніна, ягоныя сталы, крэслы, ложкі, скрыні, шафы, сьценныя таблііцы, прыгожа выразаныя з дрэва, пышныя каляровыя шыбы, маляваныя печы—усё гэта насіла на сабе сьляды рукі мастака.

Музыка ў XVI веку знайшла таксама бязсьмертнага мастака ў асобе італьянца Палестрына (1514—1594), які для набажэнства ў папскай капліцы ўкладаў пышныя, мастацкія музыкальныя творы і гэтым больш славы дадаў каталіцкай Царкве, чым можа шмат хто з папаў.

### 2. Літэратура.

У гэтак артыстычна настроеным часе павінны былі зьяўляцца і вялікія літэратурныя творы. Так яно і было, асабліва ў тэй-жа Італіі. Пісаў тамака тонкі мысьліцель Макіавэлі (1469—1527); яго палітычныя і грамадзкія творы, асабліва-ж гісторыю яго роднага места Флёрэнцыі можна прыраўнаваць, бадай, да лепшых твораў Тукідыда і Тацыта. Між іншым, найбольш ведамы яго палітычны твор „Il Principe“ (монарх), у якім ён радзіць монарху карыстацца навет найгоршымі злачынствамі: вераломствам, забойствамі і г. п., калі гэта патрэбна дзеля утрыманьня і ўзмацаваньня ўлады. Адгэтуль палітыкаў, што не перабіраюць у спосабах, называюць макіявэлістамі, а іхнюю палітыку — макіявэлізмам. Аднак, Макіявэлі, з другога боку, ведамы, як гарачы прыхільнік і абаронца грамадзкае волі і незалежнасьці Італіі. З гэтае прычыны іншыя думаюць, быццам паменены твор яго ёсьць проста сатыра на тыранію. Усё-ж, хутчэй за ўсё Макіявэлі пісаў шчыра, толькі згодна з паглядамі і звычаямі свайго часу і краю. Сам ён не належаў да людзей, якія не перабіраюць у спосабах; але яму, як гарачаму італьянскаму патрыоту, вельмі балела раздробленьне Італіі і вынікі апошняга: палітычная слабасьць і залежнасьць ад суседзяў. Яго лятуценьнем было злучэньне Італіі пад адным моцным урадам. Усе спосабы, якія вялі да гэтае мэты, ён лічыў добрымі; яму хацелася, відаць, улажыць свае лятуценьні ў душу аднаго з малых тыранаў, каб той стаўся вялікім тыранам

усяе́ Італіі—дзеля большае яе славы і дзеля забясьпе́чаньня яе незале́жнасьці на ве́чныя часы.

У Флёрэнцыі таксама жылі яшчэ два поэты, якіх земляк іхныя ставяць побач з Дантам. Гэта былі: Арыосто (1474—1533), які напісаў поэму „Ролянд-шалёны", і Торквато Тассо (1544—1594), які ў сваёй поэме „Вызвалены Ерусалім" апяваў падзе́і першага крыжавога паходу.

Закрасавала літэратура і ў другіх краёх. Португалец Камоэнс (1524—1580) быў знамянітым пяўцом ве́дамае падарожы Васко дэ Гамы, якую апісаў у поэме „Люзыяда". Гішпанец Сэрвантэс (1547—1616) стварыў слаўную повесьць „Дон Кіхот", поўную сатырычнае дасьціпнасьці, асьмяшаючую манію ідэалізаваньня рыцарскіх звычаяў, у той час ужо зьнікаючых, а таксама і агульна-людзкіх недахватаў; усё гэта асалоджана духам чыстае, ве́чна жывое поэзіі.

Францыя таго часу таксама ме́ла не́калькі выдатных пісьме́ньнікаў, спаміж якіх найбольш ве́дамы Рабле́ (1488—1553). У повесьці аб двух волатах, Гаргантюа і Пантагрюэлю, ён бічуець злоўжываньні царквы і гаспадарства, дый іншыя балячкі і сьме́шныя праявы свайго часу.

У Англіі ў канцы стале́цьця пісаў свае́ бязсьме́ртныя творы геніяльны драматычны пісьме́ньнік Шэкспір, роўны вялікім тварцом грэцкае траге́дыі, але бліжэйшы да нас часам і духам, чымся тыя. Урэшце расцьвіла і разраслася літэратура і на ўсходзе *).

### 3. Навука.

У навуковай дзе́йнасьці побач з Італьянцамі стаялі Не́мцы. Ужо гадоў сто назад няме́цкія князі ды ме́сты пачалі адкрываць адзін за адным унівэрсітэты. Найбольш вучонымі людзьмі свайго часу былі там: Эразм з Ротэрдаму (1466—1536) і Рэйхлін з Пфорцгайму (1455—1529). Эразм быў выдатны лацінскі стыліст, аўтар шмат якіх лацінскіх падручнікаў для навучаньня аб розных прадме́тах **); ён пераклаў шмат грэцкіх твораў на лацінскую мову; урэшце, ён ве́дамы, як сатырык, варожа настроены да Царквы. Рэйхлін быў вялікі знаўца і прыхільнік грэцкае мовы, першы спэцыяліст у гэбрайскай мове сярод навачасных хрысьціянаў.

Аднак, заслугі гэтых няме́цкіх філёлёгаў маюць шмат ме́ншае значэньне, чым тое адкрыцьце, якое зрабіў вялікі польскі астраном, Копэрнік з Торуня (1473—1543) Ён разьбіў сыстэму Птолёмэя, якая даводзіла, што зямля ёсьць асяродак усяго сьве́ту, і выкрыў запраўднае палажэньне нашае

*) У тым ліку і ў Беларусі (Перакл.).

**) У сваіх „Colloquia" стараўся датарнаваць лаціну да навачасных адносін.



плянэты сярод іншых нябе́сных це́лаў. Адкрыцьці Копэрніка ня толькі стварылі навуковую астраномію, але грунтоўна зьмянілі самае паняцьце аб сьве́це і аб адносінах да яго чалаве́ка.

Сыстэму Копэрніка разьвілі дале́й Не́мец Ке́плер (1571—1630), які выкрыў законы руху плянэтаў, і Італьянец Галіле́й (1564—1642). Апошні сваімі сьме́лымі дасьле́дамі паклаў аснову навачаснае фізыкі, а карыстаючы з тэлескопу, які быў у гэтым часе зроблены ў Голяндыі і ім самім пале́пшаны, адкрыў сьве́т зораў.

Ня толькі каталіцкая царква, але і протэстанцкая абве́сьцілі навуку Копэрніка за гэрэзію. Стары Галіле́й папаў пад суд інквізыцыі, і толькі адрачэньне ад свае́ навукі, якое вырвалі ў яго мукамі, выратавала яго жыцьцё (1633).

Затое заслугаю каталіцкае царквы было папраўле́ньне Юліянскага календара на аснове астранамічных дасьле́даў. У часы Юлія Цэзара вучоныя абмыліліся ў сваіх аблічэньнях на 11 мінут у год; праз гэта ў 1582 годзе календарны час адставаў ад праўдзівага ўжо на 10 дзён. Вось, папа Грыгор XIII загадаў, каб пасьля 4 кастрычніка лічылі другі дзень 15 кастрычніка і каб у будучыне праз кожныя 400 гадоў тры пераступныя гады лічыліся за звычайныя. Каталікі прынялі новы календар адразу, протэстанты-ж, праз не́прыязьнь да Рыму, у Няме́ччыне і Швайцарыі толькі ў 1700 г., а ў Англіі і іншых краёх—яшчэ пазьне́й. Усходнія Славяне і Грэкі і дагэтуль яшчэ трымаюцца Юліянскага календара.

---

# ПЕРШЫ ПЕРЫЯД.

## РЭФОРМАЦЫЯ і РЭЛІГІЙНЫЯ ВОЙНЫ.

## § 4. Рэформацыя у Нямеччыне.

**1. Рэйхлін і кельнскія профэсары** (1510—1520). Сумны стан Царквы знаходзіўся ў рэзкім контрасьце з характэрным для ўсяе эпохі юнацкім імкненьнем да дзела. Але, ня гледзячы на свой унутраны расклад, Царква ўсё-ж мела яшчэ сілы, каб задушыць бунтарскі дух новых часоў, які выступіў на змаганьне з старым ладам. Так, прыкладам, профэсары Кельнскага Унівэрсітэту, у большасьці дамінікане, дайшлі да дзікае думкі, што трэба спаліць усе гэбрайскія кнігі, як гэрэтыцкія, за выняткам толькі бібліі ў гэтай мове. Калі вялікі прыхільнік гэбрайшчыны, гуманіст Рэйхлін (гл. § 3) ад імя навукі горача запротэставаў проці такога барбарства, дамінікане абвесьцілі яго гэрэтыкам і спалілі ўсе яго творы. Рэйхлін падаў у суд на дамініканаў, але справу прайграў; папа прысудзіў яго да вечнага маўчаньня (г. зн. спыненьня літэратурнае дзейнасьці) і аплаты судовых коштаў. Інтэлігенцыя ўсіх краёў стала на абарону Рэйхліна і выступіла проці кельнскіх інквізытараў. Гурток гуманістаў у гэтым самым месьце, якім кіраваў Ульрых фон-Гутэн, рыцар і вялікі прыхільнік гуманізму і волі, літэратар і палеміст, крыху мо' зазьдзіра, апублікаваў уложаныя ім „Лісты цёмных людзей“ (Epistolae obscurorum virorum). Лісты гэтыя дужа спрытна наслядуюць барбарскую лаціну, выяўляюць някультурнасьць манахаў, высьмейваюць іхнюю бязьмежную дурноту. Аж закіпела ў царкоўнай партыі! Але яшчэ не пасьпелі супакоіцца думкі ад гэтае спрэчкі, як пачалася новая спрэчка, шмат важнейшая, вынікі якое ўскалыхнулі ўвесь сьвет.

**2. Юлі II і Лявон X.** Найбліжэйшыя наступнікі папы Аляксандра VI былі людзі з выдатнымі здольнасьцямі, якія, праўда, можа больш адпавядалі-б сьвецкім манархам, чым духоўным правадыром вялікае царквы. Разумны і магутны Юлі II то заклікае ў Рым Мікель-Анджэлё і Рафаэля, каб прыхарошыць „вечнае места“ пышнымі будоўлямі і творамі мастацтва, то сам ідзе на вайну, аблягае і бурыць месты. Гэты папа браў учасьце ўва ўсіх эўрапэйскіх звадках. Яго наступнік Лявон X (1513—1521), сын Лаўрэна Мэдычы, так-



сама стаўся ведамым, як прыяцель мастацтва і навукі. Гэта па яго даручэньню Рафаэль намаляваў найлепшыя свае творы, а нязьлічоныя поэты і вучоныя шанавалі яго, як свайго вялікадушнага протэктара.

**3. Тэзы Лютара проці адпустаў** (31 кастрычніка 1517 г.). Каб пакрыць кошты будаваньня касьцёлу Сьв. Пётры ў Рыме, ўжо папа Юлі II ўстанавіў спэцыяльны водпуст, а Лявон X загадаў абвесьціць яго ў Нямеччыне. Нічога ня было новага ў тым, што, даючы водпуст, зьбіралі ахвяры на хрысьціянскія мэты; якраз незадоўга перад тым для атрыманьня водпусту трэ' было плаціць ахвяру на вайну з туркамі.

Водпуст „за ахвяру“ з даўных часоў меў шмат праціўнікаў навет паміж духавенствам: бо было ведама, што на гэткі водпуст народ углядаўся, як на адпушчэньне грахоў за грошы—без усялякае скрухі і пакуты, якіх вымагае Царква. Царкоўная ўлада разсылала па краю, дзе быў абвешчаны водпуст, манахаў, звычайна з жабрацкіх ордэраў, якія ўмелі прамаўляць да народу. Манахі гэныя гаварылі казаньні, заклікаючы да складаньня ахвяраў на тую ці другую мэту. Адзін з такіх манахаў, Ян Тэцэль, зьявіўся ў гэтым часе ў Вітэнбэрг. Быў ён лішне ўжо рупны і, каб больш сабраць ахвяраў, не паўстыдаўся іграць ролю кірмашовага шарлятана, які выхваляе свой тавар. Гэта выклікала ў месьце агульнае абурэньне. Магчыма, што не адзін Тэцэль рабіў гэтак сама; рабілі гэтак і другія і тады, і даўней. Але ў той час тлелі ўжо іскры рэлігійнага бунту, ды ўжо ня толькі сярод аднае інтэлігенцыі. Чым для інтэлігенцыі быў гуманізм, тым для народных масаў былі яшчэ не затухшыя гусіцкія ўплывы. Ня гледзячы на агульнае абурэньне, гэты факт астаўся-б без рэзультатаў у Вітэнбэргу, як аставаўся ў іншых мясцох, калі-б не знайшоўся там адважны чалавек, які публічна запротэставаў проці злоўжываньня.

У той час быў звычай у профэсароў унівэрсітэту, што, хочучы нешта публічна выказаць,—прыкл. сумляваньні ў якойнебудзь навуковай справе,—выклікалі сваіх вучоных сябраў на дыспуту, прыбіваючы да царкоўных дзьвярэй адпаведную абвестку з паказаньнем сваіх паглядаў. Гэтак зрабіў у Вітэнбэргу і профэсар тамтэйшага унівэрсітэту, манах-аўгустыньянін, Марцін Лютар. Ён прыбіў да царкоўных дзьвярэй паперу з 95-ма тэзісамі, у якіх пісаў, што адпушчэньне грахоў залежыць толькі ад Бога, што ў даным выпадку водпуст можа аднасіцца толькі да царкоўных караў, і што папа, калі-б ведаў аб ганебным злоўжываньні ягонага імя, хутчэй разбурыў-бы ўвесь гмах, пасьвячоны сьв. Пётры, чым дазволіў на гэткую агіду.

У хуткім часе 95 тэзісаў, перапісаныя і надрукаваныя, абляцелі ўсю Нямеччыну, будзячы ўсюды зацікаўленьне аўторам і паднятай ім справай.

**4. Марцін Лютар** (1483—1546). Марцін Лютар радзіўся ў мястэчку Эйслебен і быў сынам селяніна, які працаваў у капальні. Бацька, хоць і быў бедны, пасылаў яго да школы ў Эйзэнаху і Магдэбургу; вучыўся там ён ледзь жывы ад голаду. Крыху пазьней матэрыяльнае палажэньне бацькі палепшала, і Лютар змог пастуліць студэнтам у вышэйшую школу ў Эрфурце. Але неспадзяваная сьмерць прыяцеля і ўдар пяруна, які ледзь-ледзь не пазбавіў яго жыцьця, падбілі Лютара зрабіцца манахам, і ён паступіў у аўгустыньянскі манастыр у Эрфурце, Тамака яму давялося перажыць цяжкое духоўнае змаганьне. Цяжкія пакутныя практыкаваньні, якія ён адбываў, не здаволівалі яго; ён пачуваў сябе засуджаным праз Бога грэшнікам, ажно пакуль не знайшоў сабе пацехі ў бібліі. Пад уплывам чытаньня бібліі ў яго стварылася перакананьне, што толькі вера можа збавіць, а пасты, пакута ды іншыя добрыя ўчынкі ня маюць ніякага значэньня. Назначаны профэсарам філёзофіі і тэолёгіі ў Вітэнбэргу (1508 г.), ён у сваіх лекцыях і казаньнях даводзіў, што чалавек нічога сам ня можа зрабіць для свайго збаўленьня, што толькі вера можа збавіць чалавека.

Дык выступленьне Лютара процi адпустаў было натуральным вынікам яго паглядаў.

У Вітэнбэргу Лютар быў асобаю вельмі ўплывоваю і папулярнаю. Да яго прыхільна адносіўся курфюрст Саксонскі; сярод профэсароў займаў ён найважнейшае становішча, а яго казаньні прыцягавалі масы слухачоў. Як сын свайго народу, умеў Лютар прамаўляць да яго моцна, ясна і вобразна. Умеў ён нягорш і пісаць.

Выступаючы процi адпустаў, Лютар зусім ня думаў аб далёка йдучых рэформах у Царкве. У той час, як дамінікане ўжо вінавацілі яго ў гэрэзіі, а пад'юджаны імі папа грозна клікаў яго ў Рым, Лютар стаяў яшчэ на прававерным становішчы. Але не сьпяшаўся ён выбірацца ў дарогу да „вечнага места", бо было ведама, што маглі значыць такія запросіны Апостальскае Сталіцы: сьмерць на агні, або ў найлепшым прыпадку дажывотняя вязьніца ў скляпох якога-небудзь манастыра чакалі манаха, западозранага ў гэрэзіі. Дзякуючы заступніцтву саксонскага курфюрста Фрыдрыка Разумнага, царкоўная ўлада дазволіла Лютару вытлумачыцца на месцы перад кардыналам Каетанам, легатам папскае сталіцы, які жыў у Аўгсбургу. Гэтаму італьянцу здавалася, што ён лёгка дасьць раду з „бзікаватым манахам" сваім грозным выглядам і рэзкім прыказам: „адракайся". Але ён па-



мыліўся. Лютар не адрокся, а толькі ўцёк у Вітэнбэрг, дзе пачуваў сябе бесьпячней. Легат патрэбаваў, каб яму выдалі непакорнага манаха. Цьвёрдая адмова саксонскага курфюрста прымусіла апостальскую сталіцу пайсьці на ўступкі: ад Лютара патрэбавалі толькі маўчаньня, што ён і абяцаўся,— аднак, з тэй умовай, што змоўкнуць таксама і ягоныя праціўнікі.

Вось-жа, калі доктар Эк, адзін з найвялікшых вучоных тэолёгічна-схолястычнага тыпу і найвыдатнейшы дыялектык свайго часу, напаў на яго навуку, стаўляючы свае тэзісы, Лютар гэты вызаў прыняў і абяцаўся пайсьці на дыспуту, як гэта было ў звычаі паміж тагачаснымі вучонымі. Дыскусія адбылася ў Лейпцыгу ў прысутнасьці вялікага ліку слухачоў. Доктар Эк даводзіў, што папства ўстанавіў сам Хрыстус; Лютар-жа казаў, што яно паўстала шмат пазьней. На такі адказ Лютара д-р Эк прыпомніў, што за гэтакую навуку Гуса прысудзілі на сьмерць. Лютар адказаў, што Гус навучаў шмат чаго зусім слушнага, і што праўда Сьв. Пісаньня стаіць вышэй за пастановы папаў і сабораў.

Такой заявай Лютар ужо адкрыта ўдарыў Царкву, бо калі ўжо ня папы, дык прынамся саборы лічыліся непамыльнымі. Тэмпэрамэнт Лютара завёў яго далей, чым ён уперад маніўся йсьці; а д-р Эк дайшоў мэты сваёй дыспуты.

**5. Спаленьне папскае бульлі** (1520). Узрадаваны гэткаю ўдачаю д-р Эк паехаў у Рым і дабіўся праклёну для „новага гусыта". Тады Лютар, спадзяючыся на пратэкцыю курфюрста і здабытую ўжо шырокую популярнасьць у народзе, выступіў зусім адкрыта жывым словам і пісаньнем процi ўсіх грахоў Царквы. Добра яму дапамагаў Ульрык фон-Гутэн (гл. вышэй), разсылаючы па ўсёй Нямеччыне лятучыя лісты, якія абкідалі балотам папства і заклікалі нямецкі народ да паўстаньня процi Царквы. Прыяцель Гутэна, магутны рыцар Зікінген, і іншыя баяры (шляхта) прапанавалі вітэнбэрскаму манаху абарону ў сваіх замках. Лютар-жа разаслаў па сьвеце лятучы ліст пад назовам „Ліст да нямецкае шляхты", ў якім заклікаў князёў, баяраў і месты да барацьбы з „антыхрыстам", як ён называў папу за праціўленьне грунтоўным рэформам ў царкве. Саксонскі Курфюрст усё яшчэ апекаваўся мілым сэрцу яго збунтаваным манахам. Гэтая апека ўрэшце памагла Лютару наважыцца спаліць бульлю, у якой напісаны быў на яго праклён папы; зробіў ён гэта публічна, у прысутнасьці многіх профэсароў і студэнтаў.

**6. Кароль V.** Імпэратар Максымілян памёр у 1519 г. Пасьля колькігадовае ажыўленае выбарнае кампаніі, калі ўжо здавалася, што імпэратарам будзе падтрымліваны папай

Лявонам X францускі кароль Францішк I, курфюрсты выбралі ўрэшце наймагутнейшага манарха таго часу, унука Максыміліянавага—Караля V. Кароль V (радзіўся ў 1500 г.) дастаў у спадчыне па сваім дзеду, Фэрдынандзе Каталіцкім, Гішпанію з вялізарнымі прыслухаючымі ёй абшарамі за морам, а таксама і ў Эўропе (каралеўства Абедзьвюх Сыцылій). Па дзеду-ж Максыміліяне ён валадзеў краямі Габсбургаў: Аўстрыяй, Нідэрляндамі і Франш-Контэ.

Кароль V, з прыроды і ўзгадаваньня прыхільнік манархічнага абсолютызму і рэлігійнае прававе́рнасьці, мог у Гішпаніі даваць волю сваім імкне́ньням, але ў Няме́ччыне гэта было шмат цяжэй.

У 1521 г. Кароль V абве́сьціў свой пе́ршы няме́цкі сойм у Вормсе. На гэтым сойме Кароль аддаў кіраваньне няме́цкімі габсбургскімі зе́млямі свайму брату Фэрдынанду.

Найважне́йшай і найпільне́йшай справаю была справа царкоўная, а ў ёй на пе́ршы плян высунулася гэрэтыцкае выступленьне Лютара.

**7. Лютар на сойме ў Вормсе** (1521 г.). Лічучыся з магутнай протэкцыяй, якая бараніла асобу Лютара, рымская курыя пачувалася бязсільнаю ў адносінах да галавы рэлігійнага бунту, дык аддала справу гэрэзіі Лютара ў рукі імпэратара. Маладому імпэратару, прызвычаенаму да гішпанскіх звычаяў, можа і ўсьмяхалася думка ілюмінаваньня дня прыняцьця ўлады ў Няме́ччыне спале́ньнем гэрэтыка; але пагражаўшая яму вайна з Францішкам I і нарастаўшая з кожным днём сіла прыхільнікаў Лютара прымушалі яго быць умяркаваным, ня гледзячы на дамаганьні папы, каб яўны гэрэтык быў адданы на сьме́рць бяз суда, на моцы вэрдыкту царквы. Князі, настроеныя прыхільна да Лютара, былі ве́льмі нездаволены цяжкімі абавязкамі, якія накладала на іх зале́жнасьць ад Рыму, адносіліся няпрыхільна да імпэратарскае ўлады, ды ме́лі нейкую туманную надзе́ю, што на справе Лютара не́шта можна будзе выйграць. Вось, яны і запротэставалі проці прысуду, пакуль ня выслухаюць абвінавачанага. Згодна з іх дамаганьнямі, імпэратар выдаў Лютару „зялезны ліст“, каб той мог, не баючыся, зьявіцца на сойм. Некаторыя прыяцелі Лютара прабавалі адгаварыць яго ад небясьпе́чнае падарожы, прыпамінаючы яму долю Гуса; але адважнага рэфарматара гэтыя страхі не спалохалі. Ён ве́рыў у сваю праўду, а такжа ў тых людзе́й, якія яго баранілі.

Прые́хаўшы на сойм, Лютар пе́ршы дзе́нь ня ме́ў яшчэ досіць адвагі і самапэўнасьці; ён навет прасіў, каб яму далі час для развагі. Але на другі дзе́нь ягоная нясьме́ласьць ужо саўсім счэзла; адважна і спрытна бараніў ён сваё пагляды. Аднак, яго прамову спынілі і запатрабавалі кароткага адказу



на пытаньне: ці адракаецца ён ад гэрэзіі, якую выявіў словам і пісаньнем, ці не? Адказ Лютара быў нязвычайна сьме́лы і канчаўся славамі: „Не хачу і не магу ад нічога адрачыся. Інакш не магу, стаю на гэтым, і няхай мне Бог дапамагае“.

Уражэньне ад прамовы Лютара было разнароднае. Фрыдрык Разумны і гэсэнскі ляндграф Пілiп былі захоплены яго адвагаю; Кароль жа сказаў, што гэты чалаве́к не патрапіў-бы зрабіць з яго гэрэтыка. Аднак, абяцаньне сваё не пасягаць на свабоду Лютара імпэратар споўніў, хаця шмат хто быў проці гэтага. Толькі пасьля выезду Лютара быў выданы эдыкт, які абвяшчаў яго гэрэтыкам і загадаваў лавіць яго, каб аддаць у рукі суда; тое самае датычылася і прыхільнікаў навукі Лютара; апроч таго было забаронена друкаваць кніжкі без царкоўнае цэнзуры. Але Лютар ужо быў у бясьпе́чнасьці. У дарозе, як ён вяртаўся з Вормсу, яго схапілі пераапранутыя і замаскаваныя коньнікі і заве́зьлі ў самотны замак Вартбург. Зроблена гэта было па загаду саксонскага курфюрста, які хаце́ў абараніць Лютара, ды баяўся адкрыта выступіць проці імпэратара.

У адзіноцтве, у старасьве́цкім замку, пабудаваным на пакрытай ле́сам гары, распачаў Лютар вялікую справу—пераклад Бібліі на няме́цкую мову. Ніхто ня ве́даў, дзе знаходзіцца Лютар; думалі-б, што ён памёр, калі-б не агністыя яго лісты, якія час ад часу абягалі сьве́т, пашыраючы ўсюды пажар царкоўнага бунту.

**8. Зьнішчэньне абразоў у Вітэнбэргу** (1522). Рух, распачаты Лютарам, у часе яго укрываньня пайшоў шмат дале́й, чым таго хаце́ў і спадзяваўся галава няме́цкае рэформацыі. Гэтак, прыкл., у Вітэнбэргу прыхільнікі новае навукі, на чале́ якіх стаяў проф. Карльштадт, чалаве́к дужа гарачы, бурылі цэркви, выганялі духаўнікоў, адпраўляўшых набажэнства, і зьнішчалі сьвятыя абразы, алтары і конфэсіяналы.

У той самы час зьявіліся дзіўныя лятуце́ньнікі, ткачы з горнага мястэчка Цьвікаў, якія хваліліся, быццам чулі голас Божы і быццам голас гэты кажа пазабіваць усіх духаўнікоў і бязбожнікаў. Між іншым, яны адкідалі хрышчэньне дзяце́й, прапаве́дуючы хрышчэньне дарослых (як дарослага Хрыста хрысьціў сьв. Ян). За гэта іх называлі анабаптыстамі. Гэтыя сэктанты лічылі, што яны выбраны Богам, каб стварыць Царства Божае на зямлі, каб ня было больш бе́дных багатых, духаўнікоў, валадароў, вучоных і навет школаў, бо сам дух прасьвячае ве́ручых. Гарачнасьць Карльштадта і недарэчнасьці цьвікаўскіх сэктантаў, якія ўжо пачалі зачыняць школы, будзілі сумляваньне навет у найбольшых прыхільнікаў Лютара. Даве́даўшыся аб усім гэтым, Лютар, ня

глéдзячы на перасьцярогі курфюрста, пакінуў свой бясьпéчны прытулак і пасьпяшыў у Вітэнбэрг. Тамака сілаю свайго слова і характару ён ізноў зрабіў парадак і йзноў узяў у свае́ рукі кіраўніцтва рухам.

**9. Зікінген і Гутэн** (1523). Тое, што выкляты манах мог адважыцца на публічнае выступлéньне ў Вітэнбэргу, ды бязкарна быць вучыцелем і прапавéднікам, найляпéй паказуе, якую сілу і пашыранасьць мéлі яго ідэі. Здавалася, што ўвéсь народ з нéнавісьцяй адварочуецца ад Рыму. „Там, дзе зьбяруцца трое, ёсьць прынамся двое лютаран“,—казаў адзін з нямéцкіх пралатаў. Усюдых выступалі духаўнікі дый сьвéцкія людзі, якія абвяшчалі народу новую вéру; куды-ж не дайшлі прапавéднікі, там іх работу рабіла друкаванае слова, сіла якога тады выявілася пéршы раз. Манахі ды манашкі кідалі манастыры, духаўнікі жаніліся, ўсякі паслух папе і біскупам счэз. Частка князёў, усьлед за Фрыдрыкам Разумным, не рабіла перашкод руху. Іншыя-ж, асабліва духоўныя князі, рабілі па прыкладу імпэратара, які ў сваіх краёх агнём і мячом зьніштажаў непажаданы рух. Але гвалты толькі будзілі ў супраціўнай стараны жаданьне помсты. Нязмораны Ульрык фон-Гутэн плянаваў агульны пераварот, які расчысьціў-бы дарогу „эвангéльлю“ ды разам з тым скасаваў-бы абсолютнае панаваньне князёў, незалéжнае ад імпэратарскае ўлады, і вярнуў-бы Нямéччыне адзінства,—праўда, ў духу фэодальным. У сваіх плянах ён разьлічаў на ніжэйшую шляхту (баярства), якая ня любіла князёў. Ня любіла, праўда, за тое, што князі жорстка каралі яé за разбоі на гасьцінцах ды за канчаньне спрэчак між сабою ўзаéмнымі нападамі і забойствамі, што яны называлі „баярскай вольнасьцяй“. За адпавéднага правадыра для ўсіх нездаволеных Ульрык лічыў свайго прыяцеля Францішка фон-Зікінгена, які, будучы ваяводаю наёмных войскаў, мéў гэткую сілу, багацьце і павагу, што яго лічылі за наймагутнéйшага чалавéка ў Нямéччыне.

І праўда, Зікінген распачаў змаганьне, нападаючы на Трырскага духоўнага курфюрста. Але сусéднія князі далі апошняму помач. Зікінген быў прымушаны ўступіць пéрад сілаю і памéр, баронячы свае замкі, якія не маглі ўтрымацца супраць варожых гарматаў. Ульрык, знайшоўшы сабé прытулак у Швайцарыі, таксама хутка памёр.

**10. Сялянская вайна** (1525) **і анабаптысты ў Мюнстэры** (1534). Баярскае паўстаньне было толькі забаўкай, раўнуючы да паўстаньня сялянскага люду, які ў той час быў немагчыма прыгнéчаны арыстократыяй і духавéнствам. Сяляне былі пераважна людзьмі нявольнымі, былі ўласьнасьцю, якую можна было прадаваць разам з зямлёю. Падданы разам з сваімі дзяцьмі заўсёды мусіў быць на ўслугах у свайго пана, як



толькі той гэтага зажадае. Селянін працаваў пры будове панскага замку, хаця-б яго ўласная хата развалівалася; упярод вырабляў панскую зямлю, а тады толькі мог думаць аб працы на сваім загоне. Палову тыдня, калі ня больш, аддаваў ён на „паншчыну“. Паводле тагачасных законаў, пасьля сьмéрці селяніна спадчына па ім даставалася не яго сям'і, але пану. Звычайна-ж бывала так, што пан адбіраў ад удавы і сірот памéршага падданага толькі адну, найлéпшую штуку з скаціны.

Мала што ляпéй жылося тым сялянам, якія мéлі асабістую волю. Іхняя маéтнасьць была абложана немагчымымі падаткамі і абавязкамі. Усé наложаныя на іх рыцарамі ў часы фэодальныя падаткі яны плацілі і далéй, ды навет пры новых парадках падаткі яшчэ пабольшалі. Апрача таго, селянін павінен быў плаціць духавéнству „вялікую дзесяціну“ ад збожжа і „малую дзесяціну“ ад рэшты зямных пладоў і штук жывога інвэнтара. Далéй, ён плаціў пануючаму удзéльнаму князю ўзрастаўшыя што раз болей падаткі на утрыманьне яго двара і на войны, якія князь вёў. Селянін павінен быў цярпліва глядзéць, як зьвярына глуміць яго засéвы, а паляваць ня мог, бо на гэта мéлі права толькі паны; калі селянін забіваў алéня, дзіка, ці сарну, дык яго каралі блізка так сама, як за забойства чалавéка. У судзé селянін бадай ніколі ня бачыў праўды. Амаль не штадня здаралася, што баяры гвалтам рабілі вольных сялян сваімі падданымі. Войны і рыцарскія звадкі, якія бязупынна пустошылі нямéцкія краі, найбольш крывава адбіваліся на згорбленых сялянскіх сьпінах. У нормальныя гады большасьць сялян мела гэтулькі дабра, колькі трэба было, каб толькі не памéрці з голаду; у часе войнаў і неўраджаяў вымíралі цэлыя сялянскія грамады. Дык нічога дзіўнога, што прадстаўнікі клясы, гэтак страшэнна прыгнéчанае, разумéлі хрысьціянскую вольнасьць, аб якой казаў Лютар, ня толькі ў рэлігійным значэньні; што яны ў перакладзенай Лютарам на нямéцкую мову бібліі шукалі мéсцаў, якія сулілі зьмену іхняга цяжкога палажэньня.

Ужо і ранéй у некаторых ваколіцах здараліся сялянскія бунты, называныя „Bundschuh“ (саюз чаравікаў) ад сымболічнага чаравіка; бо селянін хадзіў у чаравіках, а рыцар у ботах. Цяпéр „Bundschuh“ пашырыўся усюдых. У канцы 1524 г. узгарэлася адкрытае паўстаньне ў Шварцвальдзе і каля Бодэнскага возера. Правадыры руху выложылі мэты паўстаньня ў 12 артыкулах, у якіх былі зьмéшчаны дамаганьні вольнае пропаведзі эвангéльля і вольнага выбару духаўнікоў, скасаваньня прыгону, законаў аб спадчыне і „малое дзесяціны“, зьменшаньня падаткаў і абмежаваньня паншчыны, вольнага паляваньня, рыбалоўства і карыстаньня з лясоў. Як маланка пашырыліся „артыкулы“ па нямéцкіх

краёх: у Швабіі, Франконіі, Тюрынгіі і Саксоніі, над Рэйнам і ў Альпах зьбіраліся сяляне і вымагалі ад паноў прыняцьця гэтых „артыкулаў“.

Здавалася ўжо, што паўстаньне будзе ўдачным для сялянства. Ужо навет мéсты далучыліся да руху, навет некаторыя рыцары прыймалі ў ім учасьце, абыймаючы каманду над сялянскімі дружынамі. Такім сялянскім правадыром быў адважны Гец ф. Бэрліхінген „з жалезнаю рукою“, швагра Зікінгена. Ён арганізаваў у Гэйльброне новы ўрад; тамака-ж, пад кіраўніцтвам Вэндля Гіпля, чалавéка асьвéчанага, былі апрацаваны новыя законы для Нямéччыны, і каліб гэныя законы ўмацаваліся, дык Нямéччына мéла-б трывалыя і пэўныя асновы для расцьвéту.

Нажаль, большасьць паўстанцаў не паслухала сваіх лéпшых правадыроў, якія радзілі ім памяркоўнасьць. Тут, то там лютасьць, зразумéлая ў нявольнікаў, якія рвуць вязаўшыя іх вякамі путы, выявілася ў крывавых падзéях. Асабліва шалéла паўстаньне ў Тюрынгіі, дзе на чалé разьюшаных народных масаў стаяў анабаптыст Тамаш Мюнцэр; ён прарочыў, што „царства божае“ настане тады, як згінуць усе магутныя грэшнікі гэтага сьвéту.

І вось Лютар, ядыны чалавéк, які мог-бы стрымаць узварушаныя элемэнты, кіруючы рух на спакайнéйшыя шляхі, падтрымліваючы ў ім добрыя зачаткі социяльнае рэарганізацыі, а выкідаючы анархічныя дамéшкі,—аказаўся ў гэтым страшным, але нязвычайна важным мамэнце чалавéкам маладушным, абаронцам магутных і здраднікам справы тых самых народных масаў, якіх дагэтуль быў прадстаўніком і якія гэтак яму вéрылі. Праўда, на пачатку паўстаньня ён прызнаў жаданьні паўстанцаў справядлівымі і навет намаўляў князёў, каб гэныя жаданьні прынялі. Але, калі агонь, распалены яго-ж уласнай навукаю, разгараўся ў усё большы і большы пажар, асабліва, калі яму сталі закідаць віну ў крывавых падзéях, ён, замéст таго, каб супакойваць і паступаць разважна, даў волю свайму раздражнéньню і закранутаму самалюбству. У лісьце „Проці разбояў і душагубаў“ ён радзіў уладзе „забіваць бунтаўнікоў, як шалёных сабак“. Гэты ўчынак Лютара будзе вéчнай плямай на яго дзéйнасьці. Рады лютара ахвотна паслухаліся тыя, для каго былі напісаны. Ян Саксонскі, наступнік Фрыдрыка Разумнага, і гэсэнскі ляндграф Піліп вырушылі з вялікім, добра вымуштраваным войскам проці бязладна сабраных натоўпаў, далі генэральную бітву пад Франкенгаўзэнам і пэўне-ж „дайшлі бліскучае перамогі“. Мюнцэра захапілі ў палон і аддалі на лютую сьмéрць; наагул, зьдзéкаваліся над пабітымі ворагамі, не зважаючы на законы божыя і людзкія.



Адначасна паўстанцы былі разьбіты і ў іншых мясцох. У Альзасе Лётарынгскі князь хітрасьцю ўзяў у палон і выразаў да аднаго 1700 паўстанцаў, ламаючы зробленую з імі ўмову, якой сам забясьпéчаваў ім жыцьцё. У Швабіі і ў Франконіі войскі швабскага саюзу перамаглі паўстанцаў і зьнішчылі іх да званьня. Цэлымі тысячамі сьляпілі, вéшалі, садзілі на кол, калесавалі, палілі; доля-ж рэшты сялянства ня толькі не палéпшала, а навет шмат дзе і шмат у чым пагоршала.

Праз дзéвяць гадоў пасьля гэтых выпадкаў анабаптысты ізноў паднялі бунт. Гэта было ў Вэстфаліі, у Мюнстэры. Правадыром тамака быў кравец Ян з Лейдэну, які сьлéдам за Мюнцэрам абвяшчаў прыход „Царства Божага“ на зямлю і пацягнуў за сабою большасьць насяленьня мéста. Ён абвéсьціў сябе каралём і ўстанавіў для „сваіх падданых“ новую грамадзянскую арганізацыю, ў якой галоўнае мéсца займала супольная ўласнасьць і многажэнства.

Імпэратарскае войска аблягло мéста. Грамадзяне распачліва бараніліся, але ў канцы былі прымушаны пакарыцца. Ізноў паліліся рэкі крыві, пачаліся страшэнныя гвалты.

Такі сумны канéц мелі спробы прыгнéчанага люду разам з царкоўнай рэформай дабіцца і паляпшэньня свайго зямнога быту.

**11. Арганізацыя і пашырэньне рэформацыі.** Здавалася на мамэнт, што лютарскі царкоўны рух, які ўважалі за прычыну разрухаў, утоне ў хвалях сялянскае вайны. У Паўднёвай Нямéччыне жаўнéры швабскага саюзу рабілі формальныя аблавы на прыхільнікаў Лютара і вéшалі іх гуртам на прыдарожных дрэвах. Але курфюрст Ян астаўся вéрным прыхільнікам і протэктарам рэформацкага руху. Пад яго апéкаю Лютар щчасьліва правёў царкоўную рэформу ў Саксоніі. Ягоным вéрным памоцнікам у гэтай справё быў Піліп Мэлянхтон, вітэнбэрскі профэсар. Гэты сур'ёзны вучоны-гуманіст быў чалавéкам зраўнаважаным і спакойным, з крытычным розумам,—адным словам, мéў усé тыя рысы, якіх не хватала Лютару, а якія былі канéчна патрэбныя для закладзінаў новае рэлігіі і новае царкоўнае арганізацыі. Вось-жа гэтыя два чалавéкі, як самі яны казалі, „зрэформавалі царкву“, значыцца, аднавілі ў ёй быццам той парадак, які, на іх думку, існаваў у пéршыя вякі хрысьціянства. Апіраючыся на эвангéльле і сьв. Паўлу, яны лічылі міласэрдзе Божае за адзіны варунак збаўлéньня і адкідалі багамольныя падарожы, пасты, манаўства, не прызнавалі нябéснага заступніцтва Дзéвы Марыі і сьвятых. Імшу, якую царква ўважала за паўтарэньне ахвяры Хрыста, яны замянілі толькі комуніяй (прычасьцем), завялі ў набажэнстве родную мову

замест лаціны і асабліваe значэньне далі казаньню, як навучаньню народу, і царкоўным сьпевам. Скасавалі манастыры, іх маётнасьці ўжылі дзеля заснаваньня вясковых парахвіяў, школ і дабрачынных установаў; духавенству дазволілі жаніцца. Сам Лютар, скінуўшы манашскую вопратку, ажаніўся з былшай манашкаю Кацярынаю Бора і жыў прыкладным сямейным жыцьцём. Разам з панаваньнем папы скончылася і ўлада біскупаў: яна перайшла да пануючага галавы гаспадарства.

Навуку сваю рэформатары грунтавалі, ці прынамся ім здавалася, што яны грунтуюць, выключна на Сьв. Пісьме. Вось-жа зроблены Лютарам пераклад Бібліі, папраўдзе дужа добры, стаўся галоўнаю асноваю рэформацыі, пашыраючы новую навуку сярод найшырэйшых масаў грамадзянства. Біблію аб'яснялі і практычна дапаўнялі чысьленыя рэлігійныя і пэдагогічныя творы Лютара. Мэлянхтон пісаў навуковыя творы, у якіх бараніў справу рэформацыі.

Царкоўная рэформа не абмежылася Саксоніяй, але пашыралася і прыймалася ўва ўсёй Нямеччыне. Найляпей прыймалася новая вера там, дзе мела значэньне воля насяленьня, як, прыкл., у вольных мястох; нямала, аднак, і князёў прыймала яе спагадна, хаця тут вялікую роль іграла магчымасьць захапіць царкоўныя маётнасьці і атрымаць галоўную духоўную ўладу ў гаспадарстве. Найвыдатнейшым спаміж князёў, прыхільных да рэформацыі, быў малады гэсэнскі ляндграф Піліп. Як прыняцьце новае веры злучалася часамі з асабістымі інтарэсамі, паказуе ўчынак вялікага містра ордэру нямецкіх рыцараў у Прусах, Альбрэхта Гогэнцолерна. Ён скасаваў свой ордэр і, выявіўшы пакорнасьць польскаму каралю, захапіў землі ордэру і зрабіў з іх спадчыннае князьства сваёй дынастыі пад найвышняю ўладаю польскае кароны (1525).

**12. Французы і Швайцарцы ў Італіі** (1494—1515). З прычыны палітычнага раздробленьня і ўзаемнае нязгоды паміж маленькімі гаспадарствамі, а такжа з прычыны ўнутраных сварак і звадак, Італія з сваёй бязьмерна высокай культурай прадстаўляла ласы кусок для суседніх народаў і гаспадарстваў, ды сталася прычынай нязгоды паміж імі.

Ужо францускі кароль Кароль VIII, сын Людвіка XI, захапіў Нэаполь; яго наступнік, Людвік XII, быў прымушаны аддаць гэты край каралю гішпанскаму Фэрдынанду Каталіцкаму, але затое прысабечыў Мілян, тлумачучы, што праз сваю бабку, з дому Вісконті, ён зьяўляецца праўным насьледнікам гэтага роду. Пышная Вэнэцыя чуць не сталася ахвярaю магутнага саюзу, завязанага ў Камбрэ між імпэратарам Максыміліянам, Людвікам XII, гішпанскім Фэрдынандам і па-



пай Юліем II дзеля зьніштажэньня гэтае рэспублікі. Але папа хутка пашкадаваў свайго ўчынку, выйшаў з саюзу і ўсёй сваёй далейшай дзейнасьцю стараўся выперці з Італіі „барбараў“, як ён называў Французаў. Дзеля гэтае мэты ён прыцягнуў сабе да помачы найлепшых ваякаў таго часу, Швайцарцаў, якіх многа заклікаў у Італію і сформаваў з іх наёмныя войскі. Швайцарцы разьбілі Французаў пад Нavараю і выперлі іх з Лёмбардыі. Аднак-жа наступнік Людвіка, малады, прагавіты на рыцарскую славу, Францішк I праз два гады ізноў перайшоў з магутным войскам цераз Альпы. Частку Швайцарцаў, што стаялі ў Лёмбардыі, ён абяцанкамі падбіў кінуць службу, а рэшту, дзякуючы перавазе сваіх сілаў і помачы вэнэцыянцаў, разьбіў у двухдзённай бітве пад Марыньяно (1515). Уладаньне Мілянам, здавалася, было ўжо для Французаў забясьпечана, бо грошы і пачэсныя варункі міру зусім здаволілі Швайцарцаў, якія хутка забыліся аб няўдачы пад Марыньяно і прысталі на мір і саюз з Францыяй.

**13. Францішк I і Кароль V. Туркі пад Венай.** Але Францішк I знайшоў вельмі небясьпечнага конкурэнта ў асобе Караля V, пры якім імпэрыя яшчэ раз уваскросла ў даўнейшым бляску. Ад часоў Караля Вялікага сьвет ня бачыў гэткага абшырнага і магутнага гаспадарства, як гаспадарства Караля V; гаварылі, што сонца ў гэтым гаспадарстве ніколі не заходзіць, бо, схіляючыся да захаду ў Эўропе, яно ўсходзіла ў Амэрыцы. Але Караля V не здаволівала валаданьне ўсімі гэтымі вялізарнымі абшарамі. Захацеў ён вярнуць нямецка-рымскай імпэратарскай кароне яе даўнейшую, прызабытую славу. Дзеля гэтае мэты ён, насьлядуючы Гогэнштаўфаў, стараўся пашырыць і ўзмацаваць сваё панаваньне ў Італіі. Ён выступіў з дамаганьнем Лёмбардыі, якая ўваходзіла даўней у склад нямецка-рымскае імпэрыі. Францішк I, аднак, не хацеў зрачыся заваяванае зямлі, і з гэтае прычыны закіпела вайна, якая трывала 23 гады з трыма кароткімі перарывамі, сеючы ў Італіі сьмерць і зьніштажэньне.

Францішк I ў бітве пад Павіяй (1525) папаў у палон. Прывезены ў Мадрыт, ён быў прымушаны ня толькі зрачыся Лёмбардыі, але яшчэ і аддаць Каралю V князьства Бургундзкае, якога той дамагаўся, як патомак Караля Адважнага. Аднак, як толькі Францішк I апынуўся на волі, ён ізноў распачаў вайну, знайшоўшы саюзьніка ў асобе папы. Дзеля гэтага нямецкія і гішпанскія войскі Караля V рушылі на Рым, абляглі яго і здабылі штурмам. Папа Клемэнс VII схаваўся ў замку Сьв. Анёла; адтуль ён бачыў, як лілася кроў бязьвінных людзей і як чужынцы рабавалі „вечнае места“, сам церпючы пры гэтым наруганьні і ад сваіх наёмных

жаўнéраў, пранікнутых протэстанцкім духам. Наагул, Нéмцы і Гішпанцы адзначыліся ў Рыме не ляпéй і ня горай, як нéкалісь Вандалы і Готы. Наступлéньнем на Рым кіраваў Коннэтабль дэ-Бурбон, француз, васаль і сваяк французкае дынастыі; ён, аднак, быў забіты пéршымі стрэламі пры здабыцьці мéста.

У прававéрна - каталіцкай Гішпаніі абрабаваньне Апостальскае Сталіцы і адносіны войскаў да намéсьніка Хрыста зрабілі гэткае цяжкое ўражаньне, што Кароль V быў прымушаны адпірацца ад таго, што зроблена было па яго загаду. Імпэратарскае наёмнае войска, астаўшыся без энэргічнага ваяводы, здэмаралізаванае рабункамі ў Рыме, значна аслабéла. Папа патаёмна перабраўся да ворагаў імпэратара, а Францішк І ізноў выслаў у Італію вялікія сілы, якія без перашкоды дайшлі аж да Нэаполю (1528); аднак, з прычыны пашырыўшаеся сярод іх пошасьці яны павінны былі вярнуцца дамоў, нічога не зрабіўшы. Папа Клемэнс VII скарыўся перад Каралём V на даволі мягкіх умовах. У хуткім часе імпэратар і Францішк І зрабілі ў Камбрэ г. зв. д а м с к і  м і р (уложаны маткаю французкага караля і цёткаго імпэратара, зьехаўшыміся асабіста). Францішк І ізноў зрокся Італіі, а Кароль V — Бургундыі. Нéкалькі гадоў у Італіі панаваў мір пры поўнай перавазе імпэратара.

Пасьля канца вайны Кароль V прыéхаў у Італію, дзе яго Клéмэнс VII урачыста ўкаранаваў. Гэта была апошняя імпэратарская каранацыя ў Італіі.

Каля таго часу Габсбургі значна пашырылі сваё ўладаньне на ўсходзе. У 1526 г., змагаючася з Туркамі, быў забіты ў бітве пад Магачом кароль Вэнгрыі і Чэхіі, Людвік ІІ Ягелён, пасьля чаго абодвы гэтыя краі абабралі за караля Фэрдынанда, брата Караля V. У Чэхіі Фэрдынанда выбралі бяз супярэчак, як мужа Ганны Ягелёнкі; у Вэнгрыі-ж толькі адна партыя галасавала за яго, а большасьць абвéсьціла каралём Я н а  З а п о л і я. Выгнаны з Вэнгрыі, Заполія скіраваўся ў Турэччыну, якая ў той час, пад панаваньнем Солімана Вялікапышнага, дайшла найвялікшае магутнасьці. Паслухаўшы намовы Заполія, Соліман заняў Вэнгрыю, спустошыў спадчынныя аўстрыйскія зéмлі і аблёг Вéну (1529). З прычыны цьвёрдага адпору Соліман быў прымушаны адыйсьці спад Вéны, нічога не дайшоўшы. Але Фэрдынанду дасталася толькі невялікая частка Вэнгрыі: ў большай часьці панаваў, як кароль, Ян Заполія, саюзьнік Туркаў. Гэтыя справы на нейкі час адцягнулі ўвагу Караля V ад унутраных спраў у Няме́ччыне.

**14. Шпэйерскі протэст. Аўгсбурская заява. Шмалькальдэнскі саюз і рэлігійны мір у Нюрнбэргу (1529—1532).**



На сойме ў Шпэйеры, пры адсутнасьці імпэратара, каталіцкія князі, на чале якіх стаяў брат імпэратара Фэрдынанд, ізноў засудзілі Лютара на баніцыю, забараняючы далéйшае шырэньне рэформацыі. Але за гэтыя нéкалькі гадоў зрабіліся ўжо вялікія зьмéны. Вызнаўцы і прыхільнікі навукі Лютара з курфюрстам Янам і гэсэнскім ляндграфам на чалé выступілі з урачыстым протэстам проці соймавых пастановаў, пры чым не прызнавалі права сойму разьвязаваць рэлігійныя справы большасьцю галасоў. Ад часу гэтага протэсту прадстаўнікоў новага вызнаньня называюць п р о т э с т а н т а м і. На чарговым сойме ў Аўгсбургу, які адбываўся ў прысутнасьці імпэратара, протэстанты падалі заяву, зрэдагаваную Мэлянхтонам як мага лагодна і ясна, думаючы гэтак дайсьці ўзаемнае згоды. Заява гэта называецца аўгсбурскай. Але імпэратар саўсім не разумéў магутнасьці протэстанцкага руху: ён бачыў у ім толькі сэкту адшчапéнцаў і пагражаў самымі жорсткімі карамі. Тады галоўныя прадстаўнікі протэстанцтва сабраліся ў мястэчку Шмалькальдэн, у Тюрынгіі, і, чакаючы вайны, завязалі зачэпна-адпорны саюз дзеля абароны свае́ вéры. Дзеля таго, аднак, што турэцкая небясьпéка рабілася ўсё гразьнéйшаю, Кароль V згадзіўся на замірэньне з протэстантамі і абяцаўся, што, пакуль не зьбярэцца сабор, нікога ня будзе прасьлéдаваць за вéру.

**15. Войны Караля V.** а) У В э н г р ы і. Туркі, умацаваўшыся ў Вэнгрыі, былі немалою пагрозаю для Аўстрыі. Затым-жа Кароль V, атрымаўшы за рэлігійнае замірэньне дазвол імпэрыі на вайну з Туркамі, пасьпяшыўся з войскам у Вэнгрыю. Гэроічная абарона малога замку Кешэн дала імпэратару час сьцягнуць вялікія вайсковыя сілы, і султан быў прымушаны адступіцца. Але імпэратарскія войскі не даганялі Туркаў, бо Кароль сьпяшаўся ў Гішпанію, дзе Туркі ўжо моцна білі Гішпанцаў.

b) У А л ь г é р ы  і  Т у н і с е. Адважны турэцкі корсар Хайрэдын, пабудаваўшы вялізарны флёт, перахопліваў хрыьсціянскія караблі і рабаваў гішпанскія ўзьбярэжжы. Галоўным прыпынкам яго быў Альгéр, але корсары стараліся ўмацавацца і ў іншых выгодных мясцовасьцях на паўночна-афрыканскіх узьбярэжжах. Вось-жа, калі яны такім парадкам захапілі Туніс, Кароль V вырушыў проці іх з вялікім флётам, разьбіў іх на моры, звольніў тысячы нявольнікаў, завёў новую ўладу ў Тунісе і пасадзіў там сталы гішпанскі гарнізон (1535).

с) Т р э ц я я  в а й н а  з  Ф р а н ц і ш к а м  І. Ледзь Кароль V закончыў афрыканскую справу, а ўжо мусіў вéсьці двухгадовую вайну з заўзятым сваім ворагам, Францішкам І (1536—1538), які зьнячэўку ўварваўся ў Сабаўдыю. Гэтым

разам Кароль V вёў вайну ў самай Францыі; аднак, з прычыны нястачы ежы ён быў прымушаны адступіць назад, бо францускія войскі адыходзячы пустошылі свой уласны край. А Францішк I тымчасам зрабіў адкрыты саюз з султанам і злучыў свой флёт з турэцкім. Барацьба двух супраціўнікаў ішла далей у Італіі, Нідэрляндах і пад Пірэнэямі і закончылася замірэньнем у Ніццы на 10 гадоў; абедзьве староны асталіся кожная пры сваім, і між імі навет устанавіліся даволі добрыя адносіны.

d) Барацьба з Туркамі. У 1541 г. ў Вэнгрыі пасьля сьмерці Заполія ўзьняліся новыя труднасьці. Уся сярэдняя Вэнгрыя папала пад турэцкае панаваньне і аставалася пад ім паўтара веку. У тым самым годзе Каралю V вельмі не пашэнціла ў Альгеры: бура зьніштожыла ўвесь ягоны флёт, з якім ён вырушыў проці турэцкіх корсараў.

e) Апошняя вайна Францішка I з Каралём V (1542—1544). Францішк I ўвесь час вёў перагаворы з нямецкімі лютаранскімі князямі і з Туркамі. Злучаны францускі і турэцкі флёт захапіў Ніццу. Змаганьне йшло ў Нідэрляндах і ў Вэнгрыі, дзе Соліман заняў Острыгом і іншыя крэпасьці. А Кароль V, дайшоўшы згоды з часткаю протэстантаў і зрабіўшы ізноў саюз з Гэнрыкам VIII англійскім, адначасна з ім увайшоў у Францыю і пранік да глыбіні Шампані. Вайна закончылася мірам у Крэспі, які быў апошнім у гісторыі барацьбы двух валадароў Заходу. Таксама, як і ў Камбрэ, Кароль V зрокся Бургундыі, а Францішк I—сваіх дамаганьняў Нэаполя і Міляна. Апроч таго, абодва дакляравалі адзін аднаму ўзаемную помач у змаганьні з гэрэтыкамі і з раздваеньнем хрысьціянства; у гэтым асаблівыя надзеі ўскладаліся на сабор, які ўжо склікаў папа. Францускія паслы адначасна дабіліся ад султана новага замірэньня для Фэрдынанда, які ўсё-ж павінен быў пад відам падарункаў плаціць султану дань з сваё часткі Вэнгрыі.

**16. Шмалькальдзкая вайна** (1546—1548). Войны з Францыяй і Турэччынай гэтак занялі ўвагу Караля V, што ён ня мог і думаць аб энэргічнай дзейнасьці ў унутраных справах Нямеччыны. З протэстантамі ён абхадзіўся вельмі асьцярожна і разважна.

Рэформацыя моцна йшла ўперад. Спаміж выдатнейшых сьвецкіх валадароў астаўся верны каталіцкай веры толькі імпэратарскі брат Фэрдынанд; навет некаторыя духоўныя валадары прынялі протэстанцтва. Але мір у Крэспі і замірэньне з Турэччынай разьвязалі імпэратару рукі для дзейнасьці ў Нямеччыне. Навет ён лічыў, што царкоўная рэформа патрэбна; толькі ён хацеў, каб гэтаю рэформаю заняўся сабор, якім ён спадзяваўся кіраваць па сваёй волі разам з папаю.



На жаданьне імпэратара папа склікаў царкоўны сабор у Трыдэнце (1545—1563). Імпэратар запатрабаваў, каб протэстанты прынялі ўчасьце ў працы сабору і напярод прызналі пастановы, якія сабор зробіць. Але было ўжо позна. Рэформацыя ўжо залішне глыбака загнязьдзілася ў сэрцах, каб яе прадстаўнікі маглі згадзіцца на пастановы такога сабору, аб якім напярад было ведама, што ён будзе паслухмяны папе і імпэратару, які ў сваіх спадчынных краёх неміласэрна прасьледаваў усякае адступніцтва ад каталіцтва. Протэстанты зажадалі, каб Кароль V забясьпечыў ім мір, незалежна ад таго, якія пастановы будуць прыняты ў Трыдэнце. Ані адна, ані другая старана ня йшлі на ўступкі: абедзьве былі гатовы да вайны. У канцы імпэратар аб'явіў вайну протэстантам, накладаючы баніцыю на Яна Фрыдрыка Саксонскага і Піліпа Гэсэнскага, як на вераломных бунтаўнікоў. Протэстанты, аднак, хутчэй сабраліся на бой, чым імпэратар, якому трэба было сьцягаваць войскі з Італіі і Нідэрляндаў. Протэстанцкія войскі напалі на Ратызбону, дзе якраз знаходзіўся імпэратар. Кароль V апынуўся-б ў трудным палажэньні, калі-б сярод протэстантаў была згода. Гэтага якраз ня было; дарагі час, калі трэба было рабіць, марнавалі яны на непатрэбныя нарады і споркі. Раптам разыйшлася вестка, што малады саксонскі князь Морыц *) уварваўся ў край свайго сваяка Яна Фрыдрыха Саксонскага. Морыц, хоць быў протэстантам, але патаемна змовіўся з імпэратарам, каб коштам Яна Фрыдрыка павялічыць сваё валаданьні. Войскі протэстантаў разсыпаліся, бо князі сьпяшаліся дамоў бараніць сваё маетнасьці; пэўне-ж не адзін з іх успомніў аб якім-небудзь сваяку, які мог-бы зрабіць таксама, як зрабіў Морыц. З рэштаю протэстанцкага войска імпэратар лёгка даў сабе раду. Наўперад пайшоў ён на паўднёвыя вольныя месты, але тыя без барацьбы аддаліся на ягоную ласку і няласку. Тады ён рушыў проці Саксоніі, войска курфюрста разьбіў, а яго самога ўзяў у палон пад Мюльбэргам, над Эльбаю, і, як пераможца, увайшоў у Вітэнбэрг. Там загадаў ён, каб паказалі яму магілу Лютара, які памёр якраз на пачатку шмалькальдзкае вайны (1546). Калі галоўны ваявода яго войскаў, фанатычны гішпанец, парадзіў яму спаліць косьці вялікага гэрэтыка, ён, аднак, адказаў: „Вяду вайну з жывымі, а не з нябожчыкамі“.

З курфюрстам-жа, згодна з сваёй абяцанкаю, паступіў якнайсражэй. Даўгі час гразіў яму карай сьмерці, прысудзіў урэшце дажывотні вастрог і аддаў большую частку ягоных

*) Саксонскі дом дзяліўся на дзьве лініі: старэйшую, электарскую, ці эрнэстынскую, якая рэзыдавала ў Вітэнбэргу, і малодшую, альбэртынскую—у Лейпцыгу.

зямéль разам з тытулам курфюрста здрадніку Морыцу. Гэсэнскі ляндграф ня бачыў іншага выхаду, як, слухаючыся рады Морыца (той быў яго зяцем), кінуцца ў ногі імпэратару, просячы выбачэньня. Валаданьні свае ён выратаваў, але сам разам з Янам Фрыдрыкам Саксонскім мусіў, як нявольнік, éзьдзіць з імпэратарам усюдых, куды-б той ні выбіраўся; пасьля-ж няўдачнае спробы ўцячы, з ім абходзіліся блізка так, як з звычайным злачынцам.

**17. Кароль V ў адносінах да папства і імпэрыі. Аўгсбурскае interim.** Расправіўшыся з протэстантамі, Кароль V пачуў сябе гэткім дужым, што надумаўся ўзяць царкоўную рэформу ў свае рукі, каб разьвязаць яé згодна з сваімі паглядамі і інтарэсамі сваé дынастыі. Тагачасны папа Паўла III пачаў баяцца, каб лішні ўзрост імпэратарскае ўлады ня зьмéншыў значэньня і ўплываў папства. Дзеля таго ён даручыў перанéсьці сабор з Трыдэнту ў Болёнію, што вéльмі абурыла імпэратара, бо значна аслабляла яго ўплывы. Вось-жа Кароль V забараніў гішпанскім, нямéцкім і нэаполітанскім біскупам выяжджаць з Трыдэнту. А калі апроч таго паўсталі споркі з папай аб італьянскія справы, імпэратар пастанавіў сваéй уладай завясьці часова лад у царкоўных адносінах у Нямéччыне. На сойме ў Аўгсбургу (1548) ён абвéсьціў г. зв. interim, значыцца, часовае ўладжаньне рэлігійных адносін, якое ўлажылі назначаныя Каралём V каталіцкія і протэстанцкія тэолёгі, і загадаў выпаўняць яго ў-ва ўсіх прыслухаючых імпэрыі гаспадарствах. Пастановы, зробленыя соймам пад прынукай, выклікалі абурэньне сярод протэстантаў, ды не здаволілі і каталікоў. Але ніхто не адважаўся голасна запротэставаць, а тым больш выступіць аружна: усё дрыжэла перад магутнасьцяй імпэратара.

Улада Караля V ў Нямéччыне апіралася галоўным чынам на гішпанскіх ды італьянскіх войсках. Злачынствы гэных войскаў былі немалою бядою для нямéцкага насялéньня. Спадзяючыся на сваю сілу, ды ня лічучыся з магчымым протэстам народу, Кароль V думаў толькі аб тым, каб нéяк на будучыну ўтрымаць саюз Нямéччыны з Гішпаніяй. Дзеля гэтае мэты ён мяркаваў, каб пасьля Фэрдынанда забясьпéчыць імпэратарскую карону свайму сыну, інфанту Піліпу, замéста Фэрдынандавага сына Максіміліяна, які быў ужо каранаваны на рымскага караля. Праéкт гэты выклікаў вялікае абурэньне другое лініі Габсбургаў і агульны рух у Нямеччыне. Ня толькі протэстанты, але і каталікі не хацéлі назаўсёды быць зьвязанымі з Гішпанцамі. Да таго-ж усе ненавідзелі і баяліся дэспотычнага, саманадзéйнага і фанатычнага Гішпанца, інфанта Піліпа. Найбольш непакоіліся імпэрскія князі, як протэстанты, так і каталікі, бо сын мог зьдзéй-



сьніць тое, да чаго кіраваўся ўжо яго бацька: завясьці абсолютную ўладу. Якраз тыя з князёў, якія дагэтуль найстараньнéй падтрымлівалі імпэратарскія загады, цяпер найбольш трывожыліся, бачучы ў павялічэньні імпэратарскае ўлады загубу для сябé. Да такіх князёў належаў і Морыц Саксонскі.

**18 Змова князёў і пассаўскае замірэньне 1552. Рэлігійны мір у Нямéччыне 1555.** Ня стрымаўся Морыц Саксонскі перад тым, каб і другі раз выступіць у ролі здрадніка. Патаéмна зрабіў ён новы саюз протэстанцкіх князёў і зьвязаўся з француcкім каралём Гэнрыкам II, наступнікам Францішка I, якому ў нагароду за помач суліў біскупствы Мэц, Туль і Вэрдэн. Як майстар на ашуканства, умéў Морыц да апошняга мамэнту ўдзéржыць на сабе маску лёяльнасьці да імпэратара. Ён сабраў войска нібы-то на тое, каб прымусіць бунтаўніцкі Магдэбург прыняць Interim, а тады раптоўна выступіў проці імпэратара, які знаходзіўся пад той час у Інсбруку. Імпэратар доўга не хацéў вéрыць гэткай здрадзе і ў канцы лéдзьве пасьпéў уцячы за Альпы. Адначасна пачаў вайну і францускі кароль, які заняў пасуленыя яму біскупствы. Выступілі таксама і Туркі.

Акружаны гэтак з усіх бакоў, імпэратар быў прымушаны зрабіць з Морыцам часовы мір у Пассаў; цераз тры гады, на сойме ў Аўгсбургу, гэтае замірэньне было замéнена на аканчальны рэлігійны мір. На моцы гэтага міру прыхільнікам аўгсбурскага вызнаньня былі забясьпéчаны роўныя правы з каталікамі. Аднак, гэтая рэлігійная свабода давалася не паасобным людзям, а толькі князём, якія маглі прымушаць насялéньне прынімаць тую ці другую вéру. Адгэтуль і пайшла прыказка: Cuius regio, eius religio (чыя ўлада, таго і рэлігія). Да таго-ж протэстанты, не налéжаўшыя да аўгсбурскага вызнаньня, былі выключаны з эдыкту аб толеранцыі.

Толькі ў аднэй справе не маглі дайсьці згоды супраціўнікі: гэта ў справе аб тым, што рабіць з біскупамі ды іншымі духоўнымі князямі, якія перайшлі на лютаранства? Каталікі дамагаліся пазбаўленьня іх дастаéнстваў і адабраньня царкоўных маéтнасьцей; протэстанты-ж на гэта не згаджаліся, і ў канцы справа асталася наразьвязанаю, як зачатак пазьнéйшых спорак.

Кароль V надарэмна стараўся вырваць у Французаў іхнюю здабычу. Аблягаючы Мэц, трацііа ягоных войск згінула ад марозу, і ён, нічога не зрабіўшы, быў прымушаны адступіцца.

**19. Зрачэньне кароны Каралём V. Падзéл монархіі Габсбургаў.** Няўдачы ды падупаўшае здароўе прымусілі імпэратара зрачыся пасаду (1556). Нідэрлянды і Гішпанію

разам з валаданьнямі ў Італіі ён адказаў свайму сыну Піліпу II, рэшту-ж зямéль разам з імпэратарскай каронай— Фэрдынанду. Сам-жа Кароль V пасяліўся ля манастыра Сьв. Юста ў Гішпаніі і цераз два гады тамака памёр (1558).

Кароль V ў часе свайго панаваньня méў дзьвé галоўныя мэты: аднаўлéньне сусьвéтнае імпэрыі і разьвіцьцё магутнасьці сваé дынастыі. Паміж адным і другім імкнéньнямі стаяла жаданьне вярнуць адзінасьць Царквы; з гэтае прычыны часта вынікалі конфлікты, але ў учынках Караля V заўсёды пераважалі інтарэсы Габсбургаў. Дзеля таго ён не вярнуў часоў Гогэнштаўфаў і ня здушыў рэформацыі, але затое на даўгі час зьвязаў у адну суцэльнасьць разнародныя зéмлі, з якіх складалася яго спадчына, дый гэтую спадчыну значна павялічыў. Яго творам была тая вялікая гішпанская монархія, якую дастаў па ім Піліп II, наймагутнéйшы з хрысьціянскіх валадароў.

**20. Лютар і рэформацыя ў Нямéччыне.** Лютар стаўся цэнтральнаю асобаю ў рэформацыі зусім ня дзеля яго надзвычайнага розуму ці надзвычайнае адвагі. Прычыну гістарычнае ролі яго трэба шукаць у другіх рысах яго асобы. Гэтак, ён быў агітатарам больш можа, чым мысьліцелем, або геніяльным рэформатарам. Будучы доктарам і профэсарам тэолёгіі, ён заўсёды аставаўся сялянскім сынам. Будучы сам вучоным, ён усё-ж разумéў патрэбы, пачуцьці і спосабы мышлéньня ніжэйшых клясаў, умéў прамаўляць да іх іхняйжа мовай, як ніхто з сучасьнікаў яго, ды мала хто пасьля яго. Будучы мастаком у полéміцы, méў ён рэдкую здольнасьць захопліваць масы і адначасна будзіць да сябе пашану пануючых клясаў. У пазьнéйшыя часы, праўда, стаў ён выслугоўвацца панам ды неўважаць на масы.

Ягоная вучонасьць ня была лішне глыбокаю, а прынамся ня вéльмі шырокаю. Вялікіх духоўных шуканьняў гуманістаў ён не разумéў, ды навет іх ганіў; у пэўнай мéры ён астаўся назаўсёды манахам, узгадаваным на абмéжанай манастырскай мудрасьці. Быў ён вéльмі забабонны; прынамся, што да чорта (такога з рагамі і капытамі!), дык вéры ў яго істнаваньне гэтак сама цьвёрда, як і ў Бога. Аднэю з важнéйшых рысаў у характары Лютара была яго проста нячуваная ўпорлівасьць, якая ў справах рэлігійных робіла яго фанатыкам і абсолютна нетолерантным чалавéкам. Лéдзьве яны з Мэлянхтонам устанавілі галоўныя пункты новага вызнаньня, як ужо Лютар заядла іх бароніць проці ўсякіх спроб разьвіваць і рэформаваць іх далéй. Вялікі гэрэтык рабіўся вялікім інквізытарам, як толькі пачыналася гутарка аб іншым разумéньні рэформы, ці толькі што пры-



нятых догматаў, ці навет аб рэлігійных практыкаваньнях— іншых, чым тыя, якія ён прызнаў патрэбнымі *).

У прыватным жыцьці быў гэта чалавéк звычайна вéльмі просты, людзкі, шчыры, практычны, з пэдагогічнымі здольнасьцямі.

Рэформацыя ў Нямéччыне, як і ўсюдых, ня была і не магла быць рэзультатам дзéйнасьці аднаго чалавéка. Выклікаў яé цэлы ланцуг прычын і акалічнасьцей, істнаваўшых яшчэ ад пачаткаў арганізаваньня Царквы; апошнімі толькі колцамі гэтага ланцуга былі: навука Гуса, гуманізм, агульнае нездаволéньне істнуючым ладам, прагавітасьць валадароў, жаданьне сьвéцкага жыцьця ў манахаў ды манашак, эканамічны уціск з боку Рыму, ды адпорнасьць таго-ж Рыму проці праектаваных з усіх бакоў, канечна патрэбных рэформаў. Лютар толькі скрануў з мéсца тую кулю, якой была рэформацыя, а далéй яна ўжо сама пакацілася сваéю ўласнаю сілаю.

## § 5. Рэформацыя ў Швайцарыі, Швэдзіі і Англіі.

**1. Ульрык Цьвінглі ў Цюрыху (ад 1519 г.).** Адначасна з Лютарам зьявіўся другі рэформатар у Швайцарыі, які саўсім незалéжна ад яго разьвіў падобную да ягонае дзéйнасьць і дабіўся падобных-жа рэзультатаў. Быў гэта Ульрык Цьвінглі, катэдральны пробашч у Цюрыху (радз. ў 1484 г.). Як добрага сына сваé Бацькаўшчыны, яго ў роўнай мéры абходзілі як сьвéцкія справы, так і царкоўныя, і гэтым ён вéльмі моцна розьніўся ад Лютара ў сваéй рэформатарскай дзéйнасьці.

Саюзы з чужымі ўрадамі, якія грунтаваліся на тым, што швайцарскія рэспублікі прадавалі гэным урадам права вярбоўкі тут наéмных жаўнéраў, Цьвінглі ўважаў за ганьбу і няшчасьце Швайцарыі. Як вайсковы прапавéднік, пазнаўшы ў часе мілянскіх паходаў распуснае і нягоднае жаўнéрскае жыцьцё, ён быў перакананы, што разбэшчаныя забойствамі, рабункамі і руйнаваньнем жаўнéры, вярнуўшыся да родных хат, могуць толькі сéяць распусту і ніколі не будуць добрымі грамадзянамі краю. Будучы пасьля прапавéднікам у Цюрыху, распачаў ён гарачую барацьбу проці падвойнае грамадзкае заганы: проці рэспубліканскіх вяльможаў, што гандлявалі людзкім мясам, і проці тых, якія прадавалі на загубу сваё цéла і душу. З гэтае барацьбы выйшаў ён пераможцам, нагэтулькі прынамся, што Цюрых перастаў займацца гэным ганéбным торгам.

---

*) § 5. Рэформацыя ў Швайцарыі (Лютар і Цьвінглі ў Марбургу).

З гэткаю самаю ўпорлівасьцяй выступіў Цьвінглі процi злоўжываньняў у Царкве́. Яшчэ перад тым, як дачуўся аб Лютары, ён дайшоў да перакананьня, што біблія ёсць адзіным жаралом хрысьціянскае ве́ры, і адразу-ж, як распачаў сваю прапаве́дніцкую дзе́йнасьць у Цюрыху (1519), заявіў, што будзе тлумачыць слова Божае паводле сьв. пісаньня, а не паводле людзкіх мяркаваньняў. Прыгатаваўшы, як трэба, грамадзкую думку, ён у 1522 г. распачаў царкоўную рэформу і, дзякуючы таму, што яму спагадала рада ме́ста і народ, рэформу гэтую яму ўдалося праве́сьці хутка і без перашкодаў. Праз не́калькі гадоў царква ў Цюрыху вызвалілася ад біскупаў і папы, скасавана была імша, абразы, чэсьць сьвятых і навет споведзь, якую пакінуў быў яшчэ Лютар; набажэнству быў дадзены выгляд па магчымасьці скромны і народны, манастыры скасаваны, і духоўнікам дазволена жаніцца. Побач з гэтымі рэформамі закладаліся школы, бальніцы, прытулкі для ўбогіх, і заведзена было шмат іншых навін. Усё гэта рабілася пад кіраўніцтвам Цьвінглі, які, як гаварылі аб ім жартам яго супраціўнікі, быў у Цюрыху пробашчам, бурмістрам і пісарам.

Блізка ўва ўсіх швайцарскіх краёх знайшліся прыхільнікі і насьледавальнікі Цьвінглі. У 1528 г. Цьвінглі на трохдзённай дыспуце ў Бэрне перамог супраціўнікаў і адбараніў сваé думкі, пасьля чаго за ім пайшоў і гэты магутны швайцарскі кантон; сьле́дам за Бэрнам пайшлі Базэль, Шафгаўзэн і іншыя, так што перавага рэформацыі ў Швайцарыі была поўная.

**2. Лютар і Цьвінглі ў Марбургу (1529).** Здавалася-б, што Лютар павінен быў-бы радасна прывітаць швайцарскага рэформатара, як сябру па дзе́йнасьці. Сталося, аднак, саўсім іначай. Лютар глядзе́ў на Цьвінглі з зайздрасьцяй і не́навісьцяй. Нядаўна сам гэрэтык, Лютар лічыў ужо Цьвінглі за гэрэтыка—за тое, што той не прызнаваў ўсяé да апошняга слова навукі Лютара. Папраўдзе, была толькі адна значне́йшая розьніца паміж паглядамі гэтых двух рэформатараў. Цьвінглі, як чалаве́к з шырэйшым і больш сьве́тлым розумам, хаця і шанаваў павагу сьв. пісаньня, усё-ж тлумачыў некаторыя яго ме́сцы і сымболічныя выражэньні не даслоўна, а пераносна. Лютар-жа, маючы розум шмат вузе́йшы, угразшы ў манастырскім догматызьме, прыймаў усё даслоўна. Цьвінглі казаў, што сьв. комунію (прычасьце) трэба ўважаць толькі за ўспамін ахвярнае сьме́рці Хрыста. Лютар-жа ўпорна даводзіў, што хлеб і віно ў комуніі зьмяняюцца на праўдзівыя це́ла і кроў Спаса. Пад той час, як Цьвінглі дужа паважна і дастойна выкладаў у сваіх творах сваé перакананьні, Лютар абсыпаў яго градам зьняважаючых лісткоў, называючы



яго „душою, праданаю чорту“.*) Ня ўсé прыхільнікі Лютара хвалілі яго за гэткія выступле́ньні, асабліва Піліп Гэсэнскі.

Калі пастановы Шпэйерскага сойму пачалі пагражаць бясьпе́чнасьці няме́цкіх протэстантаў, Піліп пачаў горача дабівацца саюзу з ваяўнічымі Швайцарцамі дзе́ля барацьбы за супольную справу. Дзеля гэтага ён зьвёў у сябé ў Марбургу абодвух рэформатараў, спадзяючыся, што, спаткаўшыся, яны хутчэй між сабою згаворацца. Цьвінглі адважыўся на небясьпе́чную падарожу і са сьлязьмі расчуле́ньня на вачох працягнуў руку, каб прывітаць сябра па ідэі. Але асьле́плены Лютар рукі не падаў, заяўляючы: „вы маеце іншага духа, чым мы, і калі я павінен любіць вас, то хіба толькі гэтак, як хрысьціянін ворага“.

Пасьля няўдачнага спатканьня, прыхільнікі Цьвінглі, ня шукаючы ўжо саюзу з лютаранамі, стварылі сваю ўласную Царкву, якую называюць рэформаванаю.

Швайцарскае вызнаньне пачало пранікаць у Няме́ччыну і павялічыла там рэлігійны хаос.

**3. Сьме́рць Цьвінглі (1531).** Як у Няме́ччыне, гэтак сама і ў Швайцарыі рэформацыя стварыла дзьвé варожыя адна аднэй партыі. Пастухі лясістых кантонаў, дзе панавалі патрыархальныя звычаі, хаця і забаранілі ў сябе таргаваць адпустамі, але аб другіх навінах у Царкве́ і слухаць не хаце́лі; да іх далучыліся спаміж большых ме́стаў Люцэрна і Фрыбург. З роўнаю шчырасьцю адны змагаліся за рэформацыю, другія проці яе, і ве́льмі мала было гэткіх безстаронных людзе́й, як Валент Чуді, пробашч з Гляруса, які ў аднэй царкве́ зраньня адпраўляў імшу каталіком, а ў паўдня гаварыў казаньне ў рэформацкім духу, каб здаволіць протэстантаў. Навет Цьвінглі ўважаў, што хатняе вайны абмінуць ня ўдасца. Аднак, заме́ст таго, каб, як гэта радзіў Цьвінглі, хутка і старанна прыгатаваўшыся да вайны, зрабіць ворагу рашучы ўдар пе́рш, чым той агле́дзіцца, рэформатары здаволіліся толькі тым, што недапускалі збожжа ў каталіцкія мясцовасьці і гэтым выклікалі там голад.

Даве́дзеныя да роспачы каталікі схапіліся за аружжа, напалі на Цюрых і разьбілі невялічкае войска, якое гэтае ме́ста магло выставіць. У бітве (пад Капэль) згінуў сам Цьвінглі, які, як вайсковы капэлян, быў пры войску. Другое паражэньне (пад Губэль) гэтак перапалохала рэформатаў і выклікала ў іх гэткі ўпадак духу, што яны, ня гле́дячы на сваю лічбавую перавагу, прынялі цяжкія варункі міру, заглушыўшага рэформацыю і даўшага повад для дамовых звадак у Швайцарыі ў працягу 300 гадоў.

*) § 4. Рэформацыя ў Няме́ччыне (Лютар і рэформацыя).

Гэтыя звадкі, ўласьціва бяручы, былі змаганьнем мястовага насяленьня з вясковым і гэта ня толькі на грунце рэлігійным, але і на грамадзка-эканамічным.

4. **Кальвін у Жэневе** (1536—64). Рэлігійную дзейнасьць Цьвінглія разьвіваў далей яго наступнік Булінгер. Але яго зацьміў дух больш магутны, які распачатую Цьвінгліем рэформацыю скіраваў на новыя дарогі і даў ей сусьветнае значэньне. Пад уплывам Бэрна, Жэнева, якая ў тым часе далучылася да швайцарскага саюзу, таксама прыняла царкоўную рэформу. У гэтым, ужо зрэформаваным, месьце зьявіўся прасьледаваны за веру францускі вучоны Ян Кальвін (Jean Cauvin, радз. 1509, ў Нуайён, у Пікардыі; пам. у 1564 г.). Ён выклікаў сэнсацыю ўжо творам, апублікаваным у Базэлі, пад назовам: „Навука хрысьціянскае веры“. Гэты твор сваёю вучонасьцю і надзвычайнаю жывасьцю думкі перавысіў усё, што Лютар і Цьвінглі напісалі аб справах веры. Атрымаўшы месца прапаведніка і вучыцеля, Кальвін астаўся ў Жэневе і, разьвіваючы там старанную рэформацыйную дзейнасьць, давёў працу сваіх папярэднікаў да апошніх граніцаў. Прастату абрадаў ён давёў да таго, што навет хрысьцільні ў царкве ўважаў за пакусу, не дапушчаў навет у драбніцах прыхарошаваньня царквы і т. п. За алтар служыў просты звычайны стол, на якім знаходзіліся толькі біблія і крыж (пазьней кальвіністы і аб крыжу сумляваліся, ці ён патрэбен тут). Увёў ён таксама новы догмат прэдэстынацыі (прадвызначэньня). Асноваю гэтага догмату было, што Бог ужо пры нараджэньні кожнага чалавека наперад дарыць яму збаўленьне, або прысуджае на вечную кару па сьмерці. Кальвін выходзіў пры гэтым з прынцыпу ўсёведаньня Стварыцеля, але ня браў пад увагу Яго міласэрдзя.

Кальвін датарнаваў сваю рэформу ня толькі да царкоўных абрадаў, але і да ўсяго жыцьця, да самых нявінных праяваў яго. Ня толькі п'янства, шулерства, распусту, але і ўборы, урачыстыя народныя сьвяты, тэатр, сьвецкія сьпевы, танцы ён лічыў за грэх. Кальвін прыняў за прынцып кантроль прыватнага жыцьця кожнага сябра грамады; гэты кантроль выпаўняла консысторыя, зложаная з г. зв. старэйшых, у палавіне з духоўных і ў палавіне з сьвецкіх прадстаўнікоў грамады. Наглядалі ня толькі за неморальнымі ўчынкамі, але і за ўсякімі адхіленьнямі ад устаноўленага Кальвінам афіцыяльнага кодэксу веры.

Кальвінізм хутка пашыраўся, як у Швайцарыі, таксама і за яе межамі. Некаторыя нямецкія князі, прыкл. элєктар Палятынату, адпалі ад лютаранства і прынялі кальвінізм. У Беларусі, Польшчы і Вэнгрыі таксама знайшлося многа



прыхільнікаў кальвінізму. З усіх бакоў прыяжджалі да гасьціннага места над Леманам людзі, якіх прасьледавалі за веру, і ўсе яны варачаліся назад шчырымі прыхільнікамі кальвінізму. Такім прыхільнікам быў вагністы і фанатычны Нокс, Шкот, які, згодна з прынцыпамі жэнеўскага рэформатара, зрэформаваў царкву ў Шкоцыі (Шкотляндыі). У Англіі таксама стварылася магутная партыя пурытанаў, якія йшлі да тых самых мэтаў. Кальвінскія апосталы заходзілі і ў Нідэрлянды, адцягаючы народ у роўнай меры як ад Рыму, так і ад Вітэнбэргу.

Але найбольшую ўвагу зварачаў Кальвін на сваю бацькаўшчыну, Францыю; лятуценьнем усяго яго жыцьця было навярнуць на сваю веру Францыю. У заложанай ім у Жэневе духоўнай акадэміі вучыліся маладыя Французы і жэнеўцы, каб пасьля пашыраць новае вызнаньне ў Францыі і, ня глёдзячы на крывавыя прасьледаваньні, закладаць там трывалыя асновы новае царквы.

З Жэнэвы кальвінская царква даставала законы і наказы, а жэнеўскі партыйны назоў „гугеноты“ *) зрабіўся агульна прынятым назовам францускіх рэформатаў. Жэнева зрабілася цэнтрам вялікае эўрапэйскае рэлігійнае партыі; яе лічылі „протэстанцкім Рымам“, а яе кіраўніка называлі „протэстанцкім папай“.

Жэнева ня толькі магутнасьцю сваіх уплываў старалася зраўнавацца з Рымам, але таксама і ненасытнай прагавітасьцю на ўладу і фанатызмам прававернасьці. Кальвін ня меў лагоднасьці Цьвінглія, быў упарты і нязломны, як Лютар, ды навет ня меў тае паблажлівасьці да людзкое слабасьці, якую можна было спаткаць у Лютара ў тых прыпадках, калі ня йшло аб справы веры. Кальвін быў чалавекам панурым, замкнёным у сабе, нячулым на радасьці і беды жыцьця. Таксама, як і Лютар, ён уважаў сябе за Божага выбранца і ня зносіў супраціўнае думкі. Хто хоць крыху не згаджаўся з яго паглядамі, мусіў пакінуць места, а як не, дык рызыкаваў жыцьцём. Гішпанца Сэрвэта, які не хацеў прызнаваць сьв. Тройцы, лічучы гэта за многабожнасьць, Кальвін спаліў на агні, як гэрэтыка. Хвалілі яго за гэта Мэлянхтон і Булінгер, але ня мала было галасоў, якія бязумоўна ганілі гэтую інквізытарскую дзейнасьць рэформатара.

Якраз у гэты мамэнт і дзеля гэтае прычыны шмат хто прыйшоў да пераканаsuccessfully, што веліч рэформацыі ня ў тым,

*) Eygenot, Eugentot, Hugenot — гэта былі розныя ступені перакручаньня швайцарска-нямецкага слова „Eidgenoss“ (саюзьнік, прысяжны тавараш), якое адносілася да тых жэнеўцаў, што хацелі далучэньня да Швайцарскага Саюзу, тады як супраціўная партыя хацела злучыцца з блізкаю па крыві Сабаўдыяй.

каб адну прымусовую ве́ру замяніць другою, гэтак сама прымусоваю, але ў тым, каб дапусьціць дух вольнага шуканьня праўды.

Адзнакаю кальвінскае царкоўнае організацыі была яе поўная дэмократычнасьць. Апрача таго, кальвінізм адзначаўся ваяўнічым духам, бо Кальвін навучаў, што прасьле́даваць бязбожнасьць і ўводзіць рэформацыю ёсьць абавязак улады. Гэты дэмократычна - ваяўнічы настрой пры самаўладстве выбарнае галоўнае ўлады кальвінскіх грамадаў і і пры догмаце аб прэдэстынацыі ў значнай ме́ры ўплываў на ролю, якую пасьля іграў кальвінізм у гісторыі чалаве́цтва. Толькі шмат пазьне́й кальвінізм пазбыўся свае вострасьці ды панурасьці ў жыцьцёвых справах.

У Швайцарыі кальвінізм злучыўся з цьвінгліянствам у адно рэформаванае вызнаньне.

**5. Рэформа ў Скандынавіі. Разьвязаньне Кальмарскае уніі. Густаў Ваза.** У той час, як кальвінізм захопліваў паўднёвы захад, лютаранства займала паўночны ўсход.

Увядзе́ньне рэформацыі адбылося тут у лучнасьці з вялікімі гістарычнымі пераваротамі.

Швэдзія, Данія і Норвэгія ад 1397 году, на моцы ўмовы ў Кальмары, аб якую старалася данская карале́ва Маргарыта, былі злучаны пад панаваньнем аднаго караля. Гэтае аб'яднаньне, ці унія, спачатку ме́ла мэтаю вызвале́ньне трох паўночных карале́йстваў ад эканамічнае зале́жнасьці ад Ганзы; аднак, гэтае мэты яно не дасягнула. Ва ўсіх трох краёх карале́ўская ўлада значыла мала; фактычна ўлада была ў руках магнатаў і біскупаў, якія валадзе́лі вялікімі абшарамі і прыціскалі мястовае і вясковае насяле́ньне, дзеля таго знаходзіўшаеся ў цяжкім эканамічным палажэньні. Дзеля гэтага не разьвівалася і свая прамысловасьць, якая толькі хіба і магла-б вызваліць гэтыя краі ад эканамічнага панаваньня Ганзы.

З прычыны таго, што дынастыя была данская і кароль рэзыдаваў у Копэнгазе, Швэды ад самага пачатку няпрыхільна глядзе́лі на унію. Праз уве́сь 15 ве́к Швэды, кіраваныя наме́сьнікамі-землякамі, увесь час дабіваліся большае самастойнасьці і поўнае незале́жнасьці, здабывалі ўсё большыя прывіле́і і дабіліся ўрэшце таго, што унія зрабілася фікцыяй, а зале́жнасьць ад Даніі блізка саўсім счэзла.

Гэтае палажэньне зьмянілася ў 1520 годзе, калі данскі кароль К р ы ш т ы н II ўварваўся ў Швэдзію і сілай дабіўся ад Швэдаў, каб яго ўкаранавалі. Як толькі гэта сталася, ён загадаў пакараць сьмерцяй 90 сябраў швэдзкае Дзяржаўнае Рады — баяраў, біскупаў і мяшчан. Загадаў гэтак сама рабіць і ўва ўсім краі, спадзяючыся, што гэтым згняце́ дух



народнае незале́жнасьці. Як гэта звычайна бывае, уціск даў рэзультаты, саўсім проціле́жныя спадзяваньням.

Супакоіўшы, як яму здавалася, бунтаўніцкую Швэдзію, Крыштын II вярнуўся ў Данію, каб там заве́сьці абсолютную ўладу. У Швэдзіі асталіся толькі параскіданыя па краі данскія гарнізоны. У гэтым часе сын баярына, забітага ў часе разьні ў Штокгольме, Г у с т а ў Э р ы к с э н, называны пасьля ад свайго гэрбу В а з а, уцёкшы з данскага палону, знайшоў сабе бясьпе́чны прытулак у ваяўнічых жыхараў Далекарскіх гораў і падняў сярод іх паўстаньне, каб вызваліць родны край ад данскага ўладарства. Абве́шчаны рэгентам, ён два гады аблягаў Штокгольм, якога заядла бараніла данскае войска. Толькі дастаўшы ве́стку, што Крыштына II скінулі з данскага пасаду, Штокгольм здаўся; швэдзкі-ж сойм выбраў Густава за караля (1523). Густаў Ваза (1523-1560), услаўлены, як народны гэрой, заняў швэдзкі пасад; сам ён быў бе́дны, Швэдзія, спустошаная прасьле́даваньнямі, конфіскацыямі, а пасьля паўстаньнем, ня мела ўласнага гандлю і прамысловасьці і ня суліла каралю даходаў. Баярства (шляхта) вельмі зьбядне́ла, значнае-ж багацьце ў зе́млях і грашох аставалася толькі ў руках духаве́нства. Аб духаве́нстве-ж наагул гаварылі, слушна ці няслушна, што яно спагадала данскай уладзе і няпрыхільна глядзе́ла на паўстаньне. З гэтага скарыстаў Густаў і пачаў распараджацца царкоўнымі мае́тнасьцямі, дапамагаць прыхільнікам лютаранства, а ў канцы правёў на Сойме (1527) пастанову, па якой карона забрала ўсе́нькую царкоўную маемасьць, вызначаючы духаве́нству ўжо ад сябе́ толькі невялічкія даходы. Дале́й былі зьме́нены догматы і царкоўны лад у лютаранскім духу; захаваліся толькі гіэрархічныя тытулы каталіцкага духаве́нства (протэстанцкія супэр'інтэндэнты там і дагэтуль называюцца біскупамі, хаця бываюць жанатыя), а таксама і некаторыя вонкавыя каталіцкія абрады; зроблена было гэта дзеля заспакае́ньня народу, які няпрыхільна глядзе́ў на ўсякія навіны і няраз яшчэ бунтаваўся. Аднак, Густаў паволі прызвычаіў народ да новага вызнаньня, энэргічна тушачы паўстаньні, ажно ў канцы сойм забараніў публічнае вызнаваньне каталіцтва.

Наагул, Густаў Ваза гаспадарыў энэргічна і разважна. Ён павялічыў заможнасьць краю, асабліва-ж падняў горную прамысловасьць, якая для Швэдзіі пры яе́ мінэральных багацьцях мае вельмі важнае значэньне. Мала-памалу ён вызваліў свой край ад гандлёвае зале́жнасьці ад Ганзы, даючы доступ у Швэдзію Нідэрляндцам. Добра наладзіў ён збройныя сілы і флёт. Урэшце, здабыў гэткую популярнасьць у народзе, што сойм пастанавіў, каб швэдзкая карона была спадчыннай у ягоным родзе.

На ме́сца Крыштына II ў Даніі выбралі за караля ягонага дзядзьку **Ф р ы д р ы к а** I, кн. Гольштынскага. Новы кароль не́йкі час мусіў ве́сьці барацьбу з партыяй, якая ве́рна стаяла за Крыштына II; між іншым, Крыштына любіў вясковы і мястовы народ, які ў крывавым ворагу шляхты бачыў свайго абаронцу. Аканчальная перамога Фрыдрыка I была галоўным чынам перамогаю баярства; дансκі-ж народ трапіў пад яшчэ горшы уціск, чым быў упе́рад. Фрыдрык I прызнаў Густава швэдзкім каралём і падпісаў з ім саюз. Норвэгія асталася ў Уніі з Даніяй.

Фрыдрык I данскі быў лютаранінам і дзеля таго правёў у сойме пастанову, якою давалася вольнасьць вызнаньня прадстаўніком новае царквы. Баючыся рэформацыі, каталіцкае духаве́нства і паны пасьля сьме́рці Фрыдрыка I не хаце́лі выбіраць ягонага сына Крыштына. Настала даўгое безкаралеўе, у часе якога узгарэлася паўстаньне мяшчан у Копэнгазе, а таксама вясковага люду; паўстаньні гэтыя падтрымлівала Ганза. З прычыны грознага палажэньня паны згодзіліся, каб каралём быў Крыштын III (1524—1539). Крыштын даўгі час аблягаў Копэнгагу і ўрэшце яе́ здабыў. Вайна скончылася мірам у Любэку, паводле якога Ганза страціла ўвесь свой палітычны ўплыў на скандынаўскія гаспадарствы.

Надыйшоў час рэформацыі і ў Даніі. На сойме (1536) была прынята пастанова, што толькі навука Лютара ёсьць пануючай у Даніі. Царкоўныя мае́тнасьці падзялілі папалове між сабой карона і баярства. Гэтак сама была праве́дзена рэформацыя і ў Норвэгіі, а пасьля даўгога адпору — і ў Ісьляндыі. Як у Швэдзіі, гэтак сама і ў іншых краёх забаронена вызнаваць каталіцтва.

Эканамічная і гандлёвая сувязь з Ганзаю адгэтуль замянілася рэлігійнаю лучнасьцяй скандынаўскіх гаспадарстваў з протэстанцкаю Няме́ччынаю.

**б. Пачатак рэформацыі ў Англіі** (1534) за часоў Гэнрыка VIII (1509—1547) і Эдварда VI (1547—1553).

Бацькаўшчына Віклефа, як і Швэдзія, адарвалася ад Рыму ня гэтулькі з пераканаўньня, сколькі дзеля вытварыўшыхся абставінаў і волі монархаў.

Наступнікам закладчыка дынастыі Тюдораў, Гэнрыка VII, быў ягоны сын Гэнрык VIII (1509—1547). Быў гэта монарх дэспотычны, жорсткі, а ў хатніх справах—проста Сінябароды з казак. Каб здаволіць свае́ капрысы, ён заўсёды быў гатоў ахвяраваць самыя важныя інтарэсы народу, над якім панаваў; найме́ншае супраціўле́ньне яго волі лічыў найвялікшым злачынствам, за якое ня было даволі цяжкое кары. Здавалася яму, што ён вялікі тэолёг, і затым у часе пе́ршых выступаў Лютара ён выдаў свой ліст проці рэформацыі, за што дастаў ад папы тытул „абаронцы ве́ры“.



Але гэтая прыязьнь з папай трывала нядоўга. Жаніўшыся 20 гадоў назад з Кацярынаю Арагонскаю, сястрою маткі Караля V, ён упадабаў сабе маладую прыдворную даму Ганну Боляйн (Boleyn) і патаёмна з ёю ажаніўся; аднак, ён хаце́ў, каб яго шлюб быў афіцыяльна прызнаны, бо ад пе́ршае жаны ме́ў толькі дачку, а ад другое спадзяваўся ме́ць наступніка кароны. Ве́рным слугою Гэнрыка VIII быў арцыбіскуп Йорку, Тамаш Ульсэй (Wolsey), які, будучы ад самага пачатку ягонага панаваньня дагэтуль канцлерам, ве́льмі добра кіраваў усім гаспадарствам. Вось-жа Ульсэю кароль даручыў дабіцца для яго ў Рыме разводу з Кацярынаю, апіраючыся на тым, што шлюб з ёю, як удавою па браце, быў адразу-ж няважны, хаця тады і быў дазвол папы на гэта. Ня глe̍дзячы на ўсе́ стараньні, Ульсэй нічога не дабіўся, бо Кле́мэнс VII ня мог прызнаць дазволу свайго папярэдніка за няважны. Ашуканы ў надзе́ях, Гэнрык VIII ўвесь свой гнеў выліў на Ульсэя: скінуў яго з канцлерскага становішча і пасадзіў у вастрог, дзе той, прыгне́чаны гэтаю каралеўскаю няласкаю, у хуткім часе памёр. Гэнрык-жа пастанавіў ня толькі паставіць на сваім, але і памсьціцца на Рыме.

Крывавыя войны „дзьвюх рожаў“ давялі да руіны шмат якія панскія роды. Сьмяротныя кары, бітвы і конфіскацыі мае́тнасьцей працярэбілі рады магутнае арыстократыі. Зьбяднела і мяшчанства. Адзіным станам, які за той час узбагаце́ў яшчэ больш, было вышэйшае духаве́нства, чаго ве́льмі зайздросьцілі яму прадстаўнікі іншых станаў. Пасьля крывавых змаганьняў, усе́ жадалі міру; гэты мір забясьпе́чвала моцная каралеўская ўлада. Дзеля гэтага, пры Гэнрыках VII і VIII парлямэнт іграў пасыўную ролю і быў гэтым здаволены. Ульсэй зьбіраў парлямэнт дужа рэдка. Цяпе́р-жа Гэнрык VIII, узяўшы ўладу ў свае́ ўласныя рукі, пачаў яго склікаць што год і пры яго помачы „ўладзіў“ царкоўную справу.

Перад усім парлямэнт абве́сьціў Гэнрыка VIII галавою Царквы ў Англіі і даў яму права разьвязаваць усе царкоўныя справы ў краі, ня зносячыся з Рымам. Навет вышэйшае духаве́нства ня ве́льмі ўпіралася проці гэтае рэформы, бо баялася ўтраціць свае мае́тнасьці. Дале́й парлямэнт пастанавіў скасаваць усялякія выплаты Рыму. Пасьля гэтага новы прымас, Тамаш Кранмэр, на жаданьне караля, згодзіўся разглядзе́ць на сваім судзе справу шлюбу караля з Кацярынаю і прызнаў гэны шлюб няважным. Гэнрык-жа публічна абве́сьціў свой шлюб з Ганнаю Боляйн. Калі папа ўсёж прызнаў пе́ршы шлюб за важны, парлямэнт пастанавіў, што

кароль ёсьць адзінным на зямлі, найвышэйшым галавою англійскае царквы, і загадаў, каб усе́, пад страхам цяжкое кары, давалі прысягу, што прызнаюць гэтую ўладу караля над царквой (1534). Клемэнсу VII нічога больш не аставалася, як праклясьці Гэнрыка VIII; ён гэта і зрабіў.

Разыходзячыся з Рымам, Гэнрык VIII ме́ў на мэце толькі ўласныя інтарэсы і жаданьне памсьціцца. Дабіўшыся свайго, ён ані думаў праводзіць рэформу царквы ў протэстанцкім духу. Англійская царква ме́лася быць саўсім незале́жнаю ад Рыму, а паза гэтым у-ва ўсім аставалася каталіцкай. Нялёгка было ўтрымацца на гэткім сярэднім становішчы паміж каталіцтвам і протэстанцтвам, тым больш, што з аднаго боку пашыралася перане́сенае з контынэнту протэстанцтва, з другога—рымска-каталіцкая партыя была яшчэ даволі дужая.

Дзеля гэтага Гэнрых VIII роўна прасьле́даваў як протэстантаў, так і рымскіх каталікоў, ды гэтым яшчэ больш узмацняў абе́дзьве гэтыя партыі. Ад часу да часу Гэнрык VIII перахіляўся то ў адзін, то ў другі бок, а бывала гэта звычайна тады, калі гэты кароль — Сінябароды надумаваўся ўзяць сабе новую жонку.

Калі ў Ганны Боляйн радзілася дачка—Альжбе́та, парлямэнт, на жаданьне караля, прызнаў яе́ права на наступніцтва пасаду, хаця такое-ж права адняў у дачкі Кацярынінае, Марыі. На гэта не згаджаліся рымскія каталікі, і гэтага было даволі, каб іх прасьле́даваць; тады пагіб і вядомы англійскі пісьме́ньнік, Морус, аўтар „Утопіі“. Аднак, Ганна Гэнрыку хутка надакучыла. Вось, ён сьве́дама фальшыва абвінаваціў яе́ ў вераломстве і загадаў адсячы ёй галаву. Зара пасьля гэтага ён жэніцца з прыдворнаю дамаю Ганны — І о а н н а ю  С э й м у р. У апошняе радзіўся гэтак жаданы Гэнрыкам сын; але Іоанна паме́рла.

Згодна з радаю Т а м а ш а  К р о м в э л я, галоўнага кіраўніка царкоўных справаў, Гэнрык скасаваў манастыры і захапіў вялізарныя іх мае́тнасьці. З гэтага фундушу ён шчодра абдарыў сваіх улюбе́нцаў, даючы ім вялікія двары ды назначаючы лёрдамі. Для баярства, ве́дама, гэта было вялікаю прынадаю, каб падтрымліваць „рэформацыю“. Вось-жа і ў Англіі пачалі зьніштажаць абразы і рэліквіі, уводзіць навіны ў царкоўнай навуцы і ў абрадах; стаў пашырацца англійскі пераклад біблії.

Не згаджаўся з гэтым, аднак, вясковы народ. Масавыя разрухі ў паўночнай Англіі кароль, праўда, здушыў, аднак пры гэтым заявіў, што ня хоча ніякае гэрэзіі, і загадаў парлямэнту прыняць 6 артыкулаў, названых „крывавымі“, бо кожны выступ проці іх караўся сьме́рцяю. Гэтымі артыкуламі былі: транссубстанцыя, імша, споведзь, комунія ў аднэй пастаці, важнасьць манашства, цэлібат духоўных.



Кромвэль, прыхільнік протэстантаў, стрывожаны „артыкуламі“, высватаў Гэнрыку клівійскую князёўну Ганну, каб гэтым зблізіць яго з няме́цкімі протэстантамі. Але каралю новая жонка не спадабалася, і ён разьвёўся з ёю; Кромвэля-ж загадаў пакараць сьме́рцяй. Пасьля гэтага ён ажаніўся з Кацярынаю Говард, з каталіцкае сям'і, варожа настроенай да ўсякіх дале́йшых рэформаў. Аднак, це́раз год ён і яе́ абвінаваціў у няве́рнасьці і загадаў забіць; новая-ж жонка Гэнрыка Парр ізноў спагадала протэстантам. Праз усе́ гэтыя жаніцьбы Гэнрык уве́сь час хіліўся то ў адзін бок, то ў другі, крывава прасьле́дуючы то адну, то другую ве́ру. І ве́льмі дзіўна выглядае, што гэты люты і самавольны тыран заўсёды ме́ў падтрыманьне ў парлямэнце, ды навет быў популярным у краі!

Гэнрык VIII тэстамэнтам адпісаў карону ўсім сваім дзе́цям: і сыну, і Марыі, і ўрэшце Альжбе́це.

Эдвард VI ме́ў тады дзе́сяць гадоў; гаспадарствам кіравала рэге́нцыя, на чале́ якое стаялі лёрды, ня цікавіўшыяся рэлігійнымі справамі, але ласыя на царкоўныя мае́тнасьці. Малады-ж кароль, без пары дасьпе́лы, быў з перакананьня прыхільнікам протэстанцтва; дзеля таго ў інтарэсе „апякуноў“, уве́сь час змагаўшыхся між сабой і засуджаўшых адзін аднаго на сьме́рць, было падтрымліваць пагляды караля, злучаючы гэта, ве́дама, з уласнай карысьцяй. Дык касаваліся манастыры, брацтвы і царкоўныя таварыствы, а іхнія мае́тнасьці дзялілі паміж сабой лёрды; у цэрквах заме́ст імшы заве́дзена было набажэнства ў англійскай мове, падобнае да протэстанцкага.

Эдвард VI быў ве́льмі кволы і памёр ужо на 16-м годзе жыцьця. Дзеля сваё протэстанцкае шчырасьці, ён не хаце́ў пакідаць пасьля сябе́ карону гэткай выразнай каталічцы, якою была ягоная сястра Марыя. Вось-жа, паслухаўшы намовы свайго апошняга радніка, князя Нортумбэрленд, ён перад сьме́рцяй сам без парлямэнту адказаў карону гарачай протэстантцы, І о а н н е  Г р э й, сваячцы Тюдораў*), якая была

*) **Дом Тюдораў.**

Гэнрык VII — † 1509

| Гэнрык VIII † 1547 | | | Маргарыта, жонка Якуба IV, караля Шкотляндыі | Марыя, жонка кн. Суфольк |
|---|---|---|---|---|
| 1 Марыя, дачка Кацярыны, кн. Арагонскае, † 1558 | 2. Альжбе́та, дачка Ганны Боляйн, † 1603 | 3. Эдвард VI, сын Іоанны Сэймур † 1553 | Якуб V | Францішка, жонка Гэнрыка Грэя |
| | | | Марыя Стюарт | Іоанна Грэй. |
| | | | Якуб I (VI), кароль Вялікае Брытаніі † 1625 | |

замужам за сынам Нортумбэрлéнда. Але ледзь толькі Эдвард VI памёр, як блізу ўвéсь народ пайшоў за Марыяю проці зьненавіджанага баярска - протэстанцкага гаспадараньня.

7. **Паварот да каталіцтва; узмацаваньне рэформацыі ў Англіі і англіканская царква.** Кн. Нортумбэрленд быў змушаны ў уласным лагеры абвéсьціць каралéваю Марыю Тюдор, але, ня глéдзячы на гэта, быў арыштаваны і пакараны сьмéрцяй. Таксама былі пазбаўлены жыцьця няшчасная прэтэндэнтка Іоанна Грэй і яе муж. Марыя ўзяла ўладу, абяцуючы, што захавае рэлігійную толеранцыю. Аднак, свайго абяцаньня яна не дадзéржыла. Узгадаваная ў нéнавісьці да протэстанцтва, яна гарэла жаданьнем помсты за ўціскане ў Англіі каталіцтва і павароту для даўнéйшага блéску панаваньня. Пляны яé сталі для ўсіх яснымі, калі яна, толькі што прызнаная за каралéву, ужо вышла замуж за найгоршага ворага рэформацыі, Піліпа II, караля Гішпаніі, валадара Нідэрляндаў, Нэаполю, Амэрыкі і інш. Адразу пачаліся крывавыя прасьлéдаваньні прыхільнікаў і вызнаўцаў рэформацыі. Узгарэліся нязьлічаныя вогнішчы, на якіх палілі супраціўнікаў каталіцтва; у тым ліку быў спалены і Тамаш Кранмэр.

Але якраз гэтае крывавае хрышчэньне найбольш дапамагло разьвіцьцю рэформацыі, а нéнавісьць да „крывавае каралéвы“ дайшла найбольшае сілы тады, калі яна самавольна ўблутала Англію ў вайну, якую Піліп II вёў проці Францыі, і калі ў рэзультаце яé Англія страціла апошняе сваё валаданьне на контынэнце—Калé. Толькі сьмéрць каралéвы стрымала агульнае паўстаньне.

Сястра Марыі, Альжбéта (1558—1603), дагэтуль трыманая як-бы ў вязьніцы, узяўшы ўладу, аднавіла рэформацыю. Яна прыняла протэстанцкія догматы, але пакінула каталіцкую царкоўную гіэрархію і шмат даўнéйшых абрадаў; зрабіла яна гэта, каб прыхіліць да сябé каталікоў, учасьці-ж затым, што сама любіла пышнасьць рымскага набажэнства. Гэтак паўстала англіканскае вызнаньне.

Але шмат протэстантаў не згаджалася на ўвéдзены Альжбéтаю царкоўны лад, асабліва тыя, што, уцякаючы ад прасьлéдаваньняў за часоў Марыі, былі ў Жэнéве і там пераняліся кальвінствам. Залéжнасьць англіканскага духавéнства ад біскупаў, якія даставалі загады ад кароны, а таксама цэрэмоніял у абрадах, абразы і г. д.—усё гэта яны лічылі грэшнаю астачаю „папізму“, ад якога стараліся ачысьціць царкву; за тое іх назвалі „пурытанамі“. Дзеля таго-ж, што яны, згодна з дэмократычнымі прынцыпамі, хацéлі, каб духоўная ўлада была ў руках прэзьбітэраў,—значыцца, выбарных старэйшых сябраў царкоўнае грамады,—дык іх называлі прэзьбітэрыянамі.



Альжбéта прымушала ўсіх духоўных, каб сьцісла пільнаваліся яé наказаў, і з пурытанамі абходзілася шмат страшэй, чым з каталікамі. Пурытане-ж адпраўлялі свой кальвінскі культ, хаваючыся ў лясох ды іншых сховах, а крапчэўшае прасьлéдаваньне (Альжбéта навет зорганізавала царкоўную інквізыцыю) толькі дапамагала разьвіцьцю кальвінства *).

## § 6. Каталіцкі рух у пэрыядзе рэформацыі.

1. **Папа Павал IV Карафа** (1559). Увéсь хрысьціянскі сьвéт быў падзéлены на часткі, і чым далéй, тым мéнш аставалася надзéі, што хоць калі-нéбудзь удасца аб'яднаць яго. У каталіцкай царквé ўзяла вéрх партыя, якая навет найменшую ўступку протэстантам уважала за злачынства, якая хацéла захаваць адзінства Царквы ня згодаю з супраціўнай стараною, а яé поўным зьніштажэньнем. Лёзунгам гэтае партыі было: здушыць гэрэзыю ўсёроўна якімі спосабамі—„дзеля большае славы Божае“. Асабліва-ж гострую барацьбу проці адшчапéнцаў распачаў фанатычны нэапалітанец Карафа, які быў выбраны за папу пад імéньнем Паўла IV. Яшчэ будучы кардыналам, ён дабіўся таго, што ў Рыме быў установлены інквізыцыйны суд кшталтам гішпанскага, і ў Італіі пачалося прасьлéдаваньне ўсіх тых, на каго падаў хоць-бы самы слабéнькі цень падазрэньня ў неправавéрнасьці. Старанна вылаўліваў ён „небясьпéчную“ літэратуру і залажыў бюро дзеля ўкладаньня сьпісу „шкадлівых“ (забароненых, або выклятых духоўнай уладаю) кніжок. Гэта быў пачатак існуючага да сёньняшняга дня папскага індэксу (index librorum prohibitorum).

2. **Закладзіны ордэру езуітаў** (1540). Аднак, дзеля таго, што протэстанцтва мéла дужа вялікі ўплыў на людзкія думкі і ўвéсь час пашырала гэты ўплыў далéй і глыбéй, адных гвалтоўных спосабаў было помала. Тады на помач папству, якое апынулася ў небясьпéцы, прыйшлі рэлігійныя ордэры, якія і павялі барацьбу з вялікім запалам, часта навет супярэчна з сваімі асноўнымі мэтамі, у імя каталіцкае справы. Да гэткіх ордэраў належалі капуцыны, якія зьявіліся ў Італіі, выдзяліўшыся спаміж францішканаў, і хутка здабылі дужа вялікія ўплывы на ніжэйшыя клясы грама-

*) § 7 Піліп II; Нідэрлянды і Альжбéта Англійская.

дзянства, а перад усім сябры „Компаніі Езусовае“, або— езуіты.

Гішпанскі шляхціц і ахвіцэр, Ігнат Лёйоля, адзначыўшыся ў часы Караля V сваёй адвагаю, ляжаў у бальніцы з разьбітаю нагою. Маючы шмат вольнага часу, Лёйоля заняўся чытаньнем „Жыцьцяў сьвятых“. Пад уплывам гэтага чытаньня гарачы і адначасна здольны да дзеяньня чалавек нарысаваў сабе плян свае будучае дзейнасьці. Гэты плян ён і споўніў.

Як толькі яму вярнулася здароўе, Лёйоля адбыў—пры самых цяжкіх пакутных варунках—падарожу да Сьвятое Зямлі, а вярнуўшыся і навучыўшыся лаціны на 33-м годзе жыцьця, ён студыяваў у парыжскім унівэрсітэце тэолёгію— адначасна з Кальвінам, які таксама там вучыўся. Разам з яшчэ некалькімі блізкімі яму па духу таварышамі, найбольш родзічамі-гішпанцамі, зорганізаваў ён часовае рэлігійнае таварыства, якое, апроч звычайнае манашскае прысягі на ўбожства, бязжэнства і послух, устанавіла йшчэ адну: споўняць загады Сьв. Айца ў кожным часе і выпадку.

Скончыўшы навуку, Лёйоля перайшоў праз Францыю, Гішпанію і Італію, у вагністых казаньнях прапаведуючы словы веры і нясучы помач хворым. Урэшце прыбыў ён у Рым, дзе папа зацьвердзіў закладзены ім ордэр і назначыў Лёйолю першым кіраўнікам гэтага ордэру.

**3. Організацыя і дзейнасьць езуітаў.** У хуткім часе папская ўлада перакаланалася ў вялікай вартасьці новага ордэру. А прычынаю гэтае вартасьці былі наказы, устаноўленыя Лёйоляй і яго наступнікамі. Статут гэтага ордэру меў шмат супольнага з вайсковымі парадкамі. Толькі прайшоўшы даўгі рад ніжэйшых ступеняў можна было зрабіцца праўдзівым езуітам; спаміж гэтых апошніх выбіраліся кіраўнікі, з якіх кожын падлягаў уладзе вышэйшага ад сябе аж да генэрала, які знаходзіўся ў Рыме, каб там прыймаць загады папы, ці, як гэта бывала ў пазьнейшыя часы, каб самому рабіць уплыў на папу. Цэмэнтам організацыі была субордынацыя (паслухмянасьць). Сьляпы послух быў першым абавязкам езуіта. Подлуг слоў Лёйолі, езуіт павінен быць у адносінах да свайго кіраўніка, „як труп бяз чуцьця і волі, як посах у руках старца“. Нікога ня прыймалі да таго часу, пакуль „духоўнымі практыкаваньнямі“ ён ня здушыў у сабе ўсю сваю ўласную волю. За тое езуіты былі звольнены ад усякіх манашскіх абавязкаў. Бо заданьнем ордэру было не жыцьцё, пасьвячонае пасту і малітве, замкнёнае ад сьвету ў манастырскіх мурох, але, наадварот, уплываньне на сьвет, барацьба на кожным месцы і ўсімі спосабамі проці недаверства і гэрэзыі.



Перадусім трэба было пахіснуўшыяся ў веры народы затрымаць пры рымскай царкве і зьніштожыць протэстанцтва сярод тых народаў, якія галоўным чынам вызнавалі каталіцтва, ці прынамся аставаліся пад каталіцкаю ўладаю. Каб споўніць гэтыя заданьні, ордэр разьвіў нячувана энэргічную дзейнасьць. Найспрытнейшых і найбольш сьведкіх сябраў езуіты высылалі, як спавядальнікаў і ўзгадавальнікаў, да монаршых двароў і такім чынам здабывалі вялізарны ўплыў на ўрады. Сымпатыі народных масаў езуіты здабывалі, пасылаючы да іх найлепшых прапаведнікаў, якія да тагож усе духоўныя паслугі спаўнялі бязплатна. Каб выбіць з рук протэстанцтва яго наймацнейшае аружжа, якім была яго перавага ў асьвеце, ордэр даваў сваім сябрам самую шырокую асьвету, царкоўную і сьведкую, а найбольш здольным памагаў у навуковай і літэратурнай працы, адпаведнай прынцыпіяльным мэтам ордэру. Узброеныя ведаю і сьведамыя сваіх мэтаў, езуіты ўзялі ў свае рукі эдукацыю моладзі, добра разумеючы вялізарнае значэньне ўплываў школы. Усюдых твораць яны школы — ад самых ніжэйшых да найвышэйшых ступеняў. Езуіцкія школы стараліся палепшаць мэтоды навучаньня і добра прыгатаўляць сваіх гадунцоў да жыцьця; дзеля гэтага ў працягу цэлага сталецьця яны славіліся, як найлепшыя. Навет протэстанты пасылалі сваіх дзяцей у езуіцкія школы.

Адначасна з гэтым езуіты стараліся пашырыць каталіцкія абшары, наварочуючы паганцаў. Ксавэры, адзін з першых таварышаў Лёйолі, паехаў у Індыю і Японію; па дарозе ў Кітай ён памёр, але ўсюдых, дзе ён праехаў, пааставаліся хрысьціянскія грамады, як сьляды яго дзейнасьці. Ані пустыні Монголіі, ані лютасьць Нэграў унутранае Афрыкі, ані дзікуны Новага Сьвету не маглі спалохаць адважных, нязмораных байцоў за ідэю. Ім удалося навет у адвечных лясох Паўднёвае Амэрыкі заснаваць гаспадарства Індыянаў, Парагвай, дзе дзікуноў ня толькі навярнулі на хрысьціянства, але таксама зрабілі іх працавітымі земляробамі, рамесьнікамі і вернымі грамадзянамі краю. З гэтымі місыямі езуіты злучалі дужа зыскоўны гандаль, дзякуючы якому, а таксама розным ахвярам і спадчынам, езуіцкі ордэр меў у сваіх руках нязьлічоныя скарбы.

Мы бачым, што праца езуітаў ня рэдка была культурнаю і карыснаю для грамадзянства. Але ў іх дзейнасьці было шмат і цёмных бакоў. Перад усім трэба адзначыць іхнюю барацьбу з усякаю вольнаю думкаю, пры чым яны карысталіся ўсякімі спосабамі—і добрымі, і благімі. Хаця гэта і няпраўда, быццам галоўным дэвізам езуіцкіх статутаў была думка: „мэта бязьвініць спосабы“, аднак, у практыцы

яны якраз кіраваліся гэтым прынцыпам. Звычайны моральны кодэкс не істнаваў для іх, калі трэба было дабіцца „сьвятое“, на іх пагляд, мэты. Яны ня спыняліся перад найгоршым злачынствам, калі гэтага вымагалі іхнія пляны; забойства і фальшывая прысяга часамі дазвалялася і навет пахвалялася езуіцкімі спавядальнікамі. Дык-жа навет сярод прававе́рных каталікоў езуіты ня ме́лі вялікае прыхільнасьці. Так, прыкл., Паскаль, вучоны ды пабожны каталік, у сваіх вядомых лістох*) вельмі гостра ганіць ды кляйміць дзе́йнасьць езуітаў.

**4. Трыдэнцкі Сабор** (1545—1563). Уплывы Карафы і Лейолі панавалі над доўга жданым Трыдэнцкім Саборам. Баючыся, каб гэты сабор не пайшоў сьле́дам за папярэднім, што быў у Базэлі, папы адкладалі яго, як мага, ды не́калькі разоў перарывалі на даўгі час яго працу. Ды гэты страх аказаўся дарэмным. Сабор прызнаў толькі патрэбу ўзмацне́ньня царкоўнае дысцыпліны, ды большае дбаласьці аб эдукацыю духаве́нства, але катэгорычна адмовіўся ад якіх-не́будзь уступак протэстанцкаму руху. Аднак, трэба заўважыць, што цэлібат духаве́нства (каб не жаніліся) і комунію пад аднэй пастацяй сабор ня прызнаў догматам (гэта зрабіла магчымай унію царквы русінска-грэцкае з рымскаю), але затое зганіў дамаганьне, каб гэтыя звычаі скасаваць, і зажадаў, каб іх пільнаваліся, як царкоўных наказаў. Прыпцыпова цэлібат духаве́нства ня толькі быў пакінуты (папа мог ад гэтага наказу звальняць), але навет узмоцнены, ня гледзячы на тое, што проці яго рашуча выступалі імпэратар Фэрдынанд I і Францыя. Таксама былі адкінуты і ўсе́ іншыя жаданьні протэстантаў, навет жаданьне скасаваньня гандлю адпустамі. Калі не догматычна, дык у кожным разе фактычна Трыдэнцкі Сабор прызнаў непамыльнасьць папы ў ў справах ве́ры, і гэткім спосабам зьме́ншыў значэньне сабораў. Наагул, здавалася, што мэтаю сабору было сабраць і ўмацаваць усе́ сярэдняве́чныя перажыткі, якія пааставаліся ў Царкве́; сабор вымагаў сьляпое ве́ры ўва ўсё, што хоць калі было ў гэтых справах сказана ці загадана, а на ўсіх недаве́ркаў кінуў страшное пракляцьце.

Гэткую „рэформу“ правяла рымская царква; дале́йшым яе́ разьвіцьцём была жахлівая дзе́йнасьць інквізыцыі, рэзультатам-жа—страшныя рэлігійныя войны, якія на Заходзе каля ста гадоў зьніштажалі насяле́ньне і затрымлівалі культурнае разьвіцьцё народаў.

*) Lettres à un provincial.



# § 7. Піліп II, Нідэрлянды і Альжбе́та Англійская.

**1. Піліп II** (1558—1598). Прыкладам рымска-каталіцкага гаспадарства была Гішпанія, калыска інквізіцыі і езуітызму. Хаця і там рэформацыя знайшла сабе́ прыхільнікаў, але яна не зачапіла народных масаў. Аўто-да-фэ, пале́ньне на вогнішчы ўсялякіх гэрэтыкоў, як прыкл. протэстантаў, Жыдоў, Маўраў і г. д., было самай прые́мнай і популярнай забавай для гішпанскага народу.

Фанатызмам народу праняліся і ягоныя валадары. Кароль V, які дзеля палітычных прычын іграў ў Няме́ччыне ролю чалавека памяркоўнага, у сваіх спадчынных краёх выдаў гэткія жорсткія законы проці гэрэтыкоў, што, як кажуць, за час ягонага панаваньня ў адных толькі Нідэрляндах сьцяты, спалены і пахаваны жыўцом 50.000 чалавек. Ягоны сын, Піліп II, быў якбы уасабленьнем гішпанскага рэлігійнага фанатызму. Гэта быў пануры, замкнёны ў сабе дэспот, як здавалася, пазбаўлены ўсякіх людзкіх пачуцьцяў; навет адзінага свайго сына, Дон-Карлёса, хаця той, праўда, быў кале́кім і фізычна і моральна, Піліп II кінуў у вастрог, дзе той і загінуў. Ён пагарджаў правамі народаў, ад яго зале́жных, і кіраваў імі з сваіх палацаў у Мадрыце і ваколіцах яго жале́знай сілай сваёй волі. Нямілых сабе́ грамадзян, на якіх ня было правамочнага прысуду, ён зьніштажаў патаёмнымі забойствамі. Бязупыннымі войнамі ён марнаваў кроў і дабро сваіх падданых; але, ня гле́дзячы на ўсё, Гішпанцы славілі яго, як другога Салямона. Славілі за тое, што ве́льмі шанаваў Царкву, хаця часамі ўме́ў спыняць залішне вялікія яе дамаганьні, і за тое, што недаве́ркаў прасьле́даваў з заядлай лютасьцяй. Уве́сь час падганяў ён інквізіцыю да больш энэргічнае дзе́йнасьці—і свайго дабіўся: у не́калькі гадоў зьнішчаны былі на Пірэнэйскім паўвостраве ўсе́ сьляды протэстанцтва.

Побач з рэлігійным фанатызмам Піліпа II ішла яго бязьме́жная амбіцыя. Заваяваць уве́сь сьве́т сваімі войскамі і флётамі, на ўсю Эўропу узьдзе́ць ярмо Рыму і Гішпаніі,—вось што было мэтаю ўсяе яго дзе́йнасьці. Аднак, не́льга сьпірацца, што рабіў ён гэта ўсё з пераканаваньнем, што, як яму здавалася, рабіў дзеля дабра залежных ад яго народаў, дзеля славы дынастыі, ве́лічы Гішпаніі і большае славы Божае. Як усе́ крывавыя дэспоты, ён быў падазрэнны і ня ве́рыў нікому, а каб спаўняць свой абавязак—на яго пагляд—сумле́нна, ён сам усюдых даглядаў і, будучы чалавекам досіць марудным, хістаючымся, нерашучым, адкладаў свае́ пастановы надоўга, а без пастановаў гэтых нічога не́льга было

пачынаць. Ня маючы размаху і адважнае ініцыятывы, ён сваёй марудпасьцяй нярааз шкодзіў самым памысным рэзультатам сваіх уласных пачынаньняў. Яго-ж дэспотызм і няздольнасьць лічыцца з выпадкамі ўціскалі ўсе яго краі і сталіся прычынаю іх упадку.

Пілiп II быў самым магутным монархам сваей эпохі *). Ад часу войнаў паміж Францішкам I і Каралём V гішпанскія войскі славіліся, як неперамо́жныя: марская-ж магутнасьць Піліпа выявілася ў бліскучай перамозе, якую меў ягоны брат Дон-Хуан д'Аўстрыя над туркамі пад Лепанто (1571).

Апроч усяго гэтага, шчасьлівая доля аддала ў рукі Піліпа адзінае гаспадарства, якое-б магло конкураваць з Гішпаніяй, як марская і колёніяльная сіла: Португалію. Малады кароль гэтае стараны, Сэбастыян, гадунец езуітаў, поўны рэлігійнага запалу, пайшоў крыжавым паходам на Мароко, прайграў генэральную бітву і згінуў бяз весьці. Бліжэйшых наступнікаў па ім не асталося, і дзеля таго Піліп II, які праз матку быў сваяком португальскага дому, абвесьціў свае прэтэнсіі на Португалію. Аднак, Португальцы не хацелі аб гэтым і слухаць. Тады ён выслаў у Португалію войскі пад камандаю кн. Альбы, які гэты край заваяваў (1580).

Ад гэтага часу яшчэ большыя заморскія абшары падлягалі яго ўладзе. Як Усходняя, так і Заходняя Індыя засыпалі яго сваімі скарбамі. Нейкі час ён, як муж Марыі, даваў сабе ўжо і тытул караля Англіі. Пасьля-ж яе сьмерці ён стараўся ўмацаваць сваю ўладу на Брытанскіх астравох, сьпярша просячы рукі Альжбеты, а калі тая яго адкінула, дык дамагаючыся яе аружнай сілай. Вабіла яго і валаданьне Францыяй, якую руйнавала гострая хатняя вайна; найпацнейшая партыя тамака перахілялася на яго бок. Але ні адно з гэтых прыгожых лятуценьняў ня споўнілася. Замест таго, каб панаваць над сьветам, дажыўся Піліп тае часіны, калі ўласнае ягонае гаспадарства пачало разваліваца, калі адзін з найлепшых краёў гішпанскае кароны, даведзены да адчаю ягонай тыраніяй, аружна здабыў сабе незалежнасьць.

**2. Нідэрлянды. Першыя ўзварушэньні.** Кароль V зьвязаў у палітычную суцэльнасьць 17 слаба між сабою зьвязаных бургундзкіх провінцый, г. зв. Бургундзкі вокруг. Гэта былі цяперашнія Голяндыя і Бэльгія. Паўночныя прыморскія провінцыі былі гандлёвыя і прамысловыя. Насяленьне, што там жыло, Фляманды, Голендры і Фрызы, належалі да германскага племеньня. Паўднёвыя сухаземныя провінцыі былі найбольш земляробскія; жылі там Валёны, народ гальска-романскага племеньня.

*) § 4. Рэформацыя ў Нямеччыне (Кароль V).



Апрача Італіі больш нідзе ня было гэтак густа разложаных, людных і цьвітучых местаў, як у Нідэрляндах. Нідэрляндзкія порты мелі вялікае значэньне, бо, дзякуючы свайму палажэньню, былі пасрэднікамі ў гандлю Паўночы з Паўднём і Усходу з Захадам. У Антвэрпэн прыбывалі з таварамі з усіх часьцін сьвету Португальцы, Гішпанцы, Італьянцы, Французы, Англійцы, Немцы, Данцы і Швэды. Гаварылі, што там за адзін месяц рабілася больш інтарэсаў, чым у Вэнэцыі за два гады. Сухаземныя месты цьвілі дзякуючы высока разьвітай прамысловасьці, асабліва-ж дзякуючы такім вырабам, як сукны, артыстычна робленыя абіцьці і г. д.; а ўсюдых пышныя цэрквы, ратушы і іншыя будоўлі казалі аб заможнасьці нідэрляндзкага мяшчанства. Кожная провінцыя, кожнае места мелі асобныя правы і вольнасьці. Кожнай провінцыяй кіравалі г. зв. провінцыяльныя штаты, зложаныя з прадстаўнікоў розных мясцовасьцяў. А над усімі провінцыямі стаялі генэральныя штаты, зложаныя з прадстаўнікоў провінцый, але залежныя ад найвышшае ўлады монарха. Пры Каралю V монаршую ўладу прадстаўляла яго сястра, Марыя, угорская каралева; апроч таго, над провінцыямі стаялі намесьнікі, якіх назначаў імпэратар, пры рэгентцы-ж была рада, гэтак сама назначальная, незалежная ад Рады Гаспадарства, у каторай засядалі нідэрляндзкія паны.

Кароль V, які радзіўся ў Гандаве, лічыў сабе Нідэрляндцам, ды гэтак сама думалі аб ім і ў Нідэрляндах. Хаця-ж ён і цiснуў усе праявы рэформацыі і, як толькі мог, абмежаваў вольнасьці ды прывілеі, быў ён, аднак, вельмі популярным сярод Нідэрляндцаў. З другога боку, разважны Кароль V, калі ня йшло аб рэлігійныя справы, сьцярогся выяўляць свае абсолютыстычныя пляны ў адносінах да Нідэрляндаў, бо з гэтага краю ён меў вялікія даходы.

Нідэрляндцы былі вельмі нездаволены, калі, пасьля зрачэньня пасаду Караля V, іхні край перайшоў пад уладу Піліпа II, якога яны ўжо напёрад зьненавідзелі, як Гішпанца. Становішча рэгенткі ў Нідэрляндах заняла сястра Піліпа II, Маргарыта, кн. Пармская, па матцы—Нідэрляндка; гаспадарыла яна памяркоўна і разумна. Піліп II, бяручы ўладу, урачыста прысягнуўся, што правы Нідэрляндцаў будуць забясьпечаны; але ад самага пачатку ён ужо мяркаваў, каб як іх здушыць, каб Нідэрлянды, як і ягоныя гішпанскія ды італьянскія землі, слухаліся яго самаўладзтва. Апрача таго, ён з гнёвам заўважыў, што сярод гэтага інтэлігентнага і рухавага народу, ня гледзячы на законы проці гэрэтыкоў, устаноўленыя ягоным бацькам, кальвінская рэформацыя пашыраецца і ўсё больш узмацоўваецца. Вось ён і дамагаўся, каб рэгентка самымі жорсткімі спосабамі зьнішчажала гэрэзыю.

Але на крывавыя наказы абураліся навет каталікі. Найвышэйшыя-ж урадоўцы краю спаміж Нідэрляндцаў, як Вільгэльм Насаў, прынц Оранскі, граф Горн і Ляморль гр. Эгмонт, якія, будучы дзяржаўнымі раднікамі і намесьнікамі ў найважнейшых провінцыях, дапамагалі Маргарыце ў кіраваньні краем, прасілі Піліпа II мець літасьць для народу і перасьцерагалі, што рэпрэсіі могуць мець вельмі непажаданыя рэзультаты. У адказ на гэта Піліп загадаў сястры, каб дзейнасьць інквізіцыі была яшчэ больш узмоцнена і каб кожнага ўрадоўца, які ня рупіцца аб спаўненьні процігэрэтыцкіх законаў, выдалялі са службы.

Тады энэргічнейшае баярства (шляхта) стварыла саюз проці інквізіцыі. За некалькі месяцаў саюзны дакумэнт падпісалі 2000 баяраў бяз розьніцы вызнаньня. Вясною 1566 г. трыста саюзных коньнікаў урачыста ўехалі ў Брюссэль і падалі рэгентцы пэтыцыю, у якой была просьба спыніць прасьледаваньні. Адзін з раднікаў Маргарыты сказаў пафранцуску (гэта была прыдворная мова ў Брюссэлі), што яна „хіба-ж ня будзе баяцца гэтых жабракоў“ (gueux). Опозіцыя прыняла гэтае апошняе слова за назоў сваёй партыі, і ў хуткім часе па ўсім краю разнёсся кліч: „няхай жывуць жабракі!“ Гэтак утварыўся партыйны назоў „гёзы“, якім называлі сябе ўсе Нідэрляндцы, змагаючыся за волю.

Выступленьне шляхты прымусіла Маргарыту спыніць прасьледаваньні; у рэзультаце-ж гэтага кальвіністы пачалі вольна зьбірацца. На жаль, нарадамі ды набажэнствамі справа ня скончылася. У Антвэрпэне фанатычная маса ўварвалася ў катэдру і разбурыла ўсё ў ёй у сярэдзіне: алтары, конфэсіяналы, статуі, вітражы, абразы. Большасьць гэтых прадметаў станавіла цэнныя памяткі старасьвецкага мастацтва; гэтак зроблены быў запраўды вандальскі ўчынак. Неўзабаве разбураны былі творы мастацтва ва ўсіх цэрквах і капліцах Антвэрпэна. Рух гэты пашырыўся па ўсім краі, сеючы ўсюды спусташэньне. Злосьць, выяўленая пры гэтым, робіць уражэньне, што масы хацелі на няжывых прадметах памсьціцца за нязьлічоныя ахвяры рэформацыі.

**3. Альба ў Нідэрляндах.** Даведаўшыся аб рэволюцыйным руху ў Нідэрляндах, Піліп II прысягнуў, што пакарае бязбожнікаў так, як яшчэ таго сьвет ня бачыў. Хаця Маргарыта пры помачы кн. Оранскага, Эгмонта і Горна вярнула парадак, цяжка пакараўшы вінавайцаў і ўчасьнікаў руху, Піліп II ўсёж выслаў у Нідэрлянды лютага ворага гэрэнтыкоў, кн. Альбу, на чале лепшае гішпанскае арміі, каб зрабіць сьмяротны ўдар рэлігійнай і палітычнай вольнасьці краю. Альба меў загад зьніштожыць усіх, хто будзе сьпірацца проці новага парадку, а перадусім трох найбольш популярных раднікаў гаспадарства: кн. Оранскага, Эгмонта і Горна.



Апошнія нічога не маглі навет падазраваць аб тым, што іх чакае. Толькі кн. Оранскі, меўшы дасьведчаньне ў дворскіх інтрыгах ды ўжо папярэджаны аб плянах Піліпа II, стараўся пераканаць сваіх прыяцеляў аб небясьпецы, якая ім пагражала, і падгаварыць іх да аружнага адпору, або да ўцёку. Але ўсё было надарэмна. Эгмонт, добры каталік, не пачуваў за сабою ніякае віны; памятаючы свае заслугі для Піліпа ў часе апошняе вайны з Французамі, ён не хацеў ісьці супраць караля і паверыць у ягоную нясумленнасьць. Гэтак сама думаў і Горн. На саюз гёзаў нельга было разхаваць, бо апошні рэволюцыйны рух проці абразоў аддаліў ад яго каталікоў. Дык мусіў кн. Оранскі ўцякаць з краю, Альба-ж без перашкод увайшоў у Брюссэль. Супакоіўшы асьцярожнасьць Эгмонта і Горна пачэсным прыняцьцем, ён загадаў арыштаваць іх на сходзе дзяржаўнае рады. Далей устанавіў ён спэцыяльны суд для караньня гэрэтыкоў і агітатараў, назваўшы яго: „радай непарадкаў“, — народжа назваў яе „крываваю радаю“. Адзін з судзьдзяў заявіў, што ўсе Нідэрляндцы заслужылі сабе шыбеніцу: адны за тое, што бурылі абразы, другія-ж за тое, што гэтаму не перашкаджалі. Гэтага прынцыпу і трымалася „крывавая рада“. Што дня выдаваліся і спаўняліся прысуды сьмерці: вешалі, саджалі на кол, сяклі галовы ды палілі няшчасных Нідэрляндцаў. На Ратушовым пляцу ў Брюссэлі сказьнілі Эгмонта і Горна, як вінных у абразе маестату; выданы быў таксама прысуд і на няпрысутнага кн. Оранскага.

Сотні тысяч Нідэрляндцаў паўцякалі з бацькаўшчыны; гандаль і прамысловасьць замерлі, як-бы ў часе пошасьці.

Надарэмна стараўся кн. Оранскі разам з братамі сваймі на чале наёмных войскаў, сабраных у Няміччыне, вызваліць ад ворагаў нешчасьлівую бацькаўшчыну; пераважаючыя сілы Альбы прымусілі яго адступіць.

Ламаючы загварантаваныя правы провінцыяў, Альба ўстанавіў новыя падаткі: кожны грамадзянін краю павінен быў заплаціць сотную частку сваёй маемасьці; апрача таго пры кожнай прадажы нярухомасьці трэба было плаціць дваццатую частку вартасьці, а ў гандлю—дзесятую частку цаны праданага тавару.

Дагэтуль большая часьць насяленьня моўчкі цярпела ярмо тэрору. Аднак, гэтыя шалёныя падаткі, якія ляглі роўна на ўсіх бяз розьніцы веры, ды зьніштажалі дабрабыт краю, выклікалі агульны адпор.

Альба ўжо зьбіраўся загадаць новыя рэпрэсіі, калі прылучыліся падзеі, на якія ён быў прымушаны зьвярнуць большую ўвагу.

**4. Вадзяныя ге́зы ў Брыэлі; аблога Ле́йдэна** (1572—1574). Тысячы Нідэрляндцаў уцяклі ад праcьле́даваньняў Альбы на мора. Адтуль яны імсьціліся над Гішпанцамі, нападаючы, як корсары, на іхнія караблі. Падтрымліваў і падахвочаваў іх нязморавы кн. Оранскі. Даўгі час гэтыя вадзяныя ці марскія ге́зы знаходзілі сабе бясьпе́чны прытулак у ангельскіх портах, аж пакуль каралеве Альжбе́та, якой з гэтае прычыны пагражала вайна з Альбаю, не закрыла для іх усе́ сваé порты. Прыціснутыя голадам, ге́зы захапілі малы голяндзкі порт Брыэль, і ўсе стараньні Альбы выкінуць іх адтуль былі дарэмныя.

Здабыўшы такім спосабам пункт апоры, паўстаньне, як маланка, пашырылася ў Голяндыі, Зэляндыі і ўсіх іншых паўночных провінцыях, дзе кальвінізм запусьціў моцныя карані. Вільгэльм Оранскі зьвязаўся з паўстанцамі, а тыя прызналі яго за адзінага правамочнага наме́сьніка Піліпа II; яны хаце́лі тады яшчэ рабіць від, што выступаюць ня проці Піліпа, але проці Альбы. Ня гле́дзячы на свае жорсткасьці, Альба ўжо ня мог усьмірыць паўстаньня, і Піліп II яго адклікаў. Адыходзячы, Альба хваліўся, што за час свайго ўрадаваньня ў Нідэрляндах ён пазбавіў жыцьця 18.000 гэрэтыкоў, ня лічучы яшчэ вялікшае лічбы пазабіваных яго жаўне́рамі ў бітвах, за малыя правіны дый проста дзеля ўласнае прые́мнасьці.

Наступнік Альбы, Гішпанец Рэквэзэнс, абяцаў, што бунтаўнікам будзе ўсё даравана, калі зракуцца сваіх вольнасьцяў і ве́ры. Але за што-ж тыя змагаліся? Дык і дале́й адбываліся крывавыя бітвы. Рэквэзэнс з сваймі дазнанымі ў бітвах Гішпанцамі перамагаў кн. Оранскага ў адкрытым полі; але грамадзяне паўстанскіх ме́стаў давалі яму такі адпор, што ён быў вельмі зьдзіўлены. „Перад маім прыбыцьцем, пісаў ён да караля, не разуме́ў я, скуль бунтаўнікі могуць узяць такія значныя флёты, тады як Вашая Каралеўская Міласьць ня можа сабраць ні аднаго. Відаць, людзі, якія змагаюцца за сваё жыцьцё, сваю ўласную хату і за сваю фальшывую ве́ру, адным словам, за сваю ўласную справу, здаволіваюцца толькі харчамі, а платы не патрабуюць“.

Найпрыгажэйшым прыкладам гэройства можна лічыць самаабарону ме́ста Ле́йдэна, якое было абложана вялізарнай сілаю Гішпанцаў. У абложаным ме́сьце панавала страшэнная бяда, тысячы паміралі з голаду і пошасьці, а Вільгэльм Оранскі ня ме́ў сухазе́мнага войска, каб даць помач. Тады голяндцы раскапалі грэблі, што баранілі нізкія берагі ў ваколіцах ме́ста ад марскіх хваляў. Але не́калькі тыдняў ве́цер дзьмуў у другі бок і стрымліваў мора. Урэшце кірунак ве́тру зьмяніўся, хвалі акеану зашуме́лі на палёх і сенажацях, а па іх прыплылі да ме́ста караблі ге́заў. У марскіх хвалях, ды ў бітве загінула 15.000 Гішпанцаў. Ме́ста Лейдэн было выратавана, а ў нагароду за сваю вытрываласьць атрымала унівэрсітэт, які зараз-жа быў адкрыты сярод вае́ннае завірухі.



У хуткім часе пасьля гэтага Рэквэзэнс памёр, а гішпанскія войскі, не дастаючы платы, збунтаваліся і зрабілі шмат злачынстваў у Антвэрпэне і іншых ме́стах, якіх павінны былі бараніць. Тады і паўднёвыя, найбольш каталіцкія провінцыі, абураная гэтым, далучыліся да паўстаньня. Надарэмна гэрой Лепанта, Дон-Хуан д' Аўстрыя, прабаваў замяніць сабою Рэквэзэнса; скора пасьля свайго прыезду ён памёр ад пошасьці. Хадзіла погаласна, што ён быў атручаны па загаду Піліпа II, які зайздраваў свайму брату; магчыма, што гэта і няпраўда, але ве́льмі добра характарызуе думку, якую ме́лі аб Піліпе ягоныя сучасьнікі.

**5. Унія ў Утрэхце** (1579). **Сьме́рць кн. Оранскага і ўпадак Антвэрпэна** (1584—1585). Наступнікам Дон-Хуана назначыў Піліп II свайго пляме́ньніка А л я к с а н д р а Ф а р н э з э, кн. Пармскага, сына Маргарыты. Гэта быў адначасна і знамяніты ваявода, і дыплёмат, спрытны і бяз сумле́ньня. Ён вельмі добра патрапіў скарыстаць з няпрыхільнасьці каталіцкага паўдня Нідэрляндаў да протэстанцкае паўночы і намовіў частку провінцыяў адлучыцца ад паўстаньня. Гэтым провінцыям ён суліў палітычныя вольнасьці, жадаючы ад іх толькі зьніштажэньня протэстанцтва.

Тады паўночныя штаты, па думцы кн. Оранскага, зьвязаліся між сабою яшчэ мацне́й. Прадстаўнікі паўночных провінцыяў, сабраўшыся ў Утрэхце, падпісалі Унію, значыць, зачэпна-адпорны саюз на ўсе́ часы дзеля барацьбы проці ўсякіх абмяжэньняў вольнасьці краю. У працягу двух гадоў Унія формальна адабрала ад Піліпа ўладу, абвяшчаючы, што ён яе́ страціў праз сваю тыранію. Гэтак заложаны былі асновы Рэспублікі Злучаных Нідэрляндаў (1579).

Піліп добра разуме́ў, што душою паўстаньня быў нязморавы Вільгэльм Оранскі, і дзеля таго назначыў нагароду за ягоную галаву—25 тысяч каронаў, ды йшчэ за гэты пачэсны ўчынак абяцаў даць шляхоцтва. Пяць замахаў не ўдаліся; за шостым разам забраўся да кн. Оранскага Бургундзец Жэрар, якога намовілі ягоныя спавядальнікі і Аляксандар Фарнэзэ, і застрэліў Вільгэльма з пісталету. Такім чынам нягодная прагавітасьць ды шалёны фанатызм прыгатавалі сьме́рць для чалаве́ка ў высокай ме́ры талерантнага. Спрыяючы кальвіністам упе́рад праз спогад, пасьля дзеля пераканаьня, Вільгэльм Оранскі ніколі не дабіваўся панаваньня гэтае сэкты і вымагаў ад сваіх кальвінскіх прыхіль-

нікаў, каб шанавалі перакананьні і каталікоў, і лютаран, і анабаптыстаў.

Для Нідэрляндцаў сьмерць кн. Оранскага была неўзваротнаю стратаю. Паўднёвыя мéсты, якія датуль вéрна трымаліся пры Уніі, цяпер адно па адным пераходзілі да Фарнэзэ. Урэшце здаўся і Антвэрпэн—пасьля гэткае знамянітае абароны, што роўнае ёй ня знае гісторыя. Францыя і Англія, да якіх зьвярнуліся паўстанцы, выслалі па троху войска, ды без карысьці: чужазéмныя ваяводы ігралі роль валадароў здабытага краю, а проці Гішпанцаў нічога не маглі зрабіць і толькі павялічавалі бязладзьдзе і нязгоду. Пілiп лічыў, што паўстаньне задушана, і ўсю сваю ўвагу зьвярнуў у іншы бок.

**6. Марыя Стюарт** († 1587). **Непераможная армада** (1558). З таго часу, як Альжбéта адмовілася выйсьці замуж за Пілiпа II, і ў Англіі ўмацавалася протэстанцтва, гэтак жорстка прасьлéдаванае ў гішпанскіх краёх,—паміж монархамі кіпéла глухая, але заядлая ўзаéмная нéнавісьць. Альжбéта саўсім адкрыта падтрымлівала Нідэрляндцаў грашыма і войскам. Не задумалася навет перад тым, каб зрабіць рыцарам адважнага корсара Францішка Драку, які даў пачатак цэламу раду англійскіх гэрояў мора, за тое, што аб'éхаў навакола сьвéту і, нападаючы на гішпанскія караблі, сабраў багатую здабычу. Пілiп-жа завязаў зносіны з яшчэ даволі чысьленымі англійскімі каталікамі, а таксама і з найбольш небясьпéчнаю нéпрыяцелькай Альжбéты, Марыяй Стюарт *). Гэтая апошняя дзеля свайго вялікага харaства і сілы духа ў нядолі, што яе спаткала, абудзіла спачуцьцё сярод сваіх сучасьнікаў і ў патомных пакалéньнях; на гэтае спачуцьцё бязслаўнае жыцьцё яé можа і не заслужыла. З роду яна была наступніцай шкотляндзкага (шкоцкага) трону, праз замужства з Францішкам II сталася каралéвай Францыі, а як найбліжэйшая сваячка і ядыная наступніца Марыі Тюдор у вачох каталіцкага сьвéту, які не прызнаваў правоў Альжбéты, дачкі няпрызнанае Рымам жонкі Гэнрыка VII, Ганны Боляйн, Марыя Стюарт дамагалася і тытулу каралéвы Англіі. Узгадаваная ў лёгкадумных абставінах францускага двара, яна пасьля раньняе сьмéрці свайго мужа пераéхала ў Шкотляндыю, заняла там трон, ды спадзявалася пры гішпанскай ці францускай помачы скінуць з трону Альжбéту.

Але ўжо з самага пачатку яе караляваньня выявілася нязгода паміж монархіняй і народам. Бо Шкоты толькі што прынялі кальвінізм, каралéва-ж была гарачай каталічкаю, дык і ня было паміж імі ўзаéмнае вéры. Няпрыхільнасьць

*) § 5. Рэформацыя ў Англіі Генэалёгічная табліца дому Тюдораў.



народу да каралéвы яшчэ павялічылася з прычыны яе лёгкамыснага жыцьця. Прыéхаўшы у Шкотляндыю, яна выйшла замуж за свайго сваяка, лёрда Дарнлéя, але ў хуткім ужо часе з ім павадзілася. Аднаго дня Дарнлéй у парыве гнéву на вачох у Марыі забіў давéранага яе сакрэтара, Італьянца Річчіо, патаёмнага пасланца папы. Памстуючы за каралéву, другі вяльможа, Ботвэль, забіў Дарнлéя. Крыху пазьнéй Марыя выйшла замуж за забойцу свайго мужа. Гэты ўчынак каралéвы абурыў увéсь народ. Марыю скінулі з пасаду і выбралі рэгéнцыю, якая гаспадарыла ад імéньня бязьлéтняга сына Марыі, Якуба, як будучага караля. Самую-ж Марыю навет пасадзілі ў вастрог, але яна адтуль уцякла ў Англію; дык-жа і ў Англіі Альжбéта загадала так сама пасадзіць яе ў вязьніцу.

Англійскія каталікі ўвéсь час рабілі змовы проці Альжбéты і ўмаўляліся з яе ворагамі заграніцай, каб зволніць Марыю і пасадзіць яé на англійскі трон. Протэстанцкую большасьць народу палохала самая думка аб гэтакай зьмéне ўлады, бо яшчэ саўсім сьвéжая была памяць аб каталічцы Марыі Тюдор. Альжбéта ненавідзела і баялася Марыі Стюарт. У канцы, пасьля даўгіх гадоў вастрожнага жыцьця, Марыя была пакарана сьмéрцяй, як здрадніца краю і ўчасьніца змовы на жыцьцё Альжбéты (1587).

Пілiп II гарэў помстай. Ужо з даўных часоў ён гатаваўся да высадкі з войскам у Англіі. Урэшце з Ліссабону выплыў флёт, якога яшчэ акеан ня бачыў. Назваў яго Пілiп II *Вялікай Армадай*, або Непераможнаю; было ў ім 130 лінéйных караблёў нязвычайнае велічыні з 3000 гарматаў, 10.000 матросаў і 20.000 выбраных жаўнéраў, з якімі разам éхаў таксама генэральны вікары інквізіцыі з 170 езуітамі. У Нідэрляндах Аляксандар Фарнэзэ прыгатаўляўся высадзіцца ў Англію з 30.000 жаўнéраў.

Альжбéта ня мéла ані войска, ані флёту, якія маглі-б ходацца з гішпанскімі; але матар'яльныя сілы замяніў запал і ахвярнасьць народу. Усё мужчынскае насялéньне было паклікана ў войска, а гандлёвыя караблі абéрнены ў ваéнныя. Пéршы раз Англійцы паказалі ўсяму сьвéту сваé здольнасьці да марскога дзéла. Тады, як іхнія натуральныя саюзьнікі, Голяндцы, пілнавалі князя Пармскага (Фарнэзэ), каб ён ня змог крануцца ў Англію, Англійцы адважна напалі на Гішпанцаў, як тыя ўяжджалі ў Канал. Пад кіраўніцтвам гэткіх правадыроў, як Драке, на малых, лёгкіх, рухавых і спрытных суднах, яны зрабілі гэткае бязладзьдзе і спусташэньне сярод нязграбных гішпанскіх асілкаў, што гішпанская каманда не магла й думаць аб тым, каб высадзіцца ў Англіі. Навет выбрацца з Каналу, каб вярнуцца ў Гішпанію сваёй дарогаю, аказалася немагчымым. Пастанавілі дзеля таго ва-

рочацца кружнаю дарогаю, каля шкотляндзкіх узьбярэжжаў; па дарозе, аднак, страшная бура зьніштожыла блізка ўвесь непераможны флёт, і толькі рэшткі яго вярнуліся ў Гішпанію. У рэзультаце гэтага паходу на Англію Піліп II меў такую страту: 72 вялікіх караблёў, сьмерць 20.000 людзей і выдатак поў міліярда франкаў.

**7. Голяндцы ў Індыі. Канец барацьбы за незалежнасьць** (1609). Нідэрляндцы гэтак былі рады з перамогі Англіі, як-бы гэта была іхняя ўласная перамога.

Праз некалькі гадоў памёр самы небясьпечны вораг Нідэрляндцаў, кн. Пармскі; ён здалеў выратаваць для Гішпаніі толькі паўднёвыя провінцыі Нідэрляндаў, якія ад таго часу стварылі асобную суцэльнасьць пад назовам Бэльгіі. Калі кн. Пармскаму не ўдалося споўніць усяго свайго заданьня, дык у гэтым шмат вінен Піліп II. Не ўважаючы на няўдачу з Англіяй, ён мяшаўся да хатніх войнаў у Францыі і два разы высылаў туды кн. Пармскага з найлепшым войскам з нідэрляндзкіх гарнізонаў. Голяндцы-ж у Морыцу Оранскім, сыне Вільгэльма, знайшлі йзноў выняткова здольнага ваяводу; ён вызваліў паўночныя провінцыі, ды навет адбіў ў Гішпанцаў некаторыя паўднёвыя мясцовасьці.

Але найбольш стратаў мела Гішпанія на моры. Па акеане бязупынна снавалі англійскія ды голяндзкія корсары і давялі коленіяльны гандаль Гішпаніі да поўнага ўпадку. Раз навет так здарылася, што англійска-голяндзкая флётыльля ўварвалася ў гішпанскі порт Кадыкс, затапіла гішпанскі флёт, які там тады знаходзіўся, ды зрабавала і спаліла гэнае багатае места.

Найцяжэйшая доля спаткала Португалію, якая супроць сваё волі была зьвязана з Гішпаніяй. Піліп II зачыніў доступ у Ліссабон для Голяндцаў, якія да таго часу вывозілі з гэтага порту індыйскія тавары. Тады Голяндцы надумаліся, што яны і самі могуць чарпаць з усходня-азіяцкае скарбніцы—без пасрэднікаў. Вялікія мораплавальнікі Барэнц і Гемскерк шукалі новае дарогі ў Індыю праз Паўночнае мора, уздоўж берагоў Скандынавіі ды Сыбіру, але дабраліся толькі да Шпіцбэргену. А Корнэль Гутман скіраваўся па дарозе, па якой звычайна плавалі Португальцы, і паказаў сваім родзічам дарогу ў Індыю (1595). У 1602 годзе аканчальна наладзілася вялікая голяндзка-індыйская компанія, якая засела на востр. Яве і адтуль адразу-ж распачала змаганьне з Португальцамі.

Ня споўніліся лятуценьні Піліпа II аб панаваньні над сьветам. Памёр ён, страціўшы ахвоту да жыцьця, змучаны хваробаю, пасьля 40-гадовага панаваньня, якое было для яго аднэй паласою няўдач і мучэньняў для ягоных падданых.



У часы Піліпа III, наступніка Піліпа II *), у вольных Нідэрляндцаў быў адабраны апошні, добра ўмацаваны надморскі пункт у Бэльгіі, Остэндэ. Удалося гэта Гішпанцам толькі пасьля 3-х гадовае аблогі; абарона Остэндэ была ня менш упартаю, вытрывалаю, чым абарона Лейдэну і Антвэрпэну. Аднак, вялізарныя страты, якія мела Гішпанія і злучаныя з ёю краі ад марское вайны, ды ўсё ўзрастаўшыя грашовыя клапоты прымусілі Піліпа III зрабіць замірэньне на 12 гадоў з зьненавіджанымі „бунтаўнікамі“, пры чым мусіў ён прызнаць іхнюю незалежнасьць (1609). Але, як гэты час прамінуў, вайна ізноў пачалася, і толькі на Вэстфальскім міры (1648) **) Гішпанія аканчальна і формальна прызнала незалежнасьць Злучаных Нідэрляндаў.

**8. Расцьвет Голяндыі.** Вызваленыя Нідэрлянды, называныя таксама Голяндыяй ад імя сваёй найдаўнейшае провінцыі, прадстаўлялі рэспубліканскі саюз штатаў (гаспадарстваў). Найвышэйшая ўлада належыла сходу прадстаўнікоў паасобных провінцыяў, г. зв. Гэнэральным Штатам (гл. вышэй). Аднак, Морыц Оранскі, як намесьнік 5-х провінцыяў і галоўны ваявода сіл сухаземных і марскіх, займаў выдатнае становішча. Гэты чалавек, хоць і пераняў таленты свайго бацькі, ды не пераняў ягоных цнотаў, і дзеля таго рэспубліканцы непакоіліся аб сваю вольнасьць. На чале іх стаяў адважны Ольдэнбарнэвэльт, які, побач з кн. Оранскім, найбольш папрацаваў дзеля здабыцьця незалеж-

---

*) **Дом Габсбургаў у пэрыодзе рэформацыі.**

Максіміліян I (жанаты з Марыяй Бургундзкай)
|
Піліп I (кароль Кастыліі; жанаты з Іоаннай, дачкой караля Арагоніі, Фэрдынанда, і каралевы Кастыліі, Ізабэльлі)
|
Кароль V (I) кароль гішпанскі (1516—1556) імпэратар (1519—1550)
|
Піліп II, наступнік краёў гішпанска-бургундзкіх
|
Ізабэльля. Піліп III
|
Піліп IV

Фэрдынанд, кароль Вэнгрыі і Чэхіі (ад 1526). Наступнік аўстрыяцкіх краёў. Імпэратар (1550—1564)
|
Максіміліян II. Рудольф II. Мацей. Альбэрт, муж Ізабэльлі Гішпанскай. — Фэрдынанд тырольскі — Кароль штырыйскі
|
Фэрдынанд II
|
Фэрдынанд III

**) § 9. Трыццацёхгадовая вайна.

насьці Голяндыі. Узьняліся партыйныя звадкі, загостраныя рэлігійнымі спрэчкамі. Арменіус, профэсар Лейдэнскага унівэрсітэту, выступіў супроць прэдэстынацыі. Скліканы ўмысна дзеля гэтага паміжнародны кальвінскі сабор разьвязаў справу ў духу Кальвіна і зганіў навуку Арменіуса, як гэрэтыцкую. Морыц, карыстаючыся з нéнавісьці народу да арменіянаў, дабіўся казьні старога Ольдэнбарнэвэльта за спогад гэрэзіі. Вялікага вучонага Гроціуса, прыяцеля і прыхільніка Ольдэнбарнэвэльта, прысудзілі на дажывотнюю вязьніцу, з якое яму, аднак, удалося ўцягы.

Гэтыя партыйныя звадкі паўтараліся ўвéсь час, аж пакуль ня скончыліся поўнай перамогаю кн. Оранскіх, якія, як спадчынныя намéсьнікі ўсіх провінцыяў, здабылі сабé блізка што монаршую ўладу.

Ня глéдзячы на гэтыя ўнутраныя звадкі, Голяндыя бязупынна йшла напéрад. У хуткім часе марская магутнасьць Португальцаў саўсім разьвéялася; месца Португаліі заняла Голяндыя. Чым была некалісь Гоа, тым цяпер стала Батавія. Голяндцы занялі край Лукі Добрае Надзéі ў Афрыцы, пасяліліся таксама ў Амэрыцы, дзе зрабілі пачатак вялікае мэтрополіі Новага Сьвéту, закладаючы Новы Амстэрдам, які цяпéр называецца Новым Ёркам (Нью-Ёрк). Яны-ж адсунулі Ганзу ад гандлёвых зносін з усходняй Эўропай, а Італьянцаў выперлі з Леванту; адным словам, ня было галіны гандлю і мораплаваньня, якой-бы яны не апанавалі.

У Амстэрдам, які зрабіўся наступнікам Вэнэцыі, Лісабону і Антвэрпэну, сьцякаліся багацьці ўсяго сьвéту, і праз увéсь XVII вéк рэспубліка над Зюдэрзээ была бязумоўна найважнéйшым гаспадарствам марскога гандлю на зямлі. Удзяржаньне такога становішча было галоўнаю мэтаю дзéйнасьці ўсіх дзяржаўных мужоў і законадаўцаў Голяндыі; гэта ад іх навучыліся монархі, што трэба рупіцца ня толькі аб ваéнную славу ды аб рэлігію сваіх падданых, але таксама аб асновы іхняга дабрабыту, аб гандаль, прамысловасьць і земляробства.

Побач з матар'яльным расцьвéтам ішоў і разумовы, якому шмат памагло тое, што Голяндыя, згодна з духам тварца яе незалéжнасьці, Вільгэльма Оранскага, давала прытулак усім вызнаньням і спосабам думаньня.

Калі скончылася арменіянская спрэчка, у Голяндыі настаў час агульнае і шырокае толеранцыі. Гэты край быў адзіным ува ўсéй Заходняй Эўропе, дзе кожная думка магла быць выказана ці вусна, ці пісьмом. У Голяндыі знаходзілі сабе прытулак усé прасьлéдаваныя ў іншых краёх байцы за ідэю, і адтуль разыходзіліся па сьвéце „забароненыя“ друкі на ўсіх мовах. Гэта там жыў Барух Сьпіноза († 1677), якога сям'я ўцякла з Португаліі ад грозная інквізіцыі, філёзоф-пантэіст, і пісаў няўмірушчыя свае творы, прызнаныя за



гэрэтыцкія ўсімі вызнаньнямі таго часу. У голяндзкіх унівэрсітэтах навучалі найлéпшыя профэсарскія сілы, а Лейдэнскі унівэрсітэт нéйкі час лічыўся самым слаўным у Эўропе.

Цьвіло і мастацтва, асабліва-ж малярства, у якім быў створаны асобны кірунак, называны голяндзкаю школаю; ён адзначаецца рэалізмам у прадстаўлéньні цéла людзéй, выбарам тэмаў для сябé з штодзéннага жыцьця і краявідамі.

Найвыдатнéйшымі мастакамі нідэрляндзкага малярства (як у вольнай рэспубліцы, так і ў гішпанскіх валаданьнях) былі: Рэмбрандт († 1664), Рубэнс († 1640), Ван-Дэйк († 1641), Руісдаль († 1682).

**9. Англія ў часы Альжбéты.** Зьніштажэньне вялікае Армады было зваротным пунктам у гісторыі Заходняе Эўропы. Разам з ёю згасла зорка Пірэнэйскага паўвостраву, а заясьнéла зорка паўночна-заходняе Эўропы. Расла і ўзмацоўвалася Англія, ды рабілася небясьпéчным конкурэнтам Голяндыі. Англія пачала ўжо высылаць караблі ў Усходнюю Індыю і залажыла Ўсходня-Індыйскую Компанію, якая пасялілася ў Азіі (1606), але спачатку, раўнуючы да голяндзкае, мéла невялікае значэньне. Ужо Вальтэр Рэлей, выдатны дзяржаўны дзéяч у часы Альжбéты, зварачаў увагу свайго грамадзянства на забытую Паўночную Амэрыку. У 1588 г. ён зрабіў пéршыя крокі дзеля колёнізацыі прастору, які сам назваў Віргінія (г. зн. дзявочы край) на чэсьць сваé каралéвы, якая асталася дзéўчынай. Апроч гэтага, у Англіі моцна разьвівалася горнае дзéла і прамысловасьць. Усюдых у часы Альжбéты пачалі зьяўляцца зародкі будучае марское і колёніяльнае магутнасьці Англіі, ды расцьвéту яé гандлю і прамысловасьці.

Альжбéта, на выгляд зьмéнная і капрысная, запраўды была вéльмі вытрывалаю, калі дабівалася сваіх мэтаў. Яна зайздросна пілнавала сваёй улады ды імкнулася да заўсёднага росту сваé магутнасьці; вéльмі спрытна ўмéла яна лічыцца з інтарэсамі краю, з грамадзкаю думкаю і сваёю ўласнаю популярнасьцяю. Вéльмі гаспадарная і сьціпная, яна ўмéла абхадзіцца без надзвычайных выдаткаў, аб якіх пастанаўляў парлямэнт; дзеля гэтага яна праз шмат гадоў ня склікала парлямэнту, а склікаўшы рашуча адкідала разгляд яé асабістых ды сямéйных спраў, а таксама і царкоўных пытаньняў. На упрашаваньні і прадстаўлéньні Палаты Грамадаў яна звычайна пад канéц уступала і дзеля гэтага мела вялікую популярнасьць. Ад змаганьняў на сухазéмлі яна трымалася здалёк, але ўмéла выкарыстываць для сваіх мэтаў пануючыя там адносіны.

**10. Упадак Гішпаніі ў часе апошніх Габсбургаў.** Яскравым контрастам да расцьвéту Голяндыі быў экономічны і політычны ўпадак Пірэнэйскага паўвостраву.

Вялізарнае награмаджаньне ў Эўропе дарагіх мэталяў, якія прывозіліся з Новага Сьвéту, выклікала з аднаго боку спадак цаны на золата і серабро, а з другога боку значнае падвышэньне яé на тавары. Гэты крызіс перад усім і найцяжэй зачапіў Пірэпэйскі паўвостраў, асабліва-ж Гішпанію.

Піліп II нéяк сказаў, што лéпей хацéў-бы панаваць над жабракамі, чым над гэрэтыкамі. Згодна з гэтым прынцыпам, сын яго Піліп III (1609) выдаліў з краю ўсіх Морыскаў, значыць, патомкаў тых Маўраў, якія нéкаліс, яшчэ ў часы Фэрдынанда і Ізабэльлі, пад грозьбаю мяча і вогнішча прынялі хрысьціянства. Цяпéр іх высялілі таму, што інквізіцыя падазравала іхнюю прававе́рнасьць, а спаліць адразу на вогнішчах міліён з лішкам людзéй было немагчыма. І вось міліён самае працавітае, стараннае люднасьці, якая толькі і ўтрымлівала, ня глéдзячы на цяжкія варункі, земляробства ў цьвітучым стане, быў змушаны назаўсёды пакінуць бацькаўшчыну.

Гэты факт толькі ясьнéй паказаў ненормальнасьць тых парадкаў, якія ўстанавіліся яшчэ за Піліпа II і Караля V, але ня былі відочны, бо блеск іхняе палітычнае сілы закрываў сабою расклад і экономічны ўпадак. Караля V падтрымлівалі экономічныя багацьці Нідэрляндаў. Піліп II ўжо толькі дакладаў да Нідэрляндаў—на усьмірэньне непакорнага іх насялéньня. Бязупынныя каштоўныя войны, інквізіцыя, ашуканствы і злоўжываньні ўрадоўцаў—усё гэта забірала вялізарныя сумы. Золата, наплываўшага з Новага Сьвéту, далёка не хапала на ўсé гэтыя выдаткі; да таго-ж, з прычыны павышэньня цэнаў і малое мясцовае продукцыі, золата толькі пабольшавала экономічны ўпадак насялéньня. Гаспадарственыя даўгі расьлі і дайшлі да цыфры, якое датуль нябывала. Урад ратаваўся тым, што накладаў усё больш і больш цяжкія падаткі. Пры ўсіх тагачасных варунках гэты спосаб толькі зьнеахвочаваў насялéньне да працы, ды навет рабіў яе немагчымаю.

З краю выяжджалі ня толькі Морыскі; прагавітасьць і бяда прымушалі людзéй або эміграваць за мора, або запісавацца ў войска. Край пусьцéў. Земляроб кідаў зямлю, а рамéсьнік—варштаты. Цэлыя мéсты рабіліся бязлюднымі, вёскі абярталіся ў руіны.

Португалія, Нэаполь і Сыцылія знаходзіліся можа яшчэ ў горшым палажэньні, а Бэльгія была хіба толькі сваім цéнем. Даволі сказаць, што Антвэрпэн у працягу паўвéку ня бачыў у сябе гандлёвых караблёў.

Нéйкі час яшчэ вялікая мінуўшчына адбівалася ў цьвітучай літэратуры і мастацтве. Лёпэ дэ Вэга, які, як кажуць, праз сваё жыцьцё напісаў 20 міліёнаў радкоў вéршаў, і Кальдэрон, князь кастыльскіх паэтаў, узбагацілі гішпанскую літэратуру і тэатр даўгім радам цэнных паэтычных драмаў. Маляры Вэляскéз і Мурыльё лічацца аднымі з найлéпшых у сваёй галіне мастацтва. Але інквізіцыя памалу здушыла і гэты духоўны расцьвéт; усё насялéньне гэтак угразла ў сонным гультайстве і нявуцтве, што проста трудна павéрыць. Каля 1700 г. ўва ўсёй Гішпаніі ня было эдукаванага доктара, але затое было там аж 9000 мужчынскіх манастыроў, добра абстаўленых і надзéленых,—жаноцкіх-жа манастыроў было яшчэ больш. Затое ўсякую працу, вымагаючую якое-небудзь вышэйшае эдукацыі і інтэлігенцыі, выпаўнялі чужазéмцы. Два апошнія Габсбургі: Піліп IV і Кароль II—з іх недалужнасьцяй і зводным, забабонным клерыкалізмам прадстаўляюць вéрнае адбіцьцё і сымболь упадку ўсяе монархіі. Пры іх Гішпанцы страцілі і сваю даўнéйшую ваяцкую славу.



У 1640 г. Португалія скінула з сябé ненавіснае ярмо Гішпанцаў і абвéсьціла сябé незалéжным гаспадарствам пад уладаю дому Браганца. А Францыя бязкарна захапляла адну па аднэй гішпанскія прыгранічныя провінцыі, і толькі зайздрасьць іншых гаспадарстваў стрымала яé ад далéйшых захватаў.

## § 8. Гугеноцкія войны і Гэнрык IV францускі *).

1. **Францішк I** (1515—1547) і **Гэнрык II** (1547—1559). Наступнік Людвіка XII, Францішк I, што здабыў Мілян, вый-

---

***) Дом Валюа ў пэрыодзе рэформацыі.**

Францішк I (патомак Піліпа V францускага).
|
Гэнрык II
Францішк II — Кароль IX — Гэнрык III

**Гізы**

Кляўдуш дэ Гіз
- 1. Францішк
  - 1. Гэнрык
  - 2. Кароль дэ Мэсн
  - 3. Людвік, кардынал
- 2. Марыя замужам за Якубам V, Шкотляндзкім
  - Марыя Стюарт
- 3. Кароль кардынал Лётарынскі

**Бурбоны**

Кароль Бурбон, кн. Вандомскі (патомак Робэрта, другога сына Людвіка IX, францускага)
- Антон кароль Наварскі
  - Гэнрык IV, кароль Францускі
    - Людвік XIII
- Кароль кардынал
- Людвік, кн. Кондэ
  - Гэнрык, кн. Кондэ

граў бітву пад Марыньяно і папаў у няволю пад Павіяй, быў прыхільны да рыцарскіх і авантурных дзеяньняў і прагавіты на ваенную славу. У сваім гаспадарстве ён гаспадарыў хоць самаўладна, але з розумам, ды, паміж іншым, апекаваўся навукаю і мастацтвам. Прыхільнікаў Лютара і Кальвіна прасьледаваў не з прычыны свайго рэлігійнага фанатызму, але затым, што бачыў у іх небясьпечнасьць для абсолютнае ўлады *). Сын і наступнік Францішка I, Гэнрык II, быў чалавек распусны і ляны. Аднак, яму ўдалося забраць у Немцаў біскупствы Мэц, Туль і Вэрдэн, а ў Англіі—Калé **).

**2. Васійская крывавая разьня** (1562). Рэлігійныя войны адначасна з Нідэрляндамі прыгняталі і Францыю. Францішск I і Гэнрык II дзеля палітычных мэтаў падтрымлівалі рэформацыю ў Нямеччыне і ў той самы час змагаліся з ёю ў сябе. Ня глéдзячы на апошняе, у тым часе, калі Гэнрык II (у 1559 г.) згінуў на турніры, у Францыі, асабліва на паўдні—адвечнай бацькаўшчыне гэрэзіі, істнавала шмат кальвінскіх грамадаў ***). Шмат хто з шляхты, у тым ліку самыя магутныя і паважаныя асобы, як адмірал Коліньі, ды навет два браты Бурбоны (з галіны каралеўскага дому, якая, пасьля Валюа, мéла найбольш правоў на францускую карону) — А н т у а н, тытулярны к а р о л ь Н а в а р с к і, і к н. К о н д э. У сувязі з прыдворнымі інтрыгамі і спрэчкамі стварылася палітычная партыя гугенотаў; на чалé гэтае партыі стануў энэргічны і кéмны кн. Кондэ; рэлігійныя перакананьні гэрэтыцкае шляхты падмацоўваліся і тут, мусіць, як і ў іншых прыпадках, апэтытам на духоўныя маетнасьці.

Сын і наступнік Гэнрыка II, Ф р а н ц і ш к II, быў слабым валадаром і мала разьвітым чалавéкам. Ён саўсім знаходзіўся пад уплывамі свае прыгожае жонкі Марыі Стюарт, якая ізноў-жа сама знаходзілася пад выключнымі ўплывамі сваіх дзядзькоў Ф р а н ц і ш к а і К а р а л я дэ-Гіз (de Guise). Гэта былі князі з малодшае лініі Лётарынскага дому, які дабіўся вялікага значэньня ў Францыі. Князь Францішк, які адабраў ад Караля V Мэц, а ад Марыі Англійскае — Калé, быў услаўленым ваéнным гэроем свайго народу і часу, ягоны-ж брат, Кароль, як рэймскі арцыбіскуп і кардынал, быў галавою францускага кліру. Абодвы адзначаліся, апрача прагавітасьці да ўлады і ўплываў, таксама і ненавісьцяй да гэрэтыкоў.

Кондэ надумаўся пры помачы гугенотаў ды нездаволенае з істнуючых парадкаў шляхты скінуць Гізаў. Дзеля

*) § 4. Рэформацыя ў Нямéччыне (Войны Караля V з Францішкам I).
**) § 3. (Змова князёў) і § 5 (Рэформацыя ў Англіі; Марыя Тюдор).
***) § 5. Рэформацыя ў Швайцарыі.



гэтага мéліся захапіць караля і дабіцца ад яго, каб замéста Гізаў паклікаў да рады сваякоў Бурбонаў і сабраў Генэральныя Штаты. Гэтая змова не ўдалася. Гізы сабралі Генэральныя Штаты, маючы на мэце засудзіць і сказьніць Кондэ ды зьніштожыць усіх наагул гугенотаў. Аднак, гэтаму перашкодзіла сьмéрць Францішка II, пасьля якога быў наступнікам 11-гадовы брат яго, Кароль IX. Матка апошняга, Кацярына Мэдычы, якая гаспадарыла замéста свайго бязьлéтняга сына, ня спрыяючы Гізам, адразу-ж зыйшлася з бурбонска-гугеноцкаю партыяй. Прасьлéдаваньні гугенотаў былі спынены, і каралéўскім эдыктам ім была дадзена свабода вызнаньня.

Але Гізы не зьмянілі сваіх плянаў і не хацéлі думаць аб выпаўнéньні каралéўскага эдыкту. Князь Францішк, у часе падарожы праз Шампань, натрапіўшы ў мястэчку В а с і (Vassy) на спакойны збор гугенотаў, якія адпраўлялі набажэнства ў гумнé, напаў на іх са збройнаю дружынаю і зрабіў там страшную разьню.

Пасьля гэтага ён захапіў маладога караля, прымусіў каралéву - матку перакінуцца на яго бок і распачаў проці гугенотаў вайну, якая 36 гадоў руйнавала Францыю. Францішк дэ-Гіз, праўда, быў забіты рукою потаёмнага забойцы— гугенота, але ня згінуў ягоны род (ён пакінуў трох сыноў). Род Гізаў і ня думаў уступаць гэрэтыком.

У адкрытым полі гугеноты часта цярпелі няўдачы, затое мéсты бараніліся па гэройску і ўдачна. У адважным К о л і н ь і гугеноты знайшлі правадыра, якога, таксама як і кн. Оранскага, ніякая няўдача не магла пазбавіць мужнасьці духа. Сярод правадыроў гугенотаў быў і Кондэ. Пасьля васьмілéтняе з перарывамі барацьбы каралéва была прымушана зрабіць мір з гугенотамі і вярнула ім свабоду вызнаньня. Аднак, з прычыны таго, што яна ўжо нéкалькі разоў ламала сваё слова, цяпер яна была прымушана дазволіць гугенотам умацаваць для сябé чатыры крэпасьці, у тэй лічбе Ля Рошэль, наймацнéйшую прыморскую крэпасьць.

**3. Ноч сьв. Бартламéя.** (23—24 жніўня 1572 г.). Каб нéчым адзначыць згоду партыяў, заручылі маладога Гэнрыка дэ Бурбон, Наварскага караля, кальвініста, з Маргарытаю, сястрою Караля IX. На вясéльныя урачыстасьці прыехала многа прадстаўнікоў протэстанцкае шляхты ў дружыне Бурбонаў (караля Наварскага і кн. Кондэ). Упéрад яшчэ запрошаны да каралéўскага двара, прабываў там Коліньі, якому выражалі вялікі спогад. Стары адмірал ужо пачынаў аказваць вялікі ўплыў на маладога караля. Ён намаўляў караля, каб той выслаў войскі ў Нідэрлянды проці Піліпа II на по-

мач паўстанцам, і выясьняў яму вялікія карысьці, якія магла-б даць Францыі такая інтэрвэнцыя. Кацярына спачатку, вадзючыся з Гізамі, рада была новым уплывам; аднак, пасьля пачала баяцца, што і сама страціць уплывы. Праз некалькі дзён пасьля вясельля Кацярына, разам з сынам, будучым Гэнрыкам III, зрабілі з Гэнрыкам Гізам, сынам забітага Францішка, змову проці Коліны. Калі стрэл наёмнага забойцы ў адмірала папаў міма, трое хаўрусьнікаў уплянавалі масовае зьніштажэньне ўсіх гугенотаў. Пры гэтым яны спадзяваліся на помач шчыра каталіцкага парыжскага мяшчанства, якое з ненавісьцяй глядзела на гасьціну ў сваім родным месьце гэтулькіх гэрэтыкоў. Пасьля дзьвёхгадзіннага супраціўленьня малады кароль уступіў матцы і даў ей згоду на гэтую страшную справу.

У дзень сьв. Бартлямея, у 3 гадз. раніцы мястовыя званы далі знак пачынаць разьню. Гэнрык Гіз і брат караля ўварваліся ў кватэру Коліны і загадалі жаўнерам забіць адмірала. Караля Наварскага і маладога кн. Кондэ выратавала толькі іх заява, што прыймуць каталіцтва; але ўся іхняя дружына была перабіта. На вуліцах шалела раз‘юшаная чэрнь разам з распушчаным жаўнерствам; каля 2000 трупаў асталося на месцы. Сьледам за сталіцаю гэткія-ж пагромы пачалі рабіцца і на правінцыі; усюдых ракою лілася гугеноцкая кроў; аблічаюць, што тады згінула ўсяго каля 30.000 ахвяр.

Адным вялікім крыкам абураньня і жалю адгукнулася ўся Эўропа на францускія падзеі. Застагнаў ад жалю пратэстанцкі сьвет. Нават Альба зганіў гэтую разьню, і толькі папа адправіў урачыстае падзячнае набажэнства ды загадаў выбіць на памятку мэдаль з надпісам: Hugenotorum strages (разьня гугенотаў). А Пілiп II, калі да яго дайшла вестка аб Бартлямеяўскай Ночы, засьмяяўся; гэта, як кажуць, быў адзіны сьмех за ўсё яго жыцьцё.

Аднак, гугеноты яшчэ ня былі саўсім зьніштожаны. Ля Рошэль аказалася нездабытаю крэпасьцю. Цэлы рад нападаў і штурмаў на яе астаўся безрэзультатным. У Гэнрыку Наварскім, які ізноў вярнуўся да свайго вызнаньня, гугеноты знайшлі годнага наступніка Коліны. Пасьля даўгое вайны Гэнрык III (элекцыйны польскі кароль), які прыняў уладу ад вар‘ятаватага свайго брата Караля IX, мусіў урэшце падпісаць з гугенотамі мір, паводле якога ім былі прызнаны даўнейшыя правы, гэтулькі разоў ламаньня.

**4. Вайна трох Гэнрыкаў.** Даўгі час трываў спакой, калі памёр апошні брат Гэнрыка III. Быў гэта ўжо трэці сын Кацярыны, які памёр, не пакідаючы па сабе патомства. Дзеля таго, што і сам Гэнрык III быў бязьдзетны, пагражаў



канец роду Валюа. Гэнрык Наварскі, як найбліжэйшы сваяк Валюа, меў саўсім пэўныя правы на каралеўскі пасад. Але даволі было аднае думкі, што на францускім пасадзе можа засесьці гэрэтык, каб узбурыць прававерных каталікоў. Гэнрык Гіз, гэрой Бартлямеяўскае ночы, разам з сваймі братамі і шмат якімі вяльможамі зрабілі з Пілiпам II, у замку Жуанвіль, хаўрус дзеля таго, каб перашкодзіць наступніцтву Гэнрыка Наварскага і зьніштожыць гэрэзію. Да гэтае Лігі пачалі яны запісаваць кожнага прававернага каталіка; далучылася да яе таксама шмат шляхты і шмат местаў на чале з Парыжам, а кароль па намаганьням Лігі згадзіўся ізноў распачаць барацьбу з гугенотамі. Такім чынам закіпела „вайна трох Гэнрыкаў“ (1585). Гіз, правадыр Лігі, ужо іграў ролю валадара Францыі і трымаў караля як бы ў няволі.

Гэты стан рэчаў скончыўся са сьмерцяю Гіза ад рукі патаемнага забойцы, падасланага каралём. Моцна ўзлаваная Ліга, на чале якое стануў брат забітага, кн. Мэйен, пачала вайну з самым каралём, якому цяпер нічога больш не аставалася, як зрабіць саюз з каралём Наварскім. Разам з сваім новым хаўрусьнікам абляглі яны Парыж, але хутка кароль быў забіты манахам Клеманам (1589); паміраючы, Гэнрык III прызнаў караля Наварскага сваім законным наступнікам.

**5. Гэнрык IV** (1589—1610). **Нантскі эдыкт**. Пачынаючы Гэнрыкам IV, францускі каралеўскі пасад займае дынастыя Бурбонаў.

Спачатку новы кароль меў мала што больш, апрача самога тытулу. Значная большасьць народу і слухаць не хацела аб прызнаньні яго каралём. І хаця ён быў вельмі добрым ваяводаю і разьбіў Лігу пад Іўры, ў Нармандыі, але яму не хапала сілы, каб усьмірыць месты. Асабліва заядлы адпор даваў яму Парыж; два разы, калі ён, здавалася, ужо быў блізкі да спаўненьня сваё мэты, прыходзіў з Нідэрляндаў, па загаду Пілiпа II, Аляксандар Фарнэзэ і, маючы большае ды лепшае войска, перамагаў яго*). А ліга ўжо манілася саўсім аддаць Францыю Пілiпу II, толькі йшчэ не згаварылася аб спосабе, як гэта зрабіць. Тады Гэнрык IV, згаджаючыся з просьбамі патрыётычна-настроеных каталікоў і протэстантаў, пастанавіў публічна прыняць каталіцтва і, ламаючы гэтак прашкоду, якая адгараджала яго ад народу, выратаваць край (1593). Пры гэтым ён быццам-то сказаў: „Парыж варт імшы“.

Гэнрык пайшоў на імшу; і вось, як бы на знак чарадзейнае палачкі, распадаецца Ліга. Адно па адным паддаюцца

*) § 7.

Гэнрыку IV мéсты, пераходзяць на яго бок ваяводы, а ён сам, дзякуючы сваёй паблажлівасьці, памагаў кожнаму зрабіць гэты крок. Парыж таксама адчыніў яму свае брамы; пры радасных вокліках народу, які йшчэ так нядаўна яго праклінаў, прыняў Гэнрык IV пад сваю ўладу Парыж. Дзеля гэтага ўсе пляны Піліпа паблуталіся, і пры падпісаньні міру ў Вэрвэн ён быў прымушаны прызнаць Гэнрыка каралём Францыі і аддаць яму мясцовасьці, занятыя Гішпанцамі (1598).

У гэтым-жа годзе счэзьлі апошнія сьляды Лігі, і Гэнрык IV закончыў пэрыод рэлігійных войнаў вядомым Нантскім Эдыктам (1598). Гэтым эдыктам ён даў сваім быўшым аднавéрцам роўныя грамадзянскія правы з каталікамі, дазволіў ім вольна адпраўляць набажэнствы,— праўда, з некаторымі дробнымі агранічэньнямі, якія, як ён лічыў, трэба было ўвéсьці дзеля ўсё яшчэ сільнае нéнавісьці паміж каталікамі і протэстантамі. Дый такі эдыкт сустрэўся з вялікім адпорам і няпрыхільнасьцю, але кароль усё-ж паставіў на сваім. Апрача таго, ён мусіў пакінуць гугенотам нéкалькі крэпасьцяў на ўсялякі прыпадак.

Зрабіўшы гэта, Гэнрык IV шчыра ўзяўся за залéчаваньне ранаў, зробленых краю хатнімі войнамі. На сваё шчасьце, знайшоў ён сабе разумнага супрацаўніка ў асобе кн. Сюльлі, гугенота. Кн. Сюльлі здалéў упарадкаваць разруханую грашавую гаспадарку Францыі сваёю ашчаднасьцю, прычым адначасна зьмяншаў і цяжар падаткаў для народу. Абодвы ўсю сваю ўвагу зварачалі на падняцьце крыніцаў народнага дабрабыту. Пад той час, як Сюльлі больш увагі зварачаў на гаспадарку і гадоўлю скаціны, якія называў сярэбранымі капальнямі для гаспадарства, Гэнрык IV стараўся падняць прамысловасьць, цягнучы да сябе чужазéмных працаўнікоў і даючы ўсялякія прывілéі прамысловай працы. Дзякуючы галоўным чынам яму, Францыя завяла гадоўлю шаўковых чарвякоў і выраб шоўку. Дзеля падтрыманьня гандлю Сюльлі правёў гэткую густую сецьдарог, якое нідзé ня было ў Эўропе ад рымскіх часоў, пакапаў каналы, зрабіў рэкі сплаўнымі, будаваў масты і гасьцінцы. Мéў ён яшчэ важны плян ажывіць і зрабіць даступным мораплаўства. Па яго думцы французскі шляхціц Шамплéн залажыў колёнію Канаду, абʼяжджаючы раку сьв. Лаўрэна (1608), ды закладаючы мéсты Квэбэк і Монрэаль.

Хаця і ня споўнілася анэкдотычнае пажаданьне Гэнрыка IV, каб кожны селянін што-нядзéлю мéў курыцу ў гаршчку, але народ памятаў ягоныя добрыя намéры і да гэтага часу славіць яго ў пéсьнях, легéндах і анэкдотычных апóвесьцях, што пачынаюцца славамі:

„C'était jadis du temps du bon Henri...“



Дзякуючы гэтаму, Францыя гэтак хутка і высака паднялася з экономічнага боку, што яé кароль мог ужо ўдачна выступаць і ў сусьвéтнай палітыцы. Усімі сіламі стараўся Гэнрык IV аслабіць Аўстрыю, якую лічыў адвéчным ворагам Францыі. Мéўся ён даць помач нямéцкім протэстантам, якім пагражаў імпэратар, і адначасна напасьці на Габсбургаў у Італіі і Гішпаніі.

Усё ўжо было гатова, каб распачаць гэтае вялікае дзéла, калі Гэнрык IV паў ад рукі забойцы, фанатычнага клéрыка Равайяка. Рука гэтага шалёнага перасéкла ніць жыцьця адважнага, разумнага і добрага валадара. Перадчасная яго сьмéрць была вялікаю стратаю для Французаў, дык павінна была таксама зрабіць уплыў і на падзéі ў Эўропе.

## § 9. Трыдцацілéтняя вайна.

**1. Пролёг** (1607 — 1617). Ад часу аўгсбурскага міру Нямéччына збольшага жыла спакойна, бо нямéцкія Габсбургі доўгі час былі шмат больш толерантнымі, чым іхнія сваякі ў Гішпаніі. Брат Караля V, Фэрдынанд, навучаны сумным дасьвéдчаньнем, стаўся больш лагодным і прыхільным да згоды, а ягоны сын Максіміліян II (1564—1576) не працівіўся таму, што навет у яго спадчанных краёх запанавала протэстанцтва, блізка саўсім выціснуўшы старую вéру. Максіміліян быў чалавéкам падобнага-ж пакрою, як Гэнрык IV, і калі ён не перайшоў адкрыта на протэстанцкі бок, дык у гэтым вінаваты найбольш агідныя сваркі паміж прадстаўнікамі протэстанцтва. Тож-бо ў лютаранскай Саксоніі „збаламучаных кальвінскім чартом“ садзілі ў васторгі, бралі на мукі, ды навет казьнілі.

Іначай дзéялася пры сыне Максіміліяна II, Рудольфе II. Узгадаваны пры гішпанскім двары, быў ён пад уплывамі езуітаў і дзеля гэтага адносіўся варожа да протэстанцтва ня толькі ў сваіх спадчынных краёх, але і ў Імпэрыі. Але быў ён монархам няўдалым, і яго няпрыхільнасьць для протэстанцтва была-б саўсім ня страшнаю, калі-б маладому князю Баварскаму, Максіміліяну I, узгадаванаму на гарачага каталіка і рваўшамуся да дзéла, не захацéлася іграць у Нямéччыне таé самае ролі, як Гізы ў Францыі. *)

У лютаранскім мéсьце Донаўвэрт у 1607 г. здарыліся непарадкі з таé прычыны, што быццам протэстанты напалі на каталіцкую процэсію.

Карыстаючыся гэтым, кн. Максіміліян ад імéньня імпэратара заняў войскам гэтае мéста, затрымаў яго ў сваім

*) § 8.

валаданьні быццам дзеля сплаты яму ваенных коштаў і пачаў гостра прасьледаваць рэлігію і грамадзянскія вольнасьці.

Гэты гвалт, зроблены над вольным эвангеліцкім местам, збудзіў протэстантаў з дрымоты, на якую дазваляла ўперад пачуцьцё поўнае бясьпечнасьці.

За абарону ўзялася пакуль што толькі частка протэстантаў, а ўласьціва паўднёвыя, больш схіляючыяся да рэформаванае веры, тады, як чыста лютаранскія паўночныя протэстанты, варожа настроеныя да паўднёвых, трымаліся яшчэ збоку. Паўднёва-нямецкія протэстанцкія месты і князі на зьездзе ў Ангаўзэн зрабілі протэстанцкі саюз або Унію дзеля супольнае абароны пад кіраўніцтвам электара Палятынату. Душою гэтага саюзу быў галоўны райчы кн. Палятынату, кн. Ангальцкі.

Гэны гарачы протэстант абаронную дзейнасьць хутка зьмяніў на зачэпную, зьвязаўшыся з Нідэрляндамі і Гэнрыкам IV. А рабілася ўсё гэта якраз у той час, калі першы Бурбон прыгатаўляўся да бою з Габсбургамі за гэгемонію ў Заходняй Эўропе*), а каталіцтву ў Нямеччыне, асабліва духоўным князём, пагражала паважная небясьпека. Падбураныя Максіміліянам, кн. Баварскім, духоўныя князі цераз год пасьля Уніі (1609) злучыліся з ім у саюз, называны каталіцкаю Лігаю, якая адразу-ж увайшла ў зносіны з гішпанскім урадам. Імпэратар і Габсбургскі дом не далучыліся да Лігі, таксама як чыстыя лютаране і саксонскі курфюрст не далучыліся да Уніі. Ужо тады чуць ня выбухнула рэлігійная вайна ў Нямеччыне. Неспадзяваная сьмерць Гэнрыка IV адцягнула яе на нейкі час.

Крыху пазьней спынілася прасьледаваньне протэстантаў у Аўстрыі з прычыны сямейнае спрэчкі ў дому Габсбургаў. Сваякі Рудольфа II стараліся адабраць у яго ўладу, як у няпрытомнага, і перадаць ягонаму брату, амбітнаму Мацею. З гэтае прычыны пачалася звадка між братамі, з якое скарысталі протэстанты, дабіваючыся ад абодвух свабоды вызнаньня. Рудольф II мусіў даць Чэхам рэлігійную волю, выдаючы г. зв. маестатычны ліст; гэты ліст разам з усімі грамадзянскімі вольнасьцямі зацьвердзіў Мацей, як толькі яму ўдалося выдаліць з краю брата. Аднак, пачуўшы сябе, пасьля сьмерці Рудольфа II (1612), безсупярэчным валадаром кароны і атрымаўшы тытул імпэратара, ён стараўся ўсякімі выкрутамі скасаваць ці хоць аслабіць імпэратарскі ліст, каб зьнішчыць у краю протэстанцтва.

Пачалі зачыняць цэрквы, пабудаваныя протэстантамі; у протэстанцкіх вёсках садзілі каталіцкіх духоўнікаў; усе-ж скаргі ў Вене адкідаліся.

*) § 8.



**2. Чэскае паўстаньне** (1618—1620). Мацей шчыра падтрымліваў каталікоў і ў іншых аўстрыяцкіх краёх. Станы ўсіх аўстрыяцкіх краёў імкнуліся да больш цеснага злучэньня ў адну цэласьць; калі-ж імпэратар на гэта не згадзіўся, яны пачалі знасіцца з протэстанцкаю Уніяй. Мацей быў ужо стары і бязьдзетны; дзеля гэтага ў сям'і пастанавілі старацца, каб ужо пры яго жыцьці наступнікам для Чэхіі і Вэнгрыі быў прызнаны малады кн. Фэрдынанд, з Штырыйскае лініі Габсбургаў*). Быў-жа гэта, як і сябра ягоных маладых гадоў, Максіміліян Баварскі, гадунец і фанатычны прыхільнік езуітаў. Некалісь, у часе багамольнае падарожы, ён абяцаўся, што ў сваіх спадчынных краёх згняце ўсякую гэрэзію, хоць бы іх для гэтага прышлося абярнуць у пустыню. Ён ужо зрабіў пачатак выпаўненьня свайго пляну ў Штырыі, грунтоўна цярэблючы там протэстанцтва пры дапамозе капуцынаў і езуітаў. Ведама, такі кандыдат на карону ня вельмі падабаўся ў Чэхіі ды Аўстрыі; але як ён пацьвердзіў маестатычны ліст, дык яго і прызналі каралём чэскім.

Ледзь толькі Фэрдынанд надзеў на галаву сваю чэскую карону, як распачаў прасьледаваньні горшыя, чым калі бывала. Калі пражскі арцыбіскуп без усялякае прычыны загадаў разбурыць адну протэстанцкую царкву, а Мацей на скаргі протэстантаў адказаў пагрозамі, тады правадыры чэскае шляхты з гр. Турнам на чале скіраваліся конна ў Прагу, ўварваліся на замак і тамака двох найбольш ненавісных намесьнікаў, Марцініца і Славату, разам з іхнімі пісарамі выкінулі праз вакно ў глыбокі замковы роў (на 60 стоп). У хуткім часе ўвесь край быў абхоплены агнём паўстаньня.

Калі пасьля Мацея, які ў тым часе памёр, выбралі ў Франкфурце імпэратарам Фэрдынанда II, чэскі сойм абвесьціў, што скідае яго з свайго каралеўскага пасаду, і выбраў за караля Фрыдрыка V, электара Палятынату. Фэрдынанд апынуўся ў трудным палажэньні; усюдых у ягоных краёх кіпела паўстаньне, а грошай, каб выставіць адпаведнае войска, ён ня меў.

Тады Максіміліян, кн. Баварскі, запрапанаваў яму помач Лігі, якая мела добра ўзброенае і вымуштраванае войска і слаўнага ваяводу, бэльгійца Тільлі, вучня кн. Фарнэзэ. Унія-ж Фрыдрыку V, які прыняў чэскую карону, помачы не дала, а найдужэйшы з протэстанцкіх князёў, саксонскі курфюрст, праз ненавісьць да кальвініста-палятына, прылучыўся да імпэратара.

У генэральнай бітве пад Белай Гарою (каля Прагі) (1620) паўстанцы былі саўсім разьбіты. Фрыдрык V, чалавек

*) § 7. Генэалёгічная табліца Габсбургаў у часе рэформацыі.

з ня надта бліскучымі здольнасьцямі і слабой энэргіяй, замéста таго, каб бараніцца ў умацаванай Празе, уцёк у Галяндыю. Чэхі, астаўшыся без галавы, паддаліся. Тады пачаўся страшны суд. Сказьнілі 27 правадыроў; многа шляхты і мяшчанства конфіскацыяй іх маéтнасьцей былі абéрнуты ў жабракаў; вольнасьці краю зьніштожаны. Фэрдынанд II уласнымі рукамі падзёр маестатычны ліст. Протэстанцкіх прапавéднікаў павыганялі з краю, а на іх мéсца цэлымі масамі наплывалі езуіты і іншыя манахі; там, дзе намова апошніх не памагала, наварачаньне на каталіцтва даручалася бандам жаўнéраў, якіх пасылалі на пастой у протэстанцкія хаты. Такім чынам каталіцкая царква дабілася трыумфу: звароту бацькаўшчыны Гуса на сваё ўлоньне.

Гэтак сама сталося і ў іншых аўстрыяцкіх краёх; толькі ў Вэнгрыі протэстанцтва ня было саўсім зьніштожана.

**3. Вайна ў Палятынаце.** (1621—1623). Чэскае паўстаньне было толькі пачаткам пажару, які ў хуткім часе абняў усю Нямéччыну; прычынаю яго была помста Фэрдынанда і амбіцыя Максіміліяна. Цяпер трэба было адабраць ад „зімовага караля“ (Фрыдрык V быў каралём толькі адну зіму) яго спадчынны край—Палятынат, бо імпэратар, у аддзяку за прыслугі, абяцаў свайму прыяцелю Максіміліяну становішча элéктара Палятынату. На Фрыдрыка V была наложана баніцыя; протэстанцкая Унія, замéста таго, каб бараніць свайго хаўрусьніка, спалохалася войскаў Лігі і саўсім развалілася. Ніжні, надрэйнскі Палятынат часткамі займалі гішпанскія войскі, бо Ліга была зрабіла хаўрус з Гішпаніяй. У сумéжным з Чэхіяй Палятынаце вёў вайну гр. Мансфэльд, ваявода, які быў на службе ў чэскіх станаў.

Гр. Мансфэльд стаўся прыкладам партызана часоў трыдцацілéтняе вайны. Тады вайсковая справа ўсюдых была рамяслом. Каму былі патрэбны жаўнéры, той, як цяпéр наймаюць работнікаў на жніво ці на будоўлю дамоў або дарог, наймаў іх дзеля вайны, умаўляючыся з прадпрыéмцам—правадыром, які сам, або праз сваіх ротмістраў вербаваў жаўнéраў і толькі тады атрымліваў умоўленую для іх плату, калі прыводзіў гатовае ўжо войска. Мансфэльд, якому чэскія станы не плацілі, бо ня мéлі чым плаціць, пéршы паказаў, што можна утрымаць войска і бяз платы, карыстаючыся рэквізіцыямі і рабункамі. Гэты спосаб пасьля знайшоў шмат насьледавальнікаў. Ужо ў тым самым часе і ў тым самым Палятынаце гэтак рабілі нéкалькі дробных князёў (маркграф Бадэнскі, Крыштын Бруншвіцкі). Ваявода Лігі, Тільлі, усіх іх пачарзе разьбіў і, разам з Гішпанцамі, заняў надрэйнскі Палятынат (1623). І вось над зруйнаваным вайною краем паднялася заслона для трагікомэдыі, якую называюць прымусовым наварачаньнем.



**4. Ніжнесаксонская вайна. Валенштэйн і ягоная армія.** Пад ударамі супраціўнікаў падала протэстанцтва ў Паўднёвай Нямéччыне; зьмéны-ж, якія былі зроблены паміж элéктарамі, давалі поўную перавагу каталіком і ў элéктарскай колéгіі. Аднавіўся саюз абéдзьвюх лініяў Габсбургаў, а гішпанская ўлада над вéрхнім Рэйнам адразу паднялася.

Тільлі гнаў Мансфэльда і кн. Брунсьвіцкага аж да Вэстфаліі. Але замéста таго, каб, прагнаўшы іх, самому пачаць адступлéньне назад, ён пачаў адбіраць цэрквы ў протэстантаў, садзіць тамака езуітаў і г. д.

Тады князі і мéсты Ніжняе Саксоніі (гэтак называлі стары саксонскі край паміж Вэзэрам і Эльбаю), пад кіраўніцтвам Крыштына IV, князя Гольштынскага і караля Даніі, пачалі бараніцца. Адначасна выступілі з Голяндыі і Мансфэльд з кн. Брунсьвіцкім на чалé войска, толькі што навербаванага за голяндзкія, англійскія і францускія грошы. Ліга не магла зраўняцца сілаю з гэткім саюзам, а імпэратар, чалавéк досіць лёгкадумны, як і заўсёды, гатоўкі ня мéў, дык і войска сабраць ня мог.

У гэтую крытычную мінуту вывеў яго з клопату чэскі шляхціц Альбрэхт Вальдштэйн, называны звычайна Валенштэйнам, які даў імпэратару армію, навербаваную спосабам Мансфэльда. Гэты чалавéк, вéрна стоючы пры Фэрдынандзе II, ня гледзячы на проціле́жнасьць гэтага да інтарэсаў яго родзічаў, вéльмі заслужыўся каралю, як ваявода коньніцы. Пасьля перамогі ён атрымаў значныя нагароды з сконфіскаваных маéтнасьцей і, скупляючы за бязцэнак яшчэ шмат іншых (быццам-то навет за фальшывыя грошы), стварыў сабе абшырныя валаданьні — Фрыдлянд і атрымаў ад імпэратара тытул князя Фрыдляндзкага.

Валенштэйн заявіў імпэратару, што зьбярэ для яго вялікія вайсковыя сілы, якія нічога ня будуць яму каштаваць, бо плату для сябé яны будуць самі зьбіраць з рабункаў, або з рэквізіцыяў. Хутка Валенштэйн распачаў вярбоўку. З усіх канцоў сьвету пачалі наплываць на голас барабану прагавітыя на кроў і рабунак грамады людзéй, і з гэтае зьбéраніны Валенштэйн, гэты майстар жаўнéрскае штукі, у надзвычайна кароткім часе зрабіў войска, здатнае да бою. Праз час вайны гэтых разбойных бандаў прыбывала ўсё больш і больш.

Для Валенштэйнавых ваякаў надзяваць дзяцéй на пікі, абсякаць сялянам насы, вушы і ногі, пушчаць з дымам цэлыя мéсты—было мілаю забаваю. Валенштэйн дзяржаў іх у срогай дысцыпліне і поўным послуху ў-ва ўсім тым, што датыкалася вайсковае справы; у-ва ўсім-жа іншым даваў ім поўную волю (на рабункі і забойствы!). Войскам ён рупна апекаваўся, выбіраў для яго найлéпшыя кватэры; займаючы

заўсёды ўмацаваныя пазіцыі, ён прыймаў бітву толькі тады, калі быў пэўны, што пераможа. Дзеля гэтага ў хуткім часе ён зрабіўся вельмі популярным сярод сваіх жаўнéраў і здабыў сабé славу непераможнага ваяводы.

Валенштэйн пачаў сваю дзéйнасьць з таго, што ўвёў сваю армію ў валаданьні магдэбурскага арцыбіскупства для зьбіраньня контрыбуцыі і рэквізіцыяў. Далéй ён на ўмацаванай пазіцыі ля мосту на Эльбе, пад Дэсаў, разьбіў Мансфэльда, які, наняты за англійскія грошы, мéўся выступаць у лучнасьці з каралём данскім, Крыштынам IV.

Валенштэйн гнаў Мансфэльда праз Сілéзію ў Вэнгрыю, дзе той у хуткім часе і памёр. Вярнуўшыся ў Сілéзію, ён усьмірыў тамтэйшыя мéсты і правёў срогія рэпрэсіі.

А тым часам Тільлі разьбіў данскага караля каля паўночнага падножжа Гарцскіх гораў (1626). Далéйшую працу ў данскай вайне ваяводы падзялілі між сабою гэтак, што Тільлі выпала цяжкая і няўдзячная аблога ўмацаваных мéстаў ніжня-саксонскага вокругу, а Валенштэйн выбраўся ў пагоню за Крыштынам IV у Гольштын і Шлéзьвік і ў хуткім часе заняў усé данскія валаданьні на сухазéмлі, так што данскаму каралю асталіся толькі астравы, куды нéльга было дабрацца бяз флёту,

Каб захапіць балтыцкія порты, Валенштэйн заняў княжствы Мэкленбург і Памор'е, хаця-ж яны і ня бралі ніякага ўчасьця ў вайне. Валенштэйн, якога імпэратар зрабіў адміралам („генэралам“) Балтыцкага Мора і Акеану, мéўся стварыць вялікі флёт, каб пакарыць Голяндцаў і Швэдаў і аддаць паўночную Эўропу пад панаваньне Габсбургаў. Ідучы да гэтае мэты, ён дамагаўся, каб прыморскія мéсты прынялі да сябé гарнізоны імпэратарскіх войскаў. Мéсты гэтыя, як маглі, упіраліся проці гэтага дамаганьня, бо ўсюдых добра вéдалі звычаі Валенштэйнаўскіх войскаў: цяжкія дастаўкі, рэквізіцыі і рабункі жаўнéраў. Толькі дзé-не-дзé ўдалося Валенштэйну пагрозамі дабіцца прыняцьця гарнізонаў. Штральзунд, добра ўфортыфікаванае ды падтрымліванае Швэдамі мéста, даў адважны адпор ягоным сілам. І хоць ён выхваляўся, што здабудзе гэтае мéста, хоць бы яно было ланцугамі прымацавана да нéба, але ў канцы мусіў адступіць, страціўшы пад мурамі мéста 12000 людзéй (1628). Гэтая няўдача прымусіла яго зрабіць мір з Крыштынам IV. Каралю былі вéрнены ўсе ягоныя валаданьні, за што ён павінен быў абяцаць немяшацца больш да нямéцкіх спраў, зрачыся ўсякіх прэтэнсій на духоўныя княжствы і прызнаць усé тэрыторыяльныя зьмéны ў ніжня-саксонскім вокрузе.

Валенштэйн у нагароду атрымаў княжства Мэкленбурскае і такім чынам стаўся адным з найбольш значных князёў Імпэрыі. Але ўсё-ж ягонае становішча выклікала вялікае



нездаволеньне сярод князёў і давяло да раздваéньня ў згодным дагэтуль каталіцкім лагеры.

**5. Спрэчка Фэрдынанда II з Лігаю; рэстытуцыйны эдыкт (1629); адстаўка Валенштэйна.** Да таго часу, пакуль на гістарычную арэну ня выступіў Валенштэйн, інтарэсы імпэратара, дынастыі Габсбургаў і Лігі былі згодныя з сабою.

Перамога протэстантаў у спадчынных аўстрыяцкіх краёх моцна пагражала ўсім каталіцкім князём, і затым Максіміліян з Лігаю гэтак стараліся памагчы імпэратару усьцішыць чэскае паўстаньне. Але для імпэрскіх князёў ня мéнш небясьпéчным, ня гледзячы на іхняе вызнаньне, быў вялізарны ўзрост улады імпэратара, які ўжо мéў сваю армію і свайго ваяводу, чаго ад часу Караля V не здаралася. Дый гэтага мала. Валенштэйн казаў адкрыта, што не супачыне, пакуль імпэратар ня будзе гэткім самым гаспадаром у Нямéччыне, як францускі кароль—у Францыі. Ён разсылаў сваіх вярбоўшчыкаў на абшары ўсіх імпэрскіх князёў і ўсюдых трэбаваў, каб ягоным войскам давалі ўтрыманьне і кватэры. Таксама казаў Валенштэйн, што ўсé князі, каталіцкія і протэстанцкія, павінны слухацца імпэратара, як свайго валадара і пана, які пры помачы сваéй арміі можа іх і прымусіць да пакоры; з другога боку, ён уважаў, што, калі князі будуць паслухмяныя імпэратару, дык ім трэба забясьпéчыць незачэпнасьць іхняе маемасьці і рэлігійную свабоду.

Думкі Валенштэйна ў справе рэлігійнай ня зыходзіліся з жаданьнямі каталіцкіх князёў і Лігі, якія хацелі адабраць у протэстантаў усé захопленыя імі пасьля пасаўскага замірэньня маéтнасьці і княжствы; бо замірэньне гэнае толькі пацьвярдзіла даўнéйшыя захваты. Імпэратар Фэрдынанд II стараўся пагадзіць гэтыя супярэчнасьці, каб і затрымаць пры сабé Валенштэйна, і ад протэстантаў паадбіраць тое, што яны пазаймалі ўжо пасьля рэлігійнага міру. Дзеля гэтага ён выдаў рэстытуцыйны эдыкт (1629), на моцы якога 2 арцыбіскупствы, Магдэбург і Брэмэн, 12 біскупстваў у Нямéччыне і больш за 100 аббацтваў ды іншыя царкоўныя маемасьці, пазайманыя протэстантамі, загадаў вярнуць каталіком; у Імпэрыі дазволена было жыць толькі лютаранам, а кальвіністам—нé. Аўгсбурская міравая ўмова гэтаму выключэньню нелютаранаў надавала быццам нéйкі цéнь законнасьці. Такім чынам, ня толькі ўсé кальвінскія краі былі пакінуты вонках закону, але і ў чыста лютаранскай паўночнай Нямéччыне шмат даўнéйшых духоўных зéмляў дасталося-б ізноў пад панаваньне каталіцкіх біскупаў ды арцыбіскупаў, якім імпэратар саўсім выразна даў права прымушаць сваіх падданных да прыняцьця каталіцтва.

Што тут ішло аб зьніштажэньне протэстанцтва, было відаць хоць-бы з адносінаў да вольных мéстаў, асабліва-ж да Аўгсбурга, дзе забаронена было адпраўляць протэстанцкія набажэнствы. Протэстанты голасна протэставалі, але толькі адзін Магдэбург адважыўся даць рашучы адпор. Князі ў той самы час голасна жаліліся на Валенштэйна, што ён, ня глéдзячы на падпісаны ўжо мір, павялічуе сваé войскі з вялікай крыўдай і небясьпéкай для князёўскіх абшараў. Імпэратар на зьéзьдзе ў Ратызбоне, хочучы прыхіліць элéктароў да таго, каб яны выбралі ягонага сына за рымскага караля, згадзіўся ўрэшце на дамаганьні князёў і адабраў ад Валенштэйна камандаваньне.

Блізка ў тым-жа часе на Памор'і зьявіўся новы абаронца протэстанцтва, швэдзкі кароль Густаў Адольф, унук Густава Вазы. Гэта быў адважны і дазнаны ваявода; ягоныя войскі, добра дысцыплінаваныя і выпрактыкаваныя ў шмат якіх войнах і бітвах, былі захоплены рэлігійным протэстанцкім духам і дужа любілі свайго правадыра.

**6. Высадка Густава Адольфа. Бітвы пад Лейпцыгам і Люццэнам.** (1630—1632). Густаў Адольф, як шчыры протэстант, хацéў даць помач прыгнéчаным аднавéрцам у Нямéцкай Імпэрыі; таксама і інтарэсы ягонага ўласнага краю, як здавалася, вымагалі хуткага дзéяньня: бо імпэратарскія войскі ўжо былі стаялі на паўночных узьбярэжжах Нямéччыны, і не хапала толькі караблёў, каб у скандынаўскіх гаспадарствах сілай аружжа скасаваць палітычныя і рэлігійныя вольнасьці. Густаў Адольф думаў, што найлягчэй яму будзе збавіцца ад небясьпéкі, калі сам пéршы распачнé вайну, а Рышэльé, вялікі міністар Францыі, які баяўся перавагі Габсбургаў, яшчэ падгавараваў яго, сулячы да таго-ж значную помач у будучыне.

Густаў Адольф з 15.000 войска высадзіўся на востраве Узэдом, заняў Памор'е і Мэкленбург, дзе імпэратарскія войскі, астаўшыся без правадыра, не маглі яму даць адпору. Пасьля пасьпяшыў ён на помач Магдэбургу, якога аблягаў Тільлі. Брандэнбурскі і саксонскі электары, забыўшыся аб інтарэсах сваіх аднавéрцаў, ня толькі не хацéлі далучыцца да яго, але навет не прапускалі праз сваé зéмлі. Гэтая ганéбная палахлівасьць протэстанцкіх князёў сталася прычынаю загубы Магдэбургу. Тільлі здабыў штурмам гэтае мéста, якое да апошняе часіны баранілася з гэроізмам адчаю, высек у пéнь блізка ўсё яго насялéньне, а ўканцы пусьціў па ім гуляць агонь. Пераможнік даносіў у Вéну: „Ад часоў разбурэньня Трои і Ерусаліму ніхто ня бачыў гэткае вікторыі"...

Абураны гэткім дзікунствам Густаў Адольф пагрозамі прымусіў брандэнбурскага элéктара, каб той далучыўся да



яго. Калі-ж Тільлі хацéў гэтак сама зрабіць з саксонскім элéктарам, дык той сам ужо аддаўся пад загад швэдзкага караля.

І вось пад Лейпцыгам сустрэліся два супраціўнікі. Тільлі, які дагэтуль выйграў тры бітвы, ня мог зраўнавацца ў ваéнным дзéле з Густавам Адольфам і быў ганéбна разьбіты.

Палажэньне адразу-ж зьмянілася. Густаў Адольф, усё перамагаючы ў сваім паходзе, пасьпяшыў на захад, над Рэйн, каб вызваліць 3 міліёны протэстантаў у краёх над Рэйнам і Майнам. Адтуль ён пайшоў у Баварыю. Надарэмна Тільлі прабаваў загарадзіць яму дарогу, стаўшы над р. Лéхам пры ягоным утоку ў Дунай; ён быў ізноў разьбіты, ды яшчэ і ранены на сьмéрць. Не дапускаючы ніякіх гвалтаў над нясялéньнем, Густаў Адольф увайшоў у Мюнхэн.

Ён ужо думаў аб тым, каб эвангеліцкую Нямéччыну злучыць у моцны саюз пад сваёю апéкаю, а можа навет і абвéсьціць сябé імпэратарам. Тады Фэрдынанд і Максіміліян, бачучы сваю бяду, зьвярнуліся да адзінага чалавéка, які ім мог памагчы—да Валенштэйна, які, пасьля сваé дымісіі, адпачываў у сваіх чэскіх маéтнасьцях. Валенштэйн доўга адгаварваўся, але ўканцы згадзіўся вербаваць войска і выступіць, аднак з тэй умовай, што ён будзе мéць неабмяжованую найвышнюю ўладу ў войску. Імпэратар павінен быў саўсім не мяшацца ў справу вядзéньня вайны; апрача таго, у прыпадку, калі-б Мэкленбург быў утрачаны, Валенштэйн атрымаў-бы іншае гаспадарства ў Імпэрыі.

Густаў Адольф чакаў новага супраціўніка пад Нюрнбэргам. Праз нéкалькі тыдняў два ворагі стаялі адзін проці аднаго ў добра ўмацаваных лагярох; уканцы кароль, з прычыны недахвату провіянту, кінуўся на варожыя акопы, але быў адбіты. Тады ён вышаў з лагеру і скіраваўся з сваім войскам у Баварыю, спадзяючыся, што Валенштэйн пагоніцца за ім усьлéд. Той, аднак, паслаў у Баварыю толькі элéктара Максіміліяна, сам-жа скіраваўся ў Саксонію, каб сілай прымусіць элéктара пакінуць Густава Адольфа і далучыцца да імпэратара. Атрымаўшы гэтую вéстку, швэдзкі кароль таксама зьвярнуўся на поўнач, дагнаў Валенштэйна пад Люццэн (на паўночны захад ад Лейпцыгу) і прымусіў яго прыняць бітву ў імглістую лістападавую раніцу (1632). Войскі імпэратара пасьля няўдачных для іх рэзультатаў бітвы ўжо зьбіраліся адступаць, калі адважны генэрал коньніцы Папэнгэйм прыскочыў з сваімі сьвéжымі палкамі і, рызыкуючы ўласным жыцьцём, прымусіў войска стрымацца. Тады Густаў Адольф кінуўся ў самы вір барацьбы і знайшоў сабé сьмéрць, прабіты нéкалькімі кулямі. Замéст яго галоўную каманду ўзяў кн. Бэрнар Вэймарскі. Раз'юшаныя стратаю свайго улюбленага правадыра Швэды біліся вéльмі заўзята і бліскуча перамаглі ворагаў. Разьбіты Валенштэйн

быў прымушаны адступіць у Чэхію. Але для протэстантаў і Швэдаў сьмерць Густава Адольфа была неўзваротнаю стратаю.

**7. Палажэньне пасьля сьмерці Густава Адольфа. Сьмерць Валенштэйна (1634) і мір у Празе (1635).** Адзіным трывалым рэзультатам кароткае дзеяльнасьці Густава Адольфа ў Нямеччыне было тое, што, дзякуючы яму, Швэдзія зрабілася першаю мілітарнаю сілаю ў Сярэдняй Эўропе, стаўшыся прыкладам ваеннае організацыі, насьледаваным па ўсім сьвеце. Войскі Густава Адольфа ўжо ня былі выключна швэдзкімі; яны складаліся ў большай часьці з нямецкіх войск пад нямецкаю камандаю.

За шасьцігадовую дачку Густава Адольфа пачаў вясьці палітычныя справы швэдзкі канцлер Оксэнштьерна. Гэта быў выдатны дзяржаўны дзеяч, якому карольнябожчык давяраў усе сваё палітычныя пляны. Але яго ня слухаліся швэдзкія генэралы, а яшчэ менш—нямецкія протэстанцкія князі. Дзеля гэтае прычыны даўнейшая адзінасьць і вайсковая сіла протэстантаў аслабелі. Аднак, усе адчувалі патрэбу нейкае організацыі, і затым была створана протэстанцкая Ліга, якую завязалі ў Гэйльброне (1633) станы чатырох акругоў Нямеччыны і Швэды, каб разам весьці вайну і дзяліць здабычу. Камандаваць войскам меліся Бэрнар Вэймарскі і адзін з швэдзкіх генэралаў (наўперад Горн), палітычнае-ж кіраўніцтва асталося ў руках Оксэнштьерны. Гэйльбронскі саюз умовіўся з Францыяй, і Рышэльё абяцаўся і надалей даваць падмогу грашмі, абы толькі не дапусьціць, каб дзе-небудзь над Рэйнам умацаваліся Гішпанцы. Затое саксонскі электар, вельмі няпрыхільны да саюзу з Францыяй, паціху ўмаўляўся з Валенштэйнам.

А Валенштэйн пасьля свае няўдачы пад Люццэнам скіраваўся ў Чэхію быццам дзеля таго, каб вярбоўкаю ўзмацаваць сваё значна пацярэбленае войска, ды там і аставаўся, нічога ня робячы. Ён яшчэ не забыўся аб крыўдзе, якая была яму зроблена імпэратарам, не забыўся аб сваёй адстаўцы і падумаваў, карыстаючыся з свайго высокага становішча, як-бы памсьціцца на імпэратары і Імпэрыі, ды разам з тым здаволіць сваю прагавітую амбіцыю; разьлічаў ён пры гэтым на армію, якая, як ён думаў, была аддана яму душою і целам. Думаў ён аб становішчы экектара, або аб чэскай кароне. Дзеля гэтага ён патаемна пробаваў завязаць зносіны і з саксонскім электарам, і з Швэдамі, і навет з Французамі, але ні ў каго не знайшоў веры.

Імпэтатар, якога з усіх бакоў перасьцерагалі перад Валенштэйнам, ужо быў пераканаваны, што той яго здраджае, але баяўся выразна аб гэтым заявіць, бо лічыў такі крок



небясьпечным. І толькі тады, калі Валенштэйн у Пільзэне зажадаў ад сваіх падкамандных пісанага забавязаньня і прысягі, што яны будуць слухацца выключна толькі яго,—толькі тады імпэратар выдаў тайны загад, якім пазбавіў Валенштэйна камандаваньня. А пасьля, пераканаўшыся, што войска будзе слухаць не Валенштэйна, а яго, імпэратар адкрыта парваў з Валенштэйнам і абвесьціў яго бунтаўнікам.

Пакінуты большасьцяй сваіх генэралаў і жаўнераў, Валенштэйн пачаў адыходзіць да граніцы, да войскаў кн. Вэймарскага; аднак, ён не пасьпеў ужо там схавацца, бо быў забіты сваімі ахвіцэрамі (1634). Імпэратар, хаця і не загадаваў забіваць Валенштэйна, але пасьля яго сьмерці сконфіскаваў маетнасьці яго і нагарадзіў імі тых генэралаў, якія перайшлі былі на яго бок.

Войскі Валенштэйна былі яшчэ ў гэткім добрым стане, што навет пад слабою камандаю сына імпэратара, Фэрдынанда, у бітве пад Нэрдлінген (1634) разьбілі Швэдаў і Бэрнара Вэймарскага, прымушаючы апошняга адступіць з паўднёвае Нямеччыны. Тады пачаліся перагаворы паміж імпэратарска-каталіцкаю партыяй і значнейшымі імпэрскімі князямі, на чале якіх стаялі электары саксонскі і брандэнбурскі. У канцы быў падпісаны мір у Празе (1635), які аднаўляў варункі аўгсбурскага міру; прызнаў ён гаспадарствам Імпэрыі вольнасьць аўгсбургскага вызнаньня, а спаўненьне рэстытуцыйнага эдыкту спыніў. Дзеля гэтага большасьць протэстанцкіх гаспадарстваў адпала ад Швэдаў і далучылася да імпэратара.

**8. Апошнія гады трыдцацілетняе вайны.** Тагачасны кіраўнік францускае палітыкі, кардынал Рашэльё *), лічыў мамэнт пражскага міру адпаведным, каб абвесьціць вайну Аўстрыі і Гішпаніі. Швэды ня выходзілі з Нямеччыны, дый ня ўсе імпэрскія князі далучыліся да пражскага міру. Тут ня было ўжо і мовы аб вайне рэлігійнай; Францыя змагалася, каб аслабіць Габсбургаў, Габсбургі—каб выратаваць сваё загрожанае палітычнае становішча, Бавары патрэбны былі электарскія правы, а Швэдам—слава і здабыча. Да таго-ж ніводнае з гаспадарстваў не сьпяшалася канчаць вайну, бо яна ішла коштам нямецкага народу. За апошнія гады вайна што раз, то ўсё больш прыймала характар руінуючы і дзікі; увесь час расла жорсткасьць і лютасьць жаўнераў, прагавітасьць ахвіцэраў і ваяводаў; вайсковая дысцыпліна пахіснулася да апошніх межаў, і швэдзкія жаўнеры, ў часы Густава Адольфа гэткія дысцыплінаваныя, цяпер гаспадарылі ў Нямеччыне, як у варожым краі: мучылі, рабавалі, забівалі, палілі ня горш за імпэратарскія войскі. Нямеччына абярта-

---

*) § 10

лася ў бязлюдную пустыню. На мéсцы даўнéйшых мéстаў і вёсак асталіся толькі руіны; поле ўсюдых ляжала дзірваном.

Неўзабаве пасьля пражскага міру зыходзяць са сцэны апошнія дзеячы пачатку вайны. „Зімовы кароль“ памёр яшчэ ранéй на чужыне; у хуткім часе пасьля міру памёр і Фэрдынанд II. Ягоны сын і наступнік, Фэрдынанд III (1637—1657), быў вéльмі падобны да бацькі, асабліва з боку сваé прававе́рнасьці. Толькі адзін Максіміліян Баварскі, гэты рэжысэр крывавае трагéдыі, што адбылася на сусьвéтнай арэне, і тварэц каталіцкае *Лігі*, дажыў да канца вайны і пабачыў рэзультаты яé ў Баварыі.

З аднаго боку, Швэды ўвéсь час урываюцца ў сярэднюю і навет паўднёвую Нямéччыну; ня глéдзячы на тое, што іх неўзабаве былі выперлі аж на узьбярэжжа Балтыцкага мора, былі яны ўсёж вельмі дужыя мілітарна і вымагалі значнае тэрыторыяльнае нагароды для Швэдзіі. З другога боку, Францыя ўжо саўсім не хаваецца з тым, што імкнецца да апанаваньня габсбурскіх валаданьняў над вéрхнім Рэйнам, у Альзасе.

Для Францыі вайна ў Нямéччыне—гэта толькі эпізод яé вайны з Гішпаніяй за перавагу на Захадзе. Разам з ёю тут ідуць тыя нямéцкія князі, якіх ня мог здаволіць пражскі мір і якія далучаліся да Францыі дзеля сваіх уласных інтарэсаў. Найвыдатнéйшым з такіх князёў быў Бэрнар Вэймарскі, якому хацéлася за францускія грошы здабыць для сябé, адабраўшы ад Габсбургаў, княжства над Рэйнам. Рышэльé не шкадаваў яму дапамогі, і ён крок за крокам заваладаў Альзасам і Брызгаў. Ня глéдзячы на падмогу, мéў ён у адносінах да Французаў пэўную незалéжнасьць; але пасьля яго сьмéрці (1639) ягоныя войскі аддалі ўсé крэпасьці прысланым з Францыі камэндантам, ды самі пайшлі пад іх загад.

Для Французаў вайна ў Нямéччыне была проста вайсковаю школаю, у часе яе яны пазнаёміліся з усімі паляпшэньнямі ваéннае тэхнікі, якія ўвялі ў сябе Швэды. Дзякуючы гэтаму, Французы выперадзілі Гішпанцаў у ваéнным дзéле і пасьля іх перамаглі. Перамога Французаў над Гішпанцамі пад Р о к р у а (1642) сталася пачаткам вéлічы і вайсковага панаваньня Францыі на Захадзе.

Пасьля заняцьця Альзасу імпэрскія князі былі прымушаны пакінуць імпэратара і, злучаючыся з Францыяй, дамагацца ад яго, каб зрокся Альзасу і разарваў саюз з гішпанскай лініяй Габсбургаў.

Не абмéжуючыся поўначай Нямéччыны, Швэды ўвéсь час урываліся ў глыб яе і пад камандаю сваіх адважных ваяводаў (Горн, Банэр, Врангель, Торстэнсон) няраз мéлі значныя перамогі. Зачэпленыя імі князі былі прымушаны



або абвяшчаць сябé нэйтральнымі, або навет далучацца да іх, як гэта зрабіў брандэнбурскі элéктар. Чым даўжэй цягнулася вайна, тым больш слабéў імпэратар і ягоныя саюзьнікі, Французы-ж зайшлі ў глыб Баварыі, а Швэды дайшлі аж да Прагі. Нялёгка, праўда, і ім даводзілася, бо з зруйнаванае да астатку Нямéччыны нічога больш нéльга было выціснуць. Дык-жа пачалі ўмаўляцца аб міры. Нéкалькі гадоў ішлі гэтыя гутаркі ў двох біскупскіх мéстах у Вэстфаліі: Оснабрюку і Мюнстэры, і ўканцы быў падпісаны г. зв. В э с т ф а л ь с к і  м і р (1648), які зрабіў канéц трыдцацілéтняй вайнé і ўпарадкаваў тэрыторыяльныя, царкоўныя і палітычныя адносіны.

**9. Міравыя ўмовы і рэзультаты трыдцацілéтняе вайны.** Звычайна ў трыдцацілéтняй вайнé адрозьніваюць чатыры пэрыоды: 1) вайну за чэскую карону, якая адбывалася ў Чэхіі і Паўднёвай Нямéччыне; 2) данскую вайну ў Паўночнай Нямéччыне; 3) швэдзкую вайну і 4) швэдзка-францускую вайну.

Вэстфальскім мірам устаноўлена:

**1. У сьвецкіх справах:**

a) У  а д н о с і н а х  Н я м é ч ч ы н ы  і  з а м é ж н ы х  г а с п а д а р с т в а ў: Швэдзія атрымала частку Памор'я з Ругенам, апрача таго Штэтын, ды ўсéнькі абшар ля ўтоку Одэру, мéста Вісмар у Мэкленбургу, Брэмэнскае арцыбіскупства (бяз вольнага мéста Брэмэна), біскупства Вэрдэн, ды права налéжаць да Імпэрыі. Данскі кароль гэтак сама зрабіўся сябрам Імпэрыі, бо валадаў Гольштэйнам. Францыя захапіла ўсé валаданьні Габсбургаў у Альзасе на лéвым беразе Рэйну, на правым-жа бéразе трымала гарнізоны ў крэпасьцёх (Брэйсгаў, Філіпсбург). Апрача таго, імпэратар зрокся ўсіх правоў на біскупствы Мэц, Туль і Вэрдэн, якія ўжо ад часоў Морыца Саксонскага фактычна налéжалі да Францыі. Так сама была прызнана незалéжнасьць двух гаспадарстваў, якія ўжо даўно адарваліся ад Нямéччыны: Швайцарыі (ад 1499 г.) і Нідэрляндаў (ад 1555 г.).

b) Ў  а д н о с і н а х  д а  І м п э р ы і. Усім князём і вольным мéстам Імпэрыі была прызнана поўная самастойнасьць, права рабіць сувязі паміж сабой і з чужымі гаспадарствамі, абы толькі ня проці імпэратара і Імпэрыі; з другога боку, імпэратар адгэтуль нічога важнéйшага ня мог пастанаўляць, асабліва ў справах рэлігіі, вайны і міру, падаткаў і г. д., без аднагалоснага дазволу штатаў Імпэрыі на сойме. Што-ж да валаданьняў асобных князёў, дык мéлі быць адноўлены тыя-ж аносіны, якія істнавалі ў 1618 г. (г. зн. перад вайною). Але пры Баварыі астаўся Вéрхні Палятынат і элéктарскія

правы. За тое Ніжні Палятынат быў ве́рнены сыну Фрыдрыка V разам з эле́ктарскімі правамі, так што ў Імпэрыі стала ўжо восем электароў. Эле́ктарская Саксонія атрымала Лужыцы, Брандэнбурскі эле́ктар атрымаў даўне́йшыя духоўныя княжствы Магдэбург, Гальбэрштадт, Міндэн, дый частку Памор'я.

**2. У царкоўных справах:**

Рэлігійная вольнасьць, устаноўленая аўгсбурскім соймам, была пашырана гэтак сама і на рэформатаў, проці чаго безрэзультатна выступалі лютаране, наперакор навет каталіком. Усім князём было сказана, каб прыхільна адносіліся да сваіх падданых іншае ве́ры.

Рэзультаты-ж трыдцацілетняе вайны былі гэткія:

а) Для Няме́ччыны былі яны дужа сумныя з пагляду экономічнага, культурнага, моральнага і палітычнага. Гэты даўне́й багаты і культурны край матэрыяльна дазнаў поўнага ўпадку, асабліва-ж было зруйнавана гандлёвае і прамысловае жыцьцё ме́стаў. Разам з заможнасьцяй ме́стаў счэзла і народная літэратура, што гэтак шырака разьвівалася сярод мяшчанства і давала дужа добрыя надзе́і; счэзьлі і артыстычныя рамёствы *). Разам з моральным упадкам шляхты і насьледаваньнем ею францушчыны, вырасла ве́льмі фанабэрыя ў яе́; а вясковае насяле́ньне зьбядне́ла і зьдзічэла да астатку. Няме́ччына наагул страціла ня ме́нш, як палову свайго насяле́ньня і ²/₃ рухомае маемасьці. Дзьве́ тысячы ме́стаў і не́калькі дзесяткоў тысяч вёсак счэзьлі з паве́рхні зямлі. Разьвялося шмат ваўкоў і мядзьве́дзяў. Разбойныя банды прыгняталі жыхараў.

Няме́ччына, саўсім разьбітая, зрабілася обе́ктам інтрыг і захватаў сусе́дніх гаспадарстваў; яны тварылі сабе́ партыі сярод князёў, якія дбалі найбольш толькі аб сваю карысьць. Імпэратарская ўлада стала саўсім бязсільнаю; затое ўдзе́льныя князі, атрымаўшы монаршую ўладу, зрабілі яе́ саўсім абсолютнаю, так што гінулі і рэшткі народнага прадстаўніцтва. Значэньне імпэратарскае ўлады паме́ншала; за тое вырасла значэньне Аўстрыі, як самастойнага гаспадарства.

Таксама паме́ншала і даўне́йшае значэньне электароў Палятынату. У паўднёвай Няме́ччыне найважне́йшым князем адгэтуль зрабіўся Баварскі эле́ктар. У паўночнай-жа, побач з даволі йшчэ магутным эле́ктарам Саксонскім, выбіўся напе́рад Брандэнбурскі эле́ктар, які значна пашырыў сваé валаданьні далучэньнем часткі Памор'я і духоўных княжстваў,—асабліва-ж паднялося яго значэньне, калі ён дастаў у спадчыну княжства Прусію.

*) § 3.



b) Найважнейшае становішча ў Паўночнай Няме́ччыне ўсё-ж заняла Швэдзія, якая адгэтуль была пе́ршай мілітарнай сілай на Поўначы; аднак, будучы краем бе́дным, бяз уласных багацьцяў, яна, каб утрымаць сваё становішча, была прымушана ве́сьці новыя войны.

с) Для Заходняе Эўропы найважне́йшым рэзультатам 30-ле́тняе вайны было ўзмацаваньне магутнасьці Францыі і, наадварот, поўны ўпадак Гішпаніі; Вэстфальскім мірам не закончылася яшчэ упорлівая барацьба, якую яны вялі між сабой.

# ДРУГІ ПЕРЫОД.

## РАЗЬВІЦЬЦЁ АБСОЛЮТЫЗМУ І ФІЛЁЗОФСКІ РАЦЫОНАЛІЗМ.

## § 10. Рышэльé і Людвік XIV.

**1. Апошнія Генэральныя Штаты (1614).** Пасьля Гэнрыка IV астаўся яго бязьлéтні сын Людвік XIII, за якога гаспадаравала ягоная матка Марыя дэ Мэдычы. Дзéяльны Сюльлі быў адсунуты ад улады, яго-ж мéсца занялі фаворыты рэгéнткі, якія марнавалі з гэткаю працаю зьбіраныя ім зьберажэньні ды абкрадалі скарб гаспадарства. Вяльможы, скрыўджаныя пры падзéле гэтае здабычы, хапаліся за зброю; у ва ўсім краі панавала поўнае бязладзьдзе, ад якога народ нявымоўна цярпéў. Агульнае нездаваленьне ў хуткім часе прымусіла каралéву склікаць прадстаўніцтва станаў. Прадстаўнікі трэцяга стану энэргічна выступілі з цэлым радам праектаваных рэформаў. Адзін-жа з іхніх галоўных прамоўцаў сказаў гэткія прарочыя словы: „калі і далéй гэтак пойдзе, дык народ ня будзе больш кавадлам, а зробіцца молатам“.

Спалоханыя сьмеласьцю гэтых словаў шляхта і духавéнства пагадзіліся з дваром. Калі на другі дзéнь пасьля гэтае прамовы мяшчанскія дэпутаты захацéлі йзноў сабрацца, дык знайшлі дзьвéры замкчёнымі. Каралéва загадала, каб Генэральныя Штаты разыйшліся. Сабрацца йзноў маглі яны толькі праз 175 гадоў; да таго-ж часу іх мéсца занімала самавольства каралёў і міністраў. Хаця, праўду кажучы, сваё значэньне яны ўтрацілі яшчэ пры Карлю VII.

**2. Гаспадараньне Рышэльé.** Адносіны ў дзяржаве не палéпшыліся нават і тады, калі Людвік XIII выйшаў спад апéкі свае маткі. Зьмяніліся яны толькі тады, калі ўладу ўзяў у свае рукі Арман дю Плесі Рышэльé*). Дзякуючы сваім надзвычайным здольнасьцям, ён зрабіўся біскупам, маючы ўсяго 22 гады, і тады-ж зьвярнуў на сябé ўвагу каралéвы-маткі. Спадзяючыся знайсьці ў ім пакорнага слугу свае волі, яна выстаралася для Рышэльé кардынальскі капялюш, ды ўвяла ў Дзяржаўную Раду. Праз нéкалькі мéсяцаў Рышэльé ўжо мéў неабмéжаны ўплыў на караля. Аднак,

*) Armand du Plessis Richelieu.



замéст рупіцца аб карысьць свае протэктаркі, ён усю сваю дзéяльнасьць ахвяраваў дабру і велічы дзяржавы, якою кіраваў.

Ад гэтага часу Рышэльé зрабіўся самаўладным гаспадаром Францыі. Усé стараньні, каб яго скінуць, былі дарэмныя, бо Людвік XIII, хоць слабы і хваравіты, быў прынамся тым падобны да свайго бацькі, што не праганяў слугі, аб здольнасьцях і вéрнасьці якога пераканаўся. А гэта тым больш цікава, што Рышэльé ніколі ня быў ільсьцівым прыдворным, а, наадварот, часта гаварыў каралю ў вочы горкую праўду. Згодна з духам свайго часу, Рышэльé уважаў, што для дзяржавы найляпéй, калі каралéўская ўлада будзе па магчымасьці неабмéжанаю; дзеля таго ён стараўся праламаць усякае праціўлéньне каралеўскай волі і, прыкладам, выступіў проці гугенотаў, якія з сваімі ўмацаванымі абароннымі крэпасьцямі былі нéйкай рэспублікай у монархіі. Рышэльé сам вёў аблогу ля Рошэлі, спаўняючы адначасна абавязкі ваяводы, адмірала і інжэнéра; няглéдзячы на гэроічную абарону крэпасьці, ён яé здабыў (1628). Аднак, Нантскага эдыкту ён не ламаў; наадварот, ён яшчэ бараніў рэлігійную вольнасьць протэстантаў. Зялéзнаю сілаю свае волі ён прымусіў слухацца і арыстократыю, якая дагэтуль паступала так, як быццам законы былі толькі для паспольства, а не для яé. Ён загадаваў бурыць умацаваныя замкі арыстократаў, якія ўпіраліся проці каралéўскае ўлады. Да намéсьнікаў провінцый—арыстократаў, якія свае становішчы лічылі спадчыннымі і часта бунтаваліся, ён дадаў да помачы інтэндантаў з мяшчан; апошнія былі саўсім залéжныя ад караля. Усякае супраціўлéньне бязлітасна каралася сьмéрцяю: самым відным па свайму паходжаньню ці становішчу людзям сéклі галовы, а матка і брат караля за ўчасьце у змове былі прысуджаны на высылку з краю.

Адначасна з гэтым Рышэльé і ў іншых кірунках працаваў дзеля дабра гаспадарства не пакладаючы рук. Ён павялічыў флёт, падтрымліваў гандаль і колёніі. Ён жа залажыў Францускую Акадэмію, установу, якой галоўная мэта—апéка над роднаю моваю і яé разьвіцьцём; ён урэшце выдаваў газэту, у якой і кардынал і кароль зьмяшчалі свае разважаньні аб грамадзкіх справах.

У замéжнай палітыцы Рышэльé пайшоў па дарозе, якую паказаў Гэнрык IV; ягоныя паслы пры ўсіх эўропэйскіх дварох працавалі проці Габсбургаў. Канца трыдцацілéтняе вайны, у якой ён такую важную іграў ролю, Рышэльé не дачакаўся і памёр як-раз тады, калі перамога выразна перахілялася на ягоны бок.

Паміраючы, Рышэльe казаў, што ў яго ніколі ня было іншых ворагаў, апрача ворагаў дзяржавы.

**3. Мазарынi** (1642—1661). Спаўняючы апошнюю волю свайго вялiкага мiнiстра, Людвiк XIII назначыў наступнiкам яго кардыканала Мазарынi, Iтальянца, якi, як папéскi нунцый, прыéхаў у Францыю i там знайшоў службу ў Рышэльé.

У хуткiм часе кароль памёр (1643). Мазарынi супольна з каралéваю Ганнаю кiраваў гаспадарствам за пяцiгадовага Людвiка XIV, сына Людвiка XIII, i з вялiкаю ўмéласьцяй ды цьвёрдасьцяй давёў да канца загранiчныя пляны Рышэльé. Асаблiва яму пашанцавала з Гiшпанiяй. — У 1643 г. адважны кн. Кондэ пад Рокруа, ў Ардэнах, мéў блiскучую перамогу над адборным гiшпанскiм войскам; ваéнная слава апошняга з таго часу перайшла наагул на Французаў. Яшчэ нéкалькi гадоў iшла вайна з Гiшпанiяй, аж пакуль яé аканчальна не перамог знамянiты ваявода Тюрэн. На моцы г. зв. „Пiрэнэйскага мiру“, зробленага ў 1654 г. на востраве пагранiчнае ракi Бiдасоа, Гiшпанiя аддала Францыi Русiльён i Артуа разам з цэлым сьцягам паўднёва-бэльгiйскiх крэпасьцяў. У Нямéччыне становiшча Францыi, адваяванае Рышэльé, асталося бяз зьмéны.

У ўнутранай палiтыцы Мазарынi перажываў нямала цяжкiх i няпрыéмных момэнтаў. У францускiх вяльможаў ён, як Iтальянец, ня мéў таé пашаны i послуху, як нéкалiсь кардынал Рышэльé. Завiсныя князi ды княгiнi, парлямэнты *) i парыжскае паспольства зрабiлi паўстаньне, якое цягнулася нéкалькi гадоў. Два разы Мазарынi мусiў, ратуючыся, уцякаць заграницу; але, дзеля таго, што паўстанцы ня мéлi нiякае вышэйшае iдэi, i кожын стараўся толькi аб сваé асабiстыя справы, дык гэты рух няўдаўся, ня глéдзячы на тое, што кiраваў iм кн. Кондэ „Вялiкi“. Мазарынi з трыумфам вярнуўся, а кн. Кондэ быў прымушаны шукаць сабé схоўкi ў Гiшпанii. Народ жартам назваў гэтае паўстаньне „Фрондаю“ (самастрэл) ад дзяцiннае гульнi. Сумны канéц паўстаньня, безгалоўе i безпляновасьць гэтага выступлéньня процi каралéўскага абсолютызму ў Францыi асаблiва цiка-

*) Парлямэнтаў (гэтак называлi не законадаўчы збор, але найвышэйшы суд) было ў апошнiя часы 13 у розных мéстах Францыi. Была старая традыцыя, што каралéўскiя загады рабiлiся правамочнымi толькi пасьля таго, як яны запiсаны ў пратакол парлямэнтаў. Апiраючыся на гэтым, парлямэнты, асаблiва-ж парыжскi, прысвоiлi сабé права адмовы ўпiсаньня непажаданых для iх загадаў, цi прынамся права рабiць увагi да гэтых загадаў (рэмонстрацыi). Дужыя ўладары, як Гэнрык IV, цi Рышэльé, ня вéльмi зварачалi на гэта ўвагу i рабiлi, як хацéлi. Аднак, пры слабéйшых валадарох парыжскi птрлямэнт зрабiўся значнай палiтычнай сiлай — i гэта тым больш, што становiшчы ў гэтых парлямэнтах зрабiлiся купляными i спадчыннымi, так што сéм'i, якiя мéлi гэтыя становiшчы, былi асобным вiдам шляхты, ад судзьдзёўскае тогi называнае: „Noblesse de Robe“, каб адрозьнiць яé ад „Noblesse d'Epée“, даўнéйшага ваéннага стану.



выя, калi iх прыраўнаваць да барацьбы, якую ў той самы час вяла народная воля з дэспотызмам у сусéдняй Англii, на той бок каналу.

А ўнутранае гаспадараньне Мазарынi было вéльмi дрэннае; сам ён, ягоныя сваякi i ўлюбéнцы абкрадалi скарб гаспадарства, як толькi маглi. Вялiкiмi падаткамi ён даводзiў народ да роспачы, забiваў земляробства, гандаль i прамысловасьць; доўг гаспадарства пры iм узрос да вялiзарных сумаў.

**4. Расьвéт магутнасьцi Людвiка XIV (1661—1683).** Калi пасьля сьмéрцi Мазарынi (1661) спыталiся маладога караля, да каго ў будучыне трэба зьвяртацца, як да пéршага мiнiстра, той адказаў: „Да мяне“. Багата абдораны ад прыроды, поўны сiлаў i ахвоты да працы, Людвiк XIV не хацéў толькi называцца каралём, але хацéў быць iм запраўды, як яго вучылi Рышэльé i Мазарынi. — „Дзяржава i кароль — адно (L'Etat c'est moi); кароль пастаўлены Богам i толькi перад Iм адпавядае; падданыя павiнны яго слухаць, ня пытаючыся чаму. Усё, што ёсьць у краi, налéжыць да яго, у тым лiку i маемасьць ягоных падданых; усiм гэтым кароль можа распараджацца, як хоча“. Гэтак думаў i рабiў Людвiк XIV.

Апошнiя вольнасьцi ў провiнцыях былi скасаваны; ад гарадоў было адабрана права самаўрадаваньня, i кiраўнiцтва ўсéнькiм жыцьцём гаспадарства апынулася ў руках караля. Ня было навет i спробаў працiўлéньня, аб якiх варта было-б гаварыць; дый нiчога дзiўнага: народ ужо даўно адзвычаiўся ад волi, а шляхта была гэтак прыцiснута, што ў большасьцi лiчыла за найвялiкшую чэсьць спаўняць лякайскую службу пры дварах караля.

Новая сыстэма спачатку выглядала даволi карыснаю для Краю. Людвiк XIV, праняты вялiкiмi думкамi аб сваiм прызначаньнi, акружыў сябé вéльмi добрымi мiнiстрамi. Кольбэр, сын рэймскага купца, пéршы мешчанiн, якi заняў гэткае высокае становiшча, упарадкаваў саўсiм развраленую грашовую гаспадарку Францыi; каб выдаткi адпавядалi даходам, ён на кожын год укладаў праéкт даходаў i выдаткаў, г. зв. бюджэт; гэты звычай i назоў бюджэту пераняла пасьля ўсé гаспадарствы. Сваю галоўную ўвагу Кольбэр зьвярнуў на разьвiцьцё прамысловасьцi i гандлю. Не шкадаваў ён працы i коштаў, каб навучыць сваiх земляков вырабляць аксамiт, прадметы збытку, люстры, як у Iталii, карункi i дываны, як у Фляндрыi, сукно i палатно, як у Голяндыi, сталь i вырабы з бавоўны, як у Англii. Накладаючы высокiя мыты на загранiчныя тавары, ён бараніў нараджаючуюся краёвую прамысловасьць ад конкурэнцыi,

ды стараўся палепшыць яе пры помачы прыкладовых школ, заахвочаваньня і нагародаў, загадаў і забаронаў. Ён пабудаваў першую штучную вадзяную дарогу, Лянгедоцкі канал, які, перасякаючы даліны і ўзгор'і, лучыць Гарону з Міжыземным Морам. Сваімі стараньнямі аб судаходзтве, закладаньнем штучных і направаю натуральных портаў, збудаваньнем магутнага ваеннага флёту, здабыцьцём абшырных валаданьняў у Індыі, Афрыцы і Амэрыцы Кольбэр заснаваў французскую марскую і колёніяльную сілу, якая нейкі час ходалася за пяршынства з англійскаю ды голяндзкаю.

Тое, што зрабіў Кольбэр для дзяржаўнага скарбу, тое для аружнае сілы краю зрабілі вайсковы міністар Лювуа і інжэнэр Вобан разам з такімі выдатнымі ваяводамі, як Кондэ і Тюрэн. Лювуа павялічыў сталую армію на сотні тысяч людзёў, палепшыў яе ўзгадаваньне заўсёднымі правільнымі практыкаваньнямі, увёў спэцыяльную вайсковую вопратку (мундзір), пачаў шырэй ужываць усялякую стрэльбу, замяняючы піку—на штых, закладаў вайсковыя школы, магазыны, шпіталі для інвалідаў і г. д.—і гэткім чынам стаўся тварцом новачаснага вайсковага дзела. А Вобан, самы здольны інжэнэр свайго веку, акружыў Францыю валам крэпасьцяў, якія тады лічыліся нездабытымі. Францыя ўсюдых пачала славіцца, як гаспадарства найляпей кіраванае і найляпей бароненае ў-ва ўсей Эўропе.

Яшчэ ў часы Рышэльё пачаўся залаты пэрыод французскае літэратуры; пры Людвіку XIV ён ужо сьвяціў поўным блескам. Дэкарт і Паскаль, адны з найбольш геніяльных мысьліцеляў і вучоных новых часоў, біскупы Босюэ і Фэнэлён, з якіх першы быў выдатным прапаведнікам і гісторыкам, а другі пэдагогам і бэлетрыстам, ня лічучы ўжо вялікага множства іншых выдатных пісьменьнікаў, зрабілі французскую мову дужа яснаю і прыгожаю, якою яна астаецца і да нашага часу. Тры знамянітыя драматычныя паэты: Ян Мольер, Пётра Корнэль і Ян Расін, зрабілі французскі тэатр найслаўнейшым у Эўропе, ці, ляпей кажучы, стварылі тэатр у новачасным значэньні гэтага слова; два апошнія пісалі драмы, якія дасканальна выяўляюць характар французскага народу і свае эпохі; Мольер-жа пісаў камэдыі, якія маюць агульна-людзкае значэньне і да сёньняшняга дня ня страцілі свае вартасьці. Жыў тады вядомы аўтар баек Ля-Фонтэн, з якім ніхто ня мог зраўняцца ў пераробцы баек Эзопа. Вызначалася сваімі творамі і шмат іншых паэтаў. Людвік XIV гэтых пісьменьнікаў зьбіраў да свайго двара і назначаў ім пэнсіі; дык-жа здавалася, быццам яны тварылі толькі дзеля яго.

Ня ў меншай меры Людвік XIV выкарыставаў і мастацтва для праслаўленьня свае асобы і свайго панаваньня.



Ня любіў ён бунтаўніцкага Парыжу і стварыў сабе новую рэзыдэнцыю ў вёсцы Вэрсаль; тамака ён збудаваў палац, над прыхарошаньнем якога працавалі найслаўнейшыя маляры, скульптары і садоўнікі. Вэрсаль з сваймі тэрасамі ды паркам, у якім поўна прыгожах фонтанаў, з сваймі прысадамі і мармуровымі статуямі стаўся прыкладам для каралеўскіх рэзыдэнцыяў у Эўропе. Аблічана, што Вэрсаль разам з іншымі раскошнымі будоўлямі караля каштаваў якіх 800—900 міліёнаў франкаў на цяперашнія грошы. Тамака, у Вэрсалі, акружаны роем вяльможаў і дастойнікаў, Людвік XIV утрымліваў двор, якому па блеску і пышнасьці, помпатычнаму цэрэмоніялу ды па інтэлігентнасьці і далікатнасьці сьвецкіх звычаяў ня было на сьвеце роўнага. З зьдзіўленьнем і захопленьнем углядалася Эўропа на Людвіка XIV; усе монархі пераймалі вэрсальскія звычаі; французская мова і пісьменства, французскія моды і звычаі панавалі ўсюдых. Парыж і Вэрсаль зрабіліся сталіцамі сьвету.

**5. Войны: бэльгійская** (1667—1668); **голяндзкая** (1672—1678). Гэтая міравая слава не здаволівала Людвіка XIV; ён жадаў быць яшчэ заваявальнікам, да чаго, праўда, яго падахвочавала аслабленьне сухаземных дзяржаваў, асабліва Гішпаніі. Ужо ў часе першае вайны меўся ён, да нечага прычапіўшыся, адабраць ад Гішпаніі Бэльгію, але саюз Голяндыі, Англіі і Швэдзіі прымусіў яго ўстрымацца і здаволіцца толькі часткаю Фляндрыі (Ліль). Аднак, пасьля ўдалося Людвіку XIV разьбіць гэты саюз, перацягнуўшы на свой бок Швэдзію ды Англію, караля якое (Караля II) ён падкупіў. Тады, перайшоўшы праз валаданьні няме́цкіх князёў, згоды якіх яму ўдалося дабіцца, ён напаў на Голяндыю. Гэтая рэспубліка была саўсім безабароннаю: за час кіраваньня Яна дэ Віта яна саўсім ня дбала аб сухаземным войску, займаючыся выключна разьвіцьцём і ростам марскога дзела. Нічога ня даў рады і голяндзкі марскі гэрой дэ Руйтэр, які ўславіўся ўдачна змагаючыся проці французскага ды англійскага флёту. Ужо войска Людвіка XIV падыходзіла да Амстэрдаму, калі раптам у Газе узгарэлася паўстаньне. Разьюшаны народ забіў Яна дэ Віта і ягонага брата Корнэля. На чале ўраду стануў малады Вільгэльм III Оранскі, які да таго часу быў саўсім адсунуты ад урадаваньня.

Вільгэльм III Оранскі выратаваў край, раскапаўшы, па прыкладу свайго продка, грэблі і гэткім спосабам зрабіўшы немагчымым далейшы паход ворага. Адначасна ўдалося яму зрабіць з курфюрстам Брандэнбургскім, імпэратарам, Гішпаніяй ды іншымі—аружны саюз проці Людвіка XIV. Полымя вайны абхапіла ўсю Эўропу. У канцы Людвік XIV згадзіўся

на мір у Німвэгене (1678), па якому за ўсё павінна была заплаціць Гішпанія, аддаючы Францыі частку Бэльгіі (Валянсьен і г. д.) і Франш-Контэ.

Ад гэтага часу пыха і самавольства францускага караля ня мелі граніцаў. Знайшоў ён спосаб захапляць чужыя зёмлі мірным шляхам. Ён устанавіў адумысловыя суды: Chambres de réunion (суды для адбіраньня назад), заданьнем якіх было вышуківаць зёмлі, што нёкалісь належалі да толькі што атрыманых ім провінцыяў; апіраючыся на пастановы гэтых судоў, ён адабраў у Няме́ччыны і Гішпаніі шмат ме́стаў і вёсак, а між імі — гэткае важнае ме́ста, як Страсбург (1681). Ніхто гэтаму не праціўіўся. Але і апроч таго Людвік XIV, дзякуючы прадажнасьці не́калькіх князёў Імпэрыі, гаспадарыў у значнай частцы Няме́ччыны, быццам у сваім уласным краі. Таксама і ў Італіі пачуваў ён сябе́ гаспадаром і панам. Дрэнна даводзілася тэй італьянскай дзяржаве, якая адважалася не паслухаць ягоных загадаў. На Ге́ную, прыкладам, загадаў ён кінуць каля 14 тысяч бомбаў быццам за не́йкую абразу; навет з папай ён абходзіўся, як з сваім васалем. Недалёка ўжо было да дыктатуры Людвіка XIV над Эўропаю.

**6. Скасаваньне Нантскага эдыкту.** (1685). Кольбэр, які ўпе́рад палягчыў быў падаткі народу, ды паказаў яму дарогі да ўзбагачаньня, каб здабыць грошы на войны Людвіка XIV, быў прымушаны ізноў даве́сьці народ да галіты і пам́ер глыбока парушаны гэтым (1683). У Кольбэры Францыя страціла быццам свайго апякуна; кароль пад старасьць трапіў пад уплывы грубога Лювуа, эзуіта Ля Шэз і біготкі, пані дэ-Мэнтэнон, з якою пазнаёміўся, як з вучыцелькаю дзяцей аднае́ з сваіх каханак, ды з якою пасьля ажаніўся. Гэтую зьме́ну найцяжэй адчулі гугеноты. Ужо даўно каталіцкае духаве́нства імкнулася да зьніштажэньня францускіх протэстантаў, а кароль прыхільна слухаў іхных намоваў.

З сьме́рцяю Кольбэра, які шанаваў гугенотаў, як працавітых і старанных падданых, ды дзеля таго як мага іх бараніў, яны страцілі апошняга свайго абаронцу, і Людвік XIV распачаў поўнае зьніштажэньне таго, што зрабіў ягоны дзед. Ад бацькоў адбіралі дзяцей, каб гадаваць іх каталіцку, не дапускалі гугенотаў да ніякіх урадаў і навет да рамёслаў, руйнавалі протэстанцкія зборы. Каб пераварачаць на каталіцтва, ня брыдзіліся ніякімі спосабамі. А найспрытне́й карыстаўся гэтымі спосабамі Лювуа; у протэстанцкіх дамох стаўляў ён на пастой драгунаў, дазваляючы ім чыніць усялякія гвалты.



У канцы Людвік XIV саўсім скасаваў Нантскі эдыкт (1685) і забараніў пад пагрозаю самых суровых караў адпраўляць хоць-якія протэстанцкія набажэнствы. Таксама і за эміграцыю пагражалі сьме́рцяю або гале́рамі. Ня гле́дзячы на гэта, сотням тысяч гугенотаў удалося паўцякаць ад нялюдзкіх прасьле́даваньняў і схавацца на чужыне; сваёй заможнасьцяй і ве́даю яны памагалі ўзбагачаваньню чужых краёў, а Францыя ўсё гэта страціла.

**7. Вайна ў Палятынаце *) (1688—1697) і гішпанская вайна за спадчыну (1701—1714).** У тым часе, калі край стаяў ужо перад поўным экономічным заняпадам, Людвік XIV гарачэй, чым калі, жадаў заваяваньняў. Ад іме́ньня сваё братавае, княжны палятынацкае, ён дамагаўся Палятынату, дзе памёр бязьдзе́тны курфюрст, і заняў гэты край. На гэты раз усе́ няме́цкія князі згодна злучыліся каля імпэратара дзеля абароны Няме́ччыны ад рабунку. Перад усім Людвіку XIV папсаваў яго пляны Вільгэльм Оранскі, які, дзякуючы рэволюцыі ў Англіі, заняў англійскі пасад. Праз Вільгэльма III Англія, Голяндыя, Гішпанія і Савойя ўвайшлі ў саюз з Не́мцамі. Лювуа, ня бачучы магчымасьці ўтрымацца ў Палятынаце, зьніштожыў засе́вы і спаліў ме́сты - Шпэер, Вормс, Мангэйм і Гэйдэльбэрг, а таксама шмат вёсак, каб ворагі знайшлі адны толькі руіны. Гэты барбарскі ўчынак даў пачатак тэй не́навісьці, якая пасьля дзяліла два сусе́днія народы: Французаў і Не́мцаў.

Выступаючы адначасна ў Нідэрляндах, над Рэйнам, у Італіі і ў Пірэнэях проці злучаных дзяржаваў Эўропы, Францыя яшчэ раз ве́льмі яскрава выказала сваю мілітарную сілу. Але францускія перамогі на сухазе́млі зраўнаважыла няўдача на моры, якую пацярпе́ў францускі флёт ад злучанага англійскага і голяндзкага флёту каля мысу Ля Гог, у Нормандыі. У канцы, дзеля агульнага аслабле́ньня і зруйнаваньня, ваяваўшыя дзяржавы падпісалі мір у Рысьвіку (вёска каля Гагі), па якому Людвік XIV вярнуў назад усе́ свае заваяваньні, якія зрабіў пасьля Німвэгенскага міру, апрача толькі рэюньёнаў у Альзасе (Страсбург).

Людвік XIV згодзіўся на такія варункі міру толькі затым, што спадзяваўся за не́калькі страчаных ме́стаў нагарадзіць сябе́ здабыцьцём цэлае дзяржавы. З Каралём II канчаўся род гішпанскіх Габсбургаў. Бурбоны і няме́цкія Габсбургі былі ў роўнай ме́ры блізкія гішпанскаму двару, ды ме́лі збольшага роўныя правы на гішпанскі пасад. Дзякуючы Вільгэльму III, які дзеля „эўрапэйскае раўнавагі“ стараўся перашкодзіць таму, каб гішпанская монархія ў цэ-

*) Так называлася гэрцогства Пфальц.

ласьці дасталася аднаму дому, Людвік XIV адразу заявіў, што ён гатоў падзяліцца спадчынаю з Габсбургамі. Але, калі Кароль II, нездаволены гэтым плянам падзелу ягонае монархіі, у сваім тэстамэнце назначыў сваім наступнікам Піліпа Анжу, ўнука Людвіка XIV, і яму ўсё адпісаў, Людвік XIV ужо не зьвяртаў увагі на свае папярэднія заявы і з трыумфам казаў: „Няма ўжо Пірэнэяў!“

Вільгэльм III падняў кінутую яму рукавіцу. Ён гэтак пакіраваў справу, што йзноў стварылася вялікая коаліцыя, у якую ўвайшлі Англія, Голяндыя, імпэратар Леопольд I, Прусія, Савойя і Португалія; мэтаю гэнае коаліцыі было перашкодзіць сусьветнаму панаваньню Бурбонаў. І йзноў закіпела вайна—адначасна ў Нідэрляндах, Нямеччыне, Італіі і Гішпаніі (1701—1714). Калі Вільгэльм III ў хуткім часе пасьля таго памёр (1702), яго наступнік у Голяндыі, Гэйнзіус, і галоўны правадыр англійскіх войскаў, князь Марльбору, вялі справу далей у тым самым кірунку. Шмат ім памагаў імпэратарскі ваявода, князь Аўгэн Савойскі, слаўны сваёю перамогаю над Туркамі. З тае прычыны, што баварскі курфюрст зрабіў хаўрус з Французамі, апошнім удалося ўварвацца ў глыбіню Нямеччыны. Тады Марльбору пасьпяшыў з Нідэрляндаў на помач да кн. Аўгэна, і яны разам крэпка разьбілі злучаныя баварскія і францускія войскі пад Гэхштэдтам, над Дунаем; Французы былі прымушаны уступіць.

Цяпер на Людвіка XIV пачалі сыпацца ўдар па ўдары. У самым краю, з прычыны голаду і рэлігійных прасьледаваньняў, узьнімаліся паўстаньні; з другога боку, ня было ўжо даўнейшых слаўных ваяводаў—ані Тюрэна, ані Кондэ, якія-б змагаліся з непрыяцелямі, а вэрсальская атмосфэра не магла ўзгадаваць гэтым ваяводам годных наступнікаў. Пасьля новае перамогі Марльбору пад Раміле (1706) Людвік XIV страціў Бэльгію, а пасьля перамогі Аўгэна Савойскага пад Турынам, у тым самым годзе, ён страціў Італію. А калі гэтыя ваяводы, злучыўшыся разам, блізка саўсім зьніштожылі францускае войска пад Удэнар, над Скальдаю, дык здавалася, што для Францыі надыйшла апошняя гадзіна. Людвік XIV, коручыся сваёй долі, хацеў ужо толькі аднаго: міру—за ўсякую цану. Аднак, калі пераможцы зажадалі ад яго, каб ён збройна выступіў проці свайго ўласнага ўнука, які знайшоў сабе прыхільнікаў сярод Гішпанцаў і трымаўся ў Гішпаніі,—Людвік XIV зрабіў апошняе напружаньне, сабраў войска, і на гэты раз яму пашанцавала. Да таго-ж здарыліся і пэўныя палітычныя зьмены.

Калі памёр імпэратар Язэп I (1711), які гаспадараваў пасьля свайго бацькі Леопольда I, а брат Леопольда, архікнязь Кароль, якога правы на Гішпанію бараніла коаліцыя,



стаўся насьледнікам габсбурскіх краёў і імпэратарам Каралём VI,—коаліцыя разваліласе. Князь Марльбору з прычыны прыдворнае інтрыгі страціў уплывы, і ў Англіі перамагла партыя, што хацела міру. У месьце Утрэхце (ў 1713 г.) ўсе падпісалі мір, апрача аднаго толькі Караля VI, але й той пасьля некалькіх ваенных няўдачаў на другі год таксама падпісаў мір у Раштаце для Аўстрыі і ў Бадэне для Імпэрыі (1715).

Рэзультатам усяе вайны быў падзел Гішпаніі, прычым найбольшая здабыча дасталася Бурбонам, ня гледзячы на ўсе іхнія няўдачы. Унук Людвіка XIV дастаў, як Піліп V, самую Гішпанію разам з колёніямі; імпэратар Кароль VI дастаў Бэльгію, Сардынію, Нэаполь і Лёмбардыю, а князь Савойскі, які ахвотна ўваходзіў у саюзы і заўсёды на гэтым меў нейкую карысьць, дастаў Сыцылію і тытул караля, ды адгэтуль Савойскі дом стаў сьпірацца з Габсбургамі за перавагу ў Італіі. Англія затрымала занятую ў часе вайны крэпасьць Гібральтар, дый атрымала ад Францыі краі ў Амэрыцы над Гудзонскаю затокаю: Ньюфаўнленд і Новую Шкотляндыю, а апроч таго дастала шмат гандлёвых прывілеяў. Брандэнбург разам з Усходняй Прусіяй быў прызнаны за Прускае Каралеўства. Голяндыя атрымала гэтак пажаданы бар'ер ад Францыі ў відзе бэльгійскіх прыгранічных крэпасьцяў, дый мела тую карысьць, што Бэльгія была сьціснута з боку гандлёвага; аднак, ад гэных войнаў Голяндыя гэтак аслабела, што пастанавіла болей ніколі не мяшацца ў вялікую эўрапэйскую палітычную барацьбу.

**8. Канец Людвіка XIV (1715).** Незадоўга пасьля таго памёр Людвік XIV на 72-м годзе свайго панаваньня. Здабыў ён для свайго роду новую дзяржаву (Гішпанію), дый Францыю павялічыў на некалькі значных провінцыяў, але за тое пакінуў яе ў бязвыхадным палажэньні. Дзяржаўныя даўгі дайшлі да вялізарных разьмераў; марское дзела, гандаль, прамысловасьць, адным словам усё блізка, што стварыў Кольбэр,—развалілася; край быў спустошаны, а народ страшэнна зглеў.

Шмат хто перасьцерагаў Людвіка XIV. Адважны біскуп Фэнэлён яшчэ перад вайною аб гішпанскую спадчыну ў самых гострых словах прарочыў рэзультаты гэтых войнаў і заваяваньняў. Навет менш адважны Расін падаў каралю мэморыял аб агульнай галіце і аб спосабах яе зьніштажэньня, а стары Вобан, апрача свае вайсковае дзейнасьці, напісаў даволі вялікую кнігу аб цяжкім палажэньні народу. Аднак, дрэнна даводзілася таму, хто адважаўся гаварыць праўду сапсаванаму лёсткамі каралю. Фэнэлён і Расін былі

выдалены з двара, кнігу Вобана спалілі. Духоўнае разьвіцьцё у Францыі ў часы Людвіка XIV наагул замёрла. Свабода—гэта галоўны варунак разьвіцьця літэратуры, навукі, мастацтва, і ніякая апёка, ніякія пэнсіі для пісьменьнікаў, вучоных і артыстаў яе не заменяць.

Так сама, як вялікія ваяводы і міністры, паўміралі і вялікія песьняры, вучоныя і артысты, не пакідаючы пасьля сябе наступнікаў. Людвік XIV памёр апошнім спаміж людзей сваё эпохі, будучы адзінокім, засмучоным, чуючы праклёны сабе ад свайго народу.

## § 11. Узмацненьне Аўстрыі і Прусіі. Швэдзія і Расея.

**1. Аўстрыя ад аблогі Вены да Белградзкага міру (1683—1739).** Ня глёдзячы на ўсё зьдзічэньне, спрычыненае трыдцацілетняю вайной, сіла нямецкага духоўнага жыцьця ня была зламана; гэта відаць ужо з таго, што ў канцы XVII і на пачатку XVIII веку зьявілася ў Нямеччыне некалькі слаўных людзей, як геніяльны філёзоф Лейбніц, што сваім розумам абыймаў усе навукі, як вялікія музыкі Бах, Гэндэль і інш.

Пры агульнай безнадзейнай хвараблівасьці імпэрыі, у паасобных краёх яе разьвівалася здаровае жыцьцё. Гэтак, Аўстрыя ў часы Леопольда I (1657—1705) прыдбала сабе вялікае значэньне, адпіраючы Туркаў у многіх слаўных бітвах. Расьпешчаныя, кволыя наступнікі Магомэта і Солімана ўсё гаспадараньне здавалі сваім вялікім вэзырам. Аднак, турэцкі паша рэзыдаваў яшчэ ў Будзе, і ў 1683 г. Османы ізноў нарабілі перапалоху ў Эўропе. Іх заклікалі Вэнгры, якіх прыціскаў Леопольд I, і Туркі зьявіліся пад Венаю з вялікім вэзырам Кара Мустафа на чале. Места было ўжо блізкае да ўпадку, ня глёдзячы на адважную абарону ад 200-тысячнае турэцкае арміі. Але на помач месту надыйшоў польскі кароль Ян III Собескі і адагнаў Туркаў.

Далей імпэратарскі ваявода, кн. Кароль Лётарынскі, які быў выгнаны з свайго княжства Людвікам XIV і пайшоў на аўстрыяцкую службу, узяў штурмам Буду і яшчэ раз пабіў Туркаў пад Магачом. Другі імпэратарскі ваявода, кн. Аўген Савойскі, з бакавое лініі Савойскага дому (радзіўся ён у Францыі, але з прычыны свайго непазорнага выгляду ня быў прыняты на вайсковую службу Людвікам XIV), аканчальна перамог Туркаў; у 1697 г. разьбіў ён іх пад Зэнтаю, над р. Цісаю. Па Карловіцкаму міру (1699) Аўстрыя атрымала блізка ўсю Вэнгрыю (Угоршчыну), Славонію і Трансыльванію (Сямігародзьдзе). Яшчэ больш славы прынёс кн. Аўген, як адважны ваявода і дзяржаўны дзеяч, панаваньню імпэратараў Язэпа I (1705—17011) і Караля VI (1711—1740) сваімі перамогамі ў вайне за гішпанскую спадчыну ды здабыцьцём для Габсбургаў Бэльгіі, Лёмбардыі, Нэапалю і Сыцыліі. Пасьля гэтага ён ізноў пайшоў вайною проці Туркаў, разьбіў іх у 1716 г. пад Пэтраварадынам, здабыў моцную крэпасьць Белград і далучыў да Аўстрыі Банат (рэшту Вэнгрыі, паміж Марошам і Цісаю), паўночную Сэрбію і Валошчыну да Алюты (1718).



Хутка, аднак, Аўстрыя страціла частку гэтых здабыткаў. Кароль VI ўмяшаўся ў змаганьне за польскі пасад пасьля сьмерці Аўгуста II (1733) і з гэтае прычыны павадзіўся з Францыяй. Распачалася вайна за польскую спадчыну, у якой ужо старому князю Аўгену не шанцавала, і імпэратар быў прымушаны ў 1735 г. адступіць Нэапаль і Сыцылію бакавой лініі Бурбонаў. Калі Кароль VI, ужо пасьля сьмерці свайго вялікага ваяводы (1736), захацеў у вайне з Туркамі нагарадзіць сябе за страты, дык і тут меў гэтульки няўдачаў, што быў прымушаны па Белградзкаму міру (1739) вярнуць Турцыі Сэрбію і Валошчыну, дый самую крэпасьць Белград. Ня глёдзячы на гэтыя няўдачы, Аўстрыя ўсё-ж асталася першараднаю дзяржаваю, і, хаця сам імпэратар ня меў ніякага значэньня, але, як валадар сваіх спадчынных земель, быў адным з наймагутнейшых монархаў у Эўропе.

**2. Курфюрст Фрыдрык Вільгэльм (1640—1688).** Як некаліся Аустрыя, дзякуючы Габсбургам, вырасла з невялікае провінцыі (мархіі) на першарадную дзяржаву, гэтак і Брандэнбург з мархіі пад уладаю Гогэнцолернаў вырас і зрабіўся магутнай Прусіяй. Гогэнцолерны, графскі род з Швабіі, атрымалі Брандэнбург у леннае ўладаньне ад імпэратара Жыгімонта на Констанцкім Саборы (1415). У пачатку XVII веку атрымалі яны ў спадчыну княжства Клевэ разам з некаторымі провінцыямі, а ў 1618 годзе — Ўсходнюю Прусію; такім спосабам іхнія валаданьні павялічыліся ўдвая. Вэстфальскі мір (1648) ізноў даў ім значны прыбытак. Тагачасны курфюрст брандэнбурскі, Фрыдрык Вільгэльм, званы „Вялікім курфюрстам", пачуваў сябе ўжо гэткім дужым, што ня раз мяшаўся ў агульна-эўрапэйскія справы. Стварыў ён добра вымуштраванае войска, падтрымліваў ім Швэдаў у іхняй вайне з Польшчаю і вызваліў гэткім спосабам Усходнюю Прусію ад нявыгоднае леннае залежнасьці ад Польшчы (1657). У часе вайны, якую распачаў Людвік XIV з Голяндыяй, даўнейшыя саюзьнікі разыйшліся. Курфюрст пайшоў з Голяндыяй, а Швэды памагалі Францыі і ўварваліся ў Брандэнбург у той час, як Фрыдрык-Вільгэльм

знаходзіўся над Рэйнам. Але курфюрсту ўдалося ў бітве пад Фэрбэлінам (1675) саўсім разьбіць Швэдаў і адабраць ад іх Памор'е. Пакінуты сваімі хаўрусьнікамі пры падпісаньні Німвэгенскага міру, ён быў прымушаны аддаць назад свае здабыткі, але і яму і Брандэнбургу асталася ваенная слава.

Свае зе́млі, раскіданыя па ўсёй паўночнай Няме́ччыне, курфюрст злучыў у суцэльную дзяржаву; гаспадарыў ён абсолютна, скасаваўшы прадстаўніцтва станаў, і гэта было прыкладам для ягоных наступнікаў. Усьле́д за Кольбэрам, клапаціўся ён аб экономічным палажэньні насяле́ньня; пры гэтым яму ве́льмі прыдаліся тыя 20 тысяч гугенотаў, што, ўцёкшы з Францыі, знайшлі сабе́ ў яго бясьпе́чны прытулак.

**3. Прускае Каралеўства (1701).** Дабрадушны, але лёгкадумны і раскідлівы наступнік Вялікага курфюрста, Ф р ы д р ы к I, забаўляўся перайманьнем Вэрсальскіх звычаяў на сваім двары; дзеля гэтага яму быў патрэбны к а р а л е́ ў с к і т ы т у л, які ён і атрымаў ад імпэратара Леопольда I ў аддзяку за помач у вайне́ аб гішпанскую спадчыну. Па прыкладу Людвіка XIV, ён апекаваўся навукаю і мастацтвам. Яго сын, Ф р ы д р ы к В і л ь г э л ь м I (1713—1740), быў поўнай процілежнасьцяй свайго бацькі, пагарджаў навукай, мастацтвам і ўсякім комфортам, быў грубы і надзвычайна скупы. На адно толькі ён не шкадаваў грошай і досіць вялікіх: гэта на сталую вялікую армію. Як на тыя часы і прускія адносіны, гэта і запраўды была вялікая армія, бо ў ёй лічылася 80 тысяч людзе́й. Пры сваім двары ме́ў ён гвардыю з жаўне́раў вялізарнага росту, якіх ён зьбіраў з усіх старонак сьве́ту, плацячы вялікія грошы; гэтая армія сталася зародкам будучае магутнасьці Прусаў.

**4. Швэдзія ў XVII ве́ку.** Густаў I Ваза, закладчык дынастыі, дабіўся спадчыннасьці кароны ў сваім родзе. Пасьля яго былі каралямі два ягоныя сыны (Эрык XIV і Ян III). Другі з іх, Я н III, выяўляў сымпатыю да каталіцтва, а ягоны сын, Ж ы г і м о н т, быў адкрытым каталікам і ў 1587 годзе быў выбраны за караля Польшчы. З прычынаў рэлігійных яго зьненавідзелі ў Швэдзіі, дык, калі пасьля бацькавае сьме́рці ён пачаў гаспадараваць у бацькаўшчыне, давялося яму спаткаць шмат труднасьцяў. Яго дзядзька, Кароль, наймалодшы сын Густава Вазы, стануў на чале́ незадаволеных і пасьля даўгое вайны быў абве́шчаны каралём, як К а р о л ь IX. Пасьля яго гаспадараваў (ад 1611 г.) яго слаўны сын Г у с т а ў II А д о л ь ф, закладчык швэдзкае магутнасьці ў XVII і XVIII вяках. Ідучы на трыдцацілетнюю вайну, ён абязаў дзяржаўныя станы прызнаць яго наступніцай пад той час чатырохгадовую дачку яго, К р ы с т ы н у;



у 1644 годзе яна самастойка пачала гаспадараваць. Была яна сільнаю і разумнаю карале́ваю, але ў 1654 годзе зраклася пасаду і выехала заграніцу, дзе прыняла каталіцтва. Карале́ва Крыстына была незамужняя, і па яе жаданьню карона перайшла да яе найбліжэйшага сваяка, Караля Густава, князя Цвайбрюкен. Ад часу перамогаў Густава Адольфа Швэды ўвайшлі ў смак ваяваць; пэўне-ж, для іх, як для народу бе́днага, вайна была рамяслом прыбыткавым. Згодна з настроем свайго народу, К а р о л ь X праз уве́сь час свайго гаспадараваньня (1654—1660) вёў войны. Быў ён ваяводаю добрым, але вельмі грубым. З тае́ прычыны, што польскі кароль, Ян Казімір, як патомак дому Вазаў, ме́ў пратэнсіі на швэдзкі пасад, Кароль X напаў на апошняга ў яго ўласным краю і гэтак распачаў в а й н у з а ш в э д з к у ю с п а д ч ы н у (1655—1660). У саюзе з курфюрстам Фрыдрыкам Вільгэльмам, Кароль X перамог Палякоў. У данскага караля, які памагаў Польшчы, ён адабраў паўднёвы бе́раг Швэдзіі, якім да таго часу валадалі данскія каралі. Аднак, у канцы вайна прыняла для яго непажаданы ход, бо, апрача Даніі, Польшчу падтрымалі курфюрст Фрыдрык Вільгэльм, удзячны за звальне́ньне яго ад ле́ннае зале́жнасьці, Масква, Голяндыя і імпэратар, якім трэба было не́як стрымаць рост Швэдзіі.

Кароль X памёр неспадзявана. Апякуны ягонага бязьле́тняга сына, К а р а л я XI, пасьпяшыліся падпісаць мір з чысьленымі ворагамі Швэдзіі. У часе гаспадараваньня Караля XI імпэратар і брандэнбурскі курфюрст з усіх сіл стараліся скінуць Швэдзію з становішча першараднае дзяржавы. Аднак, на гле́дзячы на няўдачу пад Фэрбэлінам і часовую страту Памор'я, Кароль XI трымаўся моцна. У сваім краі Кароль XI, як ве́льмі добры адміністратар, значна ўзмацаваў карале́ўскую ўладу, якая дагэтуль была забаўкаю ў руках самавольнае шляхты.

**5. Пачаткі навачаснае Расеі.** У пачатку XVIII ве́ку высунулася на палітычную арэну, як трэцяя ўсходняя дзяржава, Расе́я. Ў XIII ве́ку ўкраінскія і вялікарускія княжствы, што былі на ўсход ад Дняпра, папалі ў татарскую няволю. Толькі ў XV ве́ку І в а н III, злучыўшы ўдзе́льныя вялікарускія княжствы ў адну суцэльнасьць, залажыў В я л і к а е К н я ж с т в а М а с к о ў с к а е і скінуў татарскае ярмо (1480). І в а н IV Г р о з н ы, сучасьнік Піліпа II гішпанскага, каранаваўся ў 1574 годзе на ц а р а маскоўскага. Сваю дзяржаву ён павялічыў заваяваньнем татарскіх дзяржаваў над Волгаю, Казані ды Астрахані, а пасьля таго, як казакі на чале́ з Ермаком занялі С ы б і р, ён пашырыў свае панаваньне і за Уралам (1580). Пасьля сьме́рці сына ягонага, цара Хве́дара, пачаўся пэрыод бязладзьдзя, які скончыўся запанаваньнем

новае дынастыі ў асобе Міхала Раманава. Ўсе прадстаўнікі гэтае дынастыі імкнуліся да цясьнейшае сувязі з Заходняю Эўропаю. Але толькі чацьверты цар з гэтага роду, Пётра I (1683—1725), паставіў Маскву ў рад эўрапэйскіх дзяржаваў.

Ад маладых гадоў Пётра I выяўляў надзвычайныя здольнасьці, вялікую борздасьць розуму, надзвычайную цікавасьць і нахіл да чужаземных парадкаў. У Маскве ўжо малады цар пазнаёміўся з многімі чужаземцамі, якіх туды закінула доля, рамесьнікамі, купцамі, мараходамі, тэхнікамі, прамыслоўцамі. З вялікай цікавасьцяй слухаў ён іхніх апавяданьняў аб эўрапэйскіх парадках; асабліва-ж яго цікавілі ваенныя і марскія справы. Дагэтуль маскоўскае войска складалася толькі з стральцоў, якія стварыліся з прыдворнае варты цара Івана Грознага і з эўрапэйскаю вайсковаю арганізацыяй ня мелі нічога супольнага. З мораў-жа Маскоўшчына валадала толькі Белым Морам, якое бывае вольнае ад лёду толькі два месяцы ў год, з портам Архангельскам. Пётра I паставіў сабе мэтай зрэформаваць свой народ на эўрапэйскі лад, стварыць войска па заходняму прыкладу і пашырыць межы сваё дзяржавы на поўначы — да Балтыцкага Мора, занятага тады Швэдамі, а на паўдні — да Чорнага Мора, занятага Туркамі. З гэтаю мэтаю выпісаваў ён эўрапэйскіх вайсковых, марахадоў, тэхнікаў і прамыслоўцаў, высылаў моладзь дзеля эдукацыі заграніцу, ды навет сам incognito выбраўся на Захад, каб пазнаць яго жыцьцё і парадкі. Найдаўжэй быў ён у Галяндыі, дзе ў Саардаме і Амстэрдаме працаваў, як просты карабельны цесьля. У Англіі, у Портсмуце, пышны ваенны флёт давёў яго да неапісанага захопленьня. Хацеў ён яшчэ з Вены паехаць у Італію, але стральцоўскае паўстаньне ў Маскве, скіраванае проці ўсякіх рэформаў, прымусіла яго сьпешна вярнуцца дамоў. Паўстаньне ён хутка сьціхамірыў, не шкадуючы біча, шыбеніцы і колу; стральцоўскую гвардыю скасаваў, а замест яе зарганізаваў войска на эўрапэйскі лад.

Каб добра вымуштраваць армію, ён выпісаў англійскіх інструктароў. Побач з гэтым, бязупынна будаваліся ваенныя і гандлёвыя караблі, закладаліся фабрыкі, адкрываліся капальні, праводзіліся каналы, а на завяршэньне рэформаў было загадана насяленьню пад пагрозаю суровае кары — галіць бароды і апранацца на нямецкі лад. Усякае супраціўленьне гэтай навіне ламалася рэкамі крыві. Ў канцы Пётра I зьніштожыў і апошнія перашкоды свайму самаўладзтву, касуючы патрыярхат і абвяшчаючы сябе галавою праваслаўнае Царквы, а таксама адбіраючы даўнейшыя прывілеі ў старой радавітай шляхты і творачы, паводле рады Лейбніца, новую „шляхту заслугаў", або, проста кажучы, армію дзяржаўных



урадоўцаў, падзеленых на рангі. Дый і сабе заместа старога царскага тытулу даў новы, абвяшчаючы сябе імпэратарам Усяе Расеі, пакідаючы толькі, як дадатковы назоў, „самаўладца" (1721).

Яшчэ ў пачатку свайго гаспадараваньня Пётра I, вядучы вайну з Турэччынай, здабыў места Азоў, а значыць — доступ да Чорнага Мора. Цяпер яго цікавіла найбольш Балтыцкае мора, і як раз хутка здарылася магчымасьць зьдзейсьніць яго пляны.

6. **Паўночная вайна (1700—1721).** Пасьля сьмерці Караля XI (1697) карона перайшла да яго 15-цілетняга сына, Караля XII. Суседзі зараз-жа пастанавілі, карыстаючыся моладасьцяй і непрактычнасьцяй новага караля, сапхнуць Швэдзію з яе першараднага становішча. З гэтай мэтай у 1699 г. Фрыдрык IV, кароль данскі, які меў спрэчку з Гольштэйн-Готорпам, ды Аўгуст II, саксонскі курфюрст і адначасна польскі кароль, якому хацелася здабыць Інфлянты, ці, ляпей кажучы, утрымаць саксонскае войска ў Польшчы супроць ваеннае небясьпекі, зрабілі з царом Пётрай I саюз проці Швэдзіі. З гэтага і пачалася вялікая паўночная вайна.

Хутка выявілася, што задача хаўрусьнікаў не такая лёгкая, як здавалася, бо Кароль XII паказаў сябе годным наступнікам папярэдніх ваяўнічых швэдзкіх каралёў. Вайна пачалася ў 1700 г. напасьцяй Фрыдрыка IV на зямлі князя Гольштынскага і заняцьцем Інфлянтаў саксонскімі вайскамі. Але швэдзкі кароль неўспадзеўкі хутка зьявіўся ў Зэляндыі і прымусіў данскага караля яшчэ ў 1700 г. падпісаць Травэндальскі мір, паводле якога той павінен быў выйсьці з Гольштыніі і адрачыся ад сваіх хаўрусьнікаў. Таксама хутка зьвярнуўся ён проці Пётры I, які з значна вялікшымі сіламі аблягаў м. Нарву, над Фінскай Затокай. Кароль XII страшэнна разьбіў яго, але замест таго, каб выкарыстаць сваю перамогу і прымусіць цара падпісаць мір, ён адразу-ж вырушыў проці Аўгуста II і гэтым даў Пётру I час сабрацца з сіламі.

Вельмі хутка даў ён сабе рады з саксонскім войскам Аўгуста II; як пераможца, увайшоў у Варшаву і Кракаў і прымусіў у 1704 г. польскую шляхту скінуць з пасаду саксонскага курфюрста і выбраць на яго месца за караля пазнанскага ваяводу Станіслава Лешчынскага. У 1706 годзе Кароль XII заняў і Саксонію, ды прымусіў Аўгуста II згадзіцца на мір у Альтранштадзе. На моцы гэнага міру саксонскі курфюрст зрокся польскага пасаду і саюзу з Расеяй, ды апроч таго абязаўся прахарчаваць швэдзкую армію праз зіму.

А Пётра I тым часам вельмі старанна выкарыстаў памылку Караля XII. Ня глéдзячы на няўдачу пад Нарваю, заняў Пётра I Інгрыю, Эстонію і Лівонію з яўнай мэтай завaладаць гэтымі краямі назаўсёды, бо на балотах Інгрыі пабудаваў новую сталіцу Пецярбург (1703), ды залажыў і ўмацаваў шмат портаў. З Польшчы выгнаў ён караля Станіслава Лешчынскага і запатрабаваў ад сойму новых выбараў.

Толькі ў восені 1707 г. Кароль XII павярнуў на ўсход—проці Пётры I. Аднак, замéст таго, каб перад усім адбіць адабраныя Пётрам I надбалтыцкія краі, або пайсьці проста на Маскву, ён паслухаўся казацкага гэтмана, Мазэпу, які пры помачы Швэдаў маніўся вызваліць Украіну ад расéйскага панаваньня, ды пайшоў уперад на Украіну, каб адтуль ужо кранúцца на Маскву. Але Мазэпе не ўдалося пацягнуць за сабою казакоў; апроч таго, Кароль XII пачаў аблогу Палтавы, добра ўмацаванае расéйцамі крэпасьці. Калі на падмогу Пётры I падыйшло значна большае войска, Кароль XII, які ў часе аблогі быў ранены і ня мог вéсьці галоўнае каманды, загадаў атакаваць надыйшоўшыя расéйскія войскі; аднак, ня глéдзячы на адвагу сваіх швэдзкіх вэтэранаў, тут ён мéў поўную няўдачу. Дарога ў Бацькаўшчыну была адрэзана, і мусіў ён з нязначнаю дружынаю ўцякаць за Дняпро і Ніжні Буг на нэйтральную турэцкую тэрыторыю. Чатыры гады аставаўся Кароль XII ў Бэндэрах (турэцкая крэпасьць у Бэсарабіі) і ўвéсь час намаўляў Туркаў на вайну з Расéяю; гэта яму ўрэшце і ўдалося. Калі Пётра I падыйшоў сам з сваім войскам, Туркі яго акружылі над Ніжнім Прутом, і яму пагражаў поўны разгром. Аднак, з гэтае сеткі яму ўдалося вылезьці, падкупіўшы турэцкага вэзыра; Пётра атрымаў навет даволі выгодны для яго мір: яму дазволілі без перашкод адступіць, ды толькі павінен быў вярнуць Турцыі Азоў.

Кароль XII, давéдаўшыся аб пагражаючых яму падзéях у Швэдзіі, пакінуў Бэндэры (1714) і конна прыехаў ў Штральзунд. Зараз-жа хацéў ён заваяваць Норвэгію, але пагіб пры аблозе крэпасьці Фрэдэрыксгаль (1718).

Пасьля Караля XII каралéўскі пасад заняла яго маладзéйшая сястра, Ульрыка Элеонора, жонка князя Гэсэн-Касэльскага; яна згадзілася на абмежаваньне каралéўскае ўлады на карысьць Дзяржаўнае Рады, якую апанавала шляхта. У 1719—1721 гадох быў зроблены аканчальны мір. Паўночная вайна скончылася ўпадкам магутнасьці швэдзкае монархіі і падзéлам яé валаданьняў. Усьці Эльбы і Вэзэра (Брэмэн і Вэрдэн) дасталіся Гановэру; Прусія атрымала ўсё Паморʼе з Штэтынам і усьцем Одэра, а Швэдзіі астаўся толькі Штральзунд і востраў Ругія. Расéі дасталіся



Лівонія, Эстонія, Інгрыя і Карэлія. Такім чынам Швэдзія страціла сваё пануючае палажэньне ў Паўночнай Эўропе на карысьць Расéі.

## § 12. Эўрапэйскае грамадзянства ў XVII і XVIII вякох.

**1. Абсолютызм.** На працягу XVII вéку монархам блізка ўсюдых удалося зьніштожыць апошнія запоры, што яшчэ абмéжавалі іхнюю ўладу. Часамі можна было гэта лічыць навет поступам, бо монархічнае гаспадараньне ўсё-ж было здзéйсьненьнем дзяржаўнага адзінства. Непаслухмяная фэодальная арыстократыя, якая даўнéй ня знала іншае волі, апрача толькі свяé ўласнае, навучылася слухацца вышэйшае ўлады.

Злучаныя між сабою аўторытэтам монарха розныя станы і часткі краю, з якіх кожная дагэтуль мéла свае саўсім асобныя інтарэсы, пачалі пачуваць сябé часткамі большае суцэльнасьці, дзяржавы. За гэты поступ, аднак, прышлося дорага заплаціць,— заплаціць цаною волі.

Усюдых права народу мéць уплыў на дзяржаўныя справы праз сваіх прадстаўнікоў або зрабілася пустою формальнасьцяю, або і саўсім было скасована. Маглі цяпéр монархі накладаць якія - хаця падаткі, зьмяняць і выдаваць законы і кіраваць судамі, як ім толькі хацéлася. Па прыкладу Людвіка XIV, захацéлі монархі, каб усé, навет і найдрабнéйшыя дзяржаўныя справы праходзілі праз іхнія рукі. Калі даўнéй провінцыі, мéсты і грамады самі пастанаўлялі аб сваіх унутраных справах, дык цяпéр гэты парадак зьмяніўся самавольствам урадоўцаў, якія пастанаўлялі аб тым, прыкл., ці якая вёска можа будаваць мост, мéста—адкрываць новы пляц, провінцыя—новую дарогу і г. д. Скасована была ўсякая самадзéйнасьць народу; усё павінна было быць загадана або дазволена ўрадам, усё знаходзілася пад яго кантролем.

Форма вопраткі, велічыня парыка, якасьць выробаў—усё вызначалася ўрадамі; танцы, гульні, курэньне ды зажываньне табакі, піцьцё кавы і г. д. таксама дазваляліся або забараняліся законамі *). Проці монаршае самаволі нася-

*) Кольбэр у сваіх загадах вызначаў, сколькі мае быць нітак у тканінах, а калі хто гэтага ня слухаўся, загадаваў вéшаць тканіны на шыбéніцах і паліць. Фрыдрык Вільгэльм I, кароль прускі, саджаў у вастрог слуг, якія не хацéлі исьці на службу. Яшчэ ў 1775 годзе ў Вальдэку істнаваў спэцыяльны „загад аб каве“, які забараняў пад страхам штрафу ў 10 талераў частаваць каваю прачак; духавéнства павінна было абвяшчаць у цэрквах фаміліі тых, хто ня слухаўся гэтага загаду, каб улады вéдалі, каго штрафаваць.

ле́ньне нічога не магло зрабіць. У Францыі на падставе г. зв. „lettre de cachet“ (пісьменнага загаду з каралеўскаю пячаткаю) можна было кожнага пасадзіць у вастрог бяз усякае прычыны і трымаць тамака бяз суда. Пасьля сьме́рці Людвіка XIV ў Бастыльлі знайшлі Італьянца, які быў арыштаваны ў пе́ршы-ж дзе́нь, як прые́хаў у Парыж, прасе́дзіў у вастрозе 35 гадоў і ані ён, ані хто іншы ня ве́далі, за што. Фрыдрык Вільгэльм I прускі публічна на вуліцы зрываў з жанок уборы чужазе́мнага вырабу, якія забараняў насіць, каб падняць краёвую прамысловасьць. Будучы ў благім настроі, ён біў людзе́й на вуліцы, так што, угледзіўшы яго, людзі як мага ўцякалі з дарогі. Каб укомплектаваць свой „полк асілкаў“, ён дапускаў проста гвалты і рабункі; ні адзін рослы мушчына ня быў у бясьпе́чнасьці ад яго вярбоўшчыкаў. Каб аддзякаваць Пётры I, які прыслаў яму чалаве́ка вялізарнага росту, ён загадаў не́калькіх кавалёў гвалтам вывезьці ў Расе́ю на падарунак цару. Леопольд I, якога навет хваляць за добрае сэрца, заваяваўшы ў 1687 г. Вэнгрыю, загадаў у Эпэр'ес мясцовую шляхту цэлымі масамі тортураваць ды забіваць, хочучы прымусіць яе́, каб зраклася права элекцыі. У XVIII в. маркграф з Анзбаху загадаў жаўне́ру, які стаяў на варце, каб той аддаў яму сваё аружжа; той паслухаўся, і за гэта маркграф засудзіў яго на сьме́рць, як чалаве́ка пудлівага. Гэты самы маркграф уласнаручна забіваў сваіх сабакароў за якую не́будзь няўвагу. У часе амэрыканскае вайны за незале́жнасьць, ляндграф Гэсэнскі, як і іншыя няме́цкія князі, прадаваў Англійцам людзе́й у войска і за атрыманыя такім спосабам грошы утрымліваў двор, які сваёю пышнасьцяю меўся зраўнавацца з Вэрсалем. Кожын няме́цкі двор як мага стараўся зраўнавацца з Вэрсалем ня толькі пышнасьцяй, але і дэморалізацыяй. У Францыі гэтая дэморалізацыя прынамсі злучалася з вялікаю эстэтычнасьцяй формаў, а ў Няме́ччыне яна выяўлялася ў-ва ўсёй брутальнасьці.

Калі некаторыя з эўрапэйскіх монархаў папраўдзе клапаціліся аб дабрабыце насяле́ньня, дык звычайна або быў гэта мінутны капрыс, або спосабы папраўкі палажэньня былі неадпаве́дныя.

Навет найле́пшыя з монархаў, гонячыся за вае́ннаю славаю, або праз ненасытнае імкне́ньне да пашырэньня сваіх валаданьняў, не задумуючыся ахвяроўвалі гэтым мэтам жыцьцё і маемасьць насяле́ньня. Як упе́рад вяліся рэлігійныя войны, так у XVII і XVIII вякох вяліся заваявальныя і спадчынныя войны дзеля асабістых выдумак і капрысаў монархаў.



**2. Няроўнасьць станаў.** Утрыманьне сталага войска, прыдворная роскаш, фаворыты ды фаворыткі монархаў — на ўсё гэта йшлі вялізарныя сумы.

Каб не́як ізноў напоўніць свае́ касы, монархі хапаліся за ўсялякія спосабы; яны проста гандлявалі ўрадавымі становішчамі, шляхоцкімі тытуламі і ўсялякімі прывіле́ямі. З насяле́ньня стараліся выціснуць, скольки толькі можна было. Падаткі ня толькі былі падняты проста да немагчымае вышыні, але да таго яшчэ ляжалі яны блізка што выключна на аднэй, найбядне́йшай клясе насяле́ньня. Усюдых блізка духаве́нства і шляхта былі вольныя ад падаткаў, калі не ад усіх, дык прынамсі ад цяжэйшых. У Францыі, напрыклад, духаве́нства, якое валадала $^{1}/_{5}$ часткаю зямлі і апроч таго брала дзесяціну ад усякіх даходаў парахвіянаў, або нічога не плаціла дзяржаве, або плаціла ве́льмі мала. Шляхта і ўрадоўцы таксама былі вольныя ад пагалоўнага падатку (г. зв. taille). Падаткі ўсім сваім цяжарам клаліся на мяшчан і сялян, якія валадалі толькі палавінаю зяме́льнага прастору; апроч таго, ціснулі іх царкоўныя дзесяціны, фэодальныя падаткі, якія плаціліся паном, і паншчына, якую на іх па крысе́ накладалі паны і шляхта. Асабліва цярпе́лі ад гэтага сяляне, якія гэтак згале́лі, што перасталі быць падобнымі да людзе́й *). Апроч таго блізка ўсюдых існавала падданства вясковага насяле́ньня (прыгон), і, чым далей на ўсход, тым было яно больш пашырана. Крыху ляпе́й, чым няшчаснаму сялянству, жылося мяшчанам, гандлярам ды раме́сьнікам у ме́стах. Аднак, і на мешчаніна, які, ня гле́дзячы ні на што, патрапіў здабыць сабе́ эдукацыю і заможнасьць, шляхта глядзе́ла заўсёды зьве́рху, з пагардаю і няўвагаю. У Няме́ччыне, прыкладам, лічылася за абразу для шляхціца, калі яго дзіцё бывала ахрышчана ў аднэй вадзе з мяшчанскім дзіцём. Для нешляхціца дарога да вышэйшых становішчаў у дзяржаве, арміі і царкве́, за

*) Адзін францускі аўтар у 1689 г. пісаў: Едучы дарогаю, бачым не́йкія асаблівыя жывёлы; чорныя, спаленыя сонцам, худыя, пахіленыя над зямлёю, яны капаюцца ў ёй з нязьме́ннаю вытрываласьцяй. Гавораць людзкаю моваю, а калі падыймуцца, відно, што маюць людзкае аблічча. І запраўды гэта людзі. На-нач знаходзяць яны сабе прытулак у пячорах, дзе жывяцца чорным хлебам, вадою і карэньнямі. Даючы магчымасьць іншым людзям не працаваць пры сяўбе́, арбе́ ды звозцы, яны, здавалася-б, заслугуюць на тое, каб ме́ць хле́б, які здабываюць у „крыві і поце“.

50 гадоў пазьне́й адзін францускі міністар пісаў: „У мамэнт, калі я гэта пішу, у часе міру, пры відах на ўраджай калі не саўсім добрых, дык у кожным разе зносных, людзі мруць, як мухі, ад голаду і аслабле́ньня, а жывяцца травою“.

Гэтак больш-ме́нш было ўсюдых, апрача Англіі ды рэспублікаў Голяндыі, Швайцарыі, Вэнэцыі, дзе́ доля сялянства была хоць крыху зносная. З гэтага, мусіць, паўстала вядомая думка Монтэск'е́: „Ураджайнасьць зямлі ме́нш зале́жыць ад гатунку грунтоў, чым ад волі народу“.

невялікімі выняткамі, была зачынена. Шляхоцкае паходжаньне, з другога боку, адкрывала чалавéку ўсé магчымасьці. У Францыі сямігадовых хлапцоў назначалі палкоўнікамі, калі толькі тыя мéлі князёўскі тытул, ды досіць грошай, каб купіць гэтае дастаéнства.

**3. Перашкоды для земляробства, гандлю і прамысловасьці.** Лёгка зразумéць, што пры гэткіх абставінах сéльская гаспадарка стаяла нізка. У 1750 годзе Францыя мéла ў 4 разы мéнш жывога інвэнтара, чым мае цяпéр, а чацьвéртая частка найлепшае зямлі ляжала дзірваном. І дагэтуль ніхто ня мéў права займацца ніякім рамяслом, калі не налéжаў да адпавéднага цэху. А зрабіцца цэхавым рамéсьнікам было ня так-то лёгка,—у кожным прыпадку шмат каштавала. Трэба было пэўную лічбу гадоў працаваць за вучня і чалядніка, пасьля зробіць паказную працу (майстарштык) і ўвéсь час плаціць то майстру, то цэху, то ўраду.

Такім чынам, навет права на працу было прывілéем і даходам дзяржавы. Гандаль таксама мéў шмат перашкод свайму нормальнаму разьвіцьцю. Урады ўважалі сябé за абсолютных гаспадароў гандлю; маглі яны саўсім забараніць прадажу якога-нéбудзь тавару і заўсёды абвéсьціць на яго свой манаполь, г. ё. захапіць сабé выключную прадажу гэтага тавару. Здаралася няраз, што без усялякае ўвагі на інтарэсы гандляроў, якія дагэтуль прадавалі нéйкі тавар, выдавалася забарона выробляць або прадаваць гэты тавар, і правы на манапольную прадажу ці выраб яго перадаваліся іншым прыватным людзём ці за грошы, ці дзеля ласкі, ці ўканцы дзеля іншых прычынаў. Асабліва часта аддаваліся гэткія манаполі вялікім заморскім гандлёвым фірмам; гэткім спосабам абмéжаваўся сухазéмны гандаль. Бывалі, прыкл., гандлёвыя таварыствы, якія мéлі права даставы збожжа для таго ці іншага мéста; — іншыя мéлі правы малоць гэтае збожжа і г. д. Гэта вéльмі шкодзіла насялéньню, якому нéльга было купляць у іншых гандляроў. Калі на які тавар быў вольны гандаль, дык на яго накладалася множства ўсялякіх падаткаў, пакуль ён даходзіў да рук спажыўца. Ня толькі дзяржава, але і паасобныя провінцыі ды мéсты былі акружаны рагаткамі і мытнымі ўстановамі. На кожнай дарозе і пры кожным мосьце трэба было плаціць падатак. Навет судаходзтва па рэках, утрыманьне якіх тады нічога блізка не каштавала, бо іх тады найчасьцéй не рэгулявалі, абкладалася значнымі падаткамі; прыкладам, судзіна, плывучы 36 гадзінаў па Саоне і Роне, 30 разоў затрымлівалася, і гэтулькі-ж разоў трэба было плаціць спэцыяльныя падаткі за тое, што плыла.



**4. Моральны прыціск.** Народ у тыя часы быў ня толькі пад экономічным прыціскам, але і пад духоўным. Хаця пасьля Вэстфальскага міру спынілася масовыя разьня, што рабілася ў імя рэлігіі, але прымус у рэлігійных справах нагул ня счэз. Людвік XIV, касуючы Нантскі эдыкт, ня быў нéйкім выняткам. Імпэратар Леопольд I у Вэнгрыі прысудзіў спаліць на агні 250 протэстантаў, але пасьля раздумаўся і і прадаў іх па 50 каронаў на гішпанскія галéры*).

Ў 1731 г. князь біскуп Зальцбурскі выслаў з свайго краю ўсіх сваіх падданых протэстантаў пры вéльмі цяжкіх для іх варунках.

У Швайцарыі яшчэ два разы—у 1656 і 1712 гадох—былі рэлігійныя войны. У Польшчы, дзе праз XVI і XVII вякі панавала рэлігійная толерантнасьць, у пачатку XVIII в. па намаганьням езуітаў распачалося прасьлéдаваньне і прыціск некаталікоў.

Калі хрысьціянскія цэрквы ўзаéмна прасьлéдавалі адна адну, дык доля тых, што не налéжалі ні да аднае з іх, была яшчэ горшая. Жыдоў нідзе, за выняткам Голяндыі ды Польшчы, законы не баранілі. Дый там, дзе іх толеравалі, абхадзіліся з імі, як з нéйкаю заразаю. Аб тых часох прыпамінаюць нам брудныя жыдоўскія вуліцы і кварталы, якія паасталіся ў шмат якіх мéстах да нашых дзён. Тут было г. зв. „гéтто“; ад рэшты мéста было яно шчыльна адгароджана, і праз браму варта пускала і выпускала прахожых (вéдама, за плату). Ня ў кожнай гадзіне і ня кожынь дзéнь маглі Жыды хадзіць у хрысьціянскія кварталы. Ўвéсь час узрастаючае насялéньне жыдоўскіх кварталаў проста душылася ў сваіх цéсных завулках. Калі хрысьціянін, апрача шляхты і духавéнства, ніколі ня быў пэўны за сваё жыцьцё, то гэта яшчэ больш адносілася да Жыдоў.

Таго, хто адважыўся мéць свой уласны пагляд на рэлігію і на сьвéт і не хаваў сваіх думак толькі для сябé самога,—таго прызнавалі атэістам, і ўсюдых, апрача Голяндыі, яго чакала вéрная сьмéрць. Ужо ня кажучы аб каталіцкіх краёх, але ў краёх протэстанцкіх, асабліва-ж у Нямéччыне ды Швайцарыі, існаваў дэвіз: перад усім—біблія, а ужо пасьля—навука. Тое, што пярэчыла прызнаванай за сьвятую і непамыльную літары бібліі, лічылася бязбожным, процірэлігійным і з гэтае прычыны было забаронена дзяржаваю; гэтак, прыкл., было з навукаю Копэрніка. Навет наймéншага адхілéньня ад катахізмовае вéры было даволі, каб прызнаць чалавéка неправавéрным. Протэстанцкія тэолёгі ўгаварылі Фрыдрыку Вільгэльму I, што навука профэсара

*) Пры плаваньні ваéнных караблёў ужываліся тады яшчэ нявольнікі, закутыя ў кайданы, якія грэблі вёсламі.

Вольфа, знамянітага вучня Лейбніца, ёсьць процірэлігійная, і кароль, ня пытаючыся ўжо больш ні аб чым, скінуў яго з профэсуры ды, грозячы шыбеніцай, загадаў праз 24 гадзіны выехаць з Прусаў. Каб небясьпечныя творы не псавалі пабожнага і правамыснага настрою насяленьня, урады пазаводзілі ўсюдых цэнзуру над усякімі друкамі. Чалавечую думку душылі ўжо ў зародку, не дапускаючы яе ўглядзіць сьвет; знаходзілася даволі даносчыкаў і на вольнадумныя кніжкі, і гэтыя апошнія па загаду духоўнае дый сьвецкае ўлады паліў кат. За пашыраньне, а навет за самае ўладаньне забароненымі кніжкамі каралі калі ня шыбеніцаю, дык прынамсі галерамі.

**5. Забабоны і праcьледаваньні чараўніц.** Духоўныя й сьвецкія ўлады ня раз абвяшчалі друкарства і школы — шатанскай выдумкай, бо праз іх вырасла непаслухмянасьць і бязьвер'е. Трымаючыся такіх паглядаў, дзяржаўная ўлада вельмі мала, або і саўсім нічога не рабіла дзеля прасьветы масаў; цемната народная лічылася рэчай саўсім натуральнай і пажаданай. За тое забабоны пашыраліся бяз усякіх перашкод. Усюды была пашырана вера ў магчымасьць штучнага прыгатаўленьня золата (альхімія), у „навуковую" варажбу (астролёгія). Валенштэйн, прыкладам, заўсёды і ўсюдых меў пры сабе астролёга, які паводле ўкладу зорак на небе прадсказваў яму ягоную будучую долю. Рэдка калі хваробы і нешчасьлівыя прыпадкі прыпісаваліся натуральным прычынам. Думалі тады, што вайну наводзілі камэты, а заразу і ўсялякія няшчасьці, навет сухмені і разводзьзі,— злыя людзі, што прадалі душу чорту, чараўнікі ды чараўніцы. Страшным рэзультатам гэтых забабонаў былі працэсы чараўніц; гэныя працэсы, дзякуючы папам, пачаліся ўжо ў сярэдніх вякох, але толькі ў XVII веку дайшлі найбольшага разьвіцьцця. Урады каталіцкія і протэстанцкія навыперадкі стараліся зьніштажаць „хаўрусьнікаў чорта", асабліва-ж вызначаліся протэстанцкія ўрады ў Нямеччыне і Швайцарыі. Цікава, што ў гэтых справах, як вынятак для тых часоў, усіх падсудных трактавалі роўна: ні пол, ні век, ні найвышэйшае становішча і самае бліскучае паходжаньне не ратавалі ад страшнога падазрэньня *). Абвінавачаных у гэтых справах заўсёды засуджалі, бо пры помачы мукаў судзьдзі дабіваліся ад ахвяраў усяго, што толькі хацелі, і ў

*) У Люцэрне ў 1652 г. спалілі жыўцом 85-летнюю кабету; у тым самым годзе спалілі дзяўчынку 11-х гадоў, а ў 1659 г.—сямігадовую дзяўчынку ўперад задушылі, а пасьля спалілі. У Вюрцбургу ў працягу 3-х гадоў тортуравалі і прысудзілі спаліць некалькі шляхтаў, 4 канонікаў, 14 катэдральных вікарыяў, жонку бурмістра, некалькі мескіх радных і навет найбліжэйшага сваяка біскупа.



рэзультаце гэткага вымучанага прызнаньня засуджалі на сьмерць. Адзін судзьдзя з Фульды выхваляўся, што спаліў ужо 700 чараўніц і спадзяецца давясьці іх лічбу да 1000. У біскупстве Бамбэргу за адно дзесяцілецьце спалілі 600 людзей, у тым ліку 22 дзяўчынкі менш чым па дзесяць гадоў; іх вінавацілі ў чарах. Тых, хто ня верыў у чараўніц, лічылі за бязбожнікаў. Ня глядзячы на гэта, ад часу да часу, а ў канцы ўсё часьцей адзываліся галасы паасобных людзей проці гэтага дзікога забабону. Гэткія прасьледаваньні здараліся яшчэ і ў XVIII веку, і ў Францыі апошняя гэткая эгзэкуцыя адбылася ў 1748 г., ў Нямеччыне—ў 1775 г., а ў Глярусе—ў 1782 г.

**6. Барбарства судоў.** Нязьлічоныя забойствы імем закону былі-б немагчымымі, каліб суды таго часу ня былі гэткімі благімі. Суд глядзеў на вінавачанага ўжо як на вінаватага, і дасьлед аб ім рабіўся толькі для формы. Вінавачанаму не давалі абаронцы. Пасьля некалькіх месяцаў або гадоў цяжкога вастрогу яго ставілі перад судом і тортуравалі, ажно пакуль ня прызнаецца да узьведзеных на яго правінаў. Процант невінаватых, што прызнаваліся да нейкіх правінаў, якіх, ведама, не рабілі, быў вялізарны.

Кары былі саўсім не пропорцыянальныя да правінаў. Калі вінавачаны выходзіў на волю, пакараны толькі ганебным стаўбом, або з паадсяканымі вушамі ці носам, а пазатым цэлы на целе, дык мог сябе лічыць за шчасьлівага. Засуджалі на сьмерць за такія правіны, за якія цяпер караюць толькі некалькімі месяцамі вастрогу; яшчэ ў палове XVIII веку ў адным толькі баварскім судовым вокрузе за 25 гадоў пакаралі сьмерцяю 1100 людзей. За цяжкія злачынствы звычайнае сьмяротнае кары лічылася помала. Каб павялічыць яе мукі, ужываліся розныя спосабы, якія толькі магла выдумаць нялюдзкая лютасьць: вырывалі язык, шчыпалі распаленамі абцугамі, аблівалі раны гарачым алеем, залівалі горла растопленым волавам, ламалі косьці, садзілі на кол, укручавалі ў кола, чацьвертавалі і г. д. Часта здаралася, што гэткім спосабам забівалі чалавека, а ў хуткім часе выяўлялася яго нявіннасьць. Лютыя кары гэтыя, аднак, ані троху не адстрашалі людзей ад злачынства, ды, наадварот, былі прычынаю павялічэньня злачынных інстынктаў.

## § 13. Англійская рэволюцыя.

**1. Свабоды старое Англіі.** У той час, як ува ўсіх большых і меншых дзяржавах сухаземнае Эўропы панаваў дэспотызм, на шчасьце чалавецтва ў Англіі было йначай. Для свабоды тут былі лепшыя варункі, чым усюдых. Ад вайны

Дзьвюх Рожаў счэз прыгон; кожын быў асабіста вольны, і, наагул, станы не ператвараліся ў касты, як гэта было ў рэшце Эўропы.

Англійскі народ, як і цяпер яшчэ, складаўся з двух галоўных станаў: лёрдаў (паноў) і комунаў (грамадаў), якім адпавядалі і дзьве палаты парлямэнту. Аднак, лёрдамі рабіліся біскупы і вышэйшыя дзяржаўныя ўрадоўцы, і дзеля гэтага кожын прадстаўнік грамадаў мог сваімі талентамі і заслугамі здабыць сабе дастаенства лёрда. З другога боку, тытулы і валаданьні бацькі пераходзілі заўсёды толькі да найстарэйшага сына, малодшыя-ж сыны пераходзілі ў грамаду. Такім чынам, шляхта і народ увесь час злучаліся між сабою, пачувалі сябе грамадзянамі аднае нацыі і супольна залажылі асновы волі, дадаючы да кароны парлямэнт і творачы яго—знарок, ці можа прыпадкова,—гэтак, што па сваёй організацыі і дзейнасьці ён адразу-ж перагнаў усе парлямэнты Эўропы. Калі, прыкл., „Etats généraux“ складаліся з трох сходаў, з дэпутатаў ад шляхты, духавенства і мяшчанства, і з гэтае прычыны трэці стан меў толькі адзін голас проці двух прывілейных,—у англійскім парлямэнце біскупы і шляхта тварылі толькі адну палату—г. зв. верхнюю (палату лёрдаў), а прадстаўнікі графстваў і местаў тварылі другую палату—ніжнюю (палату грамадаў), якая ўвесь час павялічала сваё значэньне і рабілася асноваю ўсяго парлямэнту.

Ужо некалькі сталецьцяў у Англіі лічылася агульным прынцыпам, што кароль ня мог накладаць падаткі і выдаваць законы бяз згоды парлямэнту, і што ягоныя слугі адказвалі перад парлямэнтам за сваю дзейнасьць. Ня гледзячы на прыціск у часе першых Тюдораў, парлямэнт, які ў прыватных справах Гэнрыка VIII і ў тагочасных рэлігійных справах выявіў гэтулькі паблажлівасьці і зразумеласьці, пазьней, калі гэты кароль папрабаваў ападаткаваць народ бяз згоды парлямэнту, даў яму рашучы адпор, клічучы пры гэтым: „Мы Англійцы, а не Французы; мы вольныя людзі, а не нявольнікі“ *). Кароль мусіў уступіць парлямэнту, бо ня меў сталага войска. Англія, забясьпечаная звонку морам ад нападу суседзяў, яшчэ у XVII веку ня мела патрэбы трымаць сталае войска. Знайшоўся, аднак, і ў Англіі каралеўскі род, які сур'ёзна наважыўся ўстанавіць і ў гэтым краі абсолютызм. Гэта былі Стюарты.

**2. Далучэньне Ірляндыі і Шкотляндыі. Якуб I (1603-1625).** Дзень сьмерці Альжбеты — гэта важны мамэнт у брытанскай гісторыі. За некалькі тыдняў перад яе сканчаньнем было закончана заваяваньне Ірляндыі, распачатае Англійцамі яшчэ ў сярэднія вякі. Дзякуючы-ж наступніку Альжбеты, Якубу I, сыну Марыі Стюарт, які, як найбліжэйшы сваяк Альжбеты, заняў пасьля яе сьмерці англійскі пасад, — да Англіі далучылася і Шкотляндыя *). Спачатку Шкотляндыя захоўвала поўную сваю незалежнасьць, маючы ўласны парлямэнт і ўласныя законы; на чужых-жа па крыві каталікоў-Ірляндцаў было накінута самае цяжкое ярмо.

Якуб I, паводле думкі Сюльлі „найвучонейшы дурань у хрысьціянскім сьвеце“, вельмі пышаўся сваёю кніжнаю ведаю і быў наагул вельмі высокае думкі аб сабе і аб сваёй уладзе. Увесь час ён хваліўся, што ягоная ўлада, дадзеная яму „з Божае ласкі“, вышэй за ўладу парлямэнту. Быў ён узгадаваны ў шкотляндзкай царкве; з гэтае прычыны спадзяваліся, што ён і англіканскую царкву зрэформуе ў духу шкотляндзкае. Баяліся яго й каталікі; на пачатку ягонага панаваньня фанатыкі з каталіцкае партыі навет зрабілі на яго і на парлямэнт пакушэньне, манючыся ўзарваць порахам будынак парлямэнту; гэта, аднак, не ўдалося. А выйшла якраз наадварот: Якуб I, згодна з монархічным прынцыпам: „дзе няма біскупа, няма так сама і караля“,—спрыяў англіканскай царкве і прасьледаваў не каталікоў, але пурытанаў. Нездаваленьне ў народзе проці яго было вялікае, асабліва сярод пурытанаў, бо рэспубліканскія настроі іх ён увесь час дражніў сваімі абсолютыстычнымі выдумкамі. Пурытане пачалі масамі эміграваць у Амэрыку і, залажыўшы тамака свае колёніі, завялі ў іх лад, згодны з іх ідэаламі; гэта яшчэ больш узмоцніла імкненьні рэспубліканцаў у Англіі.

**3. Кароль I. Дэспотызм (1625-1640).** Паважней сталі справы выглядаць пры сыне Якуба, Каралі I, які саўсім падзяляў пагляды бацькі, але меў шмат больш адвагі і энэргіі дзеля правядзеньня сваіх плянаў у жыцьцё. Прадстаўнікі народу, нездаволеныя дзейнасьцяй Якуба I, заявілі Каралю I, што дадуць яму тыя сумы, якіх ён прасіў, толькі тады, калі ён дасьць гарантыю, што будзе шанаваць свабоды краю. „Мы цяпер апошняя монархія, якая яшчэ мае свае свабоды“, —зьвярнуўся да караля адзін з прадстаўнікоў; „не адбірайжа іх у нас!“ Кароль распусьціў два парлямэнты адзін па адным, але трэці парлямэнт быў так сама ўпорлівы і прымусіў караля ізноў зацьвярдзіць г. зв. Пэтыцыю аб правох (Petition of rights), другі вялікі англійскі закон аб праве парлямэнту зацьвярджаньня падаткаў, аб незаконнасьці самавольных арыштаў і г. д. Але як толькі парлямэнт, веручы абяцанкам караля, зацьвядзіў тыя сумы, якія той прасіў, Ка-

§ 5.

*) §§ 5, 7.

роль I ізноў распусьціў парлямэнт, а яго кіраўнікоў пасадзіў у васторг (у замак Tower—чыт. Тоўэр); найлепшы прамоўца парлямэнту, Эліот (Elliot), памёр там пасьля чатырох гадоў вастрожнага жыцьця.

Ад гэтага часу Кароль гаспадарыў без парлямэнту, гэтак сама, як было і ў Францыі. Пры гэтым ён найбольш слухаўся радаў амбітнага Тамаша Вэнтворта (Wentworth), пазьнейшага гр. Страфорд, які даўней у парлямэнце належаў да самых заядлых яго ворагаў, пазьней-жа зьмяніў перакананьні. Страфорд хацеў быць тым у Англіі, чым быў у Францыі Рышэльё, і ня зьдзержываўся ні перад якім гвалтам і нарушэньнем закону, змагаючыся за абсолютную ўладу свайго караля. Адначасна арцыбіскуп Лёўд з стараннасьцяй вялікага інквізітара зьніштажаў пурытанства. Сэктантам было забаронена навет эміграваць з краю; пурытанскія пагляды лічыліся злачынствам. Адвакату Прыну (Prynne), які, ўсьлед за Кальвінам, выступаў проці тэатраў, танцаў і маскарадаў, былі адсечаны вушы, яго стаўлялі да ганебнага стаўба і засудзілі ў вастрог да сьмерці. Прадажныя судзьдзі „Высокае Камісіі“, інквізіцыйнага трыбуналу для рэлігійных спраў, ды „Зорная Палата“ — для палітычных спраў засуджалі, ня глёдзячы на закон і права, кожнага, каго ім скажа засудзіць Вэнтворт або Лёўд.

Юрыдычную немагчымасьць накладаць падаткі без дазволу парлямэнту кароль стараўся абмінуць гэткім спосабам, што прымушаў грамадзян пазычаць яму грошы, або аднаўляў старасьвецкія забытыя звычаі. Так, прыкл., некалісь, у той час, як краю пагражаў вораг, зьбіралі надзвычайны падатак дзеля ўзбраеньня караблёў. Кароль-жа загадаў цяпер зьбіраць гэты „карабельны грош“ па ўсім краі ў часе міру. Джон Гэмпдэн (Hampden), багаты і вельмі паважаны зямляўласьнік, адважыўся адмовіцца ад выплаты гэтага падатку, не прызнаючы яго законным. З вялікай цьвёрдасьцяй ён бараніў перад судом справу сваю і ўсяго англійскага грамадзянства, але прайграў справу. Змаганьнікі за волю ўжо страцілі былі ўсякую надзею, калі шкоцкае паўстаньне дало ім магчымасьць далейшае барацьбы.

**4. Шкоцкае паўстаньне. Даўгі парлямэнт (1634—1642).** Лёўд, кіраваны сваею фанатычнаю стараннасьцяй, хацеў гвалтам накінуць прэзбытэрыянскай царкве біскупаў і цэрэмоніі паводле англійскіх звычаяў. Аднак, калі ў Эдынбургу першы раз пачалі адпраўляць набажэнства па новаму, разьюшаны народ падняў крык у царкве, і, як ува ўсім месьце, так хутка і па ўсім краі ўзгарэлася паўстаньне. Шкоты ўсіх станаў, стварыўшы формальны саюз — covenant, прысягнуліся бараніць сваё рэлігіі да апошняга.



Кароль I пастанавіў гэрэтыцкіх бунтаўнікоў прымусіць да послуху, але ў яго былі замалыя аружныя сілы, ды ня меў ён адвагі з англійскага народу, у вялізарнай большасьці прыхільнага да паўстаньня, гвалтам выціснуць патрэбныя на вайну з паўстанцамі грошы. Нічога больш яму не аставалася, як склікаць ізноў парлямэнт, без якога ён абыходзіўся 11 гадоў. Аднак, калі парлямэнт пачаў рабіць закіды папярэдняму гаспадараньню, ён, ня доўга думаючы, распусьціў яго. А тым часам Шкоты ўварваліся ў Англію, і Кароль мусіў склікаць новы парлямэнт. Гэты векапомны збор, якім кіравалі вялікі прамоўца Пім (Pym), разважны Гэмпдэн і іншыя, безадкладна згаварыўся з Шкотамі і адважна распачаў барацьбу з каралёўскім самавольствам і памоцнікамі караля. Міністраў аддалі пад суд, як дзяржаўных злачынцаў; Лёўда пасадзілі ў Тоўэр, Страфорда засудзілі на сьмерць; кароль падпісаў гэты прысуд, хоць і абяцаў прысуджанаму што гэтага ня зробіць, і Страфорда сказьнілі. Былі скаса, ваны і Высокая Камісія, і Зорная Палата, ды іншыя вынятковыя суды, а ўсіх, раней засуджаных імі, звольнілі. „Карабельны грош“ быў прызнаны незаконным; караля абязалікаб склікаў парлямэнт прынамсі кожныя тры гады. Адначасна мусіў кароль зацьвярдзіць закон, што не распусьціць і не адложыць істнуючага збору парлямэнту бяз згоды яго самога.

Дагэтуль парлямэнт працаваў саўсім аднадумна, як, адзін чалавек, а ўвесь народ пахваляў яго; ад гэтага-ж часу думкі пачалі расхадзіцца. Раздваеньне пачалося з прычыны розных паглядаў на монаршую ўладу і на царкоўныя справы. Пурытанская большасьць у Палаце Грамадаў старалася здабыць сабе перавагу і ў краі і дабіцца, каб парлямэнт быў вышэй за каралёўскую ўладу; апроч таго, хацела яна саўсім скасаваць англійскую царкоўную гіэрархію. Супроць гэтага выступіла вельмі сільная оппозіцыя. Лучачыся з ёю, мог бы Кароль I удзяржаць яшчэ значную ўладу, калі-б хацеў ды ўмеў гэтую опозіцыю падтрымліваць. Але Кароль I думаў толькі аб тым, каб неяк выкруціцца з дадзеных абяцанак, і затым ніхто яму ня верыў.

У канцы зорганізаваліся дзьве партыі. Адна—з настроямі рэспубліканска-пурытанскімі (г. зв. круглыя ілбы, як іх называлі за тое, што каротка стрыглі валасы); яна пераважала на паўдні і ўсходзе, складалася-ж найбольш з мяшчанства, асабліва лёнданскага, і з нейкага чысла вялікіх паноў, лёрдаў, супраціўнікаў незалежнае каралеўскае ўлады. Другая партыя была настроена больш памяркоўна, роялістычна і схілялася ў бок англіканскі; яе называлі каралеўскаю (або „кавалерамі“). Найбольш сілы яна мела на поўначы і захадзе, складалася-ж пераважна з вясковае шляхты

і англіканскага духавенства. На вуліцах Лёндану ўжо пачаліся бойкі паміж насяленьнем і жаўнерамі, ды паміж абедзьвюх партыяў, пры чым радыкальная партыя брала верх, бо ёй спачувала большасьць жыхараў сталіцы.

Аканчальна партыі разыйшліся і пурытане парвалі зносіны з каралём з прычыны паўстаньня Ірляндцаў, якое распачалася тым, што былі перабіты ўсе знаходзіўшыяся ў Ірляндыі протэстанты. Ужо і да таго існавала спорка паміж „круглымі ілбамі“ і „кавалерамі“ ў справе аб галоўнай уладзе караля над арміяй. Цяпер трэба было сьпешна загадаць вайсковы набор, каб усьцішыць ірляндзкае паўстаньне. А тым часам баяліся, каб пад галоўнай камандай караля войска не завяло нанова тыраніі. Кароль І, раздражнены тонам пасольскіх прамоваў у гэтай справе, аднаго дня зьявіўся ў парлямэнт з аружнаю сілаю, каб заарыштаваць Гэмпдэна і Піма, ды яшчэ трох правадыроў партыі „круглых ілбоў“. Гэта яму, аднак, не ўдалося, бо папярэджаных загадзя аб гэтым дэпутатаў на сходзе ня было.

Страшное абурэньне запанавала сярод народу. Лёнданскія грамадзяне узброіліся дзеля абароны парлямэнту і з трыумфам увялі назад у залю гэных пяцёх дэпутатаў. Опозіцыя рашуча перамагла. Кароль І выехаў з бунтаўніцкае сталіцы і затрымаўся ў роялістычным месьце Іорку. Яшчэ нейкі час ішлі перагаворы, але ў канцы, калі ніводная з партыяў не хацела уступіць другой, хапіліся за аружжа.

**5. Дамовая вайна (1642—1645).** Калі гэтак распачалася дамовая вайна, шляхта і каталікі згуртаваліся каля караля; на поўначы і на захадзе пайшлі за ім і народныя масы. З другога боку парлямэнт меў за сабою багатыя, густа заселеныя паўднёвыя ды ўсходнія провінцыі і блізка ўсе месты. Спачатку перамагаў кароль. Наёмныя жаўнеры, з якіх складалася войска парлямэнту, не маглі зраўнавацца з добра вымуштраваным шляхоцкім войскам; апроч таго, вялікія парлямэнтарныя пурытанскія прамоўцы аказаліся слабымі ваяводамі, за выняткам толькі Гэмпдэна, які без пары зламаў сваю галаву. Але праз некалькі гадоў палажэньне зьмянілася дзякуючы геніяльным ваенным талентам **Олівэра Кромвэля**, сваяка Джона Гэмпдэна.

Да саракавага году жыцьця Кромвэль жыў у вёсцы, як скромны зямляўласьнік. Выбраны ад места Кембрыджа ў „даўгі парлямэнт“, ён, ня глядзячы на сялянскую грубаватасьць і прастату ды няпрыемны голас, вызначыўся як агнявы пурытанскі прамоўца; аднак, сваю праўдзівую веліч ён выявіў у часе аружнае барацьбы. Заняўшы ў войску становішча палкоўніка, ён хутка заўважыў недахваты пурытанскае арміі. Заместа таго, каб запоўніць свой полк наёмнымі жаўнерамі, ён паехаў у свае графства, клікнуў да аружжа сялянскіх сыноў, намовіў іх да самае строгае вайсковае дысцыпліны і гэткім спосабам здабыў байцоў, поўных запалу да справы, за якую йшлі змагацца. З гэтым палком у 1644 г. недалёка ад Іорку Кромвэль пачаў бітву з каралеўскім войскам і бліскуча яго перамог. З гэтага мамэнту стаўся ён душою змаганьня. Праўда, парлямэнт формальна не назначыў яго галоўным ваяводаю, аднак даверыў яму фактычнае кіраўніцтва ў арміі і даў яму магчымасьць зрэформаваць усю яе паводле прыкладу свайго палка. У 1645 г. пад Нэсбі ён саўсім разьбіў вайсковыя сілы караля. Кароль І уцёк у Шкотляндыю, але ня ўмеў перахіліць на свой бок Шкотаў, і тыя выдалі яго англійскаму парлямэнту.



**6. Казьнь Караля І (1649).** Перамога пурытанаў была поўная. Але йзноў пачалося раздваеньне ў парлямэнце з прычыны розьніцы ў паглядях на справу англіканскае царквы. Некаторыя ўжо дзеля ненавісьці да Лёўда, якому пад канец адсеклі галаву, хацелі саўсім скасаваць біскупскія парадкі, якія той гвалтам заводзіў. Вялізарная большасьць пурытанаў манілася замест англіканскае царквы стварыць чыста кальвінскую, або прэзьбітэрыянскую, як у Шкотляндыі, да таго-ж такую, каб не цярпела ніякіх адхіленьняў у бок. Але ўжо паміж іх сталі знахадзіцца людзі, якія казалі, што ўсялякі прымус у справах веры становіць нешта ганебнае, незалежна ад таго, ці ён ідзець ад біскупаў, ці ад прэзьбітэраў. Яны жадалі толеранцыі для кожнае хрысьціянскае грамады ці сэкты, так, каб кожная была незалежная (independent) ад дзяржаўнае царквы і магла служыць Богу паводле свайго ўласнага разуменьня. Толеранцыя гэтая была нялішне шырокая, не абыймала навет каталікоў, аднак-жа жаданьне яе выклікала ў парлямэнце вялікае абурэньне, а сярод духавенства і народу—гвалтоўны адпор. За тое ў войску знайшлося шмат прыхільнікаў гэткае куртатае толеранцыі; іх называлі **індэпэндэнтамі**. Такім чынам спорка паміж індэпэндэнтамі і прэзьбітэрыянамі абярнулася ў спорку парлямэнту з войскам. Калі-ж парлямэнт захацеў распусьціць войска, пурытанскія жаўнеры заваладалі асобаю караля, занялі Лёндан і прымусілі парлямэнт адмяніць свае пастановы. Абедзьве партыі вялі перагаворы з каралём, а той умаўляўся то з аднэю, то з другою, хочучы і тую і другую ашукаць ды спадзяючыся, што яны ўзаемна сябе зьніштожаць. Гэтая двудушнасьць якраз і загубіла Караля. У канцы жаўнеры страцілі цярплівасьць і рашуча зажадалі, каб караля, як вінавайцу разьліцьця крыві, казьніць і, нагул, раз назаўсёды скасаваць монархію. Пазываліся яны пры гэтым на біблію, прыпамінаючы словы Самуэля, што

монархія ёсьць нявéрнасьць Богу, ды яшчэ на тое, што найбольш знамянітыя старавéчныя дзяржавы былі рэспублікамі. У справах рэлігійных яны жадалі поўнага аддзялéньня царквы ад дзяржавы, ды бязумоўнае толеранцыі.

Каліж большасьць парлямэнту не хацéла і слухаць аб гэтым, а ўсякай цаной старалася пагадзіцца з каралём, Кромвэль заняў войскам залю парлямэнту і выдаліў адтуль усіх прэзьбітэрыянаў; у залі асталося толькі 50—60 індэпэндэнтаў, дзясятая частка ўсяго складу парлямэнту. З гэтага часу жаўнéры зрабіліся праўдзівымі гаспадарамі ў краі; на шчасьце, аднак, былі гэта жаўнéры, якія ўзяліся за аружжа ня дзеля платы, ці рабункаў, а дзеля абароны сваé вéры і волі. Вызначаліся гэтыя ваякі павагаю, рэлігійнасьцяй і моральнасьцяй; п'янства, шулерства ды іншае распусты сярод іх ня было; свой вольны час займалі яны малітвамі, казаньнямі, ды гутаркамі аб рэлігійных і палітычных справах. „Ачышчаны" імі парлямэнт, які злосьнікі называлі „тулавам", зорганізаваў „надзвычайны суд" для разьвязаньня справы караля. Надарэмна Кароль I не прызнаваў яго компэтэнцыі ў сваéй справе. Кароль быў засуджаны на сьмéрць, як тыран, здраднік, забойца і вораг дзяржавы, і адважна памéр на памосьце, на пляцу перад сваім палацам Уайтголем у Лёндане. Монархію і вéрхнюю палату скасавалі, як непатрэбныя і шкодныя; гаспадараньне даручана было дзяржаўнай радзе, зложанай з 41 сябра і назначанай парлямэнтам.

**7. Англія, як рэспубліка (1643—1653).** Да рэспубліканскага ўраду ўвайшлі людзі з вялікімі здольнасьцямі і найсьвятлéйшымі імкнéньнямі. Апрача Кромвэля, найвіднéйшаю духоўнаю сілаю быў шляхціць Гарры Вэн (Vane), які ўсё сваё жыцьцё аддаў на змаганьне за волю. Вораг усялякага гвалту, ён голасна ганіў і выдалéньне прэзьбітэрыянаў з парлямэнту, і яшчэ больш—казьнь караля. Аднак, калі прадмéт яго лятуцéньняў—рэспубліка—зьдзéйсьніўся, ён не адмовіўся служыць новаму ўраду. Паэт Ян Мільтон, якога ў Англіі ставяць найвышэй—пабач э Шэкспірам (ён напісаў поэму: „Страчаны рай", ды шмат твораў, выслаўляючых вольнасьць сумлéньня і друку),—быў дзяржаўным сэкрэтаром рэспублікі і сваім геніяльным пяром шмат дапамог рэспубліцы апраўдацца перад Эўропаю за казьнь караля.

Маладая рэспубліка, аднак, мéла яшчэ шмат труднасьцяў пéрад сабою. Маса англійскага народу або зусім ня цікавілася зьмéнай формы сваёй дзяржаўнасьці, або йшла проці яé. У Ірляндыі абвéсьцілі каралём сына сказьнёнага караля, Караля II; навет Шкоты не хацелі слухаць аб рэспубліцы і ад імя Караля II распачалі аружную барацьбу з рэспублікаю. Заграніца-ж, як каталіцкая, так і протэстанц-



кая, закідала „забойцаў караля" словамі абурэньня і пагарды. Ў Гаазе і Мадрыце пазабівалі англійскіх паслоў, і ўрады не пакаралі забойцаў. Роялісты па прыкладу „вадзяных Гéзаў" ладзілі корсарскія напады на караблі англійскага рэспубліканскага ўраду; ува ўсіх эўрапэйскіх портах знаходзілі яны сабé прыпынак і добрае прыймо. Рэспубліканцы, аднак, вéручы ў аканчальнае ўстанаўлéньне волі ў родным краі, моцна і трывала стаялі на сваім. Кромвэль высадзіўся ў Ірляндыі і страшэнна адамсьціў тамашняму насялéньню за разьню протэстантаў. Тысячы Ірляндцаў былі пазабіваны пры штурме мéстаў, тысячы былі выгнаны з-пад роднае страхі, а іхнія зéмлі параздаваны англійскім колёністам. Пасьля ў дзьвюх бітвах Кромвэль саўсім разьбіў Шкотаў і прымусіў іх прызнаць рэспубліканскую ўладу ў Англіі і Шкотляндыі. Кароль II толькі нéйкім цудам выратаваўся ад арышту, ды ўцёк за мора.

Аднача сна з гэтым Вэн (Vane), як старшыня марскоe рады, стварыў магутны ваéнны флёт і знайшоў для яго адпавéднага кіраўніка ў асобе Робэрта Блэка (Blake), які з пурытанскага афіцэра сухазéмных войск зрабіўся пéршым марскім гэроем свайго вéку. Калі ён, зьявіўшыся на моры, паразганяў роялістычных корсараў, а за кожную абразу сваé дзяржавы зажадаў здаваленьня, хоць і памяркоўнага, але рашуча і нязломна, — эўрапэйскія дзяржавы задрыжэлі перад рэспублікай і хутчэй падпісалі з ёю мір, ды навет пачалі клапаціцца аб саюз з ёю. Мазарыні парадзіў маладому Людвіку XIV напісаць уласнаручны ліст да Кромвэля, каб упрасіць зрабіць саюз проці Гішпаніі.

Галяндцы дорага заплацілі за варожыя адносіны да сястры — рэспублікі. У часе гаспадараваньня няздольных Стюартаў марскоe дзéла было ў Англіі саўсім закінута; Галяндцы, карыстаючыся гэтым, захапілі ў сваé рукі ўвéсь марскі гандаль Англіі. Цепéр парлямэнт зрабіў канец гэтаму палажэньню, прыняўшы г. зв. навігацыйныя акты, якімі забаранялася чужым караблём прывозіць у англійскія порты іншыя прадукты, апрача тых, якія паходзілі з іхнага ўласнага краю, або яго колёніяў. Гэтая пастанова была прычынаю вялікае марскоe вайны з Галяндыяй, у часе якое ў працягу 15 мéсяцаў адбылося 10 марскіх бітваў на Паўночным Моры, у Канале і на Міжызéмным моры. Як Галяндцы пад камандаю адважных адміралаў Тромпа (Tromp) і дэ Руйтэра (de Ruyter), так і англійцы — пад камандаю Блэка і Пэнна (Penn) выявілі цуды адвагі. У бітве пад Швэвэнінген (Sweveningen) Тромп быў забіты, і справа павярнулася непамысна для Галяндцаў. Аканчальна аслабленыя, яны мусілі падпісаць мір. Англійская марская магутнасьць сталася пéршаю ў сьвéце.

**8. Абсолютнае панаваньне Кромвэля (1653—1658).** Рэспубліканская форма гаспадараньня ня была популярнаю ў Англіі. Ня глéдзячы на сваю адвéчную любоў да волі і на барацьбу за яé, народ быў вéрны монархічным традыцыям. Шчырыя рэспубліканцы прадстаўлялі нязначную мéншасьць. А Кромвэль, улюбéнец войска, быў залішне магутнай асобай, каб не хацéць здабыць сабé найвышэйшую ўладу. Карыстаючыся з новае спрэчкі паміж парлямэнтам і войскам, ён разагнаў парлямэнт „тулава“ ды дзяржаўную раду і гэткім чынам стаўся самаўладным гаспадаром Англіі. Ня вéручы ў магчымасьць далéйшага істнаваньня рэспублікі, ён пастанавіў аднавіць монархію з тэй толькі розьніцай, каб на мéсцы Стюартаў сéлі Кромвэлі. Аднак, з прычыны таго, што войскі, на якія ён апіраўся, ніколі не згадзіліся-бы на адкрыты паварот монархіі, ён пастанавіў затрамаць рэспубліканскі выгляд ураду, назначаючы сябé лёрдам протэктарам рэспублікі. Хацéў ён навет гаспадарыць паводле даўнéйшых законаў, дык склікаў парлямэнт і аднавіў вéрхнюю палату. Але ўсё-ж і роялісты, і прэзьбітэрыяне, і рэспубліканцы роўна ненавідзелі яго. Край увéсь час выбіраў дэпутатаў, якія складалі оппозіцыйную большасьць, і лёрд-протэктар увéсь час распускаў парлямэнты ды склікаў новыя. У канцы свайго панаваньня Кромвэль мусіў абаперціся выключна на войску; разьмясьціўшы яго па ўсім краі, ён душыў кожнае паўстаньне ў зародку; праз шпéгаў ён давéдаваўся аб кожнай пачатай змове і ў сваім часе яé папераджаў.

Гэтак рэволюцыя скончылася тым, проці чаго былі скіраваны яé пéршыя ўдары: абапёртым на войску дэспотызмам. Праўда, Кромвэль гаспадарыў і сільна, і разумна, як у самай дзяржаве, так і вонках яé. Калі ня йшло аб яго ўладу і значэньне, усякі знаходзіў сабе закон і справядлівасьць у гэткай мéры, як ніколі ўпéрад. Вéрны прынцыпам індэпэндэнтаў, ён усім сэктам даў роўныя правы, дый пайшоў навет далéй, бо дазволіў і Жыдом пабудаваць у Лёндане сынагогу; толькі аб каталікох ён забыўся. Гэтая нетолерантнасьць у адносінах да каталікоў з аднаго боку характэрызуе цеснату тагачасных паняцьцяў у рэлігійнай сфэры, а з другога боку выяўляе пэўнае нявéр'е протэстантаў у свае сілы; яны тады яшчэ баяліся павароту каталіцтва ў такіх абставінах, як было пры Мэрыі Тюдор. Асабіста ў Кромвэля быў яшчэ страх перад магчымай рэволюцыяй на карысьць Стюартаў і, значыць, перад упадкам ягонае ўлады.

У часы Кромвэля Англія зрабілася першараднаю дзяржаваю. Выслаўшы Францыі вайсковую помач у яé вайнé з Гішпаніяй, лёрд-протэктар за гэта атрымаў Дюнкірхен, і Англія ізноў умацавалася на сухазéмлі; апроч таго, ён ада-



браў у Гішпанцаў адзін з найлéпшых іхніх астравоў, Ямайку*). На Міжызéмнае Мора ён выслаў значны флёт, які нагнаў страху мусульманскім корсарам у Альжыры і Тунісе, а таксама урадам італьянскіх дзяржаваў. Усюдых ён апекаваўся протэстанцтвам; з гэтае прычыны пасьля вайны з Голяндыяй ён зрабіў з ёю саюз, крыху злагодзіўшы ня яе карысьць „навігацыйныя акты“. Пасьля зрабіў ён саюз і з Швэдзіяй, як з найбольш магутнай протэстанцкай дзяржавай. Калі князь Савойскі пачаў сурова прасьлéдаваць жыўшых у альпэйскіх далінах Вальдэнзаў, Кромвэль толькі прыгразіў, і гэтага было ўжо годзе: прасьлéдаваньні былі спынены. Навет папа лічыўся з Кромвэлем.

Акружаны гэткаю славаю, Кромвэль памёр (1660), назначыўшы наступнікам свайго сына.

**9. Рэстаўрацыя Стюартаў. Кароль II (1660—1685).** Імя Кромвэля было акружана гэткаю пашанаю, што ягоны сын, Рычард, адразу-ж без перашкодаў быў прызнаны яго наступнікам. Але новага лёрда-протэктара не ўпадабала войска, дый наагул ня мéў ён здольнасьці, каб гаспадарыць гэтак, як яго бацька, і з гэткаю-ж сілаю. Праз восем мéсяцаў Рычард часткаю самахоць, часткаю — з мусу падаўся ў адстаўку, выгаварыўшы сабé сплату даўгоў і значны грашавы дар. Цяпéр распачаўся час унутраных спрэчак і непаразумéньняў, бо скліканы Рычардам Кромвэлем „парлямэнт-тулава“ вёў увéсь час барацьбу з афіцэрамі за панаваньне. Тады генэрал Монк, амбітны намесьнік Шкотляндыі, увайшоўшы з войскам у Англію, дапоўніў парлямэнт дэпутатамі, выключанымі ў 1645 г. і аднавіў гэтак „Даўгі парлямэнт“; пасьля гэтага ён распачаў перагаворы з Каралём II, які знаходзіўся ў Брусэлі. „Даўгі палямэнт“ сабраўся яшчэ адзін раз, каб, як адзіная легальная ўлада ў краі, пастанавіць распусьціць самога сабé і склікаць новы парлямэнт.

Агульны настрой у краі гэтак зьмяніўся, што новы парлямэнт блізка што аднагалосна пастанавіў паклікаць Караля II на бацькаўскі пасад. Той вярнуўся пры радасных кліках народу. Страшнае нéкаліс пурытанскае войска, аслабленае нязгодаю, не дало ніякага адпору; яно было адразу-ж распушчана.

Кароль II ўрачыста дэкляраваў амністыю і волю сумлéньня. Аднак, як толькі ён пачуў сябе бясьпéчным на каралéўскім пасадзе, як зразу-ж зламаў слова і даў волю помсьце сваіх прыхільнікаў. Труп Кромвэля дасталі з труны, чацьвертавалі і спалілі. Разам з „трынадцацьма забойцамі караля“ згінуў на памосьце правадыр рэспубліканцаў, чэсны

*) § 10

Вэн (Vane); гэткая-ж доля пагражала і Мільтону. Аднаўленая біскупская царква нанова пачала прасьле́даваць прэзьбітэрыянаў.

Кароль аказаўся няздольным гаспадаром і чалаве́кам распусным, лёгкадумным і раскідлівым, дык у хуткім часе ўве́сь народ адхінуўся ад яго з пагардаю. Каб пакрыць церазме́рныя выдаткі на свой двор, ён ня стыдаўся браць грашавую помач ад Людвіка XIV, вядучы за тое шкодную для свайго краю палітыку. Так, прыкл., ён прадаў францускаму каралю здабыты Кромвэлем Дюнкірхен і за грошы даў яму вайсковую помач у вайне́ з Галяндыяй. Гаварылі навет, што ён атрымліваў ад Людвіка XIV сталую пэнсію— 3 міліоны ў год за тое, што прызнаў сябе́ ягоным васалем і абяцаўся аднавіць каталіцкую царкву ў Англіі. Гэтыя ве́сткі ве́льмі абуралі народ, а рэлігійная палітыка караля яшчэ ўзмацоўвала бунтаўнічыя настроі. Хаця Кароль II ўпе́рад быў бязуважным на справы рэлігіі, аднак пад старасьць ён пачаў выяўляць усё больш спогад каталіцтву. Да гэтага пэўне-ж памаглі і зносіны з Людвікам XIV, які што раз больш упорліва дамагаўся спаўне́ньня дадзеных яму абяцаньняў аб навароце Англіі. Брат караля, Якуб, князь Іоркскі, адкрыта прыняў каталіцтва. Аднак, калі кароль г. зв. дэкляраныяй індульге́нцыі самавольна скасаваў усялякія кары, накладаныя на неконформістаў, узьняўся рэлігійны англіканскі рух, і ў 1673 годзе кароль быў прымушаны зацьвярдзіць тэстацыйныя акты, якіх дамагаўся парлямэнт. Паводле апошніх кожын, хто хаце́ў у Англіі дастаць урадовае становішча, або афіцэрскую ступе́нь, павінен быў перад гэтым злажыць тэстацыйную прысягу, па якой ён абязваўся прызнаваць вярхоўную ўладу караля ў царкоўных справах і адкідаць каталіцкую навуку аб транссубстанцыяцыі. Гэты закон прымусіў Якуба, як справядлівага каталіка, зрачыся дастае́нства вялікага адмірала, якое датуль ме́ў.

Кароль II ня ме́ў законнага патомства: яго наступнікам быў брат Якуб, каталік. Каб недапусьціць заняцьця англійскага пасаду каталіком, фанатычныя англіканцы і амбітныя дзяржаўныя дзе́ячы выклікалі ў народзе рух, які, пазываючыся на тэстацыйныя акты, дамагаўся ўхіле́ньня Якуба ад наступніцтва пасаду. Каб усьцішыць буру, Кароль II падпісаў у 1679 г. прынятыя парлямэнтам і популярныя ў народзе акты „Habeas Corpus“. Гэтыя акты павінны былі забясьпечыць волю асобы ад урадовага самавольства. У іх пастанаўлялася, што ніводзін Англіец ня можа быць заарыштаваны, ня ве́даючы за што, і ня можа быць трыманы ў вастрозе бяз допыту даўжэй за 24 гадзіны; што павінен ён быць звольнены адразу-ж, як толькі выявіцца яго нявінасьць, ды што будзе звольнены пад заклад, калі не абві-



навачуецца ў цяжкім злачынстве. Ня гле́дзячы на гэта, ніжняя палата пастанавіла адхіліць Якуба ад наступніцтва; ве́рхняя-ж палата, наадварот, большасьцяй галасоў пастанову гэтую адкінула.

У часе гэтых партыйных змаганьняў пе́ршы раз былі ўжыты назовы whigs (віг) і tories (торы); ме́лі яны спачатку значэньне лаянак: пе́ршая значыла „шкотляндзкі разбой“, другая—„ірляндзкі гайдамака“. Прыхільнікаў пастановы аб адхіле́ньні Якуба іхняя супраціўнікі называлі вігамі, а тыя прыхільнікаў караля і каталіцтва — торыямі. Гэтыя эпітэты назаўсёды асталіся пры дзьвюх галоўных англійскіх партыях. Назоў торы наагул адносіцца да радавітае арыстократыі, роялістаў-каталікоў і консэрватараў; назоў віг—да дэмакратаў, вольнадумцаў і паступоўцаў.

Залішне гострая агітацыя вігаў выклікала рэакцыю ў паглядах грамадзянства на біль аб пазбаўле́ньні Якуба правоў на карону. Калі кароль II ў 1665 г. памёр, перад самай сьме́рцяй адкрыта прыняўшы каталіцтва, Якуб мог без перашкод заняць англійскі пасад *).

**10. Якуб II** (1685—1688). **Выгнаньне Стюартаў і дэклярацыя правоў** (1688—1689). Новы кароль Якуб II быў чалаве́к надзвычайна абмежаваны і да таго супарат. Калі яшчэ ягоны папярэднік сяк-так мяркаваўся у патрэбе і прыслухаўся да волі народу, Якуб бязумоўна і выразна імкнуўся да таго, каб вызваліць монархізм ад конституцыйных путаў і вярнуць у Англіі і Шкотляндыі каталіцтва. Да таго-ж, змагаючыся з сваімі падданымі, ён апіраўся на радах і субсідыях Людвіка XIV і змаўляўся з ім як раз у мамэнт скасаваньня нантскага эдыкту. Пе́ршым дзелам яго было абсадзіць каталікамі ўсе́ важне́йшыя становішчы ў дзяржаве і ў войску, саўсім ня лічучыся з тэстацыйнымі актамі. Прэзьбітэрыянаў ён адразу пачаў прасьле́даваць, пасьля-ж, хочучы абапе́р-

---

*) **Дом Стюартаў, Оранскі і Гановэрскі**

Якуб I.

| | | |
|---|---|---|
| Альжбе́та, жонка Фрыдрыка, князя Палятынату. | Кароль I. | |
| Зофія, жонка Эрнэста Гановэрскага. | Кароль II. Якуб II. | Марыя, жонка кн. Оранскага Вільгэльма II. |
| Юры I англійскі. | 1. Марыя, жонка Вільгэльма III Оранскага, 2. Ганна, каралёва англійская. | Вільгэльм III (II англійскі). |
| Юры II англійскі. | | |
| Фрыдрык. | | |
| Юры III англійскі. | | |

цiся на iх працi англiканаў, ён выдаў iндульгенцыйную дэкларацыю, якою скасаваў усé кары, накладаныя на некон-формiстаў. Англiканскiм бiскупам было загадана чытаць дэкларацыю ў парахвiях з амбонаў; тым, хто ня слухаўся, пагражалi судом. Як гэтым паступкам ён абурыў народ, сьведчыць тая радасьць, якая запанавала ў краi, калi суд апраўдаў сямёх бiскупаў, вiнавачаных у працiўленьнi каралеўскай волi. Аднак, гэтым разам народ яшчэ ўстрымаўся ад гвалтоўных крокаў. Якуб сам быў ужо стары, сыноў ня мéў, а дзьвé ягоныя дачкi былi ўзгадаваны ў протэстанцкай вéры i замужам за протэстантамi. Але неўспадзéўкi ад другое жонкi-каталiчкi радзiўся ў Якуба сын, якога ён пастанавiў гадаваць у каталiцкай вéры. Англii i Шкотляндыi пагражала ўстанаўленьне каталiцкае дынастыi. У гэтакiх абставiнах торыi згаварылiся з вiгамi, каб скiнуць з пасаду Стюартаў. Правадыры абедзьвюх партыяў зьвярнулiся да князя В i л ь г э л ь м а III О р а н с к а г а, жанатага з старэйшай дачкой Якуба, Марыяй, а па матцы—ўнука Караля I *).

Вiльгэльм быў вéльмi папулярны, як гарачы i адважны баéц за волю ў змаганьнi з заваявальнымi iмкнéньнямi Людвiка XIV. Ад яго жадалi, каб „выратаваў грамадзянскую i рэлiгiйную волю" ў Англii; ён гэтае запрошаньне прыняў i ў 1688 г. высадзiўся на Англiйскай зямлi.

Якуб II да самага канца быў пераканаsucc, што торыi, вéрныя доктрыне аб паходжаньнi каралеўскае ўлады ад Бога, ня пойдуць працi яго. Дык-жа вéльмi зьдзiвiўся, калi давéдаўся, што ня толькi вiгi, але i торыi далучаюцца да Вiльгэльма. Пакiнуты ўсiмi, Якуб II паў духам i ўцёк з Англii да Людвiка XIV, каб дастаць ад яго помач. А Вiльгэльм безадкладна прыéхаў у Лёндан, дзе яго вiталi, як збаўцу. Уцéкi Якуба II збавiлi ад вялiкага клопату Вiльгэльма i торыяў, бо далi iм магчымасьць казаць, што кароль, патаéмна пакiдаючы край, гэтым самым зрокся пасаду. Паўгоду пазьнéй Якуб падняў пры помачы Французаў паўстаньне ў Iрляндыi, стараючыся здабыць карону для свайго дому; але гэта яму не ўдалося, таксама, як i падобныя-ж спробы наступнiкаў яго.

Гаспадарыць пачаў часова Вiльгэльм III. Быў склiканы конвэнцыйны парлямэнт (г. зн. склiканы не каралём, а народам), якi абвéсьцiў каралеўскi пасад незанятым i зляжыў урачыстую дэкларацыю правоў англiйскага народу, якiя былi зламаны Якубам II. Карону парлямэнт запрапанаваў Вiльгэльму i Марыi, пазбавiўшы спадчынных правоў усiх каталiцкiх сваякоў караля. А Вiльгэльм III, прыймаючы ў сваiм уласным i жончыным iмéньнi карону, дэкляраваў, што будзе шанаваць устаноўленыя законы i гаспадарыць згодна з па-

*) § 5 i 7.



жаданьнямi парлямэнту (1689). Дэклярацыя правоў сталася на заўсёды абязуючым з а к о н а м а б п р а в о х (bill of rigts), якi становiць аснову цяпéрашняга англiйскага правадаўства. Галоўнымi прынцыпамi гэтага закону былi: кароль можа выдаваць новыя законы, касаваць даўнéйшыя, накладаць падаткi, утрымлiваць сталае войска толькi па пастанове, згодзе i дазволу парлямэнту; калiж монарх перавысiць належныя яму правы, дык ягоныя падданыя гэтым самым звальняюцца ад дадзенае яму прысягi на вéрнасьць. Парлямэнт зрабiўся магутнаю сiлаю, з якою ўрад мусiў лiчыцца. Пазьнéй шмат разоў яшчэ абмéжавалася ў Англii воля друку, аднак, прызнаная ў прынцыпе, яна заўсёды перамагала.

**11. Дзяржава Вялiкая Брытанiя.** Пасьля барацьбы, якая iшла ў працягу блiзка паўвéку, перамагла ў канцы воля. Каралеўская ўлада была прымушана прызнаць правы народу, i Англiя сталася конституцыйнаю монархiяй, пéршай у новыя часы. Лёгкая ўстроска, някрывавая рэволюцыя 1688 году мацнéй падкапала вéру ў паходжаньне каралеўскае ўлады ад Бога i што яна важнéй за ўсé правы народу, чым казьнь Караля I ў 1649 г. Шкоты трымалiся разам з Англiяй. Iрляндцы-ж паднялi паўстаньне на карысьць Якуба II, ды без рэзультатаў. Iм самiм гэта толькi пашкодзiла, бо на Брытанскiх астравох толькi для iх адных не загарэлася зара волi. Калi Вiльгэльм III памёр, не пакiдаючы патомства (1702), парлямэнт пасулiў карону другой дочцы Якуба II, Г а н ь н е, мiнаючы сына Якуба II. Стараньнi Стюартаў асéсьцi ў Шкотляндыi мéлi толькi той рэзультат, што ў 1707 г. парлямэнты абодвух краёў пастанавiлi, што Англiя i Шкотляндыя злучаюцца ў адну дзяржаву з супольным парлямэнтам i супольнымi законамi пад назовам В я л i к а е Б р ы т а н i i. Пасьля сьмéрцi Ганны (1714) была заклiкана на пасад Г а н о в э р с к а я д ы н а с т ы я, родная Стюартам*). За панаваньня гэтае дынастыi каралеўская ўлада ўвéсь час рабiла уступкi народнаму прадстаўнiцтву. Хаця кароль i мéў права не зацьвярджаць пастановаў парлямэнту i гэтым спосабам рабiць iх няважнымi, аднак, пачынаючы ад Вiльгэльма III, нiводзiн з каралёў не скарыстаў з гэтага права. Кiраваў дзяржаваю парлямэнт.

З новаю гановэрскаю дынастыяй улада на паўвéку дасталася вiгам, якiх назначаў на ўсé ўрады Ю р ы I (1714—1727), i якiя атрымалi значную большасьць у Палацы Грамадаў. Паўстаньне ў Шкотляндыi на карысьць Стюартаў (1715) гэтак пашкодзiла торыям у вачох народу, што вéльмi мала прадстаўнiкоў гэтае партыi было выбрана ў парлямэнт. Пры

*) Гл. вышэй табл.: Дом Стюартаў, Оранскi i Гановэрскi.

абодвух першых каралёх з гановэрскае дынастыі, Не́мцах, чужых усяму англійскаму, перавага парлямэнту ў дзяржаве, якая пачалася ад рэвалюцыі 1685 г., выявілася найярчэй. Каралі гэтыя нічога больш не хаце́лі ад Англіі, як толькі атрымаць чым больш грошы для сябе́ і сваіх няме́цкіх улюбе́нцаў, ды ме́ць падтрыманьне для сваіх справаў у Гановэры, дзе яны былі абсолютнымі ўладарамі. І грошы, і падтрыманьне маглі яны атрымаць толькі пры помачы міністраў, што ме́лі за сабою большасьць у Ніжняй Палаце, якая штогоду вызначала бюджэт. Дык-жа абодвы пе́ршыя Юр'і (І і ІІ) давалі сваім міністрам-вігам поўную волю гаспадарыць паводле жаданьня партыяў. Галоўных міністраў разам пачалі называць габінэтам, бо з імі кароль адбываў нарады аб дзяржаўных справах у сваім габінэце. Юры І, аднак, ня ўме́ючы саўсім па англійску, ня мог навет прыймаць учасьця ў супольных нарадах міністраў, і з гэтае прычыны злажылася паняцьце габінэту, як установы, зложанае па думцы большасьці Палаты Грамадаў, самастойна гаспадараўшае паводле жаданьняў яе́ да таго часу, пакуль гэтая большасьць падтрымлівае габінэт. Складаўся габінэт з галоўных міністраў, якія адначасна былі правадырамі партый у парлямэнце. Замала было, аднак, у іх солідарнасьці і, наагул, адзінасьці ў дзе́йнасьці, якая цяпе́р праводзіцца галавою міністраў, або „пе́ршым міністрам"; апошняга назначае кароль, а ён ужо сам дабірае сабе́ таварышоў паводле сваé думкі і парлямэнцкіх адносінаў. Гэткім пе́ршым галавою парлямэнтарнага габінэту, або „прэмьерам", пры якім міністры працавалі толькі, як ягоныя памоцнікі, згодна з яго наказамі, быў сэр Робэрт Уальполь. Высунуты на гэтае становішча, як чалаве́к, маючы агульнае даве́р'е, Уальполь быў праўдзівым організатарам англійскае парлямэнтарна-габінэтнае сыстэмы гаспадараньня. Стварыў ён самую трывалую з усіх англійскіх парлямэнтарных адміністрацыяў, кіруючы дзяржаваю 21 год (1721—1742). Гаспадарыў ён гэтак самастойна, што сьме́рць Юр'я І і пераход пасаду да Юр'я ІІ не зрабілі ніякіх важне́йшых зьме́наў у адміністрацыі дзяржавы. Прыхільнік ладу і ашчаднасьці, маючы вялікія фінансавыя здольнасьці, ён упарадкаваў скарб і запэўніў поўную раўнавагу выдаткаў і даходаў, уме́ла папераджаў экономічныя крызісы і разумна падтрымліваў гандаль і прамысловасьць. Вораг усякіх рызыкоўных экспэрымэнтаў і шырэйшых рэформаў, ён лічыў, што для Англіі даволі ме́ць мір, сталасьць адносінаў і бясьпе́чнасьць, каб яна ўзбагачалася гандлем і прамысловасьцяй. Вораг вайны, Уальполь рупіўся толькі аб тое, каб Англія заўсёды была судзьдзёю і пасрэднікам у звадках і, наагул, у справах паміж іншымі дзяржавамі.



Добрым кіраўніком дзяржавы быў таксама Вільгэльм Піт (старэйшы, 1757—1761). Быў гэта пе́ршы англійскі дзяржаўны дзе́яч, які больш зварачаў увагі на грамадзкую думку за ме́жамі парлямэнту, чым на самы парлямэнт; рабіў ён гэта дзе́ля карысьці і ве́лічы Англіі, стараючыся разьвіваць і ўзгадоўваць патрыятычнае пачуцьцё ў Англійцаў. Піт, гэтак сама, як і іншыя англійскія дзяржаўныя дзе́ячы восемнадцатага ве́ку, ве́льмі клапаціўся аб узмацаваньні і усталéньні марское і колёніяльна-гандлёвае магутнасьці Англіі. А ўпоперак дарогі ў гэтым імкне́ньні Англіі заўсёды станавілася Францыя, конкурэнтка шмат больш небясьпе́чная, чым Голяндыя, бо ставіла сабе́ такія самыя задачы, як Англія, і конкуравала з ёю на адных і тых самых колёніяльных прасторах. Гэтая конкурэнцыя ўве́сь час выклікала барацьбу іх інтарэсаў і будзіла ў Англіі шчырае жаданьне аслабіць, а калі-б можна было, дык і саўсім здушыць грозную супраціўніцу. З гэтае прычыны у чысьленых войнах Англія ішла рука ў руку з супраціўнікамі Францыі, сама змагалася з ёю на моры, а сваім саюзьнікам памагала грашыма, часамі-ж і сама ваявала на сухазе́млі, як гэта было ў часы Марльбору *).

**12. Колёніяльная магутнасьць Англіі.** Хутка пасьля таго, як у Усходняй Індыі зьявіліся Португальцы (у канцы пе́ршае чвэ́рці XVI в.), патомак Тімура, Бабэр, ізноў заваяваў усю паўночную Індыю і залажыў тут г. зв. Дзяржаву Вялікага Могола, якая з часам зрабілася ве́льмі слаўнаю і магутнаю, але ад пачатку XVIII ве́ку пачала хутка ўпадаць. Шмат цярпе́ла яна ад нападаў Пэрсаў і развалівалася на часткі, валадары якіх, найчасьцей называныя набабамі, формальна як-быццам падлягалі В. Моголу, фактычна-ж былі саўсім незале́жнымі і ўве́сь час ваявалі паміж сабою ды з самім Вялікім Моголам. Пачалося, адным словам, бязладзьдзе, якое дало магчымасьць эўрапэйскім народам, вёўшым тут гандаль пры помачы сваіх усходня-індыйскіх компаніяў, пашыраць сваé ўладаньні. Француская компанія ад часоў Кольбэра ме́ла тут некалькі ўмацаваных пунктаў на ўзьбярэжжы (Пондішэры), так сама, як яшчэ крыху ране́й за яе́ здабыла такія пункты англійская компанія (Мадрас, Бомбэй, Калькута). Абе́дзьве компаніі плацілі чынш мясцовым валадаром або В. Моголу і, уве́сь час конкуруючы між сабою ды з голяндзкаю компаніяй, дагэтуль саўсім ня думалі аб заваяваньнях і панаваньні ў Індыі. Але ў кожную вайну паміж Францыяй і Англіяй гэтым колёніям пагражала небясьпе́ка нападу і заняцьця варожым флётам, бо кожын з су-

*) § 10, 16.

праціўнікаў стараўся руйнаваць гандаль другога. З гэтае прычыны Д ю п л е і, які ад 1747 г. быў губэрнатарам францускіх валаданьняў у Індыі, пастанавіў раз назаўсёды зьніштожыць там англійскі ўплыў і ўжо дабіўся для Францыі перавагі ў часе вайны аб аўстрыяцкую спадчыну*) У гэтым яму дапамаглі дзьве думкі: 1) што арганізаваныя, узброеныя і па эўрапэйску вымуштраваныя тубыльцы, навет у невялікай лічбе, здолеюць перамагаць вялізарныя, але прымітыўныя мясцовыя арміі, і 2) што самі мясцовыя ўладары дадуць грошы на ўтрыманьне такога войска, с і п а я ў, у аддзяку за дадзеную ім помач. Францускі ўрад, аднак, ня ўмеў выкарыстаць разумных плянаў Дюплеі і навет узяў яго назад у Францыю (1754) тады, калі ён ужо дабіўся рэзультатаў. За тое Англійцы адразу-ж перанялі і выкарысталі сыстэму Дюплеі.

Як на ўсходзе, гэтак і ў Паўночнай Амэрыцы ў палове XVIII в. перавага Французаў, ці Англійцаў яшчэ не ўстанавілася. Англійскіх колёніяў уздоўж Атлянтыцкага Акеану было і больш, і былі яны гусьцей заселеныя, ды мелі шырокія правы самаўрадаваньня. Лічба жыхароў у іх увесь час узрастала, толькі былі яны сьціснуты на самым узьбярэжжы. Францускія валаданьні, наадварот, былі шмат менш людныя, але займалі вялізарныя прасторы, якія толькі формальна належалі да Францыі, але ня былі яшчэ заселеныя. Ад Канады аж да Місісіпі абыймалі яны англійскія колёніі, не даючы апошнім магчымасьці пашырацца ў глыб краю. З гэтае прычыны ў даліне р. Огіо ўвесь час ішла барацьба навет у часе міру. У канцы ж узгарэлася вайна беспасярэдна паміж Францыяй і Англіяй (1755); пры гэтым стварыліся два саюзы: Англія з Прусамі — з аднаго боку, а Францыя з Аўстрыяй — з другога**).

Каб распарушыць і трывожыць фрацускія сілы на суха-землі, Піт плаціў шмат грошы Прусам ды адначасна утрымліваў англійскае і гановэрскае войска пад камандаю назначанага прускім каралём (Фрыдрыкам II) за ваяводу кн. Браўшвэйгскага. Галоўную-ж увагу Англіі Піт скіраваў на мора і колёніі; ён загадаў англійскім флётам бязупынна нападаць на францускія ўзьбярэжжы і порты, зьніштажаць там запасы і ўсе матар'ялы, патрэбныя для караблёў. У марскіх бітвах Францыя мела такія няўдачы і страты, што ў канцы ўрад прадаў астачу папсаваных караблёў, і ўся марская вайна далей вялася Францыяй толькі пры помачы прыватных корсарскіх караблёў.

У паўночнай Амэрыцы Англійцы выперлі Французаў з даліны Огіо і ў канцы пайшлі на Канаду. Пасьля перамогі

*) § 16.

**) § 16.



пад Квэбэкам (1759) яны ў працягу году занялі ўвесь гэты край. Францускае панаваньне скончылася тут назаўсёды, хаця і асталося францускае насяленьне, якому была забясьпечана апека і пашана яго звычаяў.

Вялікія страты мелі Французы і ў Усходняй Індыі, хаця тут вайну вяла галоўным чынам усходня-індыйская компанія. Адзін з яе ўрадоўцаў, Робэрт Кляйв, угрунтаваў будучае панаваньне Англіі ў Індыі. Высланы, каб адамсьціць Бэнгальскаму набабу за напад і зрабаваньне Калькуты і за жорсткасьць яго ў адносінах да Англійцаў, Кляйв з невялікай дружынай сіпаяў разьбіў набаба і на яго месца пасадзіў новага, які згадзіўся аддаць у рукі компаніі ўсю бэнгальскую фінансавую адміністрацыю. Наагул, мяшаючыся ў справы індыйскіх валадароў і перамагаючы няпрыхільных да Англіі, Англійцы яшчэ больш умацавалі сваё панаваньне. Адабраўшы ў францускае компаніі Пондішэры і іншыя валаданьні, яны саўсім выперлі Французаў з Індыі.

Пусьціліся Англійцы ўсьлед за Голяндцамі і на паўдня Ціхога Акеану і здабылі і там колёніі. Разам з Голяндцамі, яны адкрылі шмат новых земель (Акеанія і Аўстралія). Рух англійскага марскога гандлю ў 1650 годзе быў яшчэ ў 5 разоў меншы за голяндзкі, а ў 1750 годзе ўжо значна яго перавышаў. У гэтай справе ў васемнадцатым веку Англія заняла тое становішча, якое ў семнадцатым займала Голяндыя. Англійскія месты працьвіталі дзякуючы гандлю і прамысловасьці. Гэтаму вялізарнаму разьвіцьцю прамысловасьці ў другой палове восемнадцатага веку шмат дапамаглі: вынаход Уатам (Watt) паравое машыны, паляпшэньне тэхнікі ткацтва, ды разьвіцьцё эксплёатацыі каменнага вугалля. Нязьлічонае багацьце каменнага вугалля ў Англіі зрабілася фундамэнтам развіцьця прамысловасьці Вялікае Брытаніі і яе нацыянальнага дабрабыту.

Сельская гаспадарка, якая ў часы рэспублікі вызвалілася ад большае часьці фэодальных чыншаў, і ў якой пры Уальполю пачалі ўводзіць лепшая спосабы вырабу зямлі, гэтак сама разьвівалася вельмі добра.

## § 14. Прасьвета.

**1. Сьпіноза, Байль, Лёк, Ньютон і англійскія вольнадумцы.** Вольныя парадкі ў XVII і XVIII вяках запанавалі ў двух краёх: Голяндыі і Англіі, і згэтуль новым ветрам павеяла на Эўропу, згэтуль пашырыўся рух, які імкнуўся замяніць дэспотычнае самавольства—свабодай і справядлівасьцяй, барбарства—высока-моральнаю людзкасьцяй, рэлігійны прымус—толеранцыяй і вольнадумствам, дзікія забабоны—

разважным паглядам на прыроду, ды наагул імкнуўся да прасьвячаньня грамадзянства, да вызваленьня яго ад усялякіх забабонаў. У той самы час, як у Францыі Босюэ ды інш. славілі ў асобе Людвіка XIV абсолютную монархію, як адзіную выбраную Богам і наагул найлепшую форму дзяржаўнасьці, ды падтрымлівалі рэлігійны уціск, — у Голяндыі вялікі філёзоф Сьпіноза прызнаваў дэмократыю найбольш натуральным дзяржаўным ладам і ў яркіх словах бараніў волю думкі і веры, кажучы, што ўрады павінны пілнаваць учынкаў сваіх падданых, а ня іхніх думак. „Мэтаю дзяржавы,— казаў Сьпіноза,—ня можа быць застрашаньне людзей ды падчыненьне іх чужой волі, каб з разумных стварэньняў зрабіць жывёлы або машыны; наадварот, іх дух і цела павінны свабодна разьвіваць свае здольнасьці, каб карысталіся яны з свайго вольнага розуму, не аднасіліся адны да адных з нянавісьцяй, гневам і маною і не прасьледавалі сябе ўзаемна; галоўнай задачай дзяржавы, па праўдзе, павінна быць— **воля**". За галоўную перашкоду для вольнае думкі Сьпіноза лічыў цеременную пашану да літары бібліі, адважыўся глядзець на біблію, як на твор людзкіх рук, і стараўся крытыкаю і аб'ясьненьнямі даць магчымасьць больш глыбокага разуменьня яе; за гэта гадоў сто яго лічылі бязбожнікам.

Падобная-ж была дзейнасьць загнанага прасьледаваньнямі ў Нідэрлянды францускага гугенота, вучонага Байля (Bayle), які першы пачаў выдаваць часопісь, і ў ей популярна, гэтак, каб яго зразумелі ня толькі вучоныя спэцыялісты, але і кожын эдукаваны чалавек, абгаварваліся і вольна разважаліся тэолёгічная, палітычная і філёзофскія пытаньні, ды наагул пытаньні з розных навукаў. Гэтаю сваёю дзейнасьцяй, ды таксама вялікім „Гісторычна-крытычным слоўнікам", з якога шмат пакаленьняў чарпала ўсю сваю веду, Байль шмат памог разьвіцьцю ў грамадзянстве нахілу да навуковае думкі і імкненьня да точных дасьледаў, што ўперад было выключным прывілеем вучоных.

У Амстэрдаме Байль пазнаёміўся з англійскім вучоным Джонам Лёкам (Locke), які, як віг, хаваўся там ад тыраніі Стюартаў. Пасьля выгнаньня іх з Англіі Лёк вярнуўся на бацькаўшчыну і сваімі творамі хутка абудзіў вялікую цікавасьць і зьдзіўленьне. У сваім творы «Аб людзкім розуме» Лёк паставіў сабе задачай дасьледзіць пачаткі і межы людзкога пазнаньня; гэтак быў ён пачынальнікам новае філёзофіі, якая найбольш займаецца гэтым пытаньнем. Ня меншы уплыў мелі ягоныя творы аб рэлігіі, узгадаваньні і палітыцы. Ён даводзіў справядлівасьць пазбаўленьня пасаду Якуба II, як некаліcь Мільтон—казьні Караля I. У сваіх вывадах аб гэтай справе ён казаў, што дзяржава прадстаўляе саюз вольных людзей, якія зрабілі ўмову дзеля лепшага забясь-



печаньня свайго жыцьця і дабра. Значыць, вярхоўнаю ўладаю ёсьць само грамадзянства, народ. Кароль—гэта толькі першы ўрадовец; сваю ўладу ён мае ад народу; вось-жа, калі яе злоўжывае, значыць, ламае свае абавязкі, і яго трэба скінуць.

Такім спосабам, Лёк супроць панаваўшае ў той час непадзельна навукі аб паходжаньні каралеўскае ўлады ад Бога, якая вяла да дэспотызму, паставіў сваю тэорыю аб верхавенстве народу.

З няненшаю энэргіяй бараніў Лёк толеранцыю ў самым шырокім значэньні; нікога, не выключаючы і жыдоў ды паганаў, ня трэба пазбаўляць свабоды сумленьня і грамадзянскіх правоў. Сьляпы дэспотызм, з якім кожная рэлігійная група прасьледавала іншыя, кажучы, што праўда знаходзіцца выключна толькі ў яе, павінен выклікаць саусім натуральны сумлеў аб тым, ці ў справах веры наагул можа істнаваць бязспрэчная праўда, ці не.

Шмат хто з эдукаваных людзей, зьнеахвочаных вечнымі рэлігійнымі спрэчкамі, уважалі, што досіць верыць у Найвышэйшую Істоту, як прычыну ўсяго, што істнуе,—і больш нічога ня трэба дзеля праўдзівае пабожнасьці. З таго часу, як у Англіі запанавала воля слова і друку, некаторыя спаміж іх, як Колін, Толян, Шэфтсбэры, Болінброк, адважаліся адкрыта выказваць падобныя думкі. З тае прычыны, што волю думаньня яны лічылі бязумоўным правам чалавецтва, іх называлі вольнадумцамі, а за тое, што, хаця і не прызнавалі хрысьціянскае навукі, але верылі ў Бога, іх называлі дэістамі. Яны даводзілі, што цнота і моральнасьць не залежаць ад догматаў веры; адзіным кіраўніком думкі павінен быць „здаровы розум", адзінымі крыніцамі веды, як казаў і Лёк,—спасьцярога і дасьлед. Яны нападалі на ўсё, што пярэчыла розуму, або дасьведчаньню, карыстаючыся пры гэтым, як аружжам, то вучонымі вывадамі, то дасьціпным ды войстрым словам. Змагаліся яны проці веры ў цуды і нічога слухаць не хацелі аб тым, што Бог мяшаецца ў парадак на сьвеце, які Ім самім установлены і кіруецца адвечнымі законамі.

Вялікае адкрыцьце Ізаака Ньютона (Newton) (1642—1722), прафэсара Кембрыджскага унівэрсытэту, дадавала яшчэ больш вагі іх словам. Ньютон казаў: „Усе целы ўзаемна прыцягаюцца. Гэтае прыцяганьне не знаходзіцца ў простай залежнасьці ад масы ізняга цела, але ў адваротнай ад квадрату іх аддаленьня. Тая самая сіла, якая прыцягае да зямлі, ўплывае гэтак сама і на ўсе нябесныя целы, усе сусьветныя прасторы, утрымлівае плянэты, комэты і месяцы, ды кіруе іхнім рухам". Гэта адначасна тлумачыла прычыну таго, што адкрыў Копэрнік, а Кеплер сформулаваў у законы.

Нябе́сныя і зямныя зьявішчы можна было вывесьці з аднаго закону, а, значыць, не аставалася тут ме́сца на цуды. Гэтае важнае адкрыцьце, ды, наагул, уве́сь час узрастаючы ўплыў прыродных навук што-раз то болей пашыралі пагляды вольнадумцаў, хаця на іх і нападала духаве́нства.

Цэхі муляроў у Лёндане, называныя **вольнамулярскімі**, ў 1717 годзе ператварыліся ў саюз вольнадумных і эдукаваных людзе́й усіх станаў, якія, заводзячы крыху дзіўныя звычаі і абрады, ахвяроўвалі сябе́ справе пашырэньня толеранцыі і людзкасьці, імкнучыся да брацтва ўсіх станаў і народаў. Праз кароткі час вольнамулярскія саюзы пашырыліся па ўсёй Эўропе, ды пазакладаліся навет у Ўсходняй Індыі і Амэрыцы; навет князі і каралі часамі да іх нале́жалі.

**2. Вольтэр (1694—1778).** Англія з прычыны сваёй мовы і геаграфічнага палажэньня ўсё-ж была залішне далёкая ад рэшты Эўропы, каб беспасярэдна і моцна на яе́ ўплываць. Доля пасрэдніка і тлумача дасталася Францыі, мова якое панавала ў той час у сьве́це.

Англійская літэратура і навука былі ўжо ў поўнай красе́, а Французы аб ёй яшчэ нічога ня ве́далі. І толькі ў 1727 годзе, дзякуючы бытнасьці ў Лёндане аднаго маладога парыжскага пісьме́ньніка, даляце́лі на сухазе́мле нейкія ве́дамасьці аб духоўным жыцьці Англійцаў. Гэты пісьме́ньнік быў Францішк Аруэ, ве́дамы больш пад сваім літэратурным прозьвішчам **Вольтэр** (1694—1775). З прычыны звадкі з адным шляхціцам ён уцёк у Англію, бо яму пагражала Бастылія. Англійскія законы, установы, прасьве́та, рэлігійная толеранцыя, палітычныя свабоды абудзілі ў ім зьдзіўле́ньне. Вярнуўшыся ў Францыю, ён у чысьленых сваіх творах разьвіваў пагляды англійскіх дэістаў. Быў ён няміласэрным ворагам догматаў і абрадаў, бачучы ў іх толькі ману і прыкідлівасьць. Хаця характар яго быў не беззаганны, але, наагул, імкне́ньні яго былі ве́льмі сьве́тлыя, гуманітарныя. Вольтэр ме́ў дужа добры стыль, быстры розум, незраўнаную дасьціпнасьць і ўсебаковую эдукацыю. Пры ўсім гэтым жыў ён доўга, у добрым здароўі, дык пры вялікай сваёй працавітасьці напісаў надзвычайна многа літэратурных твораў: драмаў, повесьцяў, навуковых разважаньняў, гістарычных твораў, лятучых лісткоў, памфле́таў; мусіць, няма літэратурных формаў, у якіх бы ён ня пробаваў сваіх сілаў. Зласьлівасьць і жыцьцёвы бруд псавалі шмат якія з яго твораў; было гэта, аднак, згодна з духам часу і саўсім ня шкодзіла вялікай популярнасьці Вольтэра. Навет манархі шукалі прыхільнасьці яго; з каралямі прускім, данскім, швэдзкім і імпэратрыцаю Кацярынаю ён вёў сталую корэспондэнцыю. І ўсё-ж з ягоных твораў больш трывалую вартасьць мае хіба толькі



„Essai sur les moers et l'esprit des nations“, твор аб сусьве́тнай гісторыі, у якім ён ме́нш займаецца палітычнаю гісторыяй, а найбольш культураю дзяржаваў і народаў.

Вялікую заслугу Вольтэра ў яго публіцыстычнай дзе́йнасьці становіць упорлівае змаганьне з тагачаснай нягоднай судовай процэдурай. Ня толькі літэратурнымі творамі, але і асабістымі заходамі дапамагаў ён несправядліва засуджаным і іхнім се́м'ям. Асабліва ве́дама абарона Вольтэрам не́йкага Каляза, кальвінскага купца з Тулюзы, якога вінавацілі ў забіцьці сына за тое, што той прыняў каталіцтва, і сказьнілі, ня гле́дзячы на адсутнасьць усякіх доказаў. Пасьля многале́тніх заходаў Вольтэр дабіўся перагляду справы, пры чым нявіннасьць сказьнёнага была даве́дзена, і яго сям'і была ве́рнена чэсьць і сконфіскаваная мае́тнасьць.

**3. Монтэск'е́. Дідро. Русо. Кенэ.** Пабываў так сама ў Англіі вядомы ўжо ў тым часе французскі пісьме́ньнік, барон Монтэск'е́, прэзыдэнт парлямэнту ў Бордо. Пражыўшы там два гады, вынес ён перакананьне, што Вялікая Брытанія ёсьць самы вольны край. Англійскія законы, якія вытварыліся на працягу гісторыі Англіі, здаліся яму ве́рхам дзяржаўнае мудрасьці. Пад уплывам уражэньняў з сваё падарожы ў Англію напісаў Монтэск'е́ знамяніты твор „Esprit des lois“ (Дух законаў). Галоўнай думкай гэтае працы было тое, што дзяржаўная ўлада ёсьць траякая: законадаўчая, спаўняючая і судовая. Абавязковым варункам вольнага дзяржаўнага ладу ён лічыў разьдзе́л гэтых трох галін улады, каб кароль, ці хоць сабе́ і рэспубліканскі ўрад не гаспадарыў самадумам, а каб быў зьвязаны законамі, якія выдае́ іншая ўлада, іменна народнае прадстаўніцтва, ды каб судзьдзі судзілі незале́жна ад загадаў ураду, кіруючыся толькі сваім сумле́ньнем. Гэткі дзяржаўны лад быў якраз у Англіі пасьля выдале́ньня Сцюартаў. Канстытуцыйна-манархічная форма ўраду зацікавіла тады шырокія кругі інтэліге́нцыі ўва ўсёй Эўропе, а ў XIX в. гэтая форма была праве́дзена ў жыцьцё ў большасьці эўрапэйскіх дзяржаваў.

Пад уплывам Вольтэра і Монтэск'е́ стварылася цэлая армія пісьме́ньнікаў, якія займаліся філёзофскімі, палітычнымі і грамадзкімі пытаньнямі, разважаючы аб іх ці ў паважнай форме, ці ў бэлетрыстычнай або сатырычнай. Спаміж іх найвыдатне́йшым быў **Дідро**, чалаве́к здольны, гарачы, знаходлівы. Зьявілася ў яго нязвычайная яшчэ, як на тыя часы, думка, каб абняць усю людзкую ве́ду ў адным вялізарным слоўніку, названым **энцыклёпэдыяй**. З гэтаю мэтай згаварыўся ён з вядомым матэматыкам **д'Алямбэрам**, які напісаў дужа добрую прадмову да энцыклёпэдыі. Блізка ўсе́ выдатне́йшыя тагачасныя вучоныя і пісьме́ньнікі,

у тым ліку і Вольтэр, зьме́сьцілі там сваé творы. Ня глéдзячы на вялікія перашкоды з боку духавéнства, за 15 гадоў выданьне энцыклёпэдыі было скончана (1751—1766); складаецца яна з 25 вялізных тамоў.

Супрацоўніцтва зблізіла паміж сабою вольнадумных пісьме́ньнікаў і стварыла пэўную аднолькавасьць у іхніх паглядах; з гэтага часу сталі іх называць энцыклёпэдыстамі. Панаваў сярод іх дух Вольтэра, у якім злучаліся гуманітарныя і грамадзкія імкне́ньні з дэструкцыйнымі, а любоў— з ядам не́навісьці.

Іншым ужо духам праняты быў Жан Жак Русо (1712—1778), Швайцарац, родам з Жэне́вы. У жыцьці яго, так сама, як і ў Вольтэра, было нямала плямаў, але ягоныя імкне́ньні былі справядлівыя, розум геніяльны, творы-ж яго зрабілі ня ме́ншы за дзéйнасьць Вольтэра і экцыплёпэдыстаў, калі йшчэ ня большы, уплыў на ход пазьнéйшых палітычных, грамадзкіх і культурных падзéяў Эўропы.

Быў ён праняты вéраю ў Бога і ў няўміручасьць душы і, выходзячы з гэтага пагляду, імкнуўся да адраджэньня чалавéцтва і паказываў шляхі, якімі трэба йсьці да гэтага. Як Вольтэр апіраўся на розуме, так Русо—на пачуцьці. Асноваю ягонае тэорыі ёсьць думка, што ўсё выходзіць з рук Тварца дасканалым. Чалавéк спачатку быў добрым і чэсным, але яго сапсавала цывілізацыя. Паварот да прыроды—гэта адзіны шлях дзеля адраджэньня чалавéцтва. У сваёй пэдагогічнай повесьці „Эміль“ даў Русо дужа добры абраз узгадаваньня, абапёртага на прыродных асновах; галоўную ўвагу зварачаў ён на фізычнае ўзгадаваньне, аб чым, праўда, і перад ім яшчэ гаварылі Лёк і Монтэнь, і радзіў паступова разьвіваць розум у аддале́ньні ад вялікіх ме́стаў.

У творы „Contrat social“ (Грамадзкая ўмова) Русо лічыць, што грамадзянствы і дзяржавы стварыліся дзякуючы дабравольным умовам паміж вольнымі людзьмі, не прызнаé конституцыйнае монархіі, якую гэтак выхваляў Монтэск'é, а стаіць за дэмократычную рэспубліку, ідзé, значыць, далéй, чым Лёк. Што праўда, ягоныя думкі аб „дабрацé і чэснасьці“ першабытнага чалавéка, аб „грамадзкай умове“ ды яшчэ некаторыя іншыя ня вытрымліваюць ніякае крытыкі. Але ён ярка выявіў супярэчнасьць паміж натуральнаю, здароваю прастатою і штучнаю, гнілою цывілізацыяй, паказаў ненатуральнасьць і заганы тагдышняга ўзгадаваньня і нягоднасьць дзяржаўнага ладу. Уплыў тэорыі Русо быў дужа вялікі, хаця спачатку толькі павярхоўны. Расьпéшчаная арыстократыя захаплівалася пaглядамі Русо якраз за тое, што лічыла іх парадоксальнымі. Іншыя з яго думак, аднак, праводзіліся ў жыцьцё; так, прыкл., некаторыя маткі з арыстократыі пачалі самі карміць сваіх дзяцéй і апранаць іх скромна; гэта была такая мода: à la Rousseau.—„Прасьвéчаныя ўладары“ раптам пачалі клапаціцца аб долі сваіх падданых,—вéдама, паводле сваіх фантазіяў, ды не зракаючыся свайго абсолютызму у гаспадараньні. Выявіўся ўплыў пагляdaў Русо і ў літэратуры, сéючы мляўкі сэнтымэнталізм і нахіл да утопіяў. Часамі-ж уплыў гэты быў шмат глыбéйшы і шырэйшы. Вытварыў ён, наагул, крытыку істнуючага грамадзкага парадку і жаданьне перарóбіць яго.



Асобную групу францускіх пісьме́ньнікаў складалі экономісты. Яны выяўлялі недахваты дзяржаўнае гаспадаркі і спосабы направы яé, творачы асобную навуку, названую палітычнаю экономіяй. Дагэтуль багацьцем краю лічылі масы сабранага ў ім золата і стараліся ўсякімі штучнымі спосабамі і забаронамі прыцягнуць у край як магá больш грошай і як наймéнш выпусьціць іх заграніцу. Толькі француз Кенэ, прыдворны лéкар Людвіка XV, выявіў цеснату гэнага пагляду і на яго мéсца паставіў новы, а іменна, што адзінаю крыніцаю багацьця краю ёсьць зямля і яé старанны выраб. Гэтая думка аказалася няточнаю, бо, як крыху пазьнéй давёў шкот Адам Сьміт, багацьцем краю ёсьць праца, як на ральлі, так і ў варштатах, фабрыках, у гандлю,—ці, наагул, вытворчасьць краю. Кенэ і яго вучні, аднак, маюць вялікую заслугу: на аснове навуковых даных яны выявілі, што ад галіты вясковага народу хварэе ўся дзяржава.

Дэвізам Кенэ было: „Pauvres paysans, pauvre royaume, pauvre roi.“ Экономісты дамагаліся ня толькі палягчэньня сялянскае долі і скасаваньня падатковых прывілéяў, але таксама і скасаваньня цэхаў, мыта, — адным словам, звальне́ньня гандлю і прамысловасьці ад усіх сьцясьняючых іх путаў. „Laissez faire, laissez passer“ (дазвольце рабіць, дазвольце йсьці), поўная экономічная воля — гэткі быў іх кліч.

**4. Бэкарыя. Пэсталёці. Нямéцкая літэратура.** Творы францускіх вольнадумцаў знайшлі ўва ўсёй Эўропе магутны водгук і ўсюдых разбудзілі значны рух. Наймацнéйшы протэст проці барбарскай судовай процэдуры быў узьняўся ў Італіі. Падняў яго Бекарыя з Міляну; знаменіты твор якога „Аб правінах і карах“ зрабіў вялізарны ўплыў на крымінальнае законадаўства ўсяé Эўропы. Бэкарыя дамагаўся для вінавачаных звальне́ньня пад заклад і парукі замéста вязьніцы, скасаваньня мукаў, яўнасьці суда, мякчэйшых караў, скасаваньня конфіскацыі маéтнасьці, а навет скасаваньня сьмяротнае кары. Законадаўцы, паводле яго думкі, павінны недапускаць да злачынстваў не страшнымі карамі і забаронамі, але прасьвéтай народу.

Як быццам на кліч італьянскага юрыста адазваўся ў Швайцарыі вялікі змаганьнік за народную прасьвету, Пэсталёці, пэдагог і прыяцель чалавецтва. Дагэтуль аб прасьвеце ніжэйшых слаёў грамадзянства клапацілася адно хіба духавенства і то найбольш дзеля рэлігійнага ўзгадаваньня. Пры гэтым протэстанцкае духавенства ў гэтай справе йшло далей, чым каталіцкае; яно-ж бо з самага пачатку свайго існаваньня асаблівую ўвагу зьвяртала на навуку чытаньня, каб верныя маглі чытаць біблію. Сьледам за протэстанцкім, і каталіцкае духавенства, дзеля конкурэнцыі і дзеля захаваньня чыстасьці веры, побач з папярэдняй вуснай навукай ватахізму, рытуалу і маралі, ўвяло ў свае вясковыя школы такжа чытаньне і пісаньне (ў местах, асабліва-ж у больш заможных, побач з вышэйшымі школамі ўжо ў сярэднія вякі існавалі й ніжэйшыя). Праўда, і апрача духавенства ў розныя часы і ў розных мясцох бывалі людзі, якія стараліся зьменшыць народную цемнату; аднак, іх стараньні былі часовымі, нятрывалымі. Толькі ад часу Пэсталёці сталі глыбей і шырэй займацца народнай прасьветай, а ў XVIII в. справа народных школаў стала адным з абавязкаў урадаў.

У Нямеччыне другая палова XVIII в. была пэрыодам найвышэйшага расцьвету літэратуры; дух гэтае літэратуры быў шырока-гуманітарны і саўсім новачасны. Абаронцам рэлігійнае толеранцыі быў Лесінг, а найлепшым яе выяўленьнем—ягоная драматычная поэма „Натан Мудры“. Ён не абмежаваўся аднымі толькі кпінамі і не аплёўваў ядам ненавісьці хрысьціянскае веры; наадварот, хаця ён і ня бачыў істоты рэлігіі ў догматычных дэталях і абрадах, аднак, вымагаў узаемнае пашаны да чужое веры. Яго выступленьні і таму яшчэ мелі асаблівую культурна-грамадзкую вагу, што яго толеранцыя абыймала і жыдоў, тады гэтак пагарджаных і прыціснутых*).

Гердэр прапаведаваў брацтва народаў, клічучы дужэйшыя народы шанаваць мову і звычаі нацыянальных меншасьцяў і лічучы народную творчасьць крыніцай праўдзівае поэзіі.

У асобах двух найгеніяльнейшых нямецкіх поэтаў, якімі былі Гётэ і Шылер, міжнародны гуманізм атрымаў магутнае падтрыманьне.

Жыў тады яшчэ адзін вялікі чалавек, Іммануэль Кант, тварэц новае філёзофіі, усебаковы вучоны і глыбокі мысьліцель.

---

*) § 12.



# § 15. Прасьвечаны абсолютызм у романскіх дзяржавах і скасаваньне езуіцкага ордэру.

**1. Помбаль.** (1750—1777). У процілежнасьці да Монтэск'е і Русо, Вольтэр і экономісты ўважалі абсолютызм найлепшаю формаю ўраду, калі толькі монарх будзе чалавекам „сьветлым“ або „прасьвечаным“ у духу свайго часу. Кітайскі цар, які, каб выявіць сваю пашану да зямляробства, штогод адзін раз хадзіў за плугам, быў для іх ідэалам. І здавалася ім у палове восемнадцатага веку, што ў Эўропе настаў ужо гэтак жаданы „залаты век“.

Шмат хто з самых магутных монархаў і дзяржаўных дзеячаў лічылі сабе за гонар падтрымліваць прыязныя адносіны з правадырамі „Прасьветы“, прасілі ў іх рады і вельмі стараліся сваім гаспадараньнем здабыць у іх пахвалу. Па прыкладу больш магутных монархаў, і меншыя князі, калі не рабілі, дык хоць гаварылі гэтак сама; праўда, здаралася, што словы з учынкамі моцна разыходзіліся. Гэтак, прыкл., адзін князёк, які вёў з Англіяй зыскоўны гандаль рэкрутамі*), напісаў вельмі лібэральны твор: „Думкі аб монархах“ і паслаў яго галаве „Прасьветы“, Вольтэру, каб атрымаць ад яго комплімэнт. Але здаралася, што за словамі йшлі і ўчынкі. Асабліва стараліся монархі падабацца парыжскім сяўцом прасьветы асьлабленьнем значэньня духавенства, зьмяншэньнем яго ўплываў і маемасьці, што прадстаўляла і найлягчэйшую і найбольш прынадную рэформу, калі прыняць пад увагу магчымыя даходы. Ахвяраю гэткага палажэньня зрабіўся ордэр езуітаў, проці якіх вольнадумцы выступалі з асаблівай ненавісьцяй. Кліч да скасаваньня гэтага ордэру выйшаў якраз з тых краёў, дзе дагэтуль яны пачувалі сябе найсвабадней, а іменна з Португаліі ды Гішпаніі.

Португалія ня шмат успамаглася скінуўшы гішпанскае ярмо. Асталася яна, як і была, краем экономічна і культурна адсталым. Здавалася нават, што сама прырода хацела ей пашкодзіць, бо ў 1755 г. страшное трасеньне зямлі разбурыла да званьня яе сталіцу Лісабон. Але тагдышні португальскі першы міністар, маркіз Помбаль, чалавек з вялікім розумам і моцнай воляю, якому слабы кароль Язэп І саўсім перадаў усю ўладу, дзякуючы сваей цьвёрдай і нязморанай дзейнасьці, здалеў за кароткі час ня толькі загаіць раны ад стыхійнага няшчасьця, але і значна падняць край з заняпаду, у якім той знаходзіўся. Завёў ён добрую адміні-

---

*) § 12.

страцыю, стварыў марскую і сухазе́мную аружную сілу, стараўся нанова ажывіць гандаль і прамысловасьць, закладаў школы, абме́жыў інквізіцыю і як мага́ аслабляў уладу духаве́нства. Бо ў духаве́нстве, асабліва-ж у езуітах бачыў ён галоўнае няшчасьце свайго народу. Перад усім выгнаў ён езуітаў з карале́ўскага палацу, пасьля з школ і цэркваў. Спробу забойства караля, арганізаваную некалькімі вяльможамі дзеля асабістае помсты, ён выкарыстаў, каб зрабіць езуітам рашучы ўдар. Духаўнікоў гэных вяльможаў абвінавацілі, як іх супольнікаў; два з іх паме́рлі ў вастрозе, а аднаго, 80-ціле́тняга старыка, засудзілі задушыць і спаліць. Усіх іншых езуітаў Помбаль загадаў пазьбіраць на караблі і высадзіць на берагох Царкоўнае (папскае) Дзяржавы; мае́тнасьць іхнюю ён сконфіскаваў на карысьць дзяржавы і парваў усякія адносіны з Апостальскаю Сталіцаю.

**2. Выдале́ньне езуітаў з Францыі і Гішпаніі. Кароль III (1759—1788).** Хаця ўсе́ ганілі лютасьць Помбаля, але і другія дзяржавы пачалі рабіць паводле яго прыкладу. Як ужо было сказана, езуіты ўме́лі павялічаваць сваё багацьці дужа добра ве́дзеным гандлем, прычым не перабіралі надта ў спосабах яго. Адзін з іхніх загадчыкаў у Заходняй Індыі абве́сьціў сваё банкруцтва на 3 міліёны франкаў, генэрал-жа ордэру (у Рыме) адмовіўся вярнуць страты пацярпе́ўшым, хаця ўсім было ве́дама, што той езуіт займаўся гандлем не ад сябе́, але ад імя ордэру. Справа пайшла ў суд. Парыжскі парлямэнт, хаця зложаны найбольш з каталікоў, але воража настроеных да езуітаў, запатрабаваў прадстаўле́ньня статутаў ордэру і прызнаў іх небясьпе́чнымі для дзяржавы. Францускі ўрад запатрабаваў, каб статуты былі зьме́нены, але генэрал Р ы ч ч ы адказаў гэткімі словамі: „Sint ut sunt, aut non sint“ (хай будуць, якія ёсьць, або саўсім хай іх ня будзе). Тады францускія парлямэнты, у згодзе з міністрам Ш у а з э л е м, прысудзілі статуты езуіцкія спаліць, а таварыства іхняе, як нязгоднае з дзяржаўным парадкам, выдаліць з Францыі.

Сьле́дам за Францыяй пайшла Гішпанія. З таго часу, як там пачалі гаспадараваць Бурбоны, гэты нешчасьлівы край, дзякуючы добрым каралём і міністрам, пачаў падымацца з заняпаду. Гішпанскі кароль К а р о л ь III быў адным з самых энэргічных і разумных монархаў свайго стале́цьця. Ён акружыў сябе́ міністрамі, шчыра пранятымі ідэямі прасьве́ты; адзін з іх, К а м п о м а н э с, здабыў вялікую славу сваімі творамі. Справядлівым падзе́лам падаткаў і ашчаднасьцяй двара Кароль III шмат памог зямляробству. Каб засяліць спустошаныя прасторы, ён заклікаў тысячы чужых калёністаў ды навет, ня гле́дзячы на агульнае нездаволе́ньне



набожнага насяле́ньня,—гэрэтыкоў. Каб падняць экономічнае жыцьцё краю ды перамагчы забабонную неахвоту Гішпанцаў да працы, Кароль III выдаў закон, што заняцьце гандлем і прамысловасьцяй ня робіць ганьбы шляхоцтву, а, наадварот, падыймае яго. Каб пале́пшыць гандлёвыя адносіны, ён праводзіў гасьцінцы і каналы, скасаваў манаполі ды мыты, і, дзякуючы гэтаму, гандлёвыя абароты ў Гішпаніі узрасьлі ў пяць разоў. Стварыў ён і флёт, які ў часе амэрыканскае вайны за незале́жнасьць гэтак уславіўся, што Гішпанія ізноў заняла становішча трэцяе марское дзяржавы. Ня менш клапаціўся ён і аб народную прасьве́ту; у адным з сваіх законаў ён называе яе́ найважне́йшым абавязкам дзяржавы. Гэтым вялікім культурным пачынаньням трэба дзівіцца яшчэ затым, што кароль і яго міністры ня толькі ня бачылі падтрыманьня з боку народу, цёмнага і падбураванага духаве́нствам, а, наадварот, спатыкалі заядлае праціўле́ньне. Аглядаючыся на народ, Кароль III не адважыўся скасаваць інквізіцыі; усё-ж нагэтулькі абме́жаваў яе́ дзе́йнасьць, што за ўсе́ трыдцаць гадоў ягонага панаваньня былі спалены на агні толькі 4 ахвяры.

Калі адзін з міністраў загадаў, каб у Мадрыце чысьцілі вуліцы, дык ле́кары заявілі, што гостры смурод ачышчае паве́тра; калі-ж дзеля грамадзкае бясьпе́чнасьці было забаронена насіць шырокаполыя капялюшы і доўгія плашчы, бо пад імі лёгка было хаваць твар і аружжа, узгарэлася адкрытае паўстаньне. Кароль заяўляў, што мае довады, што езуіты былі арганізатарамі паўстаньня і падбівалі да яго народ, і пастанавіў зусім іх пазбыцца. Энэргічны міністар А р а н д а, прыяцель энцыклёпэдыстаў, загадаў у адзін дзе́нь заарыштаваць усіх езуітаў у Гішпаніі і колёніях, пасадзіць іх на караблі і адве́сьці у Царкоўную Дзяржаву, як падданых папы, а не караля. Аднак, папскі ўрад, паводле рады генэрала езуітаў, загадаў спаткаць караблі гарматнімі стрэламі. Гішпанскія караблі дарэмна падыходзілі да розных портаў, каб выгрузіць езуітаў, аж пакуль францускі міністэр Шуазэль не пашкадаваў езуітаў ды не дазволіў ім пасяліцца на Корсіцы.

**3. Скасаваньне езуіцкага ордэру Клемэнсам XIV (1773).** Паводле гішпанскага прыкладу зрабілі кіраваныя гішпанскімі князямі дзяржавы Нэаполь і Парма, а пасьля гэтак сама Вэнэцыя, Модэна і навет Баварыя. Тады Бурбоны, панаваўшыя ў Гішпаніі, Францыі і Італіі, выступілі супольна перад папай Клемэнсам XIV (Ганганэлі), чалаве́кам пранятым, як і іншыя сучасьнікі яго, ідэямі „прасьве́ты“, з дамаганьнем, каб ордэр езуітаў быў скасаваны. Папа сьпіраўся, баючыся, як сам казаў, каб езуіты не атруцілі яго. Калі-ж і імпэратрыца Марыя Тарэса далучылася да гэтага дамаганьня,

ён згадзіўся і скасаваў ордэр, за тое, што перашкаджаў спакойнаму жыцьцю хрысьціянскае рэспублікі. Праз не́калькі ме́сяцаў Кле́мэнс XIV памёр з усімі прыме́тамі атруцьця. Адны казалі, што гэта зрабілі запраўды езуіты; іншыя-ж даводзілі, што папа сам быў вінен у сваёй сьме́рці, бо прыймаў зашмат ле́каў проці атруты.

**4. Кане́ц рэформатарскіх імкне́ньняў у Гішпаніі і Португаліі.** Хаця загады Помбаля і Караля III адразу далі рэзультаты, але істнавалі яны нядоўга. Слабым бокам прасьве́чанага абсолютызму было тое, што ён хацеў за ўсім наглядаць, усім кіраваць, іграць ролю як быццам угадлівага апякуна, а народу гэткае гаспадараньне здавалася тырыніяй, не лягчэйшай, калі не цяжэйшаю, чым тая, што прыходзіць з агнём і мячом. Дый-ткі загады прасьве́чаных монархаў не заўсёды былі ўдачныя. Так, прыкл., Помбаль, лічучы, што ў краі зашмат выpабляецца віна, а замала — збожжа, загадаў, не падумаўшы, зьніштожыць сялянскія вінаграднікі, што былі асноваю дабрабыту гішпанскага сялянства. У роўнай ме́ры зьненавіджаны народам, шляхтаю і духаве́нствам, Помбаль пасьля сьме́рці караля Язэпа страціў уладу і ледзьве абараніўся ад абвінавачаньня ўва ўсякіх злачынствах; Португалія-ж хутка дайшла да свайго даўне́йшага заняпаду. Калі-б народ мог падняцца, ня робячы сам ніякіх высілкаў, а толькі працаю разумнага ўраду, дык бы гэтак і сталася з Гішпанцамі пры Каралі III. Але ледзь толькі ён закрыў вочы назаўсёды, як яго наступнік, няўдалы Кароль IV, вярнуў даўне́йшыя парадкі. Кароль і інквізіцыя навыперадкі заціралі сьляды сьве́тлага папярэдняга гаспадараваньня, і гэта ўдалося ім у поўнай ме́ры.

## § 16. Фрыдрык II, кароль Прускі. Войны: спадчынная аўстрыяцкая і сямі́ле́тняя.

**1. Моладасьць Фрыдрыка II.** Да ліку сьве́тлых монархаў XVIII в. трэба аднесьці і Фрыдрыка II, караля Прускага, называнага Вялікім за яго ваенную славу і заваяваньні. Быў ён узгадаваны прасьве́чаным Французам і спачатку больш цікавіўся літэратураю і музыкай, чым тэю салдатчынай, якую разьвёў яго бацька; за гэта бацька пагарджаў ім, як кніжным молем, і сыстэматычным прасьле́даваньнем, найгрубе́йшымі адносінамі да яго (раз узлаваўшыся за малым чым не паве́сіў яго сваімі рукамі), стараўся дабіцца, каб сын зрокся наступніцтва пасаду. У канцы восемнадцацілетні каралевіч пастанавіў уцячы да свайго дзядзькі, Юр'я III, караля англійскага. Бацька, даве́даўшыся аб гэтым, загадаў паве́сіць, а заарыштаваў яго, ягонага супольніка загадаў паве́сіць, а Фрыдрыка за кару аддаў у крэпасьць на цывільную службу пад строгім наглядам; толькі цераз доўгі час кароль адпусьціўся, бачучы, як сын з вялікаю акуратнасьцяй выпаўняе ўсе абавязкі малога ўрадоўца ды выяўляе поўную паслухмянасьць. За час сваё канцалярскае працы Фрыдрык II акуратна пазнаёміўся з створанай бацькам адміністрацыяй і навучыўся цаніць карысьць ад яе. Атрымаўшы пазьне́й каманду над палком, ён гэтак сама старанна пазнаёміўся з асновамі пpускае вайсковае службы.

Бацька быў здаволены сынам і дазволіў яму ў канцы жыць, як наступніку пасаду, акружыць сябе інтэліге́нтнымі людзьмі, Французамі, або па французску ўзгадаванымі Не́мцамі, і займацца музыкай і літэратурай. Фрыдрык навет напісаў і ўласныя творы, у якіх выказваў ве́льмі вольнадумныя пагляды; ганіў ён прагавітасьць на славу, пыху, гультайства, несправядлівасьць і вераломства монархаў. Монарх павінен быць, казаў ён, не валадаром, але пе́ршым слугою свайго народу; у сваім творы „Antimachiavell" ён срога крытыкуе неморальнага Маккіявэлі*). Пачаўшы сам гаспадараваць, ён аднак, спаліў гэты свой твор; а дале́йшая дзе́йнасьць яго, прыкл. разьдзе́л Польшчы, які быў ім зроблены, наагул ня ве́льмі згаджалася з добрымі ідэямі гэтага твору.

**2. Аўстрыяцкая спадчынная вайна (1740—1748).** Каралевіча, які ме́ў гэткія пагляды і вёў гэткае жыцьцё, як Фрыдрык, усе спадзяваліся бачыць у будучыне мірна настроеным каралём-філёзофам. Аднак, калі гэты прыяцель Вольтэра заняў карале́ўскі пасад, выявілася не́шта саўсім іншае. Імкнуўся ён перад усім да таго, каб, карыстаючыся створанай бацькам вайсковай сілай, зрабіць з Прусіі магутную дзяржаву. Адпаве́дныя для гэтага абставіны зложыліся пасьля сьме́рці імпэратара Караля IV. Гэты монарх усё сваё жыцьцё рупіўся аб тое, каб законам, што звaўся прагматычнаю санкцыяй, забясьпе́чыць у Габсбурскіх краёх наступніцтва пасаду сваёй дачцэ, Марыі Тарэсе, і яе́ мужу, лётарынскаму князю Францішку, ня гле́дзячы на прэтэнсіі, якія ме́ў баварскі курфюрст ды інш. Рознымі спосабамі яму ўдалося атрымаць абяцанку ад усіх дзяржаваў, у тым ліку ад Францыі і Прусіі, што яны будуць бараніць правы ягонае дачкі. Князь Аўге́н сказаў калісь аб гэтай справе, што армія ў 200.000 чалаве́к ляпе́й-бы забясьпе́чыла гэтыя правы, чым стапа пэргамэнту, і на Марыі Тарэсе гэ-

*) § 3.

тыя словы горка спраўдзіліся. Аўстрыя тады была аслабеўшы пасьля толькі-што нешчасьліва скончанае турэцкае вайны, і ворагі маладое каралевы з усіх бакоў паднялі галовы. Першы быў Фрыдрык II, які, прычапіўшыся да даўнейшых прэтэнсіяў да Сілезіі, увайшоў у гэту аўстрыяцкую провінцыю. Марыя Тарэса з трудом сабрала войска, але дазнаны прускі фэльдмаршалак Швэрын саўсім разьбіў гэнае войска пад Мольвіцам (1741).

Францыя гэтак сама пастаралася скарыстаць з выпадкаў, каб загубіць свайго адвечнага ворага—Габсбургаў. Ня глядзячы на прыняцьце прагматычнае санкцыі, яна станула на бок Баварыі, ды разам з ёю і з Гішпаніяй зробіла саюз з прускім каралём, манючыся падзяліць аўстрыйскую монархію, а баварскага курфюрста Караля зрабіць імпэратарам. Баварскія і францускія войскі ўвайшлі ў Аўстрыю. Для Марыі Тарэсы, якая не дапускала магчымасьці гэткага вераломства, гэтыя выпадкі былі быццам ударам пяруна. Яе Нямецкія краі блізка саўсім не працівіліся ворагам, і яна шукала падтрыманьня у Вэнграў. Вэнгерскія магнаты прынялі маладую каралеву на сойме ў Прэсбургу з вялікаю прыхільнасьцяй і пастанавілі аддаць ей свае маетнасьці і сваю кроў. Памагла ей грашыма і Англія праз сваю ненавісьць да Францыі і Гішпаніі. І вось шчасьце патроху стала перахіляцца на бок Марыі Тарэсы. Аўстрыйскія войскі выгналі ворагаў ды самі ўвайшлі ў Баварыю; якраз у той мамэнт, як Кароль VII каранаваўся ў Франкфурце на імпэратара, яны занялі Мюнхен. Да таго-ж удалося Марыі Тарэсе пазбыцца самага небясьпечнага ворага, Фрыдрыка II, падпісуючы з ім мір ў Брэславе (1742) і аддаючы яму Сілезію. Аднак, калі Фрыдрык пабачыў, што аўстрыйскія войскі маюць новыя перамогі, а Англія ўсё мацней зьвязваецца з Аўстрыяй і выслала войска на сухаземле, тады ён занепакоіўся аб свае здабычы, зламаў толькі што падпісаны мір і ў 1744 г. увайшоў з войскам у Чэхію. Тымчасам якраз памёр Кароль VII, які мала і пабыў імпэратарам, а ягоны сын хутчэй зрабіў мір з Марыяй Тарэсаю, каб спакойна сядзець на курфюрставым пасадзе. Фрыдрык II, перамогшы і ў гэтай другой сілезскай вайне, прызнаў у канцы выбар на імпэратара мужа Марыі Тарэсы, Францішка, за што аканчальна атрымаў Сілезію. Гэтак скончылася вайна ў Нямеччыне. За тое ў аўстрыйскій Нідэрляндах яна яшчэ доўга трывала; там Французы пад кіраўніцтвам Морыца Саксонскага мелі некалькі бліскучых перамогаў над Англійцамі ды іншымі саюзьнікамі Аўстрыі. Аахенскі мір зрабіў канец гэтай васьмілетняй барацьбе. З усіх ваяваўшых толькі адзін прускі кароль меў карысьць ад вайны, бо атрымаў Сілезію; іншыя дзяржавы ўзаемна паадбіралі адна ад аднае свае здабычы.



**3. Сямілетняя або трэцяя Сілезская вайна (1756—1763).**

а) Рэзультаты аўстрыйскае спадчыннае вайны і прычыны сямілетняе вайны. Аўстрыйская спадчынная вайна значна зьмяніла палітычныя адносіны ў Эўропе. Аўстрыя, хоць і страціла праз яе багатую провінцыю, але ўзмоцнілася ўнутры дзякуючы некаторым рэформам, праведзеным Марыяй Тарэсаю і яе міністрам Каўніцам; важнейшыя з гэтых рэформаў адносіліся да войска і фінансавае гаспадаркі. У баявым агні паднялася йзноў аўстрыйская армія, і ў ей зьявіліся новыя таленты ваяводаў, як Кароль кн. Лётарынскі, Даун, Ляўдон, якія добра працавалі над рэарганізацыяй арміі. Пасьля вайны Аўстрыя разам з Вэнгрыяй, якая першы раз умяшалася да аўстрыйскіх войнаў у Нямеччыне, занялі сярод эўрапэйскіх дзяржаваў мацнейшае, чым калі даўней, становішча. З другога боку, Прусія, павялічаная далучэньнем гэткае моцнае і багатае провінцыі, як ні адна з тых, што ўперад былі ў яе межах, маючы дысцыплінаванае і добра вымуштраванае войска, станула ў рад наймацнейшых дзяржаваў. Гэткае палажэньне дзьвёх дзяржаваў Імпэрыі не магло ня выклікаць антаганізму і спрэчак. Не магла Марыя Тарэса згадзіцца з утратай Сілезіі ды спакойна глядзець на рост магутнага конкурэнта ў Імпэрыі; завідлівым вокам прыглядаліся да гэтага й іншыя дзяржавы.

Ужо ў першыя гады пасьля Аахенскага міру ў Вене, Парыжы, Пецярбурзе, Лёндане і Дрэздэне каваліся пры дварох інтрыгі, рабіліся ўмовы, якія мелі на мэце ні больш, ні менш, як тое, каб караля прускага зрабіць ізноў Брандэнбурскім маркграфам. Пры гэтым Сілезія была-б вернена Аўстрыі, Усходнюю Прусію мелася атрымаць Расея, Памор'е адыйшло-б да Швэдзіі, а Магдэбург — да Саксоніі. Яшчэ ўперад гр. Каўніц падаваў аўстрыйскай радзе думку схаўрусавацца з Францыяй ды адабраць Сілезію. Ад 1753 г. гр. Каўніц, які перад гэтым тры гады быў паслом у Вэрсалі, стаў, як канцлер двара і дзяржавы, кіраваць аўстрыйскаю палітыкай і вёў яе, імкнучыся да саюзу з Францыяй. Розныя прыдворныя партыі ў Вэрсалі гэтак сама хацелі парваць з блізка 300-гадоваю францускаю палітыкай, варожай да Аўстрыі.

У тым-жа часе ўсё больш псаваліся француска-англійскія адносіны. Вонкавай прычынай для новае вайны паслужылі гранічныя спрэчкі паміж Англіяй і Францыяй за прасторы ў Паўночнай Амэрыцы (над р. Огіо), якія выклікалі вайну паміж гэтымі дзяржавамі ў колёніях і на моры (1755) *). Каб забясьпечыць свае валаданьні на сухаземлі (Гановэр) ад нападу Французаў, Юры II ўмовіўся з расейскай імпэрат-

*) § 13.

рыцай Альжбетай, што расейскае войска ў патрэбе будзе бараніць Гановэр. Фрыдрых II бачыў у гэтым вялікую небясьпеку для Прусіі, асабліва затым, што Альжбета, пачуваючы да яго асабістую злосьць (ён блага гаварыў аб ёй), ужо здаўна схаўрусавалася з Марыяй Тарэсай; дык пачаў і ён з свайго боку згаваравацца з Англіяй і падпісаў з ёю ўмову аб нэйтральнасьці, якая абавязавала абедзьве дзяржавы да супольнае абароны Гановэру ў прыпадку аружнага нападу ворага, пад якім можна было разумець толькі адну Францыю. Гэтая ўмова, паводле слоў Каўніца, была „фактам, які выратаваў Аўстрыю“, бо была прычынаю аканчальнага зблiжэньня Францыі з Аўстрыяй. Пры помачы маркізы Помпадур, фаварыткі Людвіка XV, мёўшае магутныя ўплывы на францускую палітыку, у маі 1756 г. быў падпісаны саюз паміж дзьвюма дзяржавамі: Аўстрыяй і Францыяй, дагэтуль так варожа настроенымі адна да аднае.

Альжбета ўжо паслала свае войскі ў Прусію, калі ёй данесьлі з Вены, што экстэрмінацыйная вайна проці прускага караля мае распачацца толькі ў 1757 г.; яна адклікала войскі назад. Праз 1756 і 1757 гады ўлажылася такая групіроўка дзяржаваў. З аднаго боку была Прусія, Англія і некалькі меншых нямецкіх краёў; з другога боку — магутны саюз Аўстрыі, Францыі, Расеі і Швэдзіі. Апроч таго, краі Нямецкае Імпэрыі на аснове пастановы, прынятае ў Ратызбоне, выслалі проці прускага караля, як баніты, карныя войскі, каб адабраць у яго каралеўскую дастойнасьць ды бязпраўна занятыя зёмлі.

b) Ход сямілетняе вайны ў Нямеччыне (1754-1763). Праз некалькі месяцаў пасьля пачатку марское вайны паміж Англіяй і Францыяй узгарэлася трэцяя сілезская вайна, якую называюць **сямілетняй**

Фрыдрык II, даведаўшыся праз шпегаў аб плянах сваіх супраціўнікаў, не чакаў на пагражаючае яму абвешчаньне вайны, ды адразу-ж уварваўся ў Саксонію, якая цішком згаварвалася з саюзьнікамі, і акружыў саксонскае войска ў умацаваным абозе пад Пірнаю, ля Дрэздэна. Калі аўстрыйскі генэрал выступіў на падмогу Пірне, Фрыдрык выйшаў яму на спатканьне і разьбіў яго; пасьля гэтага Саксонія пакарылася. Тады Фрыдрык II саўсім спакойна распалажыўся зімаваць у здабытным краі. Саюзьнікі-ж увесь час зьбіралі сілы і ў 1757 г. распачалі барацьбу, але кожын асобна. Дый Фрыдрык II стараўся разлучыць іхнія арміі. Пайшоў ён у Чэхію насустрэч Аўстрыякам і там разьбіў Броўна ля Прагі. Але пад Колінам другая аўстрыйская армія, на чале якое стаяў генэрал Даўн, перамагла Фрыдрыка II і прымусіла яго адступіць з Чэхіі. На яго шчасьце Расейцы ў той год абмежаваліся окупацыяй Усходняе Прусіі. Але



францускае войска, якім кіраваў ген. Субіз, разам з імпэрскім нямецкім войскам апынулася ўжо ў глыбіні Тюрынгіі. Фрыдрык II пайшоў туды пасьпешным маршам, неспадзявана ўдарыў на францускія і нямецкія войскі і пад Росбакам гэтак разьбіў іх, што яны рассыпаліся. У гэтым часе Аўстрыякі занялі Сілезію. З уласьцівай яму хуткасьцяй і спраўнасьцяй перайшоў кароль прускі спад Росбаху ў Сілезію і пад Лейтэнам разьбіў перавышаўшую яго сіламі аўстрыйскую армію.

У 1758 годзе шчодрыя субсідыі Пітта і англійскае войска ў Гановэры, ваявода якога, кн. Браўншвэйгскі, разьбіў Французаў і прагнаў іх за Рэйн, выратавалі Фрыдрыка II. Але пачыналі надыходзіць Расейцы. Пад Цорндорфам Фрыдрык II з вялікім высілкам перамог расейскую армію, але на другі год ужо ня мог папярэдзіць злучэньня Расейцаў з Аўстрыякамі пад камандаю Ляўдона і з гэтае прычыны меў страшную няўдачу пад Кунэрсдорфам. Толькі дзякуючы нязгодзе і непарадкам у яго супраціўнікаў гэтая няўдача не зрабіла канца ягонаму панаваньню і прускай монархіі. Бо замест таго, каб зараз пасьля перамогі пайсьці, злучыўшыся, на Бэрлін і заняць Брандэнбург, саюзьнікі йзноў разыйшліся. Таксама і на другі год (1760) Аустрыякі і Расейцы не маглі згаварыцца аб супольнай дзейнасьці. Гэта-ж толькі і ратавала палажэньне Фрыдрыка II, а за тое трудней яму стала з іншага боку. Іменна, з прычыны ўпадку габінэту Пітта (1760) Англія спыніла выдачу яму субсідый і адклікала свае войскі; страціў ён, значыць, адзінага свайго саюзьніка. Ня глядзячы на яшчэ адну вялікую перамогу пад Торгаў, палажэньне Фрыдрыка II рабілася ўжо безнадзейным. Шарэнгі войск яго ўсё больш радзелі. Краі яго бязлюдзелі і руйнаваліся агнём, мячом, рабункамі і выдаткамі на вайну. Дзяржаўная каса была пустая. Здавалася, што ўжо блізкі час, калі Фрыдрык II апыніцца бяз арміі ды без магчымасьці стварэньня яе.

Але вось раптам памірае імпэратрыца Альжбета. Гаспадараваць у Расеі стаў Пётра III, фанатычны прыхільнік Фрыдрыка II, які ня толькі зрабіў з ім мір, але і саюз. Праўда, праз паўгода памёр Пётра III, а яго наступніца, Кацярына II, адклікала расейскія войскі, але Фрыдрык II скарыстаў з гэтага і ў бітве пад Сьвідніцаю разьбіў Аўстрыякаў (1762).

Усе ваюючыя дзяржавы аканчальна выбіліся з сілаў. У 1763 г. быў зроблены ў Губэртсбургу мір паміж Францыяй і Аўстрыяй — з аднаго боку і Прусіяй — з другога, а ў Парыжы — паміж Францыяй і Гішпаніяй — з аднаго боку і Англіяй — з другога. Тэррыторыяльных зьменаў у Эўропе не адбылося.

Англія трыумфавала, а Францыя ў рэзультаце вайны страціла шмат свайго значэньня і павагі, што ў пэўнай ме́ры памагло разьвіцьцю ў гэтым краі кірункаў, варожых існаваўшаму грамадзкаму і палітычнаму ладу. Аднак, у няўдачах у сухазе́мнай вайне былі вінаваты найбольш нядзольныя ваяводы, прыдворныя фаварыты, а ня войска, якое яшчэ ня страціла свайго вае́ннага духу. За тое схаўрусаваная з Францыяй Аўстрыя, хоць і не атрымала карысьці з вайны, але выйшла з яе́ з гонарам, даўшы довад свае́ мілітарнае моцы. Расе́я-ж у сямілетняй вайне́ першы раз выступіла, як вялікая эўрапэйская дзяржава з магутным уплывам на справы заходняе Эўропы; расе́йскае войска вызначылася вялікаю вытрываласьцяй у бітвах. Прусія асталася пры сваіх здабычах з спадчаннае вайны і пачала лічыцца магутнаю мілітарнаю дзяржавай. Фрыдрык II услaвіўся ў сусьве́тнай гісторыі, як першарадны вае́нны ге́ній. Прускае войска, як не́калісь швэдзкае, сталася прыкладам для другіх дзяржаваў.

**4. Унутранае гаспадараньне Фрыдрыка II (1740-1786). Фрыдрык Вільгэльм II (1787—1797).** Скончыўшы сямілетнюю вайну, Фрыдрык II здаволіўся здабытаю славаю і ня шукаў больш шчасьця на полі бітваў, хаця не пакінуў клапаціцца аб павялічэньні свае́ тэрыторыі, довадам чаго зьяўляецца падзе́л Польшчы.

З ня ме́ншаю энэргіяй, як на вайне́, і з ня ме́ншым спрытам, як у дыплёматыі, заняўся Фрыдрык II адміністрацыяй краю, які, бязьме́рна зруйнаваны вайною, вымагаў стараннае працы. Перад усім памагаў ён адбудоўваць разбураныя ме́сты і вёскі ды падтрымліваў зямляўласьнікаў і сялян, каб даць ім магчымасьць падняць з упадку земляробства. Гаспадарыў гэтак, як і іншыя „прасьве́чаныя монархі“ таго часу: паводле свае́ ўласнае думкі. Можна сказаць, што гаспадарыў ён больш абсолютна, чым навет Людвік XIV; міністры толькі спаўнялі яго волю: усё, не выключаючы найме́ншых драбніц, праходзіла праз яго габінэт, усё рабілася з яго ве́дама і згоды.

Найпільне́йшай дзяржаўнаю справаю лічыў ён вялікае, добра вымуштраванае і заўсёды гатовае да бою войска і напаўне́ньне дзяржаўнае касы. З гэтаю мэтай расходаваў ён на свой двор ве́льмі скромныя, як на тыя часы, сумы, робячы ашчаднасьці навет на сваіх асабістых выдатках, а ў той-жа час накладаў немагчыма цяжкія падаткі і мыты. І мяйсцовыя, і заграннічныя вырабы былі абложаны ўсякімі падаткамі і цяжарамі; дзеля збору падаткаў ужываў Фрыдрык II навет францускіх урадоўцаў, што ўдвая дражніла насяле́ньне. Гэткаю тактыкай ён сам разьбіваў свае́ пляны экономічнага падняцьця краю. Пагляды яго на дабро нася-



ле́ньня, якім ён апекаваўся, часта былі проста дзікія. Так, прыкл., ён працівіўся паляпшэньня дарог, бо, на яго думку, чым даўжэй прае́здныя людзі прабудуць у якой мяйсцовасьці, тым больш пакінуць там грошы. Ягоная „прасьве́чанасьць“ запраўды выяўлялася бадай толькі ў аднэй толеранцыі. „Ў маёй дзяржаве“,—сказаў ён, бяручыся за гаспадараньне, —„кожын можа на свой спосаб дабівацца раю“ (kann jeder nach seiner Façon selig werden). Ад гэтага прынцыпу ён ніколі не адступаўся. Ня толькі ўсе́ рэлігіі ме́лі грамадзкія правы і свабоду адпраўляць набажэнства, але ў яго знаходзілі прытулак і апе́ку і ўсе́, уцісканыя ў іншых мясцох за сваю ве́ру і пагляды, у роўнай ме́ры як францускія атэісты і матэр‘ялісты, так і езуіты. Залажыў ён акадэмію навук і запрашаў да свайго двара самых знамянітых францускіх пісьме́ньнікаў і мысьліцеляў. Гасьціў у яго навет Вольтэр, але нядоўга, бо не маглі ўжыцца разам дзеля зласьлівасьці абодвух; яны цанілі і хвалілі адзін аднаго толькі здалёку. Для няме́цкае навукі і літэратуры не рабіў Фрыдрык II нічога, бо і па духу і па мове быў больш Французам, чым Не́мцам. Так, не зразуме́ў ён магутнага тале́нту Ле́сінга і ня даў яму навет скромнага становішча бібліотэкара. Завёў ён, праўда, агульнае народнае навучаньне, але шкадаваў на яго грошы. Здае́цца, навет, што яму ня гэтак ішло аб прасьве́ту народу, як аб тое, каб забясьпе́чыць існаваньне вэтэранам свайго войска, бо толькі-ж іх адных і назначаў вучыцялямі, ня пытаючыся саўсім аб здольнасьцях. Ужо на трэці дзе́нь свайго панаваньня ён скасаваў мукі, якіх у той час яшчэ ўсюдых ужывалі; аднак, у яго часы не шкадавалі кія для падсудных жаўне́раў, сялян і школьнае моладзі. Загадаў ён так сама ўлажыць вялікі краёвы кодэкс, закончаны ўжо пасьля яго сьме́рці.

Важне́йшых рэформаў ён не праводзіў. Так, прыкл., захаваў прыгон сялянства і забарону жаніцьбы паміж шляхтаю і другімі станамі. Шляхту выдзяляў ён на кожным кроку; толькі шляхціц мог атрымаць афіцэрскую ступе́нь, а тым мяшчанам, якіх за вае́нныя заслугі сам зрабіў афіцэрамі, як толькі настаў мір, даў адстаўку. Народ баяўся яго і шанаваў, але ня любіў. Популярнаю і легендарнаю асобаю зрабіла Фрыдрыка II ўжо пруская школа і пруская літэратура.

Пасьля Фрыдрыка II пачаў гаспадарыць ягоны пляме́ньнік, Фрыдрык Вільгэльм II *), чалаве́к абме́жаны і

*) **Дом Гогэнцолернаў у XVIII ве́ку.**

Фрыдрык I (кароль)
|
Фрыдрык Вільгэльм I

Фрыдрык II — Аўгуст Вільгэльм
Фрыдрык Вільгэльм II
Фрыдрык Вільгэльм III

фанатык-протэстант. Праўда, ён скасаваў цяжэйшыя агранічэньні прамысловасьці, гандлю і зямляробства, ды французскіх мытнікаў, гэтак зьненавіджаных народам, але разам з гэтым скасаваў і рэлігійную толеранцыю, якое трымаўся Фрыдрык II. Выдаў вéльмі суровыя законы і загады, заводзячы кантроль над думкамі сваіх падданых, і пачаў прасьлéдаваць усé вызнаньні, навет і протэстанцкія, калі яны хоць крыху адхіляліся ад урадовага катахізму; цэнзуру абастрыў да апошніх мéжаў, пісьмéньнікаў і прафэсароў за вольнадумства караў наймéнш выгнаньнем з краю.

Такім чынам „прасьвéчаны абсолютызм“ у Прусіі, як і ўсюдых, не пакінуў па сябé трывалага сьлéду.

## § 17. Язэп II і Кацярына II. Падзéл Польшчы.

**1. Рэформы Язэпа II (1780 — 1790).** Марыя Тарэса, якой яé дабрадушны, але мала здольны муж, Францішк I, здаў усё гаспадараньне, правяла не адну важную рэформу ў войску, фінансах, судох і школах, у справе прыгону зрабіла пэўныя льготы сялянам, скасавала мукі і працэсы чараўніц, залажыла народную школу і г. д., не зьмяняючы, аднак ні ў чым істнуючага ладу, — зусім гэтак сама, як і Фрыдрык II. Вéрная радавым традыцыям Габсбургаў, яна была заядлаю каталічкай і не прызнавала толеранцыі для людзéй другое вéры.

Саўсім другім чалавéкам быў сын Марыі Тарэсы, Язэп II. Ужо ён быў каранаваны на імпэратара і гаспадараваў разам з маткаю, але толькі пасьля сьмéрці маткі (1780) пачаў ён гаспадарыць у Габсбургскіх краёх зусім самастойна. Гэта быў чалавéк з самымі добрымі імкнéньнямі і вялікай сілаю духа, пранятьі духам прасьвéты; ён стараўся грунтоўна зрэформаваць сваю дзяржаву.

Пачаў ён ад сябé, заводзячы пры сваім двары поўную прастату і жывучы сам вéльмі скромна. Пéршым-жа ягоным урадовым актам быў эдыкт аб толеранцыі, паводле якога дазвалялася протэстантам і каталіком публічна адпраўляць набажэнства. Заапекаваўся ён і прасьлéдаванымі жыдамі. Пазакрываў манастыры, якія не маглі пахваліцца якой нéбудзь карыснаю дзéйнасьцяй, а іхнюю маемасьць выкарыстаў для закладаньня парахвіяў, школ і дабрачынных установаў. Наагул, ён стараўся аддаць царкву пад поўны дзяржаўны кантроль і здабыць магчыма большую незалéжнасьць ад Рыму. Надарэмна папа ўжыў дагэтуль яшчэ нячутага спосабу: паéхаў сам у Вéну, каб адгаварыць імпэратара ад проціцаркоўных рэформаў. Язэп II прыняў яго з вялікай пашанай, рэвізытаваў яго навет у Рыме, але на уступкі не пайшоў.

З ня мéншай энэргіяй заняўся Язэп II грамадзкімі справамі. Скасаваў ён прыгон, завёўшы шмат мякчэйшую форму яго: спадчыннае чыншовае права; скасаваў падатковыя прывілéі шляхты і духавéнства, устанавіўшы адзін для ўсіх зямéльны падатак, ня глéдзячы на стан уласьніка. Завёў, наагул, роўнасьць перад законам, даў свабоду друку, зьмякчыў крымінальныя законы, скасаваў, праўда, толькі часова, сьмяротную кару і ўвéсь час думаў аб новых паляпшэньнях.

**2. Канéц панаваньня Язэпа II.** У сваéй рэформатарскай стараннасьці Язэп II паўтараў звычайныя памылкі прасьвéчанага абсолютызму. Ува ўсё ён мяшаўся, усё хацéў сам зрабіць паводле сваé фантазіі і не цярпéў опозіцыі. Загадаў ён, прыкл., каб нябожчыкаў хавалі у мяшкох, а не ў трунах, каб гэтак хутчэй адбываўся іх расклад. Маючы чыстыя і шчырыя намéры, думаў ён, што яго загады заўсёды ўдачныя; аднак, часта яго разважаньні былі памылковыя і рэзультаты не адпавядалі ягоным мэтам. Гэтак, прыкл., ён думаў, што падыйме дабрабыт дзяржавы, калі спыніць усякія гандлёвыя зносіны з заграніцаю, забараняючы пад страхам цяжкое кары прывазіць заграні́чныя тавары,—што было, вéдама, эканомічнаю памылкай.

Каб лягчэй і пэўнéй зьдзéйсьніць сваé намéры, надумаў ён з краёў, што ў розныя часы і розным спосабам былі пад уладаю Габсбургаў злучаны між сабой даволі павярхоўна, зрабіць адналітую дзяржаву з абсолютным гаспадараньнем, адзінымі законамі і аднолькавай адміністрацыяй, ды з урадовай нямéцкай мовай. Было гэта навіною, бо да таго часу ніхто не клапаціўся аб мову і звычаі насялéньня ў краёх, далучаных да якое-нéбудзь дзяржавы, і навет у дзяржавах, даволі аднародных этнографічна, шанавалі правінцыяльныя асобнасьці. Дык-жа цэнтралістычныя рэформы сярод народаў з рознымі мовамі, у краёх, злучаных з Аўстрыяй часта толькі дабравольнымі трактатамі, маючых сваё мяйсцовае самаўрадаваньне, выклікала агульнае абурэньне. Протэставалі ўсé, а найбольш Вэнгры і Бэльгійцы, як найдужэйшыя і маючыя найбольшую нацыянальную сьвéдамасьць.

Адна рэформатарская дзéйнасьць не здаваляла Язэпа II; захацéлася яму здабыць славу заваявальніка. Яшчэ пры Марыі Тарэсе ён распачаў новую вайну з Прусамі. Калі вымерла ў Бавары́ дынастыя курфюрстаў (1778), надумаўся ён—быццам з прычыны спадчынных прэтэнсіяў — захапіць частку гэтага краю. Фрыдрык II, які завідлівым вокам глядзéў на пашырэньне Аўстрыі коштам нямéцкіх зямéль, кі-

нуўся на абарону „няме́цкае вольнасьці“ і ўвайшоў з войскам у Чэхію. Марыя Тарэса не хаце́ла гэтае вае́ннае рызыкі, і Язэп II быў прымушаны здаволіцца малою часткаю Бавары. Праз не́калькі гадоў хаце́ў ён усё-ж дабіцца свае́ мэты і суліў новаму курфюрсту за Баварыю—Бэльгію. Яны ўжо былі саўсім умовіліся, калі ўмяшаўся ў гэту справу Фрыдрык II; ён стварыў „няме́цкі саюз“, які прымусіў імпэратара зрачыся сваіх наме́раў (1785). Тады Язэп II ў саюзе з расе́йскаю імпэратрыцаю Кацярынаю II распачаў вайну з Турэччынай, манючыся яе́ падзяліць. Але адразу-ж утварыўся саюз Прусіі, Англіі і Польшчы дзеля абароны Турэччыны. Адначасна узгарэлася паўстаньне ў Брусэлі, імпэратарскія войскі былі выгнаны, і Бэльгія абве́сьціла сваю незале́жнасьць. Дый у Вэнгрыі было неспакойна, дзякуючы прускай рабоце.

У гэты мамэнт Язэп II, які ў часе паходу ў Валахію набраўся небясьпе́чнае хваробы, паміраючы быў прымушаны скасаваць большую частку заве́дзеных рэформаў; усё-ж цьвёрда бараніў ён эдыкту аб толеранцыі і аб скасаваньні прыгону. Пад уплывам цяжкіх перажываньняў свайго жыцьця загадаў ён, каб над яго магілай быў такі надпіс: „Тут ляжыць монарх, наме́ры якога былі чыстыя, ды быў ён гэткі нешчасьлівы, што ўсе́ ягоныя пляны рассыпаліся“. Памёр ён на 49 годзе жыцьця; народ, звольнены ім ад прыгону, шчыра яго шкадаваў.

**3. Леопольд II (1790—1792).** Пасьля Язэпа II быў імпэратарам Леопольд II, другі сын Марыі Тарэсы, які ўпе́рад быў вялікім князем Тосканскім (Лётарынскі дом адступіў свой радавы край, Лётарынгію, Францыі і за гэта атрымаў Тоскану, дзе быў вольны пасад, бо там вымерла дынастыя Мэдычы). Леопольду II трэба было перад усім зрабіць не́йкі парадак у дзяржаўных справах, якія Язэп II пакінуў даволі заблутанымі. Зрабіў ён мір з Турэччынай, ды супакоіў Бэльгійцаў і Вэнграў, вярнуўшы ў іх старыя законы. Улагодзіў і духаве́нства, касуючы большасьць царкоўных навінаў, а так сама шляхту, варочаючы ей падатковыя прывіле́і і аднаўляючы прыгон сялянства. Такім чынам, ад дзейнасьці Язэпа II не асталося і сьле́ду.

**4. Кацярына II, расе́йская імпэратрыца.** Сярод прасьве́чаных монархаў пачэснае ме́сца займае і Кацярына II, „Сэміраміда паўночы“, як яе́ называлі францускія энцыклёпэдысты, пісаўшыя да яе́ шумныя оды і хваліўшыяся яе́ прыхільнасьцяй. Яна ўве́сь час перапісавалася з Вольтэрам, а Дідро не́йкі час жыў у Пецярбурзе.

Рэформы яе́ ў большасьці былі толькі на папе́ры: яны ня былі саўсім выпаўнены; але сваім радыкалізмам яны захоплівалі дзе́ячаў прасьве́ты. Пэўныя рэформы яна ўсё-ж правяла, крыху пале́пшыўшы суды і адміністрацыю. Старалася яна стварыць мяшчанскі стан, сярэдні паміж паднявольным сялянствам і шляхтаю, даючы яму ўсякія прывіле́і і закладаючы новыя ме́сты, як прыкл., Одэсу над Чорным морам, у краі, адабраным у Туркаў. Каб падняць земляробства, яна выпісала няме́цкіх колёністаў, апекавалася прамысловасьцяй, гандлем і мораплаўствам. Клапацілася аб прасьве́ту, закладала школы, загадавала выдаваць кніжкі, сама навет бралася за літэратурную працу. Запрашала да сябе́ вучоных чужазе́мцаў. Як прыхільніца толеранцыі, прыймала ў сваю дзяржаву ня толькі францускіх вольнадумцаў, але, ня гле́дзячы на нездаваленьне апошніх, такжа нетолераваных у іншых краёх езуітаў. Аднак, усе́ рэформы яе́ былі выпадковымі і безпляновымі.

Як і Фрыдрык II, найбольш клапацілася Кацярына II аб вонкавай магутнасьці дзяржавы. Як не́каліcь Пётра I адабраў у Швэдаў для Расе́і Балтыцкае мора, так Кацярына адваявала Чорнае мора. Яе́ імпэрыялістычныя пляны зьвярнуліся і проці Польшчы, у якой тады панавала вялікая разруха; для сваіх наме́раў яна знайшла добрага памоцніка ў асобе Фрыдрыка II.

**5. Пе́ршы падзе́л Польшчы.** Фрыдрык II і Кацярына II сыстэматычна і спрытна падгатаўлялі ўпадак Польшчы. Ў патае́мнай умове абяцаліся яны адно аднаму зьвясьці на нішто ўсе́ высілкі Палякоў, скіраваныя да таго, каб зрабіць кане́ц анархіі ў Польшчы і заве́сьці спадчынную монархію. Пад ахранаю расе́йскага войска адбыліся выбары на караля Станіслава Аўгуста Понятоўскага, якога падтрымлівала Кацярына II. Рэлігійная нетолеранцыя гэтак сама памагла загубе Польшчы. Протэстанты і дызуніты (праваслаўныя), асьме́леныя Прусіяй і Расе́яй, зажадалі для сябе́ роўных праваў з каталікамі, а ў гэтым ім катэгорычна было адмоўлена. Гэта дало Кацярыне II повад увясьці ў Польшчу свае́ войскі ў імя „толеранцыі і гуманітарных пачуцьцяў“. Польшча была прымушана зрабіць з е́ю гэткія ўмовы, якія зрабілі з яе́ провінцыю Расе́і. Тады зорганізавалася Барская Конфэдэрацыя (1768) дзеля абароны Рэчыпаспалітае, і узгарэлася страшная вайна.

Нездаволены Расе́яй турэцкі султан зрабіў саюз з конфэдэратамі і абве́сьціў Кацярыне II вайну. Але Туркам у гэтай вайне́ не пашанцавала. Расе́йцы здабылі Крым, уварваліся ў Молдавію і Валахію і зьніштожылі ўве́сь турэцкі флёт пад Чэсмаю, у Малой Азіі (1770). Няўдача Туркаў была апошнім ударам для Польшчы. Фрыдрык II запрапанаваў Кацярыне II падзяліць польскія зе́млі. Да падзе́лу запрасілі і Аўстрыю. Марыя Тарэса ўперад вагалася, ка-

жучы: „не хачу пляміць свайго гонару ў вачох сучасьнікаў і патомных пакаленьняў дзеля нейкага кавалка Польшчы“; але яе сын і міністры растлумачылі ей, што яшчэ горай будзе нічога не атрымаць пры падзеле. Тады тры арміі ўвайшлі ў Польшчу і адабралі ў яе чацьвертую частку яе прастору.

**б. Другі і трэці падзел Польшчы** (1793 — 1795). У Польшчы ўсё мацней выяўляліся тэндэнцыі да рэорганізацыі дзяржавы і адраджэньня народу. Расея зялезнаю рукою душыла гэтыя імкненьні. У гэтым часе саюзьнікі: Кацярына II і Язэп II — распачалі вайну з Турэччынай. Тады Палякі, заахвочаныя Прусіяй, якая зрабіла з імі цесны саюз, правялі рад рэформаў. Канстытуцыя Трэцяга Мая (1791) была прыхільна сустрэчана ўсёю культурнаю Эўропаю. Кароль Фрыдрык Вільгэльм II ўласнаручным лістом вітаў Польшчу з шчасьліваю рэформай. Але ня споўніліся надзеі Палякоў на турэцкую вайну. Потёмкін і Суворов разбурылі крэпасьці Очаков і Ізмаіл і зьніштожылі некалькі турэцкіх арміяў. Ужо Кацярына II надумывалася пасадзіць свайго ўнука на пасадзе заваяванае Бізантыі і пэўне зьдзейсьніла-бы гэты свой плян, калі-б Англія і Прусія не пагразілі ей вайною з гэтае прычыны. Тады яна зрабіла з Туркамі мір у Яссах (1792), здаволіваючыся пашырэньнем межаў свае дзяржавы да Днястра і ўзмацаваньнем свайго ранейшага протэктарату над Молдавіяй і Валахіяй, гэтак званымі Наддунайскімі князьствамі, што давала Расеі заўсёды права мяшацца ў турэцкія справы. За тое імпэратрыца скіравала ўсе свае вайсковыя сілы на Польшчу, злучыўшыся з Тарговіцкаю Конфэдэрацыяй, якая завязалася дзеля павароту даўнейшага дзяржаўнага ладу. Палякі разьлічалі на помач Прусіі, але, на вялікае іх расчараваньне, Фрыдрык Вільгэльм II з насьмешкай адказаў на гэта, што ён рабіў саюз з Польшчаю, як рэспублікай, а не з Польшчай—монархіяй. Вераломны прускі кароль заявіў Кацярыне II, што ён ня будзе рабіць перашкод яе плянам, калі пры падзеле атрымае сваю долю. Аўстрыя гэтак сама пакінула Палякоў бяз помачы. Надарэмна прыхільнікі конституцыі 3 мая давалі адпор гэткаму гвалту. Адбыўся другі падзел Польшчы паміж Прусіяй і Расеяй. А калі ў 1794 г. узгарэлася паўстаньне пад кіраўніцтвам Касьцюшкі, быў зроблены трэці, аканчальны падзел Польшчы паміж Расеяй, Прусіяй і Аўстрыяй (1795).

Пасьля трох падзелаў дасталіся з польскіх земляў: на долю Аўстрыі—паўдзённы захад, Галічына (2.200 кв. міляў), на долю Прусіі—паўночны захад з сталіцаю Варшавай (2600 кв. міль), на долю Расеі—рэшта, агулам каля 8800 кв. міляў.

# ЗЬМЕСТ.

## УСТУП.